


# ПОЛЫМЯ

*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС*

**7** (993)

*ЛІПЕНЬ*

**Выдаецца
са снежня 1922 года**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**Мінск 2012**

## *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»

# У ВЯНОК ЯНКУ КУПАЛУ

## Мар’ян ДУКСА

### СЛОВА КУПАЛЫ

Над ім панавала мана,
давер абыходзіў, бывала.
Ды з самага цёмнага дна
яно на паверхню ўсплывала.

Аб лепшым шаптаў яму лёс,
свяцілі суцешліва зоры.
Сягала яно да нябёс
праз тоўшчу ганебнай пакоры.

Дрымоту людзей атрасці
яму ўжо хапала адвагі.
Упартасць прыйшла — прарасці
праз панцыр вяльможнай знявагі.

Жаданне вірыла адно —
паклікаць і вольнасць, і згоду…
Для ўсіх загучала яно
як голас і племя, і роду.

Не згінула ў горшыя дні,
якія любілі зацятых —
на пласе знішчальнай хлусні
дваццатых гадоў і трыццатых.

Не ўдасца ніяк заглушыць
бяспамяцтвам ці забаронай
мелодыю чыстай душы
і музыку песні ягонай.

У блізкія розум і плоць,
як роднае нешта, запала
узмоцненае стакроць
набатнасцю сэрца Купалы.

Няўжо яно хоча спачыць?
Увага людская глухая?..
Купалава слова — гучыць!
Хто выдумаў, што заціхае?

Упасці няздольнае ў сон,
Узносіцца й сёння высока.
Як вечны пранізлівы звон —
Айчыннае слова Прарока.

## Уладзімір СКАРЫНКІН

### ІДУЦЬ БЕЛАРУСЫ

А хто там ідзе? А хто там ідзе
У аграмаднай такой грамадзе?
Ідуць беларусы!

Бязлітасны князь, фанабэрысты пан
Зрабіць з іх радзімы вялізны курган
Стараліся марна.

Яны пахаджан, што прыходзяць з дабром
На іхні парог, запрашаюць у дом
І стол накрываюць.

А хто там ідзе? А хто там ідзе,
Песні спявае, дудзіць на дудзе?
Народ мой шчаслівы!

Край спелых бароў і празрыстых крыніц!
Тваіх песняроў і тваіх чараўніц
Свет ведае цэлы.

Хто нас, каго свет за людзей не лічыў,
Сябе паважаць і любіць навучыў?
Купала і Колас!

## Васіль МАКАРЭВІЧ

### КУПАЛЫ ЗОРНЫ ВОЗ

Млечным Шляхам
Скрыпіць дзесь абоз,
І — наўпрост, а не так, як папала.
Пасярэдзіне йдзе Зоры Воз,
Той, што стаў Зорным Возам
Купалы.

Да яго пах
Даходзіць з дуброў,
І ляціць гвалт птушыны ды вэрхал.
Не пазаддзем — адборным дабром
Воз Купалы нагружан
Даверху.

Зорка ўспыхне —
З найменнем Палын —
Ды ў нябыт зыркай бліскаўкай кане.
Хто мне скажа — ў які гэта млын
На памол воз кіруе
З мяшкамі?

Як падалей
Ад прыкрых грахоў
І ад раю, відаць, за два крокі
Ходзяць жорны, гудзе млын Багоў,
Што памол выдае
Для прарокаў.

Над прасцягам
Бяскрайніх пакош,
Дзе раса дый краса не прапалі,
Зерне буйнае сыплецца ў кош —
Засыпае наш родны
Купала.

І глядзіць
Са здзіўленнем анёл,
Як з нябёс на палі з паплавамі
З жорнаў цёплы Купалы памол
Зорнай пытляй плыве
Ды сплывае.

## Валянцін ЛУКША

### КУПАЛАВА КАЛЫСКА

Стаміўшыся за дзень, аціх вятрыска,
Як срэбны човен ветах выплывае,
Купалава утульная калыска
Рупліва сны нязводныя люляе.

У твар спякота, быццам з лазні, хвошча,
А лес глядзіць наструненым дазорцам,
У Вязынку іду, нібы да прошчы,
Каб наталіцца духам песнятворцы,

Надыхацца Купалавым паветрам,
Купалавым налюбавацца небам…
З купалаўскаю непахіснай верай
Нам да людзей заўжды прыходзіць трэба,

Каб ім дарог не знаць крывых і слізкіх,
Крыляць, як птушка вольная крыляе…
Купалава чароўная калыска
Рупліва сны нязводныя люляе…

## Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

### КУПАЛА Ў ПОЛАЦКУ

*У 1916 годзе, прызваны ў царскую армію, Купала служыў у дарожна-будаўнічым атрадзе ў Полацку на станцыі Баравуха.*

Зноў шугае вайны завіруха
Праз нягоды гаркавы дым...
Полацк, станцыя Баравуха.
І Купала яшчэ малады.

За плячамі гады, трывогі,
Вера ў любай зямлі зару,
Бо пара будаваць дарогі
Ўжо да станцыі Беларусь.

Тут гукаюць званы Усяслава,
Ля Сафійкі крыніца б’е,
І чакае Радзіму слава,
Калі Полацк ёсць у яе.

Тут Скарыны жывуць прадмовы,
Бо, канечне ж, прадбачыў ён,
Што Купала народа мову
Пранясе аж да нашых дзён.

....З неба знічка ізноў упала,
І глядзіць у вячысты свет
Праз гады малады Купала,
І жыве яго запавет.

## Мікола МАЛЯЎКА

### ПАЎЛІНКА І ЯДВІСЯ

З усмешкаю Купала
Глядзіць: яго Паўлінка
Спявае, танчыць лёгка —
Зямная аблачынка.

На ростанях сумуе,
Панік душою Колас —
Заціх у далях недзе
Ядвісі мілай голас.

Па-рознаму паэтаў
Бяссонніца натхніла:

Глыбока цешыць радасць,
Ды ёсць і ў смутку сіла.

Для нас яны, красуні,
Рэальныя, жывыя.
Не сёстры, не сяброўкі,
Але — і не чужыя.

Як вобразы пяшчоты,
Яны ў старых абновах
Сучасніцамі стануць
І для нашчадкаў новых.

Абедзве маладымі
Навекі засталіся:
Паўлінка — у Купалы,
У Коласа — Ядвіся.

## Казімір КАМЕЙША

### АСКОЛАК

*У Саюзе пісьменнікаў на Вароўскага стаяла адкрытая труна, у якой ляжаў Я. Купала. На скроні былі відаць крывавыя падцёкі. З ордэна У. Леніна пры ўдары грудзьмі зляцела эмаль. Ля галавы нехта паклаў папяровую стужку з надпісам, узятым з яго верша: «Мне сняцца сны аб Беларусі». Праводзілі Я. Купалу пад грукат зенітак, якія недзе адбівалі налёт фашысцкіх самалётаў.*

Максім Танк. «Дзённікі», 1.VIII.1942

Хвіліны страшнейшай, відаць, не бывае,
Калі з-пад падэшваў зямля выплывае.

І ногі,
        і сходцы,
                і нават парэнчы
На лесвіцы гэтай самотліва ўкленчаць.

А ў сценах, дзе люд гаманіў, —
                                        анікога…
З Тарпейскай скалы — проста ў вечнасць дарога…

Над плямай чырвонай як зарыва жалю —
Твар белы і белы асколак эмалі.

Засведчыў усё ён, як даўняя фотка, —
Дзень помны,
                Калініна нават бародку.

І тых, што шаноўна руку пацiскалі,
Паказваў і помніў асколак эмалі.

Асколкі гарачыя мін і снарадаў,
Што край малацілі бязлітасным градам,
Спынялі свой лёт і адразу змаўкалі,
Як слёзы, па рэках каціліся хвалі,
Калі ён успыхваў, асколак эмалі.

Здавалі мы селішчы, зноў іх займалі,
І рэзаў нам вочы асколак эмалі.
І шапкі бары сіратліва здымалі,
Самотна калоссе жыты нахілялі,
Калі ён успыхваў, асколак эмалі...

Мы плакалі моўчкі, мы слёз не хавалі,
І свет у бялку растварыўся эмалі.
Чырвонай расой залівала мой золак —
У кожнае сэрца той трапіў асколак…

## Міхась ПАЗНЯКОЎ

### ПЕРАД ПОМНІКАМ ЯНКУ КУПАЛУ

Пагрозлівы гул над планетаю.
Радзіму трывожна люблю.
Жангліруе НАТА ракетамі,
Узяўшы ў аблогу Зямлю.

Вы сведка, Іван Дамінікавіч,
З прасветлых, вячыстых вышынь,
Што волю імкнёмся мы выкаваць
Трывалай, каб час не скрышыў.

Мы здольныя гэткае выканаць,
Каб пошасць адолець і гнус.
Мы з вамі, Іван Дамінікавіч,
Будуем сваю Беларусь.

Хоць болю ў нас — што і не выплакаць,
Ды сонца бядзе не зацьміць.
Мы горда, Іван Дамінікавіч,
Сягоння завёмся людзьмі,

Мацуемся працай мазольнаю,
Прад намі — азораны шлях.
Жыве Беларусь наша вольнаю
І слаўнаю будзе ў вяках.

## Алесь БАРАНОЎСКІ

### У ВЯЗЫНЦЫ

Як сонца прагляне — схаваецца ў кроны вятрыска…
Ля печы цаглянай пад столлю аціхла калыска.

І гучнае рэха звінела наўкол і прапала.
Чаму не дайшоў да світальнае зоркі, Купала?

Прайдуся сцяжынай і, можа, за зграбнай ялінкай
Убачу стамлёную часам і сонцам Паўлінку.

Ды спёка апала, схаваўшы быццё у тумане…
Прысню, мой Купала, я сон пра цябе на кургане,

Каб крышку суцешыць зямлю, што над рэчкаю стыне.
Нібыта калыску, пяшчоту люляе Айчына.

Ад Мінска да Вязынкі шлях. Праступіла жывіца…
У край бласлаўлёны Купалу іду пакланіцца…

## Мікола МЯТЛІЦКІ

### БЕЛАРУСІ

Ты з неба зорак не хапала,
Гібела ў голадзе і скрусе.
І пра цябе сказаў Купала:
«Мне сняцца сны аб Беларусі».

Ён сніў цябе краінай годнай,
Сярод другіх — не выпадковай,
Што абзавешся мовай роднай,
Таптанаю вякамі мовай.

І вось, саснёная паэтам,
Сваім вялікім мужным сынам,
Ты ўся красуеш яснацветам,
Мая свабодная краіна.

І шчодра родзяць твае нівы,
І кемяць сейбітаў галовы.
Твой будзень шчасны і руплівы.
А дзе ж гучанне роднай мовы?



Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# ЛІХАЛЕЦЦЕ

*Раман*[1]

## X

Незаўважна прыйшла ў Пруску восень. Пазалацела ніцая бяроза ля хаты Фэдара-японца. З высокіх разложыстых стогадовых ліп, што ўзвышаліся на вясковай вуліцы каля Натолія і Мікіты Галёнкаў пачало патроху асыпацца пажоўклае лісце. Уверсе раз-пораз чуўся сумны жураўліны крык — чародкі адна за адной цягнуліся на поўдзень, развітваючыся з летам, з усім гэтым папрастарнелым абшарам зямлі і яго насельнікамі. У Перавозе, над Лосьнай, паспелі ўжо скасіць атаву.

Стыла вада ў Плісе.

Яшчэ далёка не ўсё было ўпраўлена па гаспадарцы, трэба было пасеяць на Доўгіх і ў Срачы, выбраць бульбу і брацца за лён, а Лявону закарцела наведацца ў Альбэрцін да Пацаў. Выбраўся яшчэ да абеду. Ішоў праз Крухмальню, якая ўся ўжо знаходзілася ва ўладзе восені, і гэтая мастачка расфарбавала яе так разнастайна і стракта, з такой фантазіяй, на якую здольная толькі прырода. Месцамі ружова-ліловым полымем ахапіў Крухмальню асіннік, што рос каля яе руінаў. Паніклі ля сажалак вербы, над якімі павольна махаючы дужымі крыламі, праплыў малады крумкач. Ля замшэлых крушняў бітай цэглы кусцілася ажына, вабячы вока буйнымі сінімі ягадамі.

Вартаваў гэты прастор магутны асілак-каштан, што стаяў пры дарозе, паміж сажалкай і капліччкай у гонар святога Пана Яна.

Пераходзячы па каменнях Плісу, Лявон нават крыху пастаяў, падзівіўся на гэтую прыгажосць.

Далей ішоў берагам Лосьны, знаёмай сцяжынай, што вяла паміж лазовымі карчамі, затравелымі азерцамі і чаратамі, якія месцамі з палогага берага спускаліся проста ў ваду і ціха пра нешта шумелі. Вецер паласкаў зялёныя, яшчэ не пашарэлыя, косы асакі.

Перайшоў кладку. За лета бярвенні ўсохлі і зыбаліся пад нагамі. Ад кладкі па пакатым беразе падняўся да сядзібы. Каторы раз зірнуў на магутны каменны крыж, што стаяў на ўзвышшы, прачытаў надпіс на высокім цокалі:

[1] Працяг. Пачатак у № 6, 2012 г.

Господи заступи
и спаси насъ
и наши земли
отъ града и
всехъ напастей
1918 *Пацъ*

Апроч крыжа, фальварак аберагалі магутныя старасвецкія дрэвы — ліпы, клёны ды ясені, што абступалі абсаду з усіх бакоў.

Над комінам Пацавай хаты курыўся дымок. Пэўна, Хвядося нешта кулінарыла. На падворку важна прахаджваўся прыгажун-певень у экзатычна-стракатым апярэнні, шыя і галава аздоблены золатам, барада і завушніцы — чырвоныя, а ногі са шпорамі, махнатыя. Прабег нейкі куртаты, без хваста, кот.

Пад старой ліпай, паміж клуняй, хлявамі і хатай Амброжыя, стаяла пафарбаваная ў зялёны колер фурманка, запрэжаная параю коней. Ля будкі зазвінеў ланцугом сабака, аднак Лявон не звярнуў на яго ўвагі, пакіраваў да хаты і па ступеньках узышоў на ганак. Адчыніў дзверы, пераступіў парог і апынуўся ў прасторных сенях. У сенях на лаўцы ляжалі кінутыя як папала шынялі з сіняга сукна і цёмна-зялёнага колеру фуражкі. Зброя — дзве прыпёртыя да сцяны вінтоўкі. Гэта яго насцярожыла: «Немцы? Чаго яны тут? Што ім трэба?»

Дзверы ў святліцу, адкуль чулася бязладная гамана, адкрыў сам гаспадар — Якаў Арыстархавіч. Распараны ад хатняга цяпла, у суконнай камізэльцы і пры гальштуку.

— Маё шанаванне! — прывітаў ён госця і падаў руку.

— Добры дзень! — адгукнуўся прускавец.

— Заходзь! У мяне госці. Памежнікі.

Лявон пераступіў парог і ўбачыў за сталом двух вайскоўцаў у нямецкай форме, якія, натапырыўшы рудыя бровы, непрыхільна ўставіліся п’янымі вачыма ў яго бок. Гэта былі ўжо стараватыя службоўцы з нейкага, відаць, тылавога ведамства, хутчэй за ўсё ландвераўцы[1]. Падбародкі ў аднаго і другога зарослыя рудым шчаціннем, і выглядалі абодва, як інваліды — нейкія прыгнобленыя і сутулаватыя. У аднаго скрыўленая губа, другі, відаць, падслепаваты, бо няўцямна і без перастанку лыпаў сваімі бляклымі, без зрэнкаў, вачыма.

Па другі бок стала, шматзначна моршчачы мясісты лоб, сядзеў Амброжый — родны брат Якава Арыстархавіча. Амброжый — флегматычны мужчына гадоў пад пяцьдзясят, цешыў сваёй заўсёднай лагоднасцю і бестурботнасцю. Павітаўся з Лявонам, падаўшы руку.

— Сядай з намі! — запрасіў гаспадар і гукнуў жонцы, якая тупала на кухні: — Хвядося, дай яшчэ кілішак! Добра, што зайшоў!

Лявон адчуў сябе няёмка, але сеў. Рухавая і, як заўсёды, чырванашчокая Хвядося прынесла пусты кілішак і, павітаўшыся з госцем, моўчкі паставіла на стол, ізноў вярнуўшыся на кухню.

На стале ў місках раскладзена закуска — сала, сыр, квашаная капуста, мёд. Над талеркамі з яблыкамі і грушамі ўвіваліся восы. Якаў Арыстархавіч наліў з вялікай зялёнай бутэлькі, што стаяла на стале, акружаная сподачкамі з размаітай закускай. Па паху і мутнаватым выглядзе гэта была самагонка, якую фальварковец заўсёды трымаў у запасе на ўсялякі выпадак. Да самагоншчы-

[1] Ландверавец — салдат ландвера, віда рэзервовых войск у Германіі; прымяняліся для нясення мясцовай і тылавой службы.

каў немцы ставіліся даволі паблажліва і памяркоўна, пры выпадку і самі былі не супраць пакаштаваць.

— Пяршак! — пахваліўся Якаў Арыстархавіч.

— Gut, gut! —ківалі галовамі немцы. П'яныя, а, відаць, разумелі, што да чаго.

Самагонкі Якаў Арыстархавіч не шкадаваў, калі трэба было пачаставаць госця.

— Prosit! Prosit! — прагергеталі немцы, адзін і другі, і дружна выпілі, смешна задраўшы ўверх галовы.

— Gut, gut! — адгукаўся Якаў Арыстархавіч, маючы некаторы запас нямецкіх слоў яшчэ з часоў Першай сусветнай вайны, калі даводзілася вадзіць знаёмства з акупацыйнымі ўладамі.

Лявон таксама выпіў і захрумстаў гурком.

Падслепаваты немец намацаў і дастаў кішэнны гадзіннік, раскрыў і доўга ў яго ўглядаўся, няпэўна водзячы вачыма і ікаючы.

— Es ist Zeit![1] — загадным тонам абвясціў ён нарэшце і, гучна ляпнуўшы крышкай, зачыніў гадзіннік.

Якаў Арыстархавіч зноў паслужліва наліў ім па поўнаму кілішку.

— Sei gesund! Sei gesund![2] — пажадалі яны адзін аднаму і кульнулі.

Абодва падняліся, разам і як па камандзе, нягледзячы на тое, што ледзь трымаліся на нагах. Падслепаваты ў дадатак яшчэ і крыху накульгваў. Пацягнуліся да шынялёў. Гаспадар дапамог ім апранууцца і вывеў на свежае паветра, уладкаваўшы на шырокай лаўцы, што стаяла ля плота, а сам тым часам паклаў у фурманку зброю і мяшэчак з папаскай, на дарогу. Брату дапамагаў Амброжый. Праз нейкі час госці, больш-менш ачомаўшыся, усталі з лаўкі, агледзеліся навокал, як бы не разумеючы, куды, як і навошта яны трапілі, і пачалі ўсаджвацца ў вазок. Як на тое, забрахаў, зазвінеў ланцугом Пацаў выжал. Ашчэрыў клыкі. Гасцям гэта, відаць, не спадабалася. Падслепаваты непаспешліва споўз з вазка, узяў вінтоўку і наблізіўся да сабакі, які яшчэ болей азвярэў і брахаў, распырскваючы сліну. Немец падняў стрэльбу, склаўся і стрэліў. Усё гэта адбылося неяк у адначассе. Выжал няспрытна падскочыў, нібы хто яго падкінуў, і ўпаў, слаба скавытнуўшы, як бы на кагосьці скардзячыся. Аднавокі вярнуўся, кінуў вінтоўку ў вазок і, нічога не кажучы, умасціўся сам.

— Gut! Gut! — пахваліў яго таварыш.

Якаў Арыстархавіч і Амброжый стаялі, назіралі за ўсім, але голасу не падавалі, маўчалі. Седзячы ў вазку, аднавокі адчайна замахаў рукамі. Відаць было, што на яго напала нейкая сярдзітая і неўгамонная пчала, нібы помсцячы за Фурсіка. Немец бязладна адганяўся ад яе рукамі, горбіўся, паднімаў каўнер, але невядома, што было далей і чым усё скончылася. Фурманка з немцамі знікла за паваротам, вывернула на дарогу, абсаджаную ніцымі бярозамі, што вяла ў Бранавічы, а адтуль праз Алешкавічы да шашы паміж Відамляй і Высокім. Якаў Арыстархавіч з Амброжыем яшчэ нейкі час пастаялі, уражаныя тым, што адбылося, пашкрэблі сябе за вушамі і моўчкі вярнуліся ў хату. Лявон сядзеў на сваім месцы.

— Давай без іх вып'ем! — прапанаваў гаспадар. — Сабаку забілі. Нашто? Сляпы, але, хоба на яго, пацэліў! Мне аж у ваччу завярнула.

---

[1] Пара! *(ням.)*

[2] Будзь здароў! Будзь здароў! *(ням.)*

Наліваць узяўся Амброжый, з твару яго не знікала сумная міна, выклікаеная гэтым прыкрым здарэннем.

— А пчолка як на яго напала! — крутнуў ён галавой. — Адчувае! Добра, відаць, утнула нягодніка.

— Пчолы джаляць, калі ім пах не спадабаўся, — сказаў Якаў Арыстархавіч.

У сенях лямантавала Хвядося:

— Фурсіка забілі! Нягоднікі! На тое ён і сабака, каб брахаць!

— П'яныя, — насупіўся Амброжый, наліваючы Лявону.

— Хай іх нагла возьме! — не змаўкала абураная Хвядося.

— Памежнікі з Лешні, — зноў патлумачыў Якаў Арыстархавіч. — Мы з Амброжыем яблыкі на базар у Брэст вазілі, дык праз мяжу, хоба на іх, не прапускалі, а гэты падслепаваты Ганс дапамог, і прапусцілі, дык цяпер наведваюцца.

— Але сабак не любяць! — крутнуўшы галавой, дадаў Амброжый.

Выпілі яшчэ па кілішку.

Лявон ведаў: Лешня — вёска, недалёка адсюль у напрамку Брэста, праз яе цяпер праходзіла дзяржаўная мяжа паміж Усходняй Прусіяй (рэйхам) і акупаванай украінскай тэрыторыяй, у склад якой цяпер уваходзіў і Брэст. У Лешні знаходзілася нямецкая пагранзастава. Якаў Арыстархавіч як закончаны прагматык ва ўсім імкнуўся кіравацца выгадай і карысцю — з такога разліку ён і завёў знаёмства з памежнай стражай.

— Свісціян з Алешкавіч, хоба на яго, валачэ сваю кантрабанду ў абход заставы, глухімі сцежкамі, дык яго і ловяць, а мы з Амброжыем праз заставу яблыкі вязём, падатак плацім. Як мае быць! Як па законе!

— Не надта таго Свісціяна і зловіш, — дадаў Амброжый. — Ён у лес падаўся, даў, каб жонку заарыштавалі…

Яны прымоўклі.

— Знаёмства не апошняя рэч, — сказаў Лявон, каб падтрымаць размову.

— Да сала надта дападлівыя! — бурчэла на кухні Хвядося, захаваўшы крыўду на немцаў-памежнікаў. — Каб ім калаццё ў бок уперлася! Каб спруцянелі!

Лявон уздыхнуў.

— Мэду пакаштуй! — прапанаваў Якаў Арыстархавіч. — Свежы, гэтага года, ужо другі раз выбіралі.

Лявон лыжкай дастаў з міскі мёду, паклаў на хлеб, пакаштаваў.

— Ну, як?

— Крыху, мне здаецца, гарчыць.

— Сапраўдны мэд і павінен гарчыць, — зазначыў Амброжый. У яго сцвярджэнні гучала пераканананасць знаўцы, вопытнага пчаляра.

— Так-так, — падтрымаў брата Якаў Арыстархавіч. — Сярод траў і кветак гаркаты шмат.

Потым Якаў Арыстархавіч пачаў пра іншае, пра навіны.

— Мы, калі з Амброжыем той раз у Берасці былі, дык я газетку купіў — «Наше слово», на ўкраінскай мове. Я па-ўкраінску чытаю. Дык што яна піша? Да Берасця высокія госці, хоба на іх, завіталі. Гітлер паказваў Мусаліні Брэсцкую цытадэль! Абпаленыя муры ды разбурэнні. У газеце — фатаграфіі. Напачатку сустрэліся ў памяшканні былой гімназіі Рамуальда Траўгута, — я калісьці Мірыка хацеў туды аддаць, — а потым трафейную тэхніку аглядалі і цытадэлю.

— Бо яны сябруюць — Гітлер і той італьянец, — патлумачыў Амброжый. — Я так чуў.

— Сябруюць, хоба на іх… — вусны Якава Арыстархавіча скрывіліся ў скептычнай усмешцы. — Калісьці ён і са Сталінам сябраваў, а што потым выйшла?

— Выйшла — дышла, — развёў рукамі Амброжый і дадаў: — Я чуў, што Саветы кітайцаў на дапамогу клічуць.

Лявон паціснуў плячыма. Яны памаўчалі. У акно заглянуў зыркі прамень сонца і доўгай палоскай расцягнуўся па падлозе, дасягнуўшы Амброжыевых ботаў.

— Адкуль гэта табе вядома — пра кітайцаў? — запытаў Якаў Арыстархавіч у брата. — Айзік казаў?

— Айзік.

— Тут, мне здаецца, Амэрыка можа ўмяшацца, — выказаў сваю здагадку Лявон, але пэўнасці ў гэтых няпростых міжнародных пытаннях ні ў кога не было.

Якаў Арыстархавіч паглядаў на Лявона:

— А ты да нас толькі наведацца ці па справе?

— Ішоў і зайшоў.

— Ну то добра.

— Часам трэба бачыцца, — зазначыў Амброжый, пацёршы далонню лоб і залысіны.

— Складаны час, хоба на яго, складаны, — як бы пацвердзіў Якаў Арыстархавіч, — не просты. А солтысам у вас хто?

— Хрысан Гальяш. Яго прызначылі.

— Гэта той з жоўтымі вачыма?

— Той. Намеснікам сабе суседа майго Мішу Латушку ўзяў.

— Баптыста?

— Ну, так. Міша — чалавек якраз і неблагі, а на Хрысана людзі крыўдуюць. Газу размяркоўвае, дык аднаму больш нацэдзіць, хто самагонкай пачастуе, а таму, хто не пачастуе, і ўвогуле можа не даць.

— Людзі — як той посуд — з адной гліны, — але розныя, — выказаў сваё меркаванне Амброжый. — А ў цябе, мы чулі, пленны жыве?

— Прыбіўся.

— Прымак?

— Атрымліваецца, што прымак.

— Ну, што ж, трэба дапамагаць людзям, калі ў бяду трапілі, — ухваліў Амброжый. — Гора цяпер шмат. Вось яўрэям таксама цяжка, у Камянцы для іх гета зрабілі, у адно месца сагналі, варту паставілі. Я Айзіка выпадкова сустрэў.

— І ў Высокім, я чуў, таксама гета, — Якаў Арыстархавіч здзіўлена пахітаў лысай галавой. — Што ж цяпер будзе? Загадалі насіць «зоркі Давіда» — на грудзях і на спіне — такія круглыя жоўтыя латкі. А не прышыеш, дык, кажа, расстрэл!

— Ай-яй-яй! — уздыхнуў Амброжый. — І людзі ж дабрэнныя! Калісьці ж сябравалі. І боты ўмелі пашыць, і халу спячы!..

— Выгналі іх з дамоў, я думаю, каб золата пазнаходзіць, — працягваў Якаў Арыстархавіч. — Знішчаюць яўрэяў. Немцы, хоба на іх. А калі падумаць, дык сваіх дзяцей знішчаюць!

Лявон незразумела і няўцямна зірнуў на фальваркоўца, той заўважыў яго позірк і патлумачыў:

— У тую вайну яны ж іх панарабілі! Ну, гэтае пакаленне. Я тыя часы добра помню. Немцы тады ганялі камянецкіх яўрэяў у маёнтак пад Завадзькавічы жыта жаць і бульбу капаць. Тыя капаюць бульбу, а гэтыя вяртаюцца ў мястэчка да іх жанок, пад пярыны. Столькі тады светленькіх нарадзілася. Але яўрэі, вядома, маўчаць. Цярплівы народ, надта цярплівы…

— Шкада іх, — паспачуваў прускавец, — надта шкада. І людзі прыстойныя, і калі што пашыць, ці змайстраваць, ці дапамагчы, грошы пазычыць, — на ўсё адгукаліся. А колькі знаёмых сярод іх!

— Цяпер у іхнія дамы, кажуць, сялян з пушчы перасяляюць, каторых з вёсак павыганялі, — загаманіў Амброжый. — А вёскі паляць.

Яны змоўклі, і Лявон зноў, ужо не ў першы раз, злавіў сябе на думцы, што трэба неяк супрацьстаяць акаляючым абставінам, уціску, які гэтак бессаромна наступаў на чалавека. Але як?

Зайшла Хвядося, каб прыбраць са стала, і Якаў Арыстархавіч спыніў свой аповед. Гаспадыня адчыніла фортку, і па пакоі папоўз скразнячок.

— Нічога, хоба на яго, не парадзіш! — бездапаможна развёў рукамі Якаў Арыстархавіч, быццам адказваючы на маўклівае Лявонава запытанне.

— А дзе Мірык? — пацікавіўся Лявон.

Мірык — сын Якава Арыстархавіча, Васілёў сябар, калісьці ў пачатковай школе разам вучыліся.

— Ён у Камянцы! — энергічна варухнуў галавой Якаў Арыстархавіч. — Лаўку хоча адчыняць. Ну, Лявоне, ты ж помніш, ён заўсёды з гэтай думкай насіўся.

— Помню. Хай гандлюе, прыбытак будзе.

— Вайна калі-небудзь скончыцца, — азваўся Амброжый. — Усё, што пачынаецца, і канец мае. Пра заўтрашні дзень трэба думаць. Хто яго ведае…

— Ён хоча мэд прадаваць, — уступіла ў размову Хвядося, прыслухаўшыся да таго, пра што гаманілі мужчыны, — мэдам гандляваць хоча.

— Мэд купяць! — запэўніў Амброжый. — Гэта ж лякарства ад усіх хвароб!

— Мэд і сала, — удакладніў брат, — але за дазвол закалоць кабанчыка трэба заплаціць сто марак. Дарага!

— Але, — згадзіўся Лявон, — дарага.

Гаспадыня прыбірала са стала.

— Хвядося, яшчэ не прыбірай! — звярнуўся да жонкі Якаў Арыстархавіч. — Можа, Лявон яшчэ есці будзе?

— Не, не, досыць. Дзякуй!

— А можа яшчэ мэду?

— Не.

— Ну, то як хочаш.

— Дзякуй.

Хвядося прыбрала са стала талеркі і панесла на кухню.

— Хутка сёлетні мэд будзем з вулляў выкачваць, — паведаміў Якаў Арыстархавіч, — у гэтым годзе мэду будзе шмат, бо надта добра ўсё цвіло — і грэчка, і ліпа, і кветкі…

Пара было развітвацца, і Лявон яшчэ раз успомніў пра Васілёў арышт:

— А нашага Васіля былі заарыштавалі. Камянецкая жандармерыя. Ледзьледзь ацалеў…

— Дзякуй богу, што выпусцілі, — сказаў Амброжый, — а то хто яго ведае…

— Выпусцілі, і вам дзякуй, што прашэнне падтрымалі.

— Ну, то байкі!

— Бо невінаваты, — як бы падвёў рэзюмэ Якаў Арыстархавіч. — Цяпер кожнаму трэба быць асцярожным. З немцамі не проста дамовіцца, але можна. Дамаўляцца лепш, чым сварыцца. Улада сваркі не любіць.

— Не любіць, — пацвердзіў брат.

— Не хвалюйся, усё будзе добра, — запэўніў Якаў Арыстархавіч.

Яны зноў на нейкі час прымоўклі, і зноў парушыў маўчанне Лявон:

— Цяжка сказаць, як яно будзе.

— А Фурсіка забілі! — напомніў Амброжый. — А чым ён вінаваты?

Якаў Арыстархавіч махнуў на брата рукой, як бы ў таго было нешта ад блазна і на яго не варта зважаць.

— Ты, Лявоне, заўсёды быў статэчны гаспадар і ты такім павінен заставацца.

— Але, але! — далучыўся да брата Амброжый.

Прускавец скептычна паціснуў плячыма:

— Жыццё пакажа…

— Ты ідзі, — прамовіў Якаў Арыстархавіч, — а мы тут з Амброжыем Фурсіка закапаем. Шкада, добры быў сабачка. Новага трэба недзе шукаць.

— Не, такога разумнага не знойдзеш, — сказаў брат.

Лявон развітаўся з гаспадыняй, якая перадала прывітанне Фёкле і сказала, каб у наступны раз былі разам. З хаты выйшлі за адным скрыпам. Якаў Арыстархавіч з Амброжыем правялі да кладкі.

— Асцярожна! Яна, хоба на яе, хісткая! — папярэдзіў Амброжый, аганяючыся ад машкары. — Заедзь!

— А я за парэнджу трымаюся. — Ён падаў братам руку.

Ідучы, думаў пра Пацаў. Уражанне было такое, што цяпер яны пачуваюць сябе ўсё ж такі лепш, чым пры Саветах.

Пры Саветах Якаў Арыстархавіч сядзеў у турме, і перспектыва жыцця выглядала даволі змрочнай. Зрэшты, не пасвятлела і зараз. Не толькі не пасвятлела, але яшчэ больш патанула ў мораку няпэўнасці і страху.

## XI

Неспадзявана пачалася вайна і для Івана Мітрафоравіча Афінагенава — былога старшага следчага Камянецкай раённай пракуратуры па асоба важных справах. На гэтай турботнай, трэба сказаць, пасадзе ён знаходзіўся з канца 1939 года. Перад гэтым скончыў герцэнаўскі педагагічны інстытут у Ленінградзе і разлічваў ісці на працу ў школу, аднак лёс распарадзіўся па-свойму — маладога настаўніка, пасля адпаведных курсаў, накіравалі ў органы пракуратуры. У верасні 1938 года апынуўся ў Маскве і пасля непрацяглага знаходжання ў цэнтры НКУС у кастрычніку наступнага года яго накіравалі ў Брэст, а з Брэста сюды — пад самую пушчу. Тут і працаваў да самых першых дзён вайны. Пачуваў сябе чэкістам.

Нялёгкай была яго праца. Усімі сіламі трэба было падтрымліваць узровень пільнасці — на даляглядзе маячыла вайна. Вечарам у суботу ў раён паступіла данясенне, што ў Свішчоўскім лесе бачылі групу невядомых. Было падазрэнне, што гэта дыверсанты, бо ў тым месцы, па звестках, меліся будаваць аэрадром ці нейкі іншы ваенны аб’ект. Цэлую ноч блукалі яны з пагранічнікамі па лесе, але дыверсантаў не выявілі. Нічога не заставалася, як вярнуцца ў Камянец. Іван Мітрафоравіч памыўся і апрануўся ў цывільнае.

Апошнім часам правакацыі на граніцы здараліся ўсё часцей. Падначаленыя чакалі ад Афінагенава, што ён растлумачыць ім абстаноўку, аднак пэўнага тлумачэння ў яго не было. Вестка пра тое, што немцы перайшлі граніцу і пра баі на граніцы, у Камянец дайшла на тую ж раніцу, 22 чэрвеня. Паведамілі з заставы. «Што рабіць?» Афінагенаў і сам не ведаў, што рабіць. Паспрабаваў пазваніць камандаванню Брэсцкага ўкрэпраёна — ніхто не адказваў. Адчуваў стомленасць ад таго начнога блукання па лесе, але адпачываць не было калі. Галаву бесперапынна свідраваў страх: «Архіў, архіў! Як быць з архівам? Там жа ўсё! Уся сакрэтная інфармацыя, уся сетка! Не давядзі бог для чэкіста страціць архіў. Архіў — гэта святое! Дакументы! А можа, гэта не вайна, а ўсяго толькі правакацыя з нямецкага боку? Пачуў выступленне Молатава па радыё. Вайна!..»

Аднак нават яшчэ і тады ён не дапускаў думкі, што давядзецца пакідаць Камянец.

Перш за ўсё пабег у райкам партыі, спадзеючыся, што там скажуць нешта пэўнае, дадуць указанні. Застаў сакратара па ідэалогіі, іншыя, здаецца, кудысьці зніклі. Ды і сакратар па ідэалогіі, па ўсім відаць, не збіраўся доўга затрымлівацца. На Афінагенава запытанне пра архіў ён сказаў:

— Бярыце ваш архіў і следуйце ў напрамку Пружан. Сустакаемся ў Пружанах. Фактар нечаканасці спрацаваў! Вось такія дзялы! Але гэта ўсё ўрэменна!..

Афінагенаў кінуўся назад, да будынка пракуратуры, і па дарозе сустрэў былога ўпаўнаважанага па сельскай гаспадарцы Галабурду, які апошнім часам працаваў у Ратайчыцах старшынёю сельсавета.

— Куды вы, Іван Мітрафоравіч! — замахаў рукамі Галабурда. — На Брэсцкай нямецкія матацыклісты!

— Ды што вы? Не можа быць! Гэта — правакацыя!

— Ды не! Кончыліся правакацыі, уцякайма ў лес!

Івана Мітрафоравіча ўсяго, з галавы да пят, нібы электрычным токам працяло: «Як быць?» За райпракуратурай, акрамя легкавушкі адмысловай маркі «Крайслер», была замацавана асобная грузавая машына-«палутарка» з крытым брызентавым верхам. Для бягучай работы — незаменная. Афінагенаў загадаў грузіць на яе папкі з дакументамі, штампы, пячаткі, якія ні пры якіх абставінах не павінны былі трапіць у чужыя рукі. Архіў і пячаткі трэба ўберагчы што б там ні было. Падначаленыя — іх было чацвёра — звязвалі папкі з дакументамі ў пачкі, выносілі з памяшкання і кідалі ў машыну. Яшчэ адзін — шафёр — знаходзіўся ў кузаве і парадкаваў пачкі. Усе былі ў цывільным, як і сам начальнік, апрануты ў касцюм, на галаве чорны капялюш. Побач, напагатове, стаяла легкавушка.

— Хутчэй, хутчэй! — прыспешваў Афінагенаў. — У Пружанах нас ужо чакаюць. Давай! Давай!

Машыну загрузілі толькі напалавіну, калі ён убачыў, як па вуліцы праляслася некалькі матацыклаў з вайскоўцамі ў балотнага колеру адзенні і глыбокіх касках, насунутых на вочы, закрытыя чорнымі акулярамі. Афінагенаў і тыя, хто грузіў, знянацку кінуліся ў глыб двара, але матацыклісты праехалі, не звярнуўшы на іх ніякай увагі, і зноў нібы пацішэла. Аднак абстаноўка стала яшчэ больш нервознай.

— Паехалі! — не вытрымаў шафёр і нахабна, зняважліва вылаяўся: — На халеру нам гэтыя паперы! Ну іх к чорту! Пячаткі…

Пачуўшы такое, Афінагенаў быў страшэнна абурыўся і ўзлаваўся. Нават мову заняло, і рука ўжо гатова была пацягнуцца да кабуры, але своечасова

апамятаўся. Перавёў дых. «А можа, ён мае рацыю? — падумаў Афінагенаў, зірнуўшы на шафёра. — Калі з такімі паперамі трапім да немцаў, дык канцы! А можа, замкнуць машыну ў гаражы? Машыну — у гараж, а самім — у лес ці ў тыя ж Пружаны, як сказаў сакратар. А там усё супакоіцца і вернемся. Не можа быць, каб немцаў не пагналі!..»

— У гараж! Заганяй у гараж! — хапатліва распарадзіўся Афінагенаў і замахаў рукамі. — Хай у гаражы пакуль стаіць і чакае нас, а мы на легкавой. А грузавая хай у гаражы стаіць. Гараж — на замок! Мы, таварышы, імейце ў віду, скора вернемся! Скора будзе наступленне!

Шафёр хуценька загнаў палутарку ў гараж, зачыніў жалезныя дзверы і павесіў на іх вялікі замок. Пасля гэтага ўсе яны паселі ў ёмісты «Крайслер» і рушылі ў бок Жабінкі, каб па шашы Брэст—Мінск ехаць да Пружан. Упаўнаважаны нават крыху супакоіўся, але ненадоўга. Непакоіла тое, што па дарозе густа брылі людзі з клункамі — у Жабінцы гэта быў ужо натоўп, які суцэльнай плынню, як рака, рухаўся на ўсход. Гэтай плыні не было канца — людзі ішлі, ехалі, пляліся па адным. Уражанне было такое, што ніхто не ведаў, куды ён ідзе, думаючы: што людзям — тое і мне. Па ўзбочынах шашы ляжалі паваленыя тэлеграфныя слупы. «Хто ж гэта паваліў? — думаў Афінагенаў. — Свае ці дыверсанты?»

У паветры лютавала варожая авіяцыя.

— Самалёты! Самалёты! — у страху крычалі людзі, кідаючыся ад дарогі на зямлю.

Гэта былі пікіроўшчыкі, «месершміты». Адзін за адным яны праносіліся з нейкім рэзкім металічным гукам над галовамі адступаючых, скідаючы бомбы і сеючы кулямётную смерць. Чэргі секлі па бруку, выбіваючы з камянёў іскры. Людзі разбягаліся ад шашы ўрассыпную, фурманкі разам з коньмі абарочваліся ў канавах. Крык, лямант, стогны! Трашчалі павозкі, ламаліся аглоблі. Падалі, падрэзаныя кулямі, людзі і жывёлы.

Побач з афінагенаўскім «Крайслерам» прасвістала і разарвалася бомба, але машыны на дзіва не зачапіла. «А нашых знішчальнікаў чамусьці не відаць…» — з прыкрасцю думаў Іван Мітрафоравіч і маўчаў. Счакаўшы налёт, людзі зноў збіраліся на шашы і рухаліся далей. Бясконцы людскі вал.

«Як нечакана ўсё атрымалася! — не пераставаў думаць старшы следчы. — Была ж упэўненасць, што ваяваць, калі давядзецца, будзем на чужой тэрыторыі, а яно вось як атрымалася…» Настрой быў сумны.

За Федзькавічамі кулямётная чарга з самалёта дастала і афінагенаўскі «Крайслер», — з тых, хто сядзеў ззаду, двух забіла, а шафёра параніла, але ён яшчэ мог ісці. Забітых вымушаны былі пакінуць каля разбітай машыны, а самі подбегам пайшлі далей, побач з шашой, па узбочыне, каб хутчэй можна было дабегчы да лесу ў час чарговага налёту. Тут іх і абагнала зялёная палутарка. У кузаве, побач з жалезнымі скрынкамі, сядзеў нейкі вайсковец з кубікамі малодшага камандзіра на пятліцах.

— Стань! Спыніся! — крыкам узмаліўся Афінагенаў. — Імейце ў віду, я буду жалавацца! Стой! Стой!

Машына крыху прытармазіла, але, відаць, не таму, што ён крычаў, просячы спыніцца і забраць яго з рэшткай таварышаў. Дарога выдалася страшэнна калдобістая, і таму шафёр вымушаны быў сцішыць хуткасць. Разважаць не было калі, Афінагенаў кінуўся да машыны, ухапіўся абедзвюма рукамі за борт, падскочыў і паспеў ужо закінуць наверх нагу, каб узлезці ў кузаў, як раптам пачуў:

— Не лезь, сука! Не паложана! — вайсковец з кубікамі на пятліцах, што сядзеў у кузаве, падняў вінтоўку і з усяе моцы ўдарыў прыкладам Афінагенава па пальцах.

— А-а-а! — як дзіця, узвыў Іван Мітрафоравіч, пальцы самі сабой расшчапіліся, і ён цяжка, усім целам абрынуўся ў пыл, на зямлю, і колькі часу ляжаў нерухома. Адчуў пад сабой, у кішэні пінжака, пісталет. Са стогнам, мацюкнуўшыся, падняўся, расцёр паясніцу, бок, хукнуў на пальцы, глянуў услед машыне, якая ўсё больш аддалялася ад яго і яшчэ раз бездапаможна вылаяўся:

— Сволач!

Падышлі таварышы. Трэба было ісці далей, і яны пайшлі, заглыбленыя ў свае думкі і да ўсяго раўнадушныя, апроч аднаго: кожны імкнуўся ацалець. Зноў давялося прыгнуцца і залегчы: нізка над дарогай, амаль кранаючы — так здалося Афінагенаву — вяршаліны соснаў, праімчаліся два самалёты з нейкім асабліва прарэзлівым зыкам. Паперадзе пачуліся выбухі — гэта, няйначай, самалёты скінулі бомбы. Афінагенаў з таварышамі падышлі да таго месца. З краю дарогі дыміліся дзве свежыя, глыбокія варонкі, а на абочыне, дагары калёсамі, адно з якіх яшчэ круцілася, ляжала перакуленая машына, у якую пяць мінут назад намагаўся залезці Афінагенаў. Побач, учапіўшыся рукамі за траву, ляжаў увесь у крыві той самы вайсковец з кубікамі на пятліцах, які толькі што так бязлітасна і жорстка малаціў яго прыкладам вінтоўкі па пальцах. «Ну вось, — мільганула думка, — і пісталет не спатрэбіўся». Выбухам раскурочыла і растрыбушыла жалезныя скрынкі з нейкімі паперамі. Цяпер яны валяліся навокал і іх перакочваў лёгкі ветрык. Побач у беспарадку ляжалі штэмпельныя падушкі, прэс-пап’е, дыраколы…

«Дакументы вёз», — зразумеў Афінагенаў пра забітага і ўспомніў пра свой архіў, які так неабачліва пакінуў у Камянцы. — «Што з ім, які яго лёс? Там жа ўся раённая агентура. Мянушкі, клічкі, псеўданімы! Уся работа на смарку, за паўтара года! Калі прападзе ці да немцаў трапіць, дык па галоўцы не пагладзяць. За такое караюць жорстка!..»

Яны колькі хвілін пастаялі, міжвольна хітаючы галовамі і дзівячыся на такое павучальнае жыццёвае здарэнне — нібы жывую прыпавесць аб непрадказальнасці лёсу.

Нарэшце, пад раніцу, дабраліся да Пружан. Тут таксама панаваў беспарадак. Паніка, крык, неразбяруха, пагрозы, лаянка. Кожны даказваў, што яму абавязкова і неадкладна трэба на ўсход і пры гэтым першаму. Іван Мітрафоравіч загадаў сваім падначаленым чакаць, а сам кінуўся шукаць камянецкіх райкамаўцаў ці каго-небудзь са сваіх калег. Як ні шукаў, сярод агульнай мітусні нікога не мог знайсці. Народу поўна, але таго, каго трэба, не было. Марыла смага, і ён напіўся з калодзежа, адчуўшы прыемны смак халоднай вады. Зняў капялюш, абабіўшы з яго пыл, і спаласнуў вадой твар. Намацаў на шчоках шчаціннe і ўспомніў, што даўно не галіўся. Зноў насунуў капялюш на галаву. У навакольнай гамане найбольш чулася: «На ўсход, на ўсход!..» Вярнуўся на тое месца, дзе яго павінны былі чакаць таварышы, але іх ужо і след прастыў. Падаліся, відаць, разам з усімі на ўсход, пакінуўшы пасля сябе прымятую, шэрую ад пылу траву, па якой, нібы жадаючы, каб яна зноў ажыла і пазелянела, мітусліва коўзаліся сонечныя зайчыкі. Ён яшчэ раз прайшоўся туды-сюды, і тут на вочы трапіў іншы чалавек — былы капэзэбавец Мірон Крыштафорык, якога Іван Мітрафоравіч ведаў па тым жыцці, якое цяпер ужо трэба было называць не інакш, як даваенным. Павіталіся, пацiснулі адзін аднаму рукі.

Рука былога капэзэбоўца здалася важкай і цвёрдай. Адышліся ўбок, у нейкі завулак і пачалі гамонку. На вочы трапіў калодзеж з вядром, яны дасталі вады, і Афінагенаў зноў папіў, за кампанію.

— А я вас крыху ведаю, — прызнаўся ён. — У вас работа такая, каб ведаць, — пасміхнуўся Крыштафорык. — Прысядзем! — не то прапанаваў, не то загадаў ён, пэўна, па праве старэйшага па ўзросце. Яны адышліся яшчэ троху і апусціліся на каменні-валуны, што ляжалі пад вішнёвымі дрэвамі ля пахілага плоту.

Яны неяк сустракаліся і да гэтага — на міжраённых мерапрыемствах. Мірон Крыштафорык быў з ліку тых, лічаных, можна сказаць, капэзэбаўцаў, якім усё ж такі давяралі, далі нават нейкія пасады на ўзроўні старшынь сельсаветаў.

— Ну, што думаеце рабіць? — спытаў Крыштафорык, нахмурыўшы густыя бровы і пазіраючы сабе пад ногі.

— Цяпер, вы самі бачыце, усе кіруюцца на ўсход.

— На ўсход?

— Ну, так. Хаця асабіста я іншай думкі, я з імі не згодзен. Мяркую, што неўзабаве пачнецца наша контрнаступленне, праціўнік будзе адкінуты і мы вернемся — кожны да сваіх спраў.

Ніхто не ведаў, як будуць развівацца падзеі. Крыху памаўчаўшы, былы капэзэбавец сказаў:

— Сапраўды, хто ж тады тут застанецца, калі ўсе ў адначассе кінемся на ўсход. Людзей пакідаць нельга. І я, і мае таварышы ўпэўнены, што камусьці трэба заставацца тут. Справы, думаю, знойдуцца…

Афінагенаў уважліва на яго паглядзеў. Такі паварот думкі здаўся для яго нечаканым, але ў Крыштафорыка, адчувалася, многае было ўжо прадумана.

— У немца сіла, і не малая, — зноў загаварыў былы падпольшчык, — я сам бачыў. Тэхніка! Уся Еўропа на яго працуе! Яго адным махам не адолееш, трэба час, каб адолець. Час і згуртаванасць.

Афінагенаў слухаў і моўчкі пагаджаўся, бо, як ні лічы, а пэўная логіка і праўда ў словах яго суразмоўцы былі. Па старой звычцы, як былы работнік пракуратуры, ён імкнуўся зразумець, чым чалавек дыхае. Не адпускала трывога за архіў. Ніколі не думаў, што можа ўзнікнуць такая няштатная сітуацыя. Нават у самым жудасным сне не магло прысніцца такое!

— Вы з Камянецкага раёна? — раптам запытаў Крыштафорык, як бы здагадваючыся пра яго перажыванні і клопат.

— У Камянцы працаваў, у пракуратуры.

— Дык вы, можна сказаць, мясцовы чалавек, усіх ведаеце, вам і карты ў рукі. Ёсць усе ўмовы, каб пачынаць работу.

Афінагенаў маўчаў, у галаве раіліся думкі: «Каго я слухаю? Гэта ўсё ж такі капэзэбавец. Яшчэ невядома, як усё павернецца. Куды, у які бок ён гне? Гэта ўсяго толькі пустое пражэкцёрства!»

Між тым былы капэзэбавец гаварыў удумліва, па-дзелавому, крыху сцішыўшы голас:

— Створым базу, установім сувязі. Наша задача — дыверсіі, разведка, работа з насельніцтвам. Хай людзі не думаюць, што мы пра іх забылі. Усё трэба бачыць — і папераздзе, і ззаду. Вядома, для разгортвання нашай справы многае патрэбна — грошы, зброя, сувязь. Калісьці намі апекавалася Масква, Камінтэрн, а як цяпер будзе, невядома. Але нешта будзем кумекаць. Сувязі засталіся. Яшчэ старыя, ячэечныя…

Афінагенаў слухаў, і яго разважанні паступова пачалі мяняцца: «А можа, і сапраўды на першых парах трэба быць разам, бо час вельмі ж няпросты, а там пабачым…»

— Ну, што ж, лагічнае зярно ў вашых рассуждзеніях ёсць, — вымушаны быў прызнаць следчы камянецкай пракуратуры.

— Ёсць, — пацвердзіў Крыштафорык.

Афінагенаў, як ні дзіўна, усё болей пранікаўся даверам да гэтага чалавека, да якога спачатку ставіўся гэтак насцярожана.

— Пакуль што пажывяце ў Ружанах. Дастанем дакументы, каб ніхто не прычапіўся, сялянскае адзенне. Мову нашу вы ведаеце…

— Ведаю.

— Падпольны вопыт такі-сякі ў нас ёсць. Яшчэ польскі…

Іван Мітрафоравіч адчуў, што лёс яго ў чарговы раз складваецца зусім не так, як ён думаў.

* * *

У верасні 1941 года ў Ружанскай пушчы (гэта кіламетраў сорак—пяцьдзясят на ўсход ад Камянца) адбылася адна надта важная падзея — нарада падпольшчыкаў, партызан і вайскоўцаў па разгортванні антыфашысцкага руху і партызанскага супраціву на Брэстчыне. Былі тут былыя капэзэбаўцы, работнікі партыйнай і савецкай адміністрацыі, што не паспелі разам з арміяй адысці на ўсход і засталіся на акупаванай тэрыторыі, акружэнцы пад камандаваннем лейтэнанта Журбы. Сабраліся на лясной палянцы. Хто сядзеў на трухлявым пяньку, хто абапіраўся на сасонку, хто проста выцягнуўся на парыжэлай ад спёкі траве.

Лета буяла, дасягнуўшы пары свайго прыроднага росквіту. Прыпякала сонца, але тут, у лесе, спёкі не адчувалася. Можна было дыхаць свежым паветрам, у якім змяшаўся водар траў, імхоў і кветак, выразна чуўся пах сасновай смалы. Духмяніла зуброўка — яе тут, на лясной паляне, на грудку, было шмат. Па краях паляны пагойдваліся ў сонечным бляску дня бярозкі, пад якімі кусцілася густая папараць.

Людзі, што сабраліся тут, на акаляючую прыроду не зважалі, бо думкі кожнага былі запоўнены іншым.

Кіраваў нарадай Мірон Крыштафорык — капэзэбавец са стажам. Крыштафорык помніў Ружанскую пушчу ці Ружанку, як яе называлі мясцовыя, яшчэ з 20-х гадоў, калі тут гняздзіліся партызанскія атрады, нападаючы на панскія маёнткі і паліцэйскія пастарункі. Потым партызанская актыўнасць аціхла, але памяць засталася. І вось належала зноў разгарнуцца, у новых умовах.

Характар Крыштафорыка сфармавала турма — у яго быў надта багаты турэмны вопыт. Больш за дзесяць год. У турме сядзелі і практыкі, і тэарэтыкі рэвалюцыйнай барацьбы. Яны і навучылі яго часцей адыходзіць на задні план, а наперад выпускаць іншых, кіраваць імі, паставіўшы заданне, даўшы ідэю і лозунг. Ён і адкрыў нараду:

— Таварышы! Падзеі пакуль што, на жаль, складваюцца не на нашу карысць. Чырвоная Армія пакінула Днепрапятроўск, Ленінград рыхтуецца да абароны. Паднялася факцічаскі ўся краіна. Ды гэта і зразумела. Нельга сядзець склаўшы рукі, таварышы! Гісторыя нам гэтага не даруе. Ёсць, таварышы, на гэты конт дырэктыва Саўнаркама і ЦК, якая абавязвае. Таварыш Сталін у сваёй гістарычнай прамове сказаў: «Наша справа справядлівая, мы

пераможам!» Перад намі, таварышы, стаіць задача па стварэнні раённых антыфашысцкіх камітэтаў барацьбы з нямецкімі акупантамі. Фашыст топча нашу зямлю, здзекуецца з нашых людзей. Трэба нешта рабіць! Са зводкі Саўінфармбюро вядома, што ў тыле ў фашыстаў ужо дзейнічаюць партызанскія атрады. Трэба браць прыклад, пераходзіць да партызанскіх метадаў. У лесе ўжо ёсць нашы людзі, і гэта, вядома, добра. Байцы і камандзіры, што трапілі ў акружэнне, адсталі ад фронту, асабліва з дзясятай і трэцяй армій. Трэба сабраць разрозненыя групы ў адзін атрад, у адзін жалезны кулак і гэтым кулаком грукнуць яму па галаве. Многія акружэнцы аселі ў гаспадароў, прымакамі парабіліся. Пра іх таксама варта падумаць. Іх у нашым краі шмат. Гаворка таксама ідзе пра тое, што трэба збіраць зброю і боепрыпасы, узмацняць сувязі з мясцовым насельніцтвам. Камуністу не прыстала вешаць галаву, трэба дзейнічаць.

Прысутныя слухалі з увагай.

— І яшчэ, таварышы, — працягваў стары капэзэбавец, — неабходна строга і бязлітасна спыняць і караць усе выпадкі марадзёрства і няправільных адносін да насельніцтва. Не сакрэт, знойдуцца людзі, якія могуць выкарыстаць момант і пайсці на гэта. Тут трэба праявіць і пільнасць, і цвёрдасць.

Крыштафорыка падтрымаў Іосіф Урбановіч, яшчэ зусім малады чалавек, але ў мінулым таксама заўзяты член КПЗБ. На пачатку вайны ён разам з іншымі кінуўся быў на ўсход, дайшоў да Гомеля, адкуль па заданні ЦК КПБ вярнуўся ў свой раён для арганізацыі партызанскага руху. У руках ён трымаў галінку маліны з чырвонымі, амаль фіялетавымі ягадамі і час ад часу абмахваў твар. Паказаў сваю інфармаванасць:

— Гітлераўцы крычаць, што ім неабходна жыццёвая прастора, што яны душацца ў межах уласнай дзяржавы. Гітлер прагне вялікай імперыі, куды ўвойдуць і Еўропа, і Расія, і Украіна, і Беларусь. Кожны немец будзе панам, а астатнія ўсе, як непаўнацэнныя, маюць на іх працаваць. Гэта трэба ведаць і тлумачыць людзям. Трэба захаваць трываласць духу і нерваў і дзейнічаць. Мы ў свой час папярэджвалі, што Гітлеру нельга давяраць, што ён нам не друг. І вось пацвердзілася. На сучасным этапе перад намі ўстаюць новыя задачы. У прамове таварыша Сталіна сказана, што рабіць. На нас ляжыць задача арганізацыі антыфашысцкага руху. Неабходна згуртавацца.

Усе ўважліва слухалі.

— Трэба, — нагадаў выступовец, хвалюючыся, у куточках вуснаў сабралася пена, — разгортваць растлумачальную работу сярод насельніцтва. Якраз сезон уборкі — сенакосы, жніво. Людзі ў полі і чакаюць з намі сустрэч. Не забывайце, таварышы, што наш поспех вырашае палітычная работа ў масах. Варта падумаць пра радыёпрыёмнік. Думаю, што Чырвоную Армію давядзецца чакаць не месяц, не два, а болей. Нам неабходны інфармацыя, харч. Ад нашых людзей мы гэта атрымаем. Важна больш назапашваць боепрыпасаў. Трэба рабіць лясныя сховы, вучыць людзей правілам канспірацыі. Трэба, таварышы, выводзіць у лес савецкі актыў. Адтэрміноўкі нікому не павінна быць. Некаторыя, праўда, паспелі ўжо разбегчыся…

Адчувалася, што Урбановіч таксама вопытны падпольшчык. Былі тут, апроч яго і Крыштафорыка, Іван Шышко, Аляксей Саханевіч, Алесь Астапчук, Іван Лабуда, Мікалай Несцярук і іншыя. Сядзеў, прытуліўшыся спінай да пачарнелага бярозавага камля былы старшы следчы Камянецкай райпракуратуры Афінагенаў. Моўчкі назіраў, як над травой віўся матыль. Назіраў і з некаторым здзіўленнем думаў: «Гэта ж капэзэбаўцы! А мы

лічылі іх здраднікамі. Значыць, памылка выйшла. Нутро ў іх здаровае, нашанскае. Канешна, не ўсё да канца разумеюць, і лінія не зусім тая, але можна направіць…»

У час перакуру Мікалай Несцярук, які не курыў, здзіўлена хітнуўшы галавой, няўцямна прамовіў:

— Але жаласна неяк сказаў: «Браты і сестры!» Раней гэтак жаласна не гаварыў…

Усе ведалі, што ён меў на ўвазе Сталіна.

— Не жаласна, — паправіў Урбановіч, — а па-партыйнаму пранікнёна, даходліва.

У канцы нарады, пасля кароткага перапынку на перакур узяў слова і Афінагенаў.

— Таварышы! — пачаў ён. — Вораг жорсткі і бязлітасны і сее на нашай савецкай зямлі смерць, разбурэнні. Гэта факт! На фронце, таварышы, к вашаму сведзенію, ідуць баі, нашы контратакуюць, у немцаў вялікія страты. У гэты цяжолы перыяд таварыш Сталін недвусмысленна паддзяржал нас, усіх, хто трапіў у бяду і аказаўся пад сапагом у фашыста. Пасля выступлення таварыша Сталіна ўсё стала на сваё месца, усё стала ясна. Нада няўклонна следаваць яго своечасовым і мудрым указанням. Хто мы? Байцы ці атрад агітатараў? Перш за ўсё байцы Чырвонай Арміі! Неадкладна нада нападаць на штабы, склады і камунікацыі захопнікаў, мы павінны стварыць для іх невыносныя ўмовы на нашай зямлі. Каб зямля гарэла пад нагамі захопнікаў! Указанне таварыша Сталіна — нада паліць ляса, паліць хлеб, каб яго не скарыстаў вораг, паліць тыя населеныя пункты, у якіх абаснаваліся на пастой нямецкія гарнізоны. Што датычыць армейскіх акружэнцаў. Вапрос не прастой. Усім, імейце ў віду, верыць нельга. Таварыш Сталін у сваім загадзе патрабуе расстрэльваць тых, хто зрывае знакі адрознення, пятліцы і ўцякае. Тут трэба пільнасць. Таварыш Сталін правільна патрабуе. Нехта можа сказаць: як расстрэльваць сваіх? Сваіх? Тухачэўскі ды Блюхер таксама сваімі прыкідваліся. Ды не радавыя і не афіцэры, а вунь хто — казырка і рукой не дастаць… Аднака я не а том. Чырвоная Армія нанясе атветны ўдар і апракіне ворага. Гэта Сталін недвусмысленна сказаў, але дзяржаўную граніцу пераходзіць ён, таварышы, забараніў. Ваяваць на сваёй тэрыторыі, таварышы! Загад таварыша Сталіна — біць ворага! Перамога будзе за намі! — скончыў ён на ўзнёслай ноце. — Смерць нямецкім акупантам!

На вяршыні дрэва, недзе побач, вуркатаў дзікі голуб, нібы пацвярджаў тое, што казаў выступовец, з якім зрэшты ніхто і не спрачаўся. Спрачацца — іх даўно адвучылі, хаця ўказанне Сталіна паліць лясы, вёскі і хлеб будучага ўраджаю многім здалося дзіўным. А як жа тады самім быць?

Яшчэ праз колькі дзён Іван Мітрафоравіч накіраваўся ў Камянец.

— Вяртайцеся туды, — сказаў Крыштафорык на развітанне. — Там Белавежская пушча, прастор. Там у вас, несумненна, засталіся знаёмыя. Збірайце сілы, шукайце апору. Працаваць будзеце на тартаку, яўку атрымаеце, пароль.

Падумаўшы, ён параіў:

— Блізка да гарнізонаў не падыходзьце, ідзіце ў глыбінку, там надзейней. І лясы паліць — гэта, на мой погляд, нерэальна. Ды і нам лясы спатрэбяцца.

Апроч Крыштафорыкавага даручэння быў у Івана Мітрафоравіча і свой неадчэпны клопат: «А можа, удасца выратаваць архіў? Гэта было б цудоўна. Ну, паглядзім…»

## XII

Недзе ў самым канцы кастрычніка паехалі Лявон з Фёклай у лес і ўнука ўзялі, сабраць на склеп апалага лісця. У склепе — і бульба, і буракі, і морква. Памерзне вырыўцо, калі полап не акрыць, не атуліць лясным кажухом. Зіма патрабуе паважных да сябе адносін, яна жартаваць не любіць.

Паехалі паснедаўшы і цёпла апрануўшыся. Фёкла захуталася ў хустку. Меўся ехаць Санька, але яшчэ не паспеў вярнуцца са Свішчова, дзе адведваў таварыша свайго па няшчасці: у дзядзькі Хведара жыў такі ж «прымак», як і ён.

Накіраваліся ў панскі лес. Навакольная прырода выглядала сумнай і нейкай журботнай і стомленай. Неба засланялі хмары, але часам, пад подыхам ветру, яно расчышчалася і сінела ў ясных, негарачых промнях сонца.

Было зацішна. Адшумела лісцвяная мяцеліца. Навокал панавалі цішыня і ўрачыстасць. Прыемна ў такі час пабыць у лесе. Лес ужо свіціўся і выглядаў амаль голым, толькі дубы збольшага яшчэ трымалі лісце. Лясныя паляны ўкрыліся стракатай лістотай самых розных колераў і адценняў. Асыпаўся і сіратліва стаяў асіннік. Паміж дубамі і бярозамі шчаміліся махрыстыя рабіны, унізаныя гронкамі спелых ягад, сукаваты крушыннік, клёнікі, ляшчына.

Пазнаваліся знаёмыя мясціны. Вось расахатая, здаўна знаёмая сасна, раздвоеная на вышыні чалавечага росту, побач елка, з аднаго боку густа аброслая кашлатымі галінамі, а з другога — лысаватая, амаль усохлая. Над карчамі і дрэвамі зрэдку крычалі адзінокія птушкі. Іх мала і засталося: кастрычнік ходзіць па краю і гоніць птушак з гаю, — як казалі прускаўцы.

З лагчыны запахла грыбной вільгаццю. Грыбы ўжо адышлі, за выключэннем хіба што зялёнак ды падзялёнак, але глеба ўсё яшчэ багата пахла грыбным водарам і прэллю.

Лявон спыніў каня на паляне каля высокага клёна, саскочыў з воза, скарыстаўшы аглоблю як прыступку, дапамог сысці жонцы. Валодзік таксама злез з воза і весела пабег па палянцы, распырскваючы нагамі рознакаляровае сухое лісце, што не паспела яшчэ счарнець. Лявон з Фёклай крыху пастаялі ля воза, задзівіўшыся на гэты асенні лес, які, пакінуты людзьмі, здавалася, задрамаў, залетуценеў перад зімовым сном. Стваралася ўражанне, што навокал, на многія кіламетры, няма ніводнага жывога чалавека.

— Люблю гэту мясціну, вельмі прыгожыя тут дрэвы, — ціха прамовіў Лявон.

— І мне яна падабаецца, — прызналася Фёкла. Крыху памаўчала, а потым дадала: — Дрэвы не робяць людзям зла, дрэвы добрыя.

Яны зірнулі адно на аднаго. Нейкая нечаканая пяшчота сціснула раптам горла — і Фёкле, і яму, Лявону.

— Давай прысядзем у зацішку, — прапанаваў ён, сабраў і кінуў пад клён бярэма каляровых лісцяў, і яна першая на іх апусцілася.

Прабегся па дрэвах вецер, зашумелі і паціху закалыхаліся вяршаліны, нібы пасылаючы развітанне аблокам, што плылі над імі. Зноў усталявалася цішыня, якая і іх прымусіла маўчаць. Чутно было, як паволі падалі з дрэў апошнія лісты, як яны ціха, амаль інтымна шамацелі, нагадваючы пра лета, пра вясну. Фёкла з Лявонам прыхінуліся адно да аднаго і — дзіўная рэч! — раптам адчулі сябе нібы памаладзелымі, нібы зваліўся з плячэй цяжар пражытых гадоў, памяць пра нягоды, памылкі, непаразуменні, удары лёсу… А ці варта ўсё гэта браць да галавы, журыцца і маркоціцца, пра нешта шкадаваць ці на штосьці наракаць, калі навокал такая па-чалавечы блізкая табе прыгажосць,

столькі непадробных фарбаў і такая цішыня, столькі любасці і замілавання? У чалавеку, як і ў гэтай буйнай прыродзе, усё нарэшце прыходзіць да згоды, замірэння і гармоніі.

— А недзе ж ідзе вайна, — ціха прамовіў Лявон.

Фёкла ўздыхнула.

— Кухта быў у Берасці, — зноў азваўся Лявон, — дык казаў, быццам бы на чыгуначным вакзале немцы ўжо прадаюць білеты да Масквы.

— Да Масквы?

— Ну, так. Ці ўжо ўзялі, ці маюць узяць.

— Не можа такога быць.

— Не можа? Напалеон жа калісьці ўзяў…

— Дык калі тое было?

— У немца сіла вялікая…

— Не можа такога быць, каб Расія Маскву аддала, — Фёкла строга пахітала галавой.

— Я таксама не надта веру. Амброжый кажа, што Саветы кітайцаў на дапамогу клічуць. Помніш, колькі іх было ў Расіі ў грамадзянскую вайну!

— Помню. Кітайцы з белымі ваявалі, на баку чырвоных.

— Дык хай бы і цяпер дапамаглі!

У размову ўмяшалася вавёрка. Яны назіралі, як яна, не баючыся людзей, лушчыла шышкі спачатку пад сасной, а потым пабегла са сваім здабыткам па сасне ўверх, спрытна чапляючыся за кару. Памаўчаўшы, Лявон сказаў:

— Я, калі ў апошні раз быў у Альберціне, дык ад Якава чуў, што алешкавіцкі Свісціян па навакольных лясах бадзяецца. Хату яго немцы спалілі.

Фёкла пра гэта ўжо чула, таму толькі ўздыхнула.

— Бабо! Дзедо! О-о! — пахваліўся непаседа-ўнук, паказваючы стракаты букет рознакаляровых кляновых лісцяў, якія ён назбіраў, бегаючы па палянцы.

Фёкла загледзелася на букет, пахваліла ўнука і напомніла:

— Ну, Лявонка, давай і мы пачнём зграбаць!

Яна падышла да воза і ўзяла граблі — сабе і Лявону, а таксама посцілку. Лісце зграбалі ў посцілку і насілі на воз, высыпалі і зноў зграбалі. Валодзіка падсадзілі на верх, і ён патроху ўтоптваў. Зграбаць сухое лісце — работа не цяжкая, не тое, скажам, што пацягаць літоўку ў жыце, але пакуль справіліся, прайшоў час. Збольшага перакусілі і завяршылі працу.

Воз быў загружаны даверху і ўтрамбаваны. Лісце акрылі посцілкай. Паступова суцэнела. Сонца наважылася ўжо схавацца за вершаліны дрэў, знікнуць за даляглядам.

Вярталіся дадому з поўным возам ляснога асенняга золата. Назіралі, як паміж дрэў і кустоў ужо сталіся кволыя пасмачкі туману. Чутно было, як недзе ў полі тарахцеў панарад з драбінамі.

Гэтага чалавека ўсе ўбачылі адначасова. Ён паказаўся скрозь туман у густым беразняку наўскрай лесу. Ён, пэўна, заўважыў іх яшчэ раней і, відаць, некаторы час сачыў. Цяпер ішоў нібы напярэймы.

— Пастой, пастой! — пачулі яны.

Лявон спачатку падумаў, што гэта Свісціян, але не, гэта быў не ён.

— Закурыць няма? — спытаў чалавек, дагнаўшы Кужалёў. Апрануты быў ва ўсё цывільнае, паношанае.

Лявон злез з воза, даў закурыць, паціху разглядаючы, што за чалавек перад ім. Пахла ад яго атухлым вогнішчам і сасновай смалой. Хоць і выглядаў

ён схуднелым і стомленым, але можна было заўважыць, што рашучы і нейкі нават незалежны. Незнаёмы прагна зацягнуўся цыгаркай і паспрабаваў завязаць гамонку:

— Ну, што ў свеце чуваць?

Лявон пачухаў патыліцу, не ведаючы, што адказаць. Апошнім часам да незнаёмых адносіліся асабліва падазрона, баяліся правакатараў, якія хадзілі па вёсках пад выглядам палонных, уцекачоў з лагераў, розных бадзяг. Амтскамісар Люльке ўсклаў на вяскоўцаў строгі абавязак выстаўляць начную варту. У Прусцы штоночы на вуліцу выходзілі два чалавекі і да раніцы туляліся па сяле. Калі з'яўляўся хто незнаёмы, трэба было ўзнімаць трывогу, біць у біла, паведамляць у жандармерыю. Праўда, пакуль што нічога такога не здаралася.

— Якая ў вас дзярэўня?

— Пруска.

— Немцы есць?

— З раніцы не было, але мы цэлы дзень у лесе.

Незнаёмы выдыхнуў з ноздраў струмень дыму.

— Можа, чырвонаармейцы паблізу дзе засталіся?

Прускавец пацiснуў плячыма.

— Не чулі.

— А паесці што есць?

Фёкла працягнула палатняную торбачку з рэшткамі, што засталіся ад абеду, — кавалачак сала, трохі хлеба і пара агурочкаў. Незнаёмы рассоваў усё па кішэнях, вярнуў торбачку.

— Спасіба.

Потым павярнуўся і, спяшаючыся, падаўся ў глыб лесу, знік паміж дрэў.

— Відаць, такі ж акружэнец, як і наш Санька, — сказала Фёкла.

— Хутчэй за ўсё, — згадзіўся Лявон. Ён успомніў пра Скамароха, які дзейнічаў у пачатку 20-х гадоў у Белавежскай пушчы. Збіраў ён свой атрад па начах, а пад раніцу распускаў па хатах.

Парцізаны… Абяцалі на чужой тэрыторыі ваяваць, а выйшла так, што цяпер на сваёй хаваюцца.

Дома пра сустрэчу з незнаёмым Лявон расказаў Саньку, які паспеў вярнуцца са Свішчова і прынёс Кужалям прывітанне ад дзядзькі Хведара. Аказваецца, акружэнец, які жыў у яго, таксама, як і Санька, служыў у Брэсце, паблізу граніцы. Лявонаў расказ пра сустрэчу з незнаёмым зацікавіў Саньку. Вочы яго заіскрыліся.

— А апрануты як? — дапытваўся ён.

— У цывільным…

— Наш, відаць, васточнік, як у вас кажуць.

Назаўтра, у другой палове дня, абапіраючыся на ядлаўцовы кій, прывандраваў Кузёмка. Даўно яго не бачылі ў Прусцы. Завітаў, як заўсёды, да Кужалёў. Забрахала Нэрка, але пазнаўшы знаёмага, аціхла, завіляла хвастом. Кузёмка — кравец, па-ранейшаму хадзіў па вёсках, шыў кажухі і з гэтага жыў. Хату Кужалёў звычайна не мінаў, бо добра ведаў: Лявон і паесці дасць, і на сена пусціць. Пераступіўшы парог, госць зняў падобную на стары капялюш шапку-магерку, даў «добры дзень», паставіў кій у куток, перахрысціў лоб і прысеў на лаўцы ля дзвярэй, не здымаючы світкі. Глянуў у покут і перахрысціўся яшчэ больш размашыста. Выгляд меў такі, нібы яго хтосьці моцна напалохаў. Голас — нейкі прыдушаны і дрыготкі. У вачах — гаспадары гэта заўважылі

адразу — стаіўся жах, знікла заўсёдная па-блазенску зычлівая ўсмешка. Але боты, як і раней, клапатліва вычышчаныя і нават наглянцаваныя. Ззялі абедзве халявы.

У хаце сядзела суседка Хомчыха — прыйшла пазычыць запалак. Яна сустрэла госця пытаннем:

— А ты ўсё ходзіш? — і, паглядзеўшы на яго боты, дадала: — Не ажаніўся?

Кузёмка не любіў такога пытання, і Хомчыха добра ведала гэта, але пыталася кожны раз, як толькі бачыла дзівака, быццам мела да яго нейкі свой асабісты інтарэс і таму пыталася.

— Ажаніся, каб дурні не звяліся, — у сваё апраўданне сказаў ён і нервова махнуў рукой: адчапіся, маўляў. Яшчэ раз азірнуўся і пахваліў гаспадыню. — А ў вас, гаспадынька, у хаце, як заўсёды, вялікая чыстасць!

— Не, ужо не тое, як калісьці, — сціпла адказала Фёкла.

— Дай вадзіцы, а то ў горле перасмягла, — папрасіў ён і паскардзіўся: — Стаміўся, ажно ногі гудуць.

Фёкла прынесла яму поўны кубак. Госць прагна выпіў, адкінуўшы назад галаву. Затым тыльным бокам далоні выцер бараду і падзякаваў, вярнуўшы пусты кубак.

— Што тая вада! — пасміхнуўся Лявон. — Ты капусты налі!

Гаспадыня падала на стол хлеб і вялікую міску гарачай капусты і запрасіла госця падсілкавацца. Кузёмка падсеў да стала, узяў лыжку, хлеб.

— Можа і табе наліць? — звярнулася яна да Хомчыхі.

— Не, мы з Дзякрэтай сваю будзем варыць. Я ўжо хутка пайду.

— А соль? — напомніў Кузёмка і дадаў: — Без солі стол крывы.

Давялося паставіць перад ім соль у драўлянай сальніцы, і госць шчодра пасаліў лусту хлеба.

— Ну, што ў вас новага? — спытаў ён, каб пачаць гаворку.

— Ты больш за нас ведаеш, што ў свеце робіцца, — зрабіў яму камплімент Лявон.

— Аднака! — Кузёмка па-блазенску ўсміхнуўся, агаліўшы шырокую шчыліну паміж пярэднімі зубамі і адначасова баязліва павёў галавой. Падмацаваўшыся, ён адклаў лыжку ўбок.

— Дык раскажы! — прыспешыла нецярплівая Хомчыха, а то я зараз пайду.

— Ну дык ідзі.

— Не, пачакаю.

— Што робіцца? — Кузёмка скрушна ўздыхнуў. — Грабеж, расстрэлы, гвалт, забойствы заложнікаў. Прасіў я айца Клаўдзія паніхіду адслужыць па загінуўшых воінах Чырвонай Арміі — не згаджаецца.

— Баіцца, — патлумачыла Фёкла.

— Затое ў мінулую нядзелю ён добрую казань сказаў, — запярэчыў Лявон, — каб жылі дружна, забывалі мінулыя непаразуменні і не хадзілі са скаргамі да немцаў.

— Правільна ён казаў! — пахваліў Кузёмка. — На тое ён і святар.

Кузёмкавы навіны былі невясёлыя, надта невясёлыя:

— А ў Белавежскай пушчы вёскі паляць. Такога яшчэ не было. Вёскі паляць, людзей выганяюць. Забіваюць. За захаванне зброі — смерць, за дапамогу чырвонаармейцам — смерць, за шкоду, прычыненую акупацыйным уладам, — смерць! Такога, людкове, ніколі не было.

— Не было! — у адзін голас пацвердзілі гаспадары.

— А ў пушчу, я чуў, яшчэ і велічэзнага мядзведзя выпусцілі.

— Хто? — жахнулася Хомчыха.

— Хто? Немцы! — кінуў у яе бок вачыма Кузёмка. — У цыганоў адабралі, каб партызан з пушчы павыганяў. Раз'ятраны. Людзей жарэ. Людзі нанач вокны дошкамі забіваюць, каб, не дай бог, у хату не ўваліўся. Нармальныя мядзведзі ўжо даўно па бярлогах пазалягалі, а гэты людажэр усё бадзяецца.

— Ой, людкове! — зноў з жахам пляснула далоньмі Хомчыха. — А што ж гэта такое? Пагібель ідзе!..

— Хай Бог крые! — Фёкла размашыста перахрысцілася.

— А па гарадах для яўрэяў панарабіў гета! У Берасці, у Высокім…

— Я чуў, — сумна хітнуў галавой Лявон.

— І ў Камянцы, — усё з тым жа выразам страху на твары працягваў Кузёмка, — гета! Паміж Брэсцкай вуліцай і бальніцай, дзе Брэсцкая шаша пачынаецца. Аблыталі калючым дротам. Ну проста страх! Цэлыя мярэжы наставілі. Быццам папрацаваў нейкі вялізны, злы павук. Па кутах гэтай мярэжы — вышкі. На вышках — варта. Зносіны з астатняй часткай горада спынены. Калі што — расстрэл.

— Бедны народ! — паспачувала Фёкла і прыклала да вачэй ражок хусцінкі.

— Знаёмых шмат, сяброў… — дадаў Лявон. Відаць было, што ён вельмі перажывае за тое, што адбываецца ў мястэчку. — І няма як дапамагчы…

— А ў тыя дамы, што яўрэі пакінулі, — зноў загаманіў Кузёмка, — засялілі сялян з пушчанскіх вёсак, каторыя згарэлі.

— І жывуць? — пахітаў галавой Лявон.

— У чужой хаце жыць цяжка, — згадзіўся расказчык, — але жывуць. А што зробіш, калі сваёй няма.

Усе прымоўклі, уражаныя пачутым.

— Гэта князь цемры разбушаваўся! — патлумачыў вандроўнік. — Ён! А хто? А хто ж яшчэ?

— Відаць, што ён, — згадзілася Фёкла.

— Ашалець можна! — Хомчыха яшчэ раз роспачна пляснула далоньмі.

— Аснаванне зямлі калоціцца, хістаецца, як п'яны. У Бібліі гэтак напісана. Але ж п'яны за плот можа схапіцца і ўтрымаецца, а мы, цвярозыя? А нам за што трымацца?

Гаспадары маўчалі, слухаючы вандроўніка. І суседка забыла пра тое, што трэба дадому.

— Начаваў я ў адной хаце. Гляджу пад раніцу вылазяць з-за печы трое, невялічкія такія з сябе… Пазіраюць…

— І хто ж гэта? — не вытрымала Хомчыха.

— Чэрці! Хто ж…

— Няўжо? — не паверыла жанчына.

— Далібог! Каб я з гэтай лаўкі не ўстаў, калі маню.

Дзверы ў гэты момант адчыніліся, і ў праёме паказалася чыясьці кудлатая галава. Тыя, хто сядзеў у хаце, пасля Кузёмкавага аповеда пра чарцей ад нечаканасці ажно здрыгануліся.

Гэта быў Санька.

— Здравія жалаю! — прывітаўся ён па-вайсковаму.

— І табе таго ж зычым! — за ўсіх адказаў Кузёмка.

— Ну што, нарэзаў? — звярнуўся да яго Лявон.

— Так точна, нарэзаў! Усё ў парадку.

— Ну дык зайдзі, адпачні! — запрасіў Лявон і патлумачыў: — Гэта — Санька, дапамагае нам. З сячкарняй добра ўпраўляецца, салому рэжа. Акружэнец.

— Прымак, — сказала Хомчыха.

— Яшчэ на вуліцы шчаной дух пачуў, — прызнаўся Санька.

— Дык за стол сядай! — загадным тонам сказала Фёкла.

«Прымак» не даў сябе доўга ўгаворваць, сеў за стол. Фёкла і перад ім паставіла міску гарачай капусты.

— Малады! — Кузёмка паглядзеў на акружэнца, і прыцмокнуў: — Маладосць, кажуць, даражэй, чым золата.

Санька нічога не адказаў, сеў за стол. Гаспадыня паставіла перад ім міску гарачай капусты, і ён пачаў сёрбаць.

— Цяжка, мусіць, сярод чужых? — паспачуваў Кузёмка.

— А якія яны мне чужыя? — Санька кіўнуў у бок Лявона і Фёклы. — Яны мне не чужыя, яны мне цяпер свае, папаша да мамаша!

— Дык цудоўна! — усцешыўся вандроўнік. — А як жа цябе, мілы, жывым пакінулі? Столькі палягло вашага брата!

— Паміраць пакінулі. У сушнасці, усё так і было. Прыгналі нас у лагер для ваеннапленных у Гайнаўцы, а гэта, паверце мне, пекла. Самае сапраўднае.

— Ну, хоць нейкі харч давалі?

— Некалькі дзён трымалі ў полі, за калючым дротам, есці нічога не давалі, каб пленныя абяссілелі канчаткова, патом перавялі ў баракі. Баракі гразныя, бруд! Да нас там такія ж, як і мы, былі. Клапоў — цьма цьмушчая! Сцены калышуцца ад клапоў. Народу — процьма. У бараках месца не хапала, большасць знаходзіліся пад адкрытым небам. Закарэлі ўсе пад сонцам. А вошаў — хоць жменяй гарні!

— Ой! — прастагнала Фёкла, затуліўшы твар далоньмі.

— Гэта, аднака, ад перажыванняў, ад прагнечанасці духу, скажу я вам, — патлумачыў усхваляваны Кузёмка.

— Хутчэй ад страху, — уздыхнуў Санька і адвёў убок вочы, нібы яму было сорамна, усё тое ўспамінаючы. — Не дай бог! Людзі настолькі галадалі, што па ўсёй лагернай плошчы не было анідзе ні травінкі, — усё паз’ядалі. Многія запаносілі…

— Калі панос, — перабіў расказчыка Кузёмка, — дык добра кары дубовай адварыць і адвару таго выпіць.

— Эх, дзядзя, пра які адвар вы кажаце! У сушнасці, дайшло да таго, што мачу пачалі піць. Ох, нацярпеліся! Не прывядзі Гасподзь! Паапухалі. Страшна прызнавацца… завялося людаедства: слабейшага маглі прыдушыць і загрызці. У час сну па чарзе ахоўвалі адзін аднаго. Пасля дажджоў двор размясілі на балота. Глядзіш: кой-гдзе тарчаць рукі, ногі, галава…

— І каму гэта трэба, каб усе пакутавалі? — заенчыла Хомчыха, выціраючы ражком хусціны вочы. — Калі канец прыйдзе чалавечым пакутам? Ой!

Кузёмка ўсё тлумачыў па-свойму:

— У немцаў, я чуў, ногі тоненькія-тоненькія, а душа — кароткая! Дык што ж вы хочаце? Таму яны і злыя такія. Усё, калі добра падумаць, проста.

Кузёмкава тлумачэнне было настолькі нечаканым і нечуваным, што ніхто не змог ні запярэчыць яму, ні падтрымаць. Заставалася толькі здзіўляцца.

— Думалася, што на старой граніцы яго спыняць, — зноў азваўся Санька, — але не спынілі…

— Не спынілі, — упэўнена пацвердзіў Кузёмка, нібы ён ведаў усю вайсковую стратэгію. Каб я так жыў — не спынілі! А дзе ж ты яго спыніш, калі ён на тангах едзе! Адна шапка з той тангі відаць!

— Усяго павідаў, — уздыхнуў акружэнец. — Нікому не жадаю таго бачыць.

— Чалавек, аднака, да ўсяго прывыкае, — пасля паўзы па-філасофску зазначыў Кузёмка і зноў звярнуўся да гаспадароў: — А яшчэ што новага?

Лявон успомніў пра ўчарашні выпадак у лесе:

— Былі ўчора ў лесе, лісце зграбалі, дык сустрэлі чалавека. Апрануты ў цывільнае. Хто ён — невядома, не пыталіся, а ён закурыць папрасіў і пра партызанаў папытаўся. Не чулі, — кажам, — не ведаем. Бо і адкуль нам чуць?

— Не чуем мы тут, нічога не чуем, — пацвердзіла Хомчыха.

Кузёмка няпэўна павёў галавой і паведаміў:

— Кажуць, алешкавіцкі Свісціян па наваколлі бродзіць, аружжам абвешаны. Я чуў, што ў яго хату спалілі і жонку заарыштавалі, а потым і забілі. Вялікая бяда дагнала чалавека…

— Такому не пазайздросціш, — згадзілася Фёкла.

— Такога яшчэ не было, — памаўчаўшы, дадаў Кузёмка.

— Не было, — пацвердзіла і Хомчыха, уздыхнула і засяшалася нарэшце дадому. — Заседзелася я ў вас! Мяне ж Дзякрэта з капустай чакае.

Кузёмка застаўся ў Кужалёў начаваць.

## XIII

Свісціян той жа ноччу, з рыдлёўкай і вядром, здабытымі ў Хвядзюшкі, вярнуўся ў лес, за Млыны. Ушчаміўся ў самы гушчар, дзе на пагорку, каля ручаіны, намеціў будаваць схоў. Побач знаходзілася невялічкая палянка, на якой можна было раскласці касцёр. Прыслухаўся, як басавіта шумелі высокія сосны, што стаялі з краю палянкі. Нібы аб чымсьці папярэджвалі. Перакусіў, пакурыў, зняў з сябе зброю, паклаўшы побач на траву, і прыступіў да работы, пачаў абсталёўвацца. Потым расшпіліў дзягу і зняў кажушок, кінуў на дол. На схіле пагорка рос высокі ядлоўцавы корч.

Свісціян ссунуў шапку на лоб, прыгледзеўся, і яго як бы асяніла: «Так тваю маць! Вось ён і павінен стаць уваходам, як бы дзвярыма. У карэннях ён туга трымае зямлю. Калі яго цалкам выкапаць і капаць далей, дык потым можна тую яміну заткнуць гэтым карчом! Для маскіроўкі. Тады ніхто не нойдзе!..» І ён, папляваўшы на далоні, узяўся за справу. Прымерыўся і націснуў на рыдлёўку, доўга тупаў нагой, каб загнаць яе ў зямлю, але прылада не надта паддавалася. Ці то зямля была вельмі ж цвёрдая і ўтравелая, ці рыдлёўка тупая. «Мусіць, рыдлёўка. Ну і ўдружыў гэты гад Хвядзюшка, ліха яго матары! І не наточыш, бо ў лесе чым наточыш? Да зімы давядзецца калупацца. Ну і Хвядзюшка! Сволач! Але нічога не зробіш. Калі хочаш жыць, трэба капаць. Капай, Свісціянка, капай!..»

Ён доўга абкопваў корч, перабіваў лапатай карэнне, што ішло ў бакі, падважваў, рваў і нарэшце, ухапіўшыся аберуч, выцягнуў-такі наравістага нехацімца. Выцягнуў і паклаў побач з ямкай. Стаў капаць. Тады сабраў у вядро зямлю і, шумна шастаючы асакою, якой у нізіне было поўна, панёс у ручаіну. Высыпаў і вярнуўся. Калі прыладзіўся высыпаць другое вядро, пад бераг, як бы чуючы небяспеку, кінуўся хавацца вялікі карычневы рак. Свісціян бачыў,

як ён сутаргава працаваў хвастом і клешнямі, імкнучыся хутчэй унікнуць небяспекі. «Кожны хаваецца па-свойму, — падумаў Свісціян, зноў насыпаў вядро і аднёс у ручаіну. Потым зноў і зноў. Ямка паглыблялася на вачах. Пайшоў белы пясок, з'явіліся прыкметы вільгаці. Пачаў капаць у гарызантальным напрамку, і ніша паступова павялічвалася. Пясок зносіў у ручаіну. Кожны раз, каб не пакідаць лішняга следу, стараўся адхіліцца ад пратаптанага, выбраць іншую сцяжыну. Падумаў, што небяспечна пакідаць зброю наводдалі, каб хто, чаго добрага, не пакарыстаўся. Мала хто можа з'явіцца ў лесе! Не апранаючы кажушка, падняў і закінуў за плечы вінтоўку, пачапіў да дзягі астатняе начынне. «Во, так лепш, хоць і цяжэй».

Хлюпала вада, шастала пад ботамі ўпартая асака, на якую ён ужо не звяртаў увагі і нават не глядзеў сабе пад ногі. Але ў адну з ходак раптам адчуў, што наступіў на нешта мяккае, жывое. Здрыгануўся ад нечаканкі. Зірнуў пад ногі і ўбачыў скручанага ў клубок вужа, а побач з ім другога, трэцяга, яшчэ! Ого, колькі іх тут, панапаўзалі гады! Давялося абыходзіць гэтую мясціну бокам.

Праз які тыдзень схоў быў адкапаны. У ім можна было не толькі ляжаць, але нават і сядзець. На спод гаспадар наслаў сухога вецця, сасновых галінак, апалага лісця, каб мягчэй было бакам. Замест дзвярэй — той самы ядлаўцовы корч, які можна было ўцягнуць за карэнне і зачыніць уваход. Схрон быў падобны не столькі на зямлянку, колькі на пячору ці нару, халодную і цёмную, напоўненую сырасцю і магільнай цішынёй. Свісціян адчуў гэта ў самы першы раз, як толькі запоўз і затуліўся карчом. Зверху час ад часу церусіўся пясок. «Давядзецца прывыкаць», — падумаў ён. Захацелася есці. Ён вылез, выцягнуў мяшок з тым, што яшчэ заставалася з прыпасаў, добра падмацаваўся, пасядзеў і зноў залез, бо раптам к ночы пачаў накрапваць рэдкі дождж. Аніяк не мог заснуць, варочаўся з боку на бок і мармытаў нешта сабе пад нос. Нарэшце не вытрымаў, вылез з нары і прылёг на траву, паклаўшы побач вінтоўку. Пад галаву нагарнуў апалага лісця. Дождж суцішыўся, але насцярожана шумеў лес. Недзе непадалёк ціха заенчыў заяц, злоўлены, відаць, нейкім начным драпежнікам. Набліжалася раніца, і ён заснуў.

Прачнуўся позна, ад холаду, не грэў і кажушок. Свісціян падняўся, пацягнуўся, пачуў, як хруснулі храшчы і косці. Спусціўся да раўчука, набраў прыгаршню вады, апаласнуў твар. Празрыстая ледзяная вада абпаліла вочы. Вылаяўся: «А каб цябе!» Абмыўшыся, зноў адчуў голад. Торба была пустая, і трэба было нешта рабіць. Ісці куды-небудзь за харчам. Успомніў пра рака ў ручаіне, які спалохана ўцякаў, калі ён высыпаў у ручаіну пясок. «Там мусіць іх, ліха яго матары, не адзін хаваецца, павырасталі за лета, павыгульваліся! Гэта ж дармовае мяса! Паны за далікатэс лічылі. Паны, ды яшчэ фальварковец Пац спажывае з вялікім смакам. А чаму б самому не пакаштаваць? Чым я горшы ад Паца? Але як злавіць! Што ў рацэ, яшчэ не ў руцэ. Дык паспрабаваць? Вядро ёсць, можна і зварыць. Нават соль маецца — тая, што Палага калісьці ў торбу паклала…»

Пасля гэтых думак ён пажвавеў і весялей зашморгаў носам. Узяўшы вядро, выправіўся да ракі. Распрануўся да споднікаў, прыхаваўшы вопратку ў карчах. Шукаў ракаў пад берагам, намацваў нару і запускаў туды руку. Некалькі нораў аказаліся пустымі, але ў адной ён усё ж такі намацаў рака, але той з усіх сіл упіраўся, не здаваўся і здолеў нават зашчаміць у сваёй клешні Свісціянаў палец. «О! Злы, як немец!» — мільганула ў Свісціянавай галаве. Гэтак жа і адкусіць можа! Так на пальцы ён і выцягнуў яго з нары. Палез за наступным і раптам наткнуўся на калючы нос гэтага дзіўнага стварэння. Зноў вылаяўся,

аднак, нягледзячы на супраціў, дастаў і яго. Стаў мацаць далей. Большасць нораў аказаліся незаселенымі ці іх гаспадары часова адсутнічалі і таксама шукалі сабе спажывы. Цялёпкаючыся ў вадзе, стараўся цісnуцца да берага, бо баяўся, што хтосьці ўбачыць. І глыбокай мясціны баяўся, бо не ўмеў плаваць. Правалэндаўся з гадзіну або нават больш і злавіў усяго чатыры. Мала, але дзякуй, што хоць столькі, ды і вялікія — па фунце, не меней. Кінуў здабычу ў вядро. Ракі нязлосна шапацелі, чапляліся за бляшаную сценку, намагаючыся выкараскацца з палону, але гэта ім не ўдавалася.

Пасля ўсяго выкруціў споднікі і зноў апрануў, палічыўшы, што на целе хутчэй высахнуць. Можна было пачынаць кухарыць, але не стрываў, дастаў з вядра буйнога рака і, сашморгнуўшы з-пад хваста ікру, кінуў у рот, пражаваў і праглынуў. Потым ад'еў хвост і высмактаў клешні. Смаку ў сырым не адчуў, ні рыба, ні мяса. Астатніх вырашыў зварыць. Ля схова вогнішча не разводзіў, адышоўся далей, у самы неруш, прыхапіўшы з сабой вядро з ракамі і запалкі. Ад холаду дробным стукам ляскаталі зубы. Пакуль збіраў дровы, крыху сагрэўся. Убіў у зямлю дзве рагаціны, завастрыўшы канцы, зверху паклаў перакладзіну і павесіў на яе вядро з ракамі. Пад вядром, з адной запалкі, развёў агонь, нашчапаўшы яловых, смалістых, амаль аранжавага колеру, трэсак, і прылёг побач. Чутно было, як ракі шкрабаліся ў гэтай пасудзіне, упарта шукаючы паратунку са свайго незайздроснага становішча. «І калі лавіў, кусаліся, і цяпер, ліха іх матары, супакоіцца не могуць. Ну і звяр'ё!» — падумаў Свісціян. Дабавіў пад вядро дроў і пад гэты рачыны шум і шкробат заснуў, ціха пахрапваючы.

Прачнуўся і падхапіўся ад таго, што нехта ўзлез на галаву і бесцырымонна цягнуў за валасы. «Высачылі! Знайшлі!» — мільганула ў соннай, неабуджанай свядомасці, і ён літаральна атрупянеў ад страху. Чакаў, што будзе далей. Няўцямна схапіўся за галаву і — сам сабе не паверыў! — намацаў рака. «Ну і гад! — вылаяўся ўголас. — Ну і халера! Ачамярэць можна. Гэта ж трэба — з вядра выпаўз!..» Не без цяжкасці выдраў з галавы рака, што заблытаўся ў даўно нястрыжанай чупрыне і з размаху кінуў у вядро. Вада ўжо закіпела, аднак астатніх ракаў у вядры не было. Іх ён пазнаходзіў у траве — таксама павыпаўзалі з падагрэтай вады на волю. І іх пакідаў у пасудзіну. Хай варацца! «Дурань ты, Свісціян, дурань! Даў маху! — жартам падумаў пра сябе, зразумеўшы сваю прамашку. — Трэба іх у кіпень кідаць, каб адразу акачурыліся і не выпаўзалі. Тады будзе дзела! Усё на свеце трэба ўмець, а інакш не атрымаецца».

Вараных ракаў Свісціян упадабаў і вырашыў: «Спачатку трэба ўскіпяціць ваду! На наступны раз гэтак і зраблю, адразу — у кіпень! Каб не поўзалі…» І прыдумаў, як лавіць ракаў. Нават не прыдумаў, а ўспомніў, як гэта робяць рыбакі. За дзень сплёў шырокі лазовы кошык і паклаў у яго аблупленую жабу, зашчаміўшы яе паміж лазовага вецця. Кошык апусціў у ваду — там, дзе ручаіна ўпадала ў Лосьну, утвараючы зарослую чаротам затоку. Ракі збягаліся дзясяткамі. За ноч поўны кошык. «Дурныя, як і людзі, — думаў Свісціян. — Разам хочуць трымацца, усё адно як сляпыя. Елупні. Разам, ліха іх матары, паўзуць у пастку!» — цешыўся ён і адначасова як бы дакараў ракаў, а заадно і людзей, рады сваёй рыбацкай удачы. Так да самых халадоў ён жывіўся ракамі, але на пачатку восені яны пахаваліся ў норы ды так глыбока, што было не дастаць. І ракі пахаваліся, і жабы — як змовіліся, таксама не было відаць.

Трэба было нешта рабіць. Выпаўзшы са свайго схованішча, ён выцягнуў за сабой і вінтоўку, да якой ужо і прывык, і астатнюю зброю, заваліў уваход кар-

чом і, адышоўшыся, прысеў на грудок. Азірнуўся навокал і паглядзеў уверх. У небе гаспадарыў буйны вецер, спяшаючыся, гнаў у невядомым напрамку статак разгубленых аблокаў. А ў лесе панавала гнятлівая цішыня, якая навявала сум і гаркоту. «Цяжкавата аднаму, — ён уздыхнуў і успомніў турму: — нават там было лепш. Усё ж такі на ўсім гатовым і думаць не трэба — начальства думае. І калі спаць, і калі парашу вынесці, і на шпацыр калі выпускаць, і есці нешта давалі. Няўтульна, праўда, сцены мокрыя, заплеснелыя, асабліва Свенты Кшыж. Там і пацукі са сцен валіліся. Бр-р-р! Але ж хіба тут утульна? І каго толькі ў той турме не было — і злодзеі, і крымінальнікі, і забойцы, і рэцэдывісты… І трымалі ўсіх у агульнай камеры: і крымінальныя, і палітычныя — усе разам. Гэта нават цікава. Бойкі крымінальнікаў з палітычнымі былі справай звычайнай і паўсядзённай. Зрэшты, хутка забываліся. Палітычныя жылі камунай. Гэтыя перадачы дзялілі пароўну…»

Успомніў пра перадачы і яшчэ мацней захацелася есці: «Да Хвядзюшкі трэба наведацца…» Намацаў вінтоўку, што ляжала побач.

* * *

Жыццё прускаўцаў мянялася не ў лепшы бок і станавілася нейкім усё больш напружаным. На дошцы аб’яў солтыс Хрысан вывешваў усё новыя загады, якія атрымліваў ад амтскамісара ў Ратайчыцах. Апошні загад быў асабліва грозны. Прускаўцы, сабраўшыся каля дошкі аб’яў, пад ліпай, чыталі яго і здзіўлена хіталі галовамі.

***З А Г А Д***
***аб ахове дарог і прымяненні суровых мер***
***да тых, хто дапамагае бандытам***

*1. Кожны жыхар вёскі поўнасцю нясе адказнасць за спакой і бяспеку ў сваёй акрузе, у асаблівасці за ахову дарог. Ахову павінна забяспечыць днём і ноччу прызначаная для гэтай мэты варта з ліку мясцовага насельніцтва.*

*2. У выпадку налёту бандытаў вёска нясе поўную адказнасць за бяспеку ў сваёй мясцовасці. У выпадку невыканання гэтага з боку насельніцтва будзе расстраляна не менш як удвая больш з ліку вяскоўцаў, чым нямецкіх салдат, якія пацярпелі пры налёце бандыцкага атрада.*

*3. Пры замаху на бяспеку дарог, пры ўзрывах мастоў, мініраванні і г.д. пасля высвятлення характару ўчынку будзе расстраляна не менш як тры чалавекі з ліку насельніцтва.*

*4. Хто з жыхароў без дазволу солтыса дае прыстанак і ежу ці ўвогуле дапамагае асобам, якія не належаць да гэтай мясцовасці, нягледзячы на тое — мужчына гэта ці жанчына — будзе павешаны.*

Амтскамісар Люльке.

— Папярэджваюць! — сказаў Павал Гальяш.

— Немец не такі, каб жартаваць, — падтрымаў яго намеснік Хрысана Міша Латушка, — ён, што абяцае, зробіць.

— А панскую зямлю абяцаў падзяліць, ды нешта не дзеліць! — запярэчыў Мішу Сяргей Сталетнік.

Апроч іх тут стаялі Оргій Відэрка, Мікіта Галёнка, Цімоша Хлябіч, Сцяпан Каленік, Мілецій, Грышка Латушка, Оргій Ламака, Васіль Платонаў, Фэдар-японец, Арцём Каленік, Ахрэм Чапёрка і Лявонаў сусед Апанас Хомка, якога здаўна называлі выпусткам.

— Ну, не сакрэт, — зазначыў Мікіта, — новая мятла па-новаму мяце.

— Дзіва што! — як заўсёды адрэагаваў Гамон.

Падышлі каваль Цішка Пахолак і Хвядзюшка Шпунт.

— А мне што? — крыва пасміхнуўся каваль. — Як быў пралетар, так і застаюся! — Як бы ў доказ ён паказаў свае ў чорных крапінках рукі. І пах Пахолкаў устойлівы — пах жалезнай акаліны і вугальнага шлаку.

— Каваль з малатком сябруе! — падтрымаў яго Хвядзюшка Шпунт. — Каваль ёсць каваль.

Оргій Відэрка пашкроб патыліцу і, кашлянуўшы, сказаў:

— Выжыве той, хто добра схаваецца.

Паўз іх прайшоў Хрысан, засунуўшы рукі ў кішэні прасторных, з даматканага сукна штаноў, пашытых нейкім мясцовым умельцам. Цяпер ён вялікі начальнік. Па загадзе акупантаў збіраў малако, яйкі, сала ды іншыя прадукты для адпраўкі іх у Ратайчыцы, дзе знаходзіўся нямецкі гарнізон, камісар і жандармерыя. Былі ў яго, як у солтыса, і іншыя клопаты, пра што сведчыў і нагадваў загад, што вісеў на дошцы аб'яў. Хрысан прайшоў, пружыніста ступаючы па ўбітай сцяжыне і пазіраючы сабе пад ногі, потым вярнуўся і спыніўся разам з усімі, але не павітаўся, а толькі колькі разоў кашлянуў і прамовіў:

— Немцы — народ гаспадарлівы, любяць парадак. Орднунг — па-іхняму.

Адчувалася, што ён вельмі задаволены сваёй пасадай. У яго абліччы з'явілася нешта чужое і варожае з таго часу, як ён яе заняў. Усе параскрывалі раты, уважліва слухаючы начальства. Хрысан, бачылі, не разгубіўся, не закамплексаваў, трымаў сябе ўпэўнена і амбітна.

— Дзіва што! — адгукнуўся Гамон, згодны з тым, што немцы любяць парадак.

— Цяпер яны на Маскву рушылі, — абвясціў солтыс, маючы на ўвазе немцаў, — дык цёплых рэчаў загадалі сабраць ды рукавіц навязаць, бо зіма мае быць. Зіма, а значыць — маразы. Патрэбны цёплыя рэчы, каб не змерзнуць.

Прускаўцы слухалі моўчкі.

— Трэба, каб і ў нас хадзіла, як тут напісана, начная варта, — працягваў солтыс, акінуўшы вачыма прысутных. — На гэту ноч, я думаю, трэба прызначыць у варту дзядзьку Павала з Лявонам Кужалём.

Падышоў Лявон, яшчэ не ведаючы, пра што гаворка.

— Хай павартуюць! — прагугнявіў Гамон. — Нічога страшнага, гэтак і пры паляках было! Я і сам начамі вартаваў.

— Я праверу, — шматзначна паабяцаў солтыс.

Павал пачухаў патыліцу:

— Раз начальства загадвае, дык будзем вартаваць.

Такой жа думкі быў і Лявон.

— Калі трэба, дык трэба, — згадзіўся ён, папраўіўшы на галаве кепку.

Вечарам, дагледзеўшы гаспадарку, яны, калі ўжо добра сцямнела, сустрэліся каля Лявонавай хаты. Павал, апрануты ў сціплую шэрую світку, паказваў на тыповага літвіна з калматымі бровамі і абвіслым вусам. У Павалу шмат дабраты і зычлівасці. Пра такіх кажуць: «У кулаку з яйка кураня выведзе». Яны пайшлі па вуліцы.

Загаманіў Павал:

— Тут, яно і з гісторыі вядома, каго толькі не было! Нават на маім веку і немцы былі, і палякі, і Саветы. Каго тут толькі не было! А цяпер, бачыш, ізноў немцы…

— Міне колькі год — і вайна, пройдзе пару год — зноў вайна, — уздыхнуў Лявон. — Цікава, ці скончыцца гэта калі-небудзь? А можа, калі-небудзь і скончыцца.

— Наўрад. Часам я наогул думаю, ці магчымы свет без няшчасцяў, забойстваў, катастроф? Ведаеш, і не знаходжу адказу.

Сябар пацiснуў плячыма. Відаць, што і ў яго не было адказу на гэтае пытанне.

Начная цемень усё больш гусцела. Яны моўчкі дайшлі да былой Шпонькавай лаўкі, якую ў 1939-м Саветы адабралі былі ў Шпронькі, а цяпер яна зноў вярнулася да свайго ранейшага гаспадара.

— Я чуў, зноў мае адчыняць, — сказаў Павал, маючы на ўвазе Міколу Шпроньку — былога ўладальніка гэтай гандлёвай лаўкі. — Спрыт да гандлю ў Шпронькі ёсць.

— А калі Саветы зноў вернуцца? — Лявон паглядзеў на сябра. — А яны пэўна ж вернуцца! Наўрад ці немцам тыя рукавіцы, пра якія казаў Хрысан, дапамогуць.

— У Саветаў вялікая сіла, — разважыў Павал. — Расія! Яна яшчэ, відаць, як трэба не разгарнулася. Пачакай! Яшчэ разгорнецца. Успомніш маё слова. Яна яшчэ сябе пакажа!

Лявон быў згодзен з сябрам і думаў гэтаксама.

— Невядома толькі, — сказаў ён, — колькі яна працягнецца — вайна гэтая. Год, два, а можа, і болей.

Яны даўно не размаўлялі і цяпер радыя былі выпадку пагаманіць, абмяняцца думкамі і навінамі. Ад Шпронькавай лаўкі пайшлі ў адваротны бок, зноў уздоўж вуліцы, але па дарозе вырашылі завярнуць у Лявонаву клуню. Ночы ў верасні халодныя, але ў клуні звычайна цёпла. Лявон адчыніў дзверы, і яны ступілі на ток, адчуўшы водар збажыны і сена. Снапы пахлі жніўным полем і сонцам, а тонкі водар сена нагадваў шырокую пойму Лосьны, лазовыя карчы над ракою, грудкі і нізіны з высокай травой, знаёмыя мясціны, адкуль сена трапіла сюды, у клуню.

— А ведаеш, — азваўся ў начным цемрыве Лявон, — нідзе так добра не думаецца, як у напоўненай снапамі клуні. І настрой паляпшаецца!

— Дзіва што! — згадзіўся Павал і вярнуўся да пачатай размовы: — Яна яшчэ сябе пакажа!

— Хто?

— Расія. Расія вялікая.

— А, думаеш, Амэрыка не ўмяшаецца? Будзе сядзець і чакаць?

— Хто яго ведае…

— Не, умяшаецца, і на баку Расіі. Павінна ўмяшацца, бо Гітлер — фашыст і з Амэрыкай яму не сполка. Амэрыка да свабоды прывыкла.

Яны прыселі на куль саломы. Месячнае святло, што нейкім чынам, відаць, праз шчыліны на самым версе пранікала ў клуню, ледзь-ледзь пазначала іх аблiччы. Побач, пры сцяне, стаяла малацілка, крыху далей, у застаронку, веялка, іншыя гаспадарчыя прылады. Павал павярнуў на іншае:

— А ў цябе сёлета неблагі ўраджай.

— Трохі было.

— Прадаваць не збіраешся?

— Не. Каб самім хапіла. Цяпер жа ў нас Санька.

— Сібірак?

— Сібірак.

Колькі часу яны сядзелі моўчкі. Чутно было, як побач у хляве бляялі авечкі, зрэдку ўздыхала карова.

Нарэшце Павал сказаў:

— Пойдзем, браце, хадзіць, а то ж Хрысан праверыць абяцаў.

— Спіць ён, думаю, ды нейкі начальніцкі сон бачыць.

— Спіць, а можа, і не спіць, выглядае, сочыць…

Яны падняліся з мяккага саламянага куля і выйшлі з клуні. Лявон зачыніў за сабою дзверы. Навокал панавала ціш, якую, здавалася, ніхто не збіраўся парушаць.

* * *

А вечарам наступнага дня вярнуўся ў Пруску Косця Хлябіч, былы капэзэбавец. Худы — пазнаць цяжка. Рудая чупрына ссівела і парадзела. Твар у шчаціні, пад носам тапырыліся няпэўнага колеру вусы. Апрануты ў нейкія залатаныя транты, здарожаны. Ногі апухлыя, у пухірах і вадзянках.

Плакала старая Васіліха, сустрэўшы ўнука — Ганнінага сына. У бабулі ён і спыніўся. Наведваўся і да дзядзькі Цімошы, які калісьці, пры Польшчы, пры незабароненай КПЗБ, быў у яго на сувязі з Цэнтрам, перадаваў па ланцужку некаторыя звесткі. Доля Косціка аказалася нялёгкай: не раз сядзеў у польскай турме, а потым, пасля ўз’яднання, затрымаўся ў савецкай.

З Цімошам Лявон бачыўся часта, перапытваў пра Косцю: «Дык што, пра Косцю так нічога і не чутно?» «Не чутно, — пацiскаў плячыма Цімоша, — не чутно. Як забралі яго тады, у саракавым годзе, дык і не паказваўся. Як бы прапаў недзе».

Адзін час Лявон ужо і пытацца перастаў. І вось Косця, Ганнін сын, нарэшце вярнуўся.

— Кожная птушка ляціць у сваё гняздо, — так адрэагаваў Лявон на яго вяртанне ў Пруску.

Меў, праўда, гэты блудны прускаўскі сын надта сумны выгляд, больш маўчаў, пра сябе гаварыў мала. На прускаўскай вуліцы не паказваўся, асцерагаўся здрадлівага вока. Але праз тыдзень які ўсё ж такі завітаў да Кужалёў. Пасівелы, хоць па ўзросце і не стары — гадоў усяго за трыццаць. Для Кужалёў Косця быў свой. Ён сціснуў Лявона ў абдымках, ды так моцна, што пад лапаткамі нешта хруснула. Расказаў усю сваю адысею хаджэння па турмах. Расказаў, што адступаў разам з зэкамі. Сядзеў у Мінскай турме. Калону давялі да Трасцянца і там спыніліся за нейкай справай. Зэкі адчулі нешта нядобрае і, карыстаючыся замінкай, ураз разбегліся хто куды. Косця прыстаў да вайскоўцаў, што адыходзілі на ўсход. Гэта былі людзі з розных вайсковых часцей, якія выбіраліся з варожых «клешчаў», прадстаўнікі розных родаў войск. Сабралася такіх пад тысячу, а можа, і болей, у розных званнях. Спынілі іх ужо недзе пад Магілёвам, пачалася праверка. Высвятлялі — хто і адкуль, надта шпіёнаў і дыверсантаў баяліся. Палітрук у званні маёра (з дзвюма «шпаламі» на пятліцах) спытаў перад строем:

— Ураджэнцы Заходняй Беларусіі ёсць?

Косця вагаўся — прызнавацца ці не. Усё адно як адчуваў нешта благое. Але не прызнацца — горш будзе. Адгукнуўся:

— Есць!

— Дзесяць шагоў упярод!

Косця адлічыў дзесяць крокаў. Такіх, як ён, набралася чалавек з пятнаццаць. Да іх прыставілі ўзброены канвой, пхнулі ў «варанок» і адвезлі без лішніх размоў у Магілёўскую турму. Людзей у камеры было пад завязку, як селядцоў у бочцы. Напхалі столькі, што сядзець не было як — усе стаялі. Пра астатнія ўмовы і гаварыць не хацелася — жах!

Магілёў доўга не здавалі, абаранялі з усіх сіл, але нарэшце змагліся і давялося адступіць. Пагналі і насельнікаў турмы. Зноў гналі калонай. Вось тут Косця і ўцёк, скарыстаўшы стомленасць канваіраў, падаўся ў адваротным кірунку — на захад. Доўга дабіраўся, пакуль прыдыбаў у родную хату. Усяго нацярпеўся. Ішоў больш ноччу, па балотах і лясах, днём хаваўся…

— Ну, а ў вас што чуваць? — спытаў Косця.

— У нас, здаецца, пакуль што ціха.

— Можа, варта было б наладзіць сувязь? Зброі якой назапасіць? Яе па лесе, паабапал дарог вунь колькі раскідана…

Лявон пацікнуў плячыма:

— Трэба падумаць.

Пра тое, што ён ужо тое-сёе прыхаваў, не сказаў, але госць, напэўна, здагадаўся, што не сядзеў жа Кужаль склаўшы рукі.

На гэтым яны развіталіся, Косця пайшоў, спытаўшы напаследак пра Васіля. Лявон сказаў, што яго арыштавалі былі, яшчэ летам, але, дзякуй богу, адпусцілі. Цяпер гаспадарыць.

## XIV

Той чалавек, які сустрэўся Кужалям наўскрай лесу, быў, як і Санька, акружэнец. Прозвішча меў: Калеснікаў. Але, у адрозненне ад Санькі, у палон не трапляў. Здолеў схавацца ў лесе, бадзяўся. Потым прымкнуў да невялічкай групы такіх, як і сам, акружэнцаў — чырвонаармейцаў і камандзіраў, якія атабарыліся ў Белавежскай пушчы. Вайна ёсць вайна, яна патрабуе ад чалавека намагання ўсіх сіл, душэўных і фізічных. Тут вельмі важна на нешта абаперціся — на пачуццё вернага таварыша, на пачуццё чалавечай еднасці ў цяжкой сітуацыі. Гэта адчувалі ўсе. Пушча рабіла ўражанне сваёй сівой першабытнасцю. Карэнны лес тут у асноўным хваёвы, але шмат дуба, ясеня, ліпы, клёна і паўсюль кустоўе, ядловец, папараць. Месцамі лес быў амаль непралазны — на дзясяткі кіламетраў раскінуліся топкія імшарныя балаты, сцяной стаяла чарналессе, густа сплёўся маладняк.

Яшчэ пры цары пушча была парэзана на роўныя пранумераваныя кіламетровыя кварталы, якія адзначаліся трыбамі, г.зн. межавымі дарогамі, і называліся абрубамі. У адным з такіх абрубаў — урочышча называлася Ціхушы — яны і сядзелі, схаваўшыся ў густы ядловец і надта не высоўваючыся. Паставілі будан. Побач бруіўся гаварлівы ручай. Вечарам запальвалі касцёр, варылі бульбу, накапаную ў полі, жавалі шчаўе, што расло пры дарогах. Навокал стаялі стогадовыя — аднаму не абхапіць — елкі. У вышыню ўзнімаліся пад самыя аблокі. Раслі дубы, сосны. Там-сям пракідаліся крыху замораныя цёмнастволыя бярозы, якіх, бачна было, крыўдзілі іншыя, больш дужыя дрэвы, — адбіралі святло. Тыя, хто быў тут, думалі пачакаць да жніўня-верасня, калі новы хлеб даспее. Пасля таго ісці на ўсход. Адны ішлі, другія

спадзяваліся на хуткае вяртанне сваіх. Але свае, па ўсім відаць, вяртацца не спяшаліся.

Ад доўгага ляжання і спання людзі пазяхалі, прыкрываючы рот далонню. Некаторыя трымалі ў руках замусоленыя карты — рэзаліся ў «дурня» і ў «ачко», даючы адзін аднаму пстрычкі ў нос і ў лоб. На даўно няголеных тварах, як шчотка, тырчэла шэрае шчацінне.

З дубоў на мох густа сыпаліся румяныя жалуды. У вершалінах дрэў ноччу блытаўся вастрарогі маладзік, не звяртаючы ўвагі на тое, што рабілася ў лесе. А тут ужо гаспадарыў холад. Ноччу акружэнцы мерзлі, днём адаграваліся на негарачым вераснёўскім сонцы. Пахла сасновай смалой і ядлоўцам. Сухое надвор’е змянялася імжакай, дажджамі, а яны нібы не звярталі на гэта ўвагі. Ніхто нікому па сутнасці не падпарадкоўваўся. Тых, хто ішоў на ўсход, ніхто не трымаў. Але лідар ужо меўся, вызначыўся неяк сам сабой. Гэта быў Пенкін, старшы палітрук Чырвонай Арміі. Ён быў апрануты ў вялікі, не па росце, пінжак, у поясе перацягнуты дзягай з пісталетам у кабуры. На галаве ляжала пляскатая, як блін, кепка. Твар загарэў на сонцы, адны толькі бровы белыя. Каля яго заўсёды цёрліся людзі, вяліся размовы і адбываліся знаёмствы.

— Бражняк Андрэй Амяльянавіч, пагранічнік, — прадставіўся адзін з новенькіх — высокі цёмнавалосы акружэнец у паношаным і пакамечаным вайсковым адзенні, які да гэтага маўчаў, падаў руку Калеснікаву. — Называйце мяне проста Андрэй. Мяне ўсе так звалі. — Ён паправіў перакручаную ўпоперак галавы пілотку з цёмнай плямай замест зорачкі.

— Пенкін Мікалай, зампаліт роты, старшы палітрук, — Пенкін падаў руку.

Фронт адкаціўся далёка, а народ прыбываў.

— Давайце прысядзем, — прапанаваў былы старшы палітрук, і ўсе, хто стаяў, апусціліся на прысыпаную ігліцай траву бліжэй да будана, дзе сядзелі яшчэ некалькі чалавек, таксама акружэнцы. Усе няголеныя, з плямінамі бруду на абтрапаным салдацкім адзенні.

Да іх, аддзяліўшыся ад карцёжнікаў, падышоў яшчэ адзін акружэнец.

— Старшы сяржант Бокша, — адрэкамендаваўся ён і прысеў. — Танкіст.

— Аднаго не магу зразумець, — загаманіў Бражняк, — а дзе былі нашы самалёты? Куды яны падзяваліся?

Калеснікаў, які таксама тут быў, цяжка ўздыхнуў:

— А хіба вам не вядома? Першы іх удар быў — па аэрадромах, каб авіяцыю знішчыць. А потым без цяжкасцей можна знішчаць усё астатняе. Так яны і зрабілі!

— У немцаў-чарцей усё прадумана, — выказаў меркаванне Пенкін, наморшчыўшы белыя бровы. — Відаць, даўно рыхтаваліся.

— U-16 саступаў «месершміту» ў скорасці, — Бражняк паказаў, што ён у авіяцыі ўсё ж такі нешта цяміць.

— Затое ў U-16 чатыры кулямёты, а ў «месершміта» — два! — парыраваў Калеснікаў. — І ён больш манеўраны!

— Ну, не скажы! Я сам бачыў, як яны гарэлі.

— Гэта ён мяне вучыць будзе! — Калеснікаў зіркнуў на Бражняка чырванаватымі ад бяссоння вачыма.

— Цішэй, таварышы! — паморшчыўся Пенкін.

— Я — лётчык, — як бы падвёў вынік спрэчцы Калеснікаў і загаварыў пра сябе: — Наш аэрадром пад Беластокам разбамбілі адразу, у чатыры раніцы. Палажэніе ахаўскае. Яны і раней ляталі на разведку — па два-тры разы на дзень.

Мы паднімаліся і адганялі, але граніцы не пералятали. Ды я сам з камандзірам двух «месераў» адагналі. У аўторак, гэта, помню, случылась, 17 чэрвеня. Яны над Брэстам кружылі. Нам — каманда: адагнаць, не прымяняючы агня. Падняліся мы з камандзірам на нашых «ішаках» і «месеры» — ходу, ушлі!

— А нада было ўдарыць! — загаманіў Бокша. — Тагда б ён прысмірэў.

Калеснікаў махнуў рукой:

— Ударыў — ён! Ну, скажу я вам, і карціна атрымалася: поле ізрыта, кругом воронкі, абарудаванне згарэла. Самалёты ўсе к чорту пакурочаныя. Давялося адступаць на сваіх на дваіх. Спачатку ішлі разам, патом пацяраліся. Бамбёжка за бамбёжкай. Яго авіяцыя ну проста шалела!

— Гэта праўда! — пацвердзілі прысутныя.

— Доўгі час у мяне было: як толькі засну, дык здаецца, што схапіўся ў рукапашную з нямецкім лётчыкам, то я яму па мордзе, то ён мне.

Ніхто аднак не азваўся на гэты жарт.

— Па дарозе я дружка сустрэў, — працягваў Калеснікаў, — такога, як і сам. Падышлі з ім к Бугу. Сур'ёзная рака! Пачалі шукаць лодку. Паблізу хутар стаяў. Пытаем у гаспадара: «Можа, лодка ёсць?» А ён на ногі мае глядзіць. Давялося сапагі аддаць. Замест сапог іду ў апорках — гаспадар саступіў. Але праз Буг ён нас перавёз. Ідзём далей. Зайшлі аднойчы на хутар, а там два паліцаі з вінтоўкамі. Сядзяць — снедаюць. Мы — ходу адтуль. Паліцаі за намі. Бягуць і страляюць. Разоў пяцьдзясят стрэлілі. Калі б яны седзячы сталі страляць або заляглі, яны б пацэлілі. А так нам пашанцавала… Прайшлі каля Камянца. Недзе наперадзе Пружаны. Ідзём у асноўным ноччу, днём хаваемся. Зарыешся ў стог і ляжыш. Доўга туляліся па варожым тыле, спрабавалі перайсці лінію фронту, але няўдала. З прыяцелем мы рассталіся. А родам я з Нікалаева Херсонскай вобласці. Калеснікаў Якаў Ксенафонтавіч. Такая вот гісторыя з геаграфіяй. Прарвацца на ўсход пакуль што не ўдалося.

Пенкін у сваю чаргу расказаў пра сябе: адкуль родам, дзе служыў, як трапіў у палон. Родам з Астрахані. Пачынаў вайну ў надбужскіх дотах.

— Думалі — правакацыя, аказалася, што не. Усё насамрэч. Сядзелі ў доце, дзяржаліся, пакуда можна было, а патом, ноччу, ушлі на васток. Шлі праз Высокае на Слонім. Баі, баі, баі! У нас аружжа лёгкае, а ў яго — пушкі, мінамёты. Мяне параніла і сільна кантузіла. Плен. Папаў у лагер пад Беластокам. Храновае, далажу вам, месца! Кармілі гарохавай баландой — па чарпаку два разы на дзень. А гарачыня, братцы, несцярпімая. Такой гарачыні я зроду не помню, хаця ў Астрахані нарадзіўся. У лагеры ад голаду, ран і хвароб сотні нашых рабят памірала. Ужас! Нас выбралі чалавек дваццаць, загадалі ўбіраць трупы. Пасярэдзіне лагера — роў, куды і валілі тых, хто памёр ад ран і знясілення. Я там і ціф перанёс, не ведаю, як жывым застаўся. Некаторыя сівелі на вачах. Патом перавялі ў лагер каля Вострава-Мазавецкага — там генерал Карбышаў сядзеў. Гэта каторы Брэсцкі ўкрэп-раён будаваў. Ён нам, маладым, сказаў: «Многія гавораць, што немец ужо ў Маскве. Няпраўда! Аднака ведзь і пацера Масквы гэта яшчо не пацера Родзіны. Абставіны, канечна, вышэй нас, аднака падаць духам няльзя. Вы маладыя, вам нада вырвацца адсюда!»

Пенкін на нейкі час змоўк, наморшчыўшы свае белыя бровы — надта цяжкія былі ўспаміны. Потым расказаў, як усё ж такі ўцёк з групай таварышаў, як ішлі на ўсход.

— У вёскі не заходзім, зрэдку толькі на хутар які, каб папрасіць падсілкавацца. У лясах харчаваліся ягадамі, арэхамі, грыбамі. Падышлі таксама к Бугу, пераправіліся, а тут і пушча. Так вот у гэтым абрубе і аказаліся. Сустрэліся з

нашымі — такімі, як і мы, акружэнцамі. А патом — хто куда! — скончыў расказваць Пенкін і дадаў: — Адзін чалавек — што? Група — гэта ўжо сіла!

Зігзагамі, абмінаючы дрэвы, праляцеў стракаты дзяцел.

— Да-а, — пачаў Бераждняк, — з розных мест мы тут сабраліся. Я родам з Днепрапятроўска.

— А дзе служылі? — запытаў Калеснікаў.

— А мы ў крэпасці служылі, на заставе, у камендацкім узводзе. Былі палтінфармацыі, гутаркі: нада быць бдзіцельнымі, сусед ненадзейны. Сам чуў, як немцы з таго берага крычалі нашым пагранічнікам: «Скора сустрэнемся, Іван!» І вось на раніцу 22-га так яно і здарылася. Толька з каравула вазвярнуўся, лёг аддыхаць, закрыў глаза, і пачалося! Артылерыйскі налёт! Ну, я вам скажу, агонь страшнай інтэнсіўнасці. Пятнаццаць мінут! Ляцяць камні, нейкія калёсы коцяцца! Жутка! Пакуль атрымалі боепрыпасы, прайшло мінут дваццаць, у чатыры трыццаць уступілі ў бой. Узрывы! Агонь! Бачым — адыходзяць пагранічнікі. Мы — за імі следам. Камандзір палка, нацмен, крычаў нешта, размахваючы пісталетам, аднака ніхто не слухае. Паніка. У крэпасці не засталося нічога драўлянага, усе сцёклы выбіты, дым, смурод, крыкі, стогны. Да дзесяці раніцы без перапынку — кананада. Крычаць раненыя: «Прасчыталіся немцы, за нас адамсцяць!» Нехта Суворава ўспомніў. Я на Маскоўскую кінуўся, а тут танкі. А што з вінтоўкай супроць танка? Мяне кантузіла, крэпка, як бы ломам па галаве шарахнула, аднак сазнаніе вазвярнулася. Куды бяжаць? Пабяжалі. Я з нескалькімі таварышамі аказаўся ў полі за Пугачовам. Дзярэўня такая за Мухаўцом. Бачу, ідуць немцы, я прытварыўся забітым, выбраў нязграбную позу, ткнуўся тварам у зямлю. Будзь, што будзе! Немцы прайшлі ланцугом, я застаўся ляжаць. Абрадаваўся, што не тронулі. А следам — другі ланцуг. Гэтыя мяне прыкмецілі. Бачаць, што я крэпка кантужаны. Пасадзілі на веласіпед — ззаду, на багажнік, а папарадзе немец педалі круціць. Едзем у Брэст. Ну, думаю, як пана вязуць. У Брэсце ляжаў у шпіталі ў паўднёвым гарадку. Шпіталь — чатыры вялікія сараі. Персанал наш, аднак кармёжка слабая, жраць нічога не даюць. Тяжкапараненыя шавеляць губамі: піць, піць, піць… Вада была, а жратвы — адкуль возьмеш? Прадаў я боты і гадзіннік за два кілаграмы хлеба. Падзяліў з таварышамі. Кармілі дрэнна — эрзацхлебам і бурдой. Вечарам — чай, завараны на бярозавых лісцях. Дапамагалі мясцовыя, хоць гэта было вельмі рызыкоўна, і я вылечыўся. Пасля таго, як падняўся, накіравалі ў лагер у Бяла-Падляску. Там нашых хлопцаў тысяч сто, не меней. Камсастаў і радавыя — асобна. У камандзіраў прывілеі — сядзяць у бараках, а мы на сонцы загараем.

— Гэта, значыць, што бы рознь была! — зазначыў Пенкін.

— Потым дамовіліся і савяршылі пабег, — сказаў Бераждняк, — і пайшлі на ўсход сонца. Разбрыліся хто куды…

— Што ні чалавек, то свой лёс, — уздыхнуў былы старшы палітрук, нібы падагульняючы пачутае.

Яны памаўчалі, услухоўваючыся ў лясныя гукі. Стаяла цішыня, чутно было толькі, як звінелі лясныя мухі ды з белавежскіх дубоў асыпаліся час ад часу даспелыя жалуды. Пенкін глядзеў на гэтыя дубы, выносныя і магутныя, і яму здавалася, што яны будуць жыць вечна. «Такія дрэвы ніякая бура не адолее! — думаў акружэнец. — Дрэвы мацней за чалавека…»

Калеснікаў прысеў, а потым лёг на спіну, падклаўшы пад галаву згорнуты шынель, і адчужана пазіраў у неба. Там часам чуўся гук самалёта. Па гуку гэта былі нямецкія самалёты, ды і адкуль тут узяцца савецкаму.

— Немец, — сказаў стомлены чырвонаармеец па прозвішчы Цягнірадно.

— Для мяне гэтыя два-тры месяцы здаліся як вечнасць, — прызнаўся Бокша. — Столькі бачыў! Здаецца, у пекле пабываў! — Ён пакруціў галавой, успаміны нервовымі дрыготкамі адбіліся на яго абліччы. Нешта хацеў сказаць, але ўсе сталі пазіраць на лясную прагаліну. Там паказаліся два чалавекі з хатулямі за плячыма. Відаць было, што кіраваліся да таго месца, дзе знаходзіліся акружэнцы. Ішлі, ламаючы і прымінаючы ботамі пышнае, яшчэ не звяўшае лісце папараці.

— Ну, нарэшце, рабяты харчы нясуць, — з палёгкай абвясціў Пенкін. Я б зараз і каня з капытамі з'еў. Ягады — гэта не яда.

Самае цяжкае для іх было — гэта харчы. Увесь час хацелася есці. Сухары даўно скончыліся. Ад лясной яды — грыбоў ды ягад — разладзіліся страўнікі, але есці ўсё адно хацелася.

Адзін з тых, што ішлі, ціха свіснуў.

— Свае, — сказаў Пенкін і таксама, сунуўшы пальцы ў рот, адказаў свістам.

Двое падышлі, павіталіся. Адзін і другі апранутыя ў паношаныя кажушкі, на галовах — фуражкі — рагатуўкі, якія калісьці насілі салдаты польскай арміі. Гэта былі: былы старшыня Ратайчыцкага сельсавета Галабурда і ўчастковы міліцыянер Камянецкага райаддзела міліцыі Мурашка — таксама былы, даваенны. Абодва — мясцовыя. Галабурда родам з-за Камянца, а Мурашка — з Ліпнай, што паміж Камянцом і Прускай, каля Бабіцкай гары. Ля будана скінулі з плячэй хатулі.

— Правізія! — узрадаваўся Беражняк.

— Сала, хлеб і картоплі, — далажыў Мурашка, павадзіўшы сваімі зрудзелымі ад самасаду вусамі. — Па дарозе накапалі. Думаем, будзе кстаці. Спатрабляйце!

— А соль? — занепакоена спытаў Пенкін.

— Ёсць і соль.

— Багаты край — гэта Заходняя Беларусь, — сказаў Бокша, але Галабурда з ім не згадзіўся:

— Якая там багатая. У пасталах хадзілі, працавалі шмат, з рання да вечара спіны гнулі.

— Ну, не скажы! — азваўся Беражняк.

— Раней была багатай, а цяпер… — са скепсісам у голасе дадаў Мурашка, прысеўшы разам з Галабурдам на зялёны мох. Галабурда наморшчыў пукаты лоб, таксама нешта хацеў сказаць, але прамаўчаў.

Наступалі прыцемкі, сутонне гусцела і хутка пераходзіла ў ноч.

— Можна распальваць касцёр, — распарадзіўся Пенкін. — А табачку прыхапілі?

— Прыхапілі, — заспакоіў Галабурда.

Нехта сказаў, уздыхнуўшы:

— Закурыш, дык скруха з плячэй звальваецца.

Яны згарнулі цыгаркі. Мурашка дакладным ударам абломка напільніка аб крэмень высек іскру і стаў раздзімаць яе на канец кноту, запраўленага ў медную трубку. Прыкурыў сам і перадаў тлеючы кнот астатнім. У нерухомым паветры моцна запахла самасадам. Агонь расклалі толькі калі зусім апускалася ноч, бо днём дым узнімаўся над дрэвамі і быў бачны здалёк. Гэта было небяспечна, магло заўважыць ліхое вока. Касцёр, каб быў менш прыкметны, распалілі пад высокай старой елкай, і дым ледзь бачнымі воблачкамі асядаў

на яе галінах. Касцёр і цыгарка дапамагалі ратавацца ад камароў, якія джалілі без літасці. Акружэнец, па прозвішчы Дырман, які быў сярод тых, хто гуляў у карты, занепакоена кіўнуў на касцёр:

— Каб з самалёта не ўвідзелі! Адтудава ўсё відаць.

— Не ўвідзют, — заспакоіў яго Калеснікаў. — Ноччу яны не лятаюць, а днём не відаць.

— Сасновыя палены трэба класці, — падказаў Мурашка, абазнаны ў справах ляснога побыту, — з сасніны менш дыму.

— Фойер, фойер! — на нейкай сасне, здалося, амаль па-нямецку каркнула варона.

— Я табе пакажу! — кулаком прыгразіў у той бок Цягнірадно. — Гадаўка!

— Нада была бы ўзброеную ахрану выставіць! — сказаў Пенкін, кіўнуўшы на дзве вінтоўкі, што ляжалі ў будане. — А то можа стацца так, што ўсім будзе кампот…

— Месца глухое! — адрэагаваў нехта з прысутных. — Не абязацельна.

— Лес стары, пракаветны! — пацвердзіў і Галабурда, зацягнуўся дымам, потым схаваў цыгарку ў рукаў і задумаўся.

Нейкі час яны маўчалі, кожны думаў пра сваё. Зрэдку перакідваліся словамі.

— Ну што, Зіпуноў, як дзялішкі? — запытаў маладога акружэнца ў паношанай гімнасцёрцы Пенкін.

— Да нікак, — коратка і незадаволена адказаў Зіпуноў, умасціўшыся на разасланым шынялі. — Цяжолая яна — наша лясная свабода.

— А ты, Ісаеў? — Пенкін звярнуўся да другога акружэнца, што прысеў да кастра побач з Зіпуновым.

Ісаеў, вузкавокі, з рабацiннем на твары, пазяхнуў і прамовіў панылым тонам:

— Фронт адкаціўся далёка.

— Чуткі ёсць, што ўжо за Смаленскам, — канкрэтызаваў Калеснікаў, які, нягледзячы ні на што, стараўся трымацца бадзёра.

— Што? — перапытаў чырвонаармеец у выцвілай, амаль белай гімнасцёрцы, падпяразаны брызентавым поясам, і патлумачыў: — У мяне нерв ля вуха пашкоджаны, дрэнна чую. — Прозвішча гэтага чырвонаармейца было Сарокін, у яго яшчэ не прайшла кантузія.

— Фронт, я кажу, навернае, ужо недзе пад Смаленскам! — грамчэй паўтарыў Калеснікаў. Сарокін, відаць, пачуў, але прамаўчаў, пра нешта думаў.

Былы старшы палітрук падсеў да сяброў па няшчасці, наставіў бліжэй да агню рукі. Агонь схіляе на роздум, агонь і думка — заўсёдныя спадарожнікі.

— Але ж далі дзёру! — здзіўлена пахітаў галавою Галабурда, на гэта яму ніхто нічога не адказаў.

— Усе мы да замагільнага свету прапісаны, — паныла, як бы на кагосьці наракаючы, прабубнеў зарослы доўгай барадой акружэнец, што сядзеў з другога боку вогнішча. Нагадваў жабрака на цвінтары — такі ж барадаты і сумны. Пацягнуў самакрутку і таксама схаваў яе ў рукаў.

— Ну, Задора, ты даеш! Што за настраенія? — абурыўся Пенкін. — Ты гэта брось! Раз уж выжылі, прайшлі іспытанія, значыць, будзем жыць! Вайна, мілок, — такая справа, што не адразу ўсё палучаецца.

Задора нічога не адказаў. Мусіць, таксама пра нешта думаў. Жоўта-чорныя яго пальцы моцна сціскалі маленькую, ужо амаль скураную, закрутку, ад якой вілася белая пасмачка дыму.

— Нашы БТ і Т-28 маюць мацнейшую браню і большы калібр гарматаў, а вот атрымалася так, што не ўстаялі, — зноў пачаў пра ўзбраенне Беражняк, смактануўшы цыгарку і пусціўшы дым.

— Без гаручага не наваюеш! — нібы апраўдваючыся, азваўся хтосьці яшчэ.

Пенкін, які ведаў усіх, пазнаў Бокшу-танкіста:

— Ты праў, Бокша. Без гаручага не наваюеш.

— А ў яго гаручага колькі хочаш, — працягваў танкіст, — дык ён нас у кліньня і ўзяў.

— У якія кліньня? — не зразумеў Ісаеў.

— У танкавыя! — не глянуўшы на Ісаева, патлумачыў Бокша. — Танкавымі клінамі акружае, у клешчы бярэ, і мяшок палучаецца, а потым ужо яго матарызаваная пяхота дзейнічае, мяшок гэты ліквідуе. Гэта мы іх навучылі, у нас яны перанялі, на сумесных вучэннях, яшчэ пры Тухачэўскім. Тактыка!

— А да вайны што казалі? У Берлін зайдзём, чайку пап'ём! — з крыўдай у голасе напомніў Галабурда.

— Які там чай! — махнуў рукой Мурашка. — Не да чаю. Сырую ваду п'ём.

— Авіяцыю падавілі, — разводзіў рукамі Калеснікаў, — не далі падняцца. Калі б авіяцыя па яго танкавых калонах ударыла, быў бы толк. Таму так і атрымалася.

Ад сасновых шышак добры жар і гарачы прысак, мала дыму. У прысак загарнулі прынесеную бульбу. Наверх кінулі пучок сухіх галінак, якія тут жа абвіліся жоўтым полымем. Агонь саграваў чалавечыя душы.

— Нада, таварышы, прадзяржацца, — уздыхнуўшы, прамовіў неўгамонны Пенкін, — пралетарыят Германіі яшчэ не сказаў сваё слова…

— І не скажа, — адгукнуўся нехта, магчыма, нават Галабурда, але астатнія маўчалі.

Усе, хто сядзеў вакол кастра, глядзелі неадрыўна на агонь, на чырвоны жар вуголля, па якім трапятліва бегалі блакітныя язычкі полымя.

— Адкуль у яго такое прыцягненне? — уголас падумаў Калеснікаў. — Гэта я пра агонь, — патлумачыў ён, — глядзеў бы здаецца і глядзеў.

— А немцы пачалі пушчанскія вёскі паліць, — паведаміў Мурашка.

— Паліць і знішчае, — дадаў Галабурда. — Дваццаць шэсць населеных пунктаў знішчана.

Нейкі час яны зноў сядзелі моўчкі.

— Фашыст — ён і ёсць фашыст! — нібы сам сабе сказаў Дырман, які, відаць, таксама шмат перажыў.

— Гэта ён нас дастаць хоча! — выказаў думку Пенкін. — Для яго мы як заноза! Мала лі што…

Прысутныя маўчалі, як зачараваныя, пазіраючы на касцёр.

— Плена цяпер для нас, таварышы, нет. Пападзёшся — усё, канец! — працягваў гаварыць Пенкін. — Ва ўсіх дзярэўнях загады вісяць, за связь з бандзітамі — расстрэл!

— Братцы, гэта ж яны нас бандзітамі лічаць, — здзіўлена паглядзеў на сяброў Ісаеў.

— Нас, — пацвердзіў Пенкін. — Каго ж яшчэ? Як за ваўкамі палююць.

— Давайце будзем думаць, як быць, — азваўся Калеснікаў. — Добра падумаць — гэта ўсё адно як напалавіну зрабіць.

Усе з гэтым былі згодныя, але канкрэтных прапаноў ні ў кога не было ці, можа, кожны баяўся браць на сябе адказнасць.

Хутка, як бы спяшаючыся, насоўваліся восеньскія прыцемкі, гусцеў лясны змрок. Ветах на небе адлюстроўваў слабое святло далёкага сонца. Загараліся першыя зоркі.

Беражняк выкаціў з кастра бульбіну, даў ёй крыху астыць, а потым пачаў лупіць. Печаная бульба знаджвала дымком і прыгарам, навокал разлягаўся яе пах.

— Гатова! Давай! — загаманілі навокал.

Пачалася вячэра: печаная бульба, трохі хлеба, цыбуля, соль ды яшчэ і па кавалачку сала.

Адчувалася, што ўсе галодныя, надта галодныя: елі з нейкай нечалавечай прагавітасцю і з'елі ўсё дарэшты. Голад, як вядома, неблагая прыправа да ежы.

Павячэраўшы, закурылі, зноў паціху загаманілі. Мясцовыя Галабурда з Мурашкам, якія арганізавалі гэты пачастунак, сціпла маўчалі і ў размову ўступалі рэдка. Мурашка падняўся, назбіраў у прыпол кажушка сасновых шышак і кінуў у касцёр. Яны ціха затрашчалі і абгарнуліся трапяткім полымем.

Ісаеў пачаў перамотваць на нагах шэрыя запыленыя абмоткі, звычным жэстам падаткнуў тасёмку пад апошні віток. Барадаты Задора зняў з сябе выцвілую і замурзаную гімнасцёрку, вывернуў яе навыварат і швамі амаль упрытык паднёс да полымя.

— Правільна, — пахваліў Мурашка, — агонь вышкварыць хоць-якую брыду!

— Вышкварыць! — пацвердзіў Цягніградно.

— Вош — сама па сабе сволач, а калі ў рану забярэцца, дык проста бяда. Рана ные так, што спасу няма, — уздыхнуў Задора, прыгадваючы, відаць, свае лагерныя пакуты. Ён таксама трапіў у лагер, але пашчасціла нейкім чынам уцячы.

— Адзёжку не сажгі! — падказаў Пенкін.

Трывожна патухаў касцёр. Трымцела ад начнога холаду лісце бяроз. Неба зацягнула хмарамі.

— А што далей будзем рабіць, таварышы? — зноў азваўся Пенкін, агучваючы тое, пра што думаў кожны.

Некаторыя яшчэ не развіталіся з думкай, што трэба прабірацца да сваіх, даганяць фронт. Некаторых цягнулі сем'і, ды гэта і зразумела: у кожнага былі бацькі, родны куток, дзе іх чакалі, непакоіліся.

Пенкін тлумачыў:

— Калі лінія фронту далёка, а яна ўжо недзе не іначай, як пад Смаленскам, дык сваіх не дагонім, а праціўнік знішчыць нас дзе-небудзь па дарозе. Поле для дзейнасці ёсць і тут, і лясоў многа ёсць дзе схавацца. А праз год вайна закончыцца.

— З такой сілай толькі авечак пасвіць, а не ваяваць, — скептычна азваўся Бокша.

Аднак большасць была на баку Пенкіна.

— Нада заставацца! — чуліся разважлівыя галасы. — А куды ісці? Да нас далучацца іншыя, такіх, як мы, многа! Дыверсіі пачаць. Прыйдуць нашы — спасіба скажуць.

— Вось гэта — другой калянкор! — пажвавеў Пенкін.

— Раз вырашаеце тут заставацца, нада што-та дзелаць! — падтрымаў Пенкіна Калеснікаў. — Пад ляжачы камень і вада не цічот. Скора немцаў пагоняць, а мы, палучаецца, не ў дзел…

— Нельга нам на адным месцы сядзець, трэба рухацца, — па-дзелавому загаманіў Беражняк, прывычным жэстам папраўляючы пілотку.

Недзе ў гушчары азвалася начная птушка.

— Рухацца неабхадзіма, аднака павінна быць база — прадукты ўкрыць і самім схавацца — абачліва ўдакладніў усё той жа Пенкін. — Трэба абсталёўвацца. Месца дыслакацыі трэба апрадзяліць.

Пачулася канкрэтная прапанова:

— Пушча!

Нехта запярэчыў:

— Там ужо ёсць гаспадары — атрад Канцадалава. Парцізаняць…

— Так точна! — пацвердзіў Зіпуноў. — Яны ў западнай частцы пушчы.

— А можа, у бок Камянца падацца? — уступіў у гаворку Мурашка. — Мяста там знаёмыя, да і людзі свае. Лес. Умовы для парцізанкі ўпаўне прыдатныя. Я думаю, можна прадзяржацца…

— Нада падумаць, — падагуліў размову Пенкін. — Галоўнае, што мы астаёмся здзесь. А заўтра прымем рашэнне, што рабіць далей. Спаць, таварышы! Утра вечара мудраней!

Яны зашыліся ў ядловец, у густую папараць і палеглі спаць. У пушчы не пераставала крычаць глухім голасам нейкая начная птушка.

## XV

Назаўтра яны памянялі сваю дыслакацыю, перайшлі ў іншае месца, на поўнач. Ішлі доўга. Пушчанскае ўрочышча, дзе яны цяпер апынуліся, называлася Ласіны Закутак. Побач струменілася рэчка Нараўка — выцякала з балота Дзікі Нікар і ўпадала ў Нараў. Лес тут выглядаў добра-такі забалочаным, але адшукалі выспачку, прыгодную для стаянкі. Вырашылі абсталёўвацца грунтоўна — будаваць зямлянку, бо хутка маглі пачацца замаразкі. Трэба было схаваць людзей ад зімняй сцюжы. Галабурда з Мурашкам, і яшчэ адзін мясцовы — Несцярук, прывезлі падводаю з Камянца (праз падстаўныя асобы купілі ў лаўцы, у якой гандляваў Мірык Пац) неабходны інструмент: некалькі сякер, пілы, пару гэблікаў і іншае.

Апроч таго, Галабурда з Мурашкам падзяліліся цікавай інфармацыяй. Канфедэнцыяльна, каб ніхто не чуў, расказалі Пенкіну пра ўпаўнаважанага НКУСа Афінагенава, які вярнуўся ў Камянец і намякаў, што мае сувязь з людзьмі, якія кіруюць усім супрацівам супраць акупантаў.

— А вы пра нас яму што сказалі? — спытаў Пенкін.

— Нічога.

— Ну, гэта правільна. Паназіраць за ім трэба, удаставерыцца…

Агульная бяда і агульная мэта хутка згуртоўваюць людзей. Гэта можна было бачыць па тым, як яны працавалі. Адны капалі пад зямлянку яму, другія пілавалі сосны, каб выкласці сцены і паслаць столь, трэція іх распілоўвалі. Дрэвы секлі воддаль, счышчалі сукі, дзялілі на бярвенні і сцягвалі сюды, да будаўніцтва. Са свежых смалістых круглякоў капала пахучая празрыстая жывіца. Паміж бярвеннямі клалі мох. Кіраваў работай Пенкін, які меў вопыт службы ў доце і імкнуўся скарыстаць гэты вопыт пры будаўніцтве зямлянкі. Усіх трымаў у полі зроку. Бачыў, як шчыраваў Беражняк. Як шарніры, варушыліся лапаткі на спіне пад узмакрэлай ад поту гімнасцёркай. Яму дапамагаў Дырман, падносячы мох.

Зіпуноў, прытаміўшыся, прысеў на бервяно, зірнуў на свае стаптаныя чаравікі, прыслухаўся. Непадалёку ад людзей, на сасне, дзёўб, апрацоўваў стары, зламаны сук жоўтагаловы дзяцел у чырванаватай шапачцы на самым цемені. Скача, пырхае з сучка на сучок, рассыпаючы навокал звонкі стук, шукае сабе спажывы. «Таксама да зімы рыхтуецца», — стомлена ўздыхнуў Зіпуноў, назіраючы за неспакойнай птушкай. Пенкіну гэта не спадабалася, ён зрабіў заўвагу, падціснуўшы на поясе дзягу і строга зморшчыўшы белыя бровы:

— Ты што, Зіпуноў, баставаць уздумаў?

— Да вот адпачываю, сілоў нет…

— Адпачнём пасля вайны, а цяпер давай работай!

Зіпуноў устаў, атузаў свой караткаваты пашарпаны шынель і далучыўся да астатніх, узяўшыся за сякеру.

Дні за два будаўніцтва было скончана. Упарадкавалі знешні выгляд. Паміж дрэў ледзь віднеўся абкладзены і замаскіраваны дзёрнам накат зямлянкі. Лес паціху церушыў на нізкі яе дах апошняе парудзелае лісце. У самім памяшканні паставілі нары ў два паверхі, стол, склалі такую-сякую печ з каменняў і гліны, дол выслалі яловым лапнікам. Комін выходзіў далёка ў карчы. Нават не комін, а жалезная труба.

— А вось тут, ля дзвярэй не блага было б мурашнік саарудзіць, — падказаў вынаходлівы Галабурда.

— Разумная прапанова! — падтрымаў яго адзін з акружэнцаў па прозвішчы Цягнірадно, які прыбіўся да іх нядаўна. — Ніякі хрэн не здагадаецца, што тут нехта ёсць.

Адшукалі мурашнік і перанеслі яго да дзвярэй, таксама абкладзеных дзёрнам. Побач, паміж кустоў, расла бярозка. Скончыўшы працу, паселі за шырокі, збіты з аполкаў стол.

— Цяпер тут нас ніякі немец не знойдзе! — пажартаваў Дырман, але на яго жарт ніхто не зрэагаваў.

— Цяпер гэта дзела можна перакурыць! — дазволіў Пенкін, які паспеў ужо нават і пагаліцца ля пня, паставіўшы на яго баначку з вадой і аскабалак люстэрка.

— Абмыцца добра было б! — зірнуў на сяброў Беражняк. — Эх, каб лазню!

— Чаго захацеў! — пачуліся насмешлівыя галасы. — Лазню яму! З гарачай парай!

— З бярозавым венікам! Ты ж панімаеш! — рагатаў разам з усімі Ваняёжык. Ваня-ёжык далучыўся да іх нядаўна, паспеўшы ўжо атрымаць такую мянушку. Рудыя нястрыжаныя валасы ў яго на галаве тапырыліся ў розныя бакі. Твар у прышчах-«хацімках». Як гаспадар ні стараўся вывесці іх, тыя не хацелі пакідаць сваёй тэрыторыі. Ваня — сірата-беспрытульнік, звыклы да жыццёвых нягод. Хірлявы з выгляду, але духам не слабы. Сярод партызан ён ачуняў, павесялеў. «Ёжыка» паважалі — ён прынёс з сабой нямецкі аўтамат-«шмайсер» з амаль поўным ражком патронаў і надта шукаў выпадку ўжыць сваю зброю.

Зямлянка аказалася сырой і цёмнай, з цяжкім паветрам. Гэта асабліва стала адчувацца, калі пачалася асенняя непагадзь і задажджыла.

Часта чулася:

— Цёмна, хоць ты ў морду дай!

Са снараднай гільзы змайстравалі лямпу, трэба было яшчэ дастаць газы. Газай дапамаглі разжыцца Галабурда з Мурашкам — праз сваіх знаёмых.

Запасную зямлянку пабудавалі ў полі, на пясчанай, заросшай сасняком касе. Старанна замаскіравалі. Няўжо немцам прыйдзе ў галаву шукаць у полі?

У полі холадна, у лесе крыху цяплей, зацішней. Вецер уладарыў уверсе — нёс плоймы хмар і разгойдваў вершаліны дрэў. Акружэнцы жылі ў першай, лясной, зямлянцы, з якой амаль не выходзілі, каб не прыцягваць лішняй увагі. Па харчы хадзілі Мурашка з Галабурдам і пара чалавек з былых капээзэбаўцаў, якія прыбіліся да гэтай лясной групы таварышаў па няшчасці. Вяртаючыся, часта доўга шукалі свой схоў, настолькі ўдала ён быў замаскіраваны. Дарогу часта падказваў філін-пугач, які жыў паблізу, у якім-небудзь кіламетры ад зямлянкі. Ноччу далёка разносілася яго глухое і працяжнае «у-гу-гу-ууу!...» Хлопцы да яго прывыклі і нават арыентаваліся на яго голас.

Выстаўлялі вартавога, які знаходзіўся непадалёк, стаіўшыся ў кустах, і назіраў за абстаноўкай.

Зарадзіла непагадзь, паліліся дажджы. Надаедлівая імжака даставала да касцей, нямела і дубела ўсё цела. Хмары ўсё больш згушчаліся і чарнелі, і неўзабаве меліся ўжо з’явіцца белыя мухі. Гэта страшыла, бо не было адпаведнага адзення. На акружэнцах большай часткай целагрэйкі ды добра паношаныя шынялькі, якія надта слаба грэлі, і людзі вымушаныя былі — хочаш не хочаш — стаіцца ў сваім падземным жытле і як бы чагосьці чакаць. Палілі печ, нарыхтаваўшы сушняку і накалупаўшы з-пад снегу сасновых шышак, каб менш было дыму.

З кутка, дзе стаяла вядро з вадой і конаўка, чулася: «Сцебень, грэбень, рукаятка!» — гэта Беражняк вучыў навенькіх, як разбіраць і збіраць вінтовачны замок. Беражняк лічыў сябе не па ўзросце сталым і дасведчаным. Навенькія — мясцовыя, былыя капээзэбаўцы Пугач і Калода, не толькі не абстраляныя, а наогул у войску не служылі. Ніякіх рэчаў пры іх не было, не было і зброі. Наконт зброі Пенкін сказаў: «Самім трэба паклапаціцца!» Было ўжо іх разам з мясцовымі шаснаццаць чалавек. Калі сабраліся ўсе і паселі хто за сталом, хто на нарах, Пенкін падышоў да вядра з вадой, што стаяла ў кутку на тоўстым цурбане, зачарпнуў конаўкай, адпіў і абвясціў, паправіўшы на галаве фуражку:

— Ну вот, таварышы, у нас і атрад.

— Малавата яшчэ, — засумняваўся Ісаеў, ніцма прылёгшы на нары.

Цягніradно запярэчыў:

— Многа людзей нам не трэба. Харчоў не настараешся. Паесці адзін раз у дзень — і то колькі трэба!

— І то праўда, — падтрымаў яго барадаты Задора, падціскаючы брызентавую дзягу на худым, запалым жываце.

— Нічога, таварышы, на нашым баку нечаканасць і напор! — напомніў Пенкін, успомніўшы, відаць, даваенную рыторыку.

— Толькі так! — пацвердзіў Калеснікаў.

— Нада выбраць камандзіра! — вёў сваю лінію былы палітрук. — Каго, таварышы?

— Што? — недачуў Сарокін.

— Камандзіра, я кажу, нада выбраць! — павысіў голас Пенкін. — Ты, Сарокін, кантужаны, дык больш уважліва слухай!

— Гэта правільна! — разважна, з націскам, прамовіў Галабурда, маючы на ўвазе прапанову абраць камандзіра. — Старшы і ў пекле ёсць.

— Цябе, Мікалай! — загаварылі ў зямлянцы, маючы на ўвазе Пенкіна, якога звалі па бацьку — Мітрафанавічам.

Аднак Пенкін паводзіў сябе салідна, папраівіў на галаве фуражку, але не стаў спяшацца даваць згоду.

— Камандзіраў заўсёды не хапала, — разважыў ён, як бы думаючы ўслых, — бо некаторыя генералы, нават маршалы на паверку, калі да іх прыгледзеліся, аказаліся ворагамі і здраднікамі. Шукалі ім замену. А кім заменіш? Часта маладых, без вопыту, ставілі палкамі да дывізіямі камандаваць.

Усе ўважліва, стаіўшы дыханне, слухалі, куды хіліць размову Пенкін, але гаворкі пра ворагаў народа ніхто не падтрымаў.

— Дык у цябе, Мікалай Мітрафанавіч, вопыт ёсць, — сказаў Калеснікаў.

— А можа, каго з месных? — адгукнуўся Дырман. — Яны мясцовасць ведаюць.

— Не-е, не-е! — у адзін голас загаманілі тыя — і Галабурда, і Мурашка, і Пугач. — Якія з нас камандзіры? Хай хто іншы! Тут афіцэр патрэбен. Хай афіцэр кіруе!

— Гэта ў мірны час кіруюць, а на вайне камандуюць! — патлумачыў Бокша. — Трэба афіцэр, каб граматна.

Зноў пачулася:

— Мітрафанавіча!

— Давай, Мітрафанавіч! — уключыўся ў размову Ваня-ёжык.

— Ну, ладна! — махнуў рукой у знак згоды Пенкін. — Калі ніхто не супраць, я сагласен. Так і быць, прыму камандаванне.

— Людзі вам давяраюць, — адзначыў Бережняк.

Пенкін зноў паправіў на галаве фуражку.

— Прыступаю ў такім выпадку да прамога выканання сваіх абавязкаў. Давайце, таварышы, назавём наш партызанскі атрад іменем таварыша Тэльмана. Гэта вождзь нямецкага рабочага класа. Вораг у нас і ў Тэльмана адзін — нямецкі фашызм.

Пярэчанняў не было.

— А камісарам каго? — запытаў Пенкін.

— Абыдземся без камісара! — махнуў рукой Калеснікаў. — Сам відзеў, як яны драпалі і партбілеты рвалі.

— Ну, паложым, не ўсе рвалі, — насупіўся Пенкін, але працягваць не стаў, а пачаў на іншую тэму:

— Партызану многае паложана ўмець, таварышы! — энергічна варухнуў галавой камандзір, не звярнуўшы ўвагі на рэпліку падначаленага і як бы непасрэдна прыступіўшы да выканання сваіх абавязкаў. — Партызан, далажу вам, павінен быць растаропны, каб выканаць загад. Трэба ўмець страляць, кінуць гранату, прапаўзці па-пластунску. Патрэбен падрыхтоўчы перыяд, аднак часу ў нас, таварышы, няма.

— Вайна ўсяму навучыць! — пазяхнуў Цягнірадно.

— Нужон парадак ва ўсём! — строга зірнуў на яго камандзір. — І пра страявую выпраўку не забываць! Кагда ідзёце строем, нужна атмашка!

— Якая Машка? — не зразумеў Калода, шморгнуўшы сваім маленькім, як піпка, носам.

Усе засмяяліся.

— Не Машка, а атмашка. Атмашка рук! — зазлаваў Пенкін. — Такія рэчы трэба ведаць. Гэта не жарты.

— Я не ведаю нават, як правільна чэсць аддаць, — сарамліва прызнаўся Калода. Ён меў на ўвазе — «чэсць аддаць» — вайсковае прывітанне.

— Палякі двума пальцамі аддавалі, — пачаў вучыць яго Несцярук, які

служыў у польскай арміі, — а Саветы — усёй рукою! Вось так! — Ён склаў пальцы разам і прыклаў руку да лба.

— Не гэта галоўнае! — умяшаўся Калеснікаў і напомніў: — Пра зброю трэба падумаць!

Пенкін адказаў, адначасова як бы ставячы задачу:

— Будзе і зброя. Аб гэтым павінен падумаць кожны, асабліва той, у каго яе няма.

Паскардзіўся Ісаеў:

— Маразы пачаліся, учора лужыны пазамярзалі, а мы з прыяцелем Зіпуновым па сутнасці босыя, абуўка прыйшла ў нягоднасць.

— Абуем! — паабяцаў камандзір. — Галоўнае, таварышы, дысцыпліна. Без дысцыпліны мы не атрад. Ну і, канешна, бдзіцельнасць. Пра бдзіцельнасць нада помніць. Слова камандзіра — закон. Загады камандзіра выпалняць беспрэкаслоўна.

Нававыбранаму камандзіру нечакана запярэчыў Несцярук:

— Але ж партызан не можа поўнасцю падпарадкаваць сябе камандзіру. На тое ён і партызан. У арміі прасцей — там і сапраўды думаюць за цябе камандзіры, а тут сам думай, што і як, бо і абуцца трэба, і паесці, і немца падстрэліць, і, калі што, ведаць, куды скрыцца. У лесе кожны сам сабе гаспадар, тут у нагу хадзіць не трэба.

Камандзіра аднак рашуча падтрымалі «васточнікі», асабліва Бражняк.

— А вы ведаеце, як па ўставе караецца непадпарадкаванне камандзіру, — накінуўся ён на Несцерука. — Тым больш пры ваенных абстаяцельствах…

— Як?

— Адкуль яму ведаць, — уступіўся за сябра Мурашка, — ён з гражданкі!

— Нічога, у невялікай групе дэмакратыя магчыма, — сказаў, жадаючы прымірыць спрачальнікаў, Калеснікаў. — Партызанка — яна і есць партызанка.

Усе прымоўклі, сцішыліся, думаючы пра тое, што сказаў Калеснікаў.

— Жыццё пакажа, — азваўся Несцярук, — там будзе відаць. Пабачым. Ну, вядома, будзем рабіць як лепш. Партызанка патрабуе ўпорлівых людзей. Тут і сувязныя спатрэбяцца, і ўвогуле свае людзі.

— Пра гэта асобна падумаем, — паабяцаў камандзір.

— Я — пагранічнік, мне, думаю, нада заняцца разведкай, — добраахвотна вызваўся Бражняк.

У рэзкай форме выказаў нязгоду Бокша:

— Якой разведкай?! Тожа мне — героі… граніцу прас…лі, а цяпер ён разведчыкам хоча…

— У повары яго! — насмешліва загудзела грамада.

— Ды вы што? — бараніўся былы пагранічнік. — Ачумелі?

— Не абіжайся, яны жартуюць! — махнуў рукой Калеснікаў і дадаў: — Не люблю пустых разгавораў.

Спрэчку вырашыў камандзір:

— Нет, таварышы, разведку акружаючай мясцовасці трэба правесці. Займіся гэтым, Бражняк!

— Есць, таварыш камандзір!

У зямлянцы было цеснавата і душна. На груба збітым стале цьмяна гарэла лямпа, зробленая з зенітнай гільзы. Пахла печанай бульбай і анучамі, што сушыліся ля печы.

— Але — дзіўная рэч, — парушыў маўчанне Калода, які і сам быў не надта гаваркі, — адзін чалавек ніколі другога і не ведаў, і не бачыў, і не сустракаў.

І вось у першы раз сустрэў і мусіць яго забіць, хоць да гэтага нічога дрэннага яны адзін аднаму і не зрабілі…

— Эх, жызнь наша… — невядома каму жаліўся Задора, які быў пагаліў бараду, а цяпер ізноў адпусціў.

— Гнілая філасофія! — абсек яго Пенкін, які як камандзір дбаў пра баявы настрой падначаленых. — Тут калі не ты яго, дык ён цябе. Трэцяга не дадзена.

— Затое, я думаю, будзе што ўспомніць! — паспрабаваў пажартаваць Мурашка, а заадно і прыглушыць спрэчку.

— Калі жывы застанешся, — крыва пасміхнуўся Задора.

Дырман падтрымаў камандзіра.

— Такія настроі нам ні к чаму, — сказаў ён.

— Ну што, у карцішкі згуляем? — прапанаваў Цягнірадно, каб пераадолець няёмкае маўчанне.

— Давай! — падтрымала яго адразу некалькі галасоў.

Ісаеў дастаў з кішэні калоду пашарпаных карт і стаў іх тасаваць. Да яго падселі Калеснікаў, Галабурда і Ваня-ёжык. Гулялі ў «дурня». Хацелі ў «ачко», але Пенкін запярэчыў: «Не нада ў «ачко»! «Ачко» — азартная ігра!»

Ісаеў паставіў умову:

— Хто прайграў — таму тры пстрычкі па лбе. Прайграў два разы — уступі сваё месца таварышу.

— Не па лбе, а ў лоб! — паправіў яго Ваня-ёжык. — Ты ж панімаеш. «Ты ж панімаеш» — любімая Ваніна прымаўка — прычапілася да яго невядома калі і ад каго.

Першым нечакана прайграў Галабурда, якому і давялося падстаўляць лоб. Білі трое — па адной пстрычцы кожны. Лупілі так, што ад удараў па зямлянцы, па сценах, пайшоў пошчак. Асабліва стараўся сам Ісаеў — пальцы ў яго доўгія і моцныя, і пстрычка па пукатым ілбе Галабурды, відаць было, дастаўляла яе аўтару задавальненне. Камандзір не ўтрымаўся нават ад заўвагі:

— Ты, Ісаеў, масцер шчалбаны даваць! Аднака так і ўбіць можна таварыша. Глядзі! Адказваць прыйдзецца.

— Забіць не заб’е, а розуму пазбавіць можа, — заварушыўся Калода.

Нехта параіў:

— Кінь з імі гуляць, Галабурда! Абгуляюць яны цябе.

Мурашка падбадзёрыў таварыша:

— Пстрычку трэба вярнуць.

Але Галабурда прайграў і ў другі раз, і давялося саступіць месца. Яго замяніў Дырман, які аказаўся гульцом адмысловым. Цяпер не шанцавала Ваньку-ёжыку, у якога ад «шчалбаноў» ажно ўспух лоб. «Ты ж панімаеш!» — круціў ён галавой і цёр далонню пасінелы лоб.

З баявой актыўнасцю яны не спяшаліся. Якая актыўнасць без зброі і без усяго іншага, што для гэтага неабходна. Некалькі разоў выходзілі групамі збіраць зброю. На трыбах і на іншых дарогах валяліся вінтоўкі, патроны, гранаты. Калеснікаў натрапіў на ручны кулямёт сістэмы Дзегцярова з поўным дыскам. Іншыя запасліся вінтоўкамі, гранатамі. Але на ўсіх, вядома, зброі не хапала.

У лістападзе зноў пайшлі дажджы, але неўзабаве спыніліся і змяніліся халадамі. Халады з дня на дзень мацнелі, зямля ўсё больш цвярдзела, і аднойчы, у чарговы раз, яны, прачнуўшыся, убачылі, што ўсё навокал укрыта белым, як дзень, прасцірадлам. Снег у лесе мяккі, пушысты — толькі што выпаў.

— Журавіны знайшоў! — абвясціў Мурашка.

Пасля першых снежаньскіх маразоў журавіны наліліся чыстай і роўнай чырванню. Усе кінуліся разграбаць снег, шукаць гэты прынадны кісласалодкі ласунак. Побыт стамляў сваёй суровай будзённасцю і аднастайнасцю. Некаторыя папрастуджваліся і кашлялі. Людзей даймалі холад і голад, упарта нагадвалі пра сябе патрабаванні гігіены — нават прымітыўнае выкананне ўсіх гэтых патрэб давалася няпроста. Аднак многія ўжо збольшага адаптаваліся да нязвыклых варункаў гэткагаляснога існавання. Раніцай ніхто не спяшаўся злазіць з нар. Але ўвесь час таксама ляжаць надакучыць. Падніміліся — адзін, другі, трэці. З раніцы звычайна пачыналася паляванне на вошы, якія мелі дзіўную ўласцівасць размнажацца ў геаметрычнай прагрэсіі, а можа, яшчэ і хутчэй, акупіруючы і сподняе, і верхняе адзенне і калматае валассё пад партызанскімі шапкамі. Цьмяна, з копаццю, гарэла на стале газніца, выхопліваючы з падземнага сутоння абліччы людзей, якія ўпарта змагаліся з гэтым сваім не менш крыважэрным, чым акупант-немец, ворагам. Даставалі яго з усіх шчылін і швоў і бязлітасна білі. Потым выходзілі наверх, на ветры расціралі рукі і твары, а хто і да пояса, свежым снегам, што выпадаў за ноч. Асабліва стараўся, расціраў снегам твар і шыю Бонк. Яго сустрэлі ў лесе, калі шукалі зброю, узялі да сябе. Да гэтага Бонк жыў у гаспадара, але пакінуў яго з мэтай прабірацца на ўсход. Такім чынам ён апынуўся ў групе Пенкіна. Бонк — адэсіт. Ростам невысокі, блакітнавокі брунет, худы і вельмі порсткі, энергічны ў руках, але мяккі па характары. Ведаў безліч анекдотаў.

— Надта чыста мыешся! — жартаваў, стоячы каля яго, Ваня-ёжык. — Глядзі, каб сарока не ўнясла.

— Не ўнясёт, я цяжолый! — адказваў яму Бонк.

Знаходзіліся такія, што рабілі нават зарадку, махаючы рукамі і прысядаючы. Даводзілі сябе да парадку і стану бадзёрасці.

Галабурда прынёс машынку для стрыжкі валасоў, але яна не вытрымала нагрузкі, ступіліся нажы і лопнула пружына.

Тупаватымі брытвамі счышчалі са шчок шчаціну. Адзін толькі Задора не галіўся, а гадаваў бараду, якая ўжо закрывала яму грудзі.

Палілі печ і варылі бульбу, размочвалі сухары, пяклі праснакі. Лес, як вядома, падвышае апетыт. Паснедаўшы, чысцілі пяском кацялкі і працiралі свежымі хвойнымі галінкамі. Замарыўшы чарвячка, зноў браліся за карты, якія былі ўжо зусім растрапаліся, але Галабурда з Несцеруком прынеслі аднекуль новыя дзве калоды.

Камандзір між тым рабіўся ўсё больш заклапочаным. Бачыў, як людзі, асабліва «васточнікі», цяжка перажывалі адзіноту, адарванасць ад сем’яў, ад родных краёў, родных каранёў. Гэта рабіла іх пасіўнымі, маларухомымі і абыякавымі. Пенкін намагаўся пераадолець гэтую пасіўнасць, клапаціўся пра сваіх байцоў, стараўся падмацаваць воінскі дух, сачыў за іх жыццём і побытам, ведаў настрой.

Трэба было хоць як выдаткаваць накопленую за столькі часу, седзячы ў гэтым затворніцтве, энергію.

«Нешта трэба рабіць! — усё больш пераконваўся Пенкін, які імкнуўся дбаць пра парадак і настрой падначаленых. — Нешта трэба думаць, інакш будзе дрэнна. Людзі, чаго добрага, апусцяцца, забудуць, хто яны, дэмаралізуюцца. Чалавек, што і казаць, да гэтага схільны. Тады — канец...»

## XVI

Аднойчы, у чарговы раз вярнуўшыся з Камянца, праціснуўся ў зямлянку Мурашка. Менавіта яму і яшчэ Галабурду яны былі абавязаны сувяззю са знешнім светам і навінамі пра тое, што дзеецца ў навакольных вёсках, Камянцы, а то і Брэсце. Убачыўшы Мурашку, Пенкін глыбей насунуў на галаву фуражку, і яны разам выйшлі з памяшкання.

Лес стаяў голы і халодны. Белы снежны покрыў, якім ахінуўся дол, рабіў яго празрыстым. За шчокі шчыпаў мароз. Недалёка ўжо было і да завірух.

— Я ў Камянцы чалавека аднаго сустрэў, — далажыў Мурашка. — Афінагенаў — яго прозвішча. Былы адказны работнік раённай пракуратуры. Пра жыццё пытаў. «Не думаеш, — кажа, — у лес падавацца?»

— А ты што?

— Кажу, што не шкодзіла б падумаць.

— А ён?

— Давай, кажа, разам думаць. Калі хочаце, таварыш камандзір, магу вас пазнаёміць.

— Ну, там відаць будзе, — заасцярожнічаў Пенкін і спытаў: — А яшчэ што ён казаў?

— Немцы, кажа, пад Масквой, але Масквы не ўзялі, а Адэсу, кажа, нашы здалі.

Камандзір уздыхнуў.

— Усё?

— Усё.

Яны яшчэ крыху пачакалі, падыхалі марозным паветрам і вярнуліся ў зямлянку.

— Дык вось, таварышы, — Пенкін прапусціў наперад Мурашку і шчыльна зачыніў за сабой дзверы, — Маскву немец не ўзяў! Стаіць Масква, як і стаяла! Ніякім слухам не верце! Хлусня!

Усе павярнуліся ў бок камандзіра, і відаць было, як пасвятлелі і адначасова пастражэлі абліччы. Столь у зямлянцы стала як бы вышэйшай, а вуглы і сцены, здавалася, разышліся ўшыркі.

— А я так і думаў, — сказаў Калеснікаў, — не возьме ён Маскву! Масква ёсць Масква. Сталіца!

Адчувалася, што з ім згодныя і астатнія.

— А заўтра, між іншым, свята! — напомніў Пенкін.

Прысутныя маўчалі, нібы чагосьці чакалі.

— Дзень сталінскай канстытуцыі! — патлумачыў ён. — Такія рэчы трэба помніць. Мы ўсё ж такі сазнацельныя, бальшавікі, так сказаць, нада што-та дзелаць! Пускай людзі думаюць, што савецкая ўласць ёсць, жывая! Масква стаіць, як і стаяла!

— А што? — пачуліся галасы.

— Свята, па законе, трэба адзначыць! — пажвавеў Беражняк.

— Страху на іх трэба нагнаць, каб паважалі хоць трохі, — дадаў Бокша.

— Дык, а што мы можам? — скептычна пацісную плячыма Задора. — Зброі ў нас як кот наплакаў. Ну і патом, няма разведкі…

— Разведка нужна, — згадзіўся нешматслоўны Бонк, і пярэчыць гэтаму не было падстаў.

Пенкін азірнуў прысутных — раз, другі, але ніхто не ведаў, пра што ён думае.

— Сувязь мы ім парушым! — ён паправіў фуражку і энергічна варухнуў галавой. У яго словах пачулася рашучасць і пагроза. — Камунікацыю!

— А гэта — ідэя! — падтрымаў камандзіра Калеснікаў, які ўжо даўно засумаваў ад бяздзейнасці і хацеў нешта рабіць. — Дыверсія! У нашым палажэнні дыверсія — першае дзела.

— Гэта можна, — кінуў з дальняга кутка Ісаеў. — Усё ж такі нейкі ўрон. Нанясём урон!

— Мы той раз, кстаці, калі з Галабурдам камянецкі гасцінец пераходзілі, дык у двух месцах абарвалі дрот, — паведаміў Мурашка. — якраз нізка вісеў.

— Абарваць — абарвалі, а слупы стаяць, — зіркнуў на яго камандзір. — Абарваць — гэта мала. Калі ёсць слупы, дык заўтра на іх зноў дрот павесяць — і вось табе гатовая лінія сувязі. Абарваць — мала. Слупы нада валіць!

З гэтым усе былі згодныя.

— Якраз, я думаю, снег ідзе, — дадаў Мурашка, — прысыпле сляды.

Дзейнічалі, што называецца, пад покрывам ночы. Зямлянку пакінулі, калі сцямнела. Адчулі, як ад зямлі ідзе холад і змрок. Нешырокую Нараўку перайшлі па лёдзе. Ішлі лесам, потым выйшлі на паляну. Хаваючыся ад ветру, паднялі каўняры. Папераздзе, разам з мясцовымі Мурашкам і Несцеруком, ішоў Пенкін. За імі Бережняк, Калеснікаў і іншыя. Пад нагамі рыпеў снег, выпраменьваючы прывіднае святло. Калода пакаўзнуўся і ўпаў, зарыўшыся ў снег. Навокал стрымана зарагаталі.

— Што падаеш — каманды не было, — пажартаваў Галабурда.

— Саблюдаць цішыню! — зрабіў заўвагу камандзір. — Падцягнісь!

Скрозь вецер чуваць было, як хтосьці, прастуджаны, кашляў.

Выйшлі нарэшце з лесу. Адчуванне было такое, быццам выйшлі з роднай хаты. Вецер сек у твар, свістаў па-за вушамі, але холаду ніхто не адчуваў. Панаваў нервовы ўздым. Падышлі да Бабіцкай гары і пачулі, як гудуць на гонкіх слупах уздоўж гасцінца тэлеграфныя правады. З-за прыдарожнага карча, абкладзенага снегам, выскачыў разбуджаны заяц і кінуўся наўцёкі.

— Ну як, паджылкі не трасуцца? — ціха спытаў Пенкін. На яго пытанне ніхто нічога не адказаў. — А гэта што? — камандзір кіўнуў на нерухомую танкетку, што, аблепленая снегам, цямнела пры дарозе.

— Наша танкетка, — патлумачыў Бокша. — Скончылася, відаць, гаручае, дык кінулі…

Побач знаходзілася вёска Ліпна. Родная вёска Мурашкі. Але паказацца перад землякамі ў сваім новым становішчы ён не рызыкнуў. Туды пабеглі за піламі, сякерамі і бусакамі Ваня-ёжык з Зіпуновым і праз якія паўгадзіны прынеслі патрэбныя прычындалы. Адны пілавалі, другія дзейнічалі бусакамі.

— Бусаком — зачапі і рві! — вучыў Пенкін.

Так і рабілі. Звінеў абарваны дрот, з якога густа валіўся на зямлю бухматы іней. Падалі на дол падпіленыя слупы.

Затым паразбівалі шкляныя ізалятары, парвалі рэшткі дроту, якія там-сям яшчэ віселі на ляжачых слупах. І гэтак прайшліся ад Бабіцкай гары амаль да прускаўскіх могілак. Скончылі пад раніцу, калі яшчэ не развіднела.

— Усё! — скамандаваў Пенкін. — Заканчваем аперацыю. Уходзім!

— Стральнуць бы ў какова гада! — са шкадаваннем, што гэта не надарылася, загаманіў Ваня-ёжык, высмаркаўшы нос. — Сядзяць у цяпле. Ты ж панімаеш!

— Вяртаемся на стаянку! — прадубліраваў каманду Беражняк.

Пілы з сякерамі забралі з сабой — у партызанскім побыце спатрэбяцца. Бусакі кінулі на месцы.

— У нашай справе важна ў нужны момант уцячы, — як бы самому сабе сказаў Галабурда, адчуўшы стомленасць, — а то зусім замудохаўся!

— Ну вось, не так страшна, як здавалася, — павесялеў Зіпуноў.

На падыходзе да базы пачулася гучнае «гу-гу-гу-гуу…» Гэта падказваў дарогу і віншаваў з вяртаннем сусед — філін-пугач.

Абышлося без страт, але адна непрыемнасць была — Калода абмарозіў ногі, ажно пабялелі ступні, і давялося адціраць іх снегам.

* * *

На свеце вайна, а ў Прусцы, яшчэ з восені, музыкі. І не толькі ў Прусцы, а літаральна па ўсіх навакольных вёсках. Гуляла моладзь. Гуляла як апантаная, як перад канцом свету, і адкуль толькі браліся энергія і жаданне! Музыкі і танцы, музыкі і танцы. Цела і дух патрабавалі разгарнення, траты лішкаў назапашаных маладых сіл…

Запрацавалі, у карчах і па хатах, самагонныя апараты. Улады гэтага, вядома, не дазвалялі, але за ўсімі не ўсочыш. Хвалямі палілася, запенілася самагонка, зачасцілі бойкі і панажоўшчына на музыках, вяселлях і фэстах. Трагічна скончылася адно вяселле ў Любашках (гэта кіламетраў дзесяць ад Прускі): забілі дзевятнаццацігадовага Лукашовага Алёшу з Пакупчыкаў. Не забілі нават, а зарэзалі. Пагасілі лямпу, усчаўся гвалт, усе кінуліся ў дзверы, а калі святло запалілі зноў, Алёша ляжаў на падлозе пасярод хаты ў лужыне крыві. Здарылася гэта, магчыма, як казалі потым, на глебе заляцанняў: вечная праблема — нашто ты ходзіш да нашых дзяўчат? Алёшу пахавалі, надта ўсе яго шкадавалі. На помніку прыбіты горам Лукаш напісаў:

***В память дорогому сыну***
***Алексею Лукичу Шевчуку***
***погибши иза любви***
***на 20 г. жизни 1941 г.***

Але справа — лічылі некаторыя, больш дасведчаныя, — была не толькі ў саперніцтве. Вядома, моладзь ёсць моладзь, і прырода патрабуе свайго, аднак на гульбу і бесшабашнасць штурхалі, мабыць, і самі абставіны, адчуванне няпэўнасці чалавечага існавання. Сёння жывеш, а заўтра — хто яго ведае. І арыштаваць могуць, і забіць, і павезці куды-небудзь далёка. Ужо хадзілі чуткі аб прымусовых наборах моладзі ў Германію. Меліся браць і маладых, і не надта маладых — з 1905 па 1920 гады нараджэння. У Прусцы, на дошцы аб’яў ужо каторы дзень бялеў лісток паперы. Напісана было па-руску:

***Рабочие! Работницы!***

*Германский вермахт освободил вас от террора Сталина и большевистско-еврейских комиссаров. Ваши фабрики разрушены большевиками там, где они смогли их разрушить, уничтожено продовольствие. Ваши дома и квартиры сожжены, большевики отняли у вас основы вашей жизни.*

*Германия может и хочет помочь вам!*

*В Германии вы получите работу и хлеб, мы гарантируем вам порядочное, справедливое и человечное обращение, если вы будете прилежно и усердно работать и безупречно вести себя. Поэтому следуйте нашим нижеследующим призывам:*

*1. Соблюдать нравы и обычаи немцев.*

*2. Находите полное взаимопонимание с мероприятиями немецких учреждений и руководителем предприятия. Этим самым вы завоюете доверие вашего начальства и сами облегчите себе пребывание в Германии.*

*3. Будьте довольны тем, что предлагает вам Германия. С доверием обращайтесь со своими пожеланиями к своим начальникам. Они помогут вам с добрыми намерениями.*

*4. Выполняйте свою работу с охотой, будьте пунктуальными и усердными, и тогда Германия будет защищать вас, как своих помощников. Как вы будете вести себя, так будут обращаться и с вами.*

*5. Вы должны быть прилежными, если хотите, чтобы немцы уважали вас.*

*6. Германия — страна порядка, чистоты и аккуратности, поэтому привыкайте к немецкому порядку, следите за своей чистотой и здоровьем.*

*7. Сохраняйте спокойствие, избегайте споров и конфликтов. Выполняйте указания начальника вашего лагеря.*

*8. Немецкая женщина, немецкая девушка находятся под защитой германского закона об отношениях к иностранцам. Они для вас неприкосновенны.*

*9. Никогда не забывайте, что идет война, и с учетом трудностей военного времени предъявляйте свои претензии…*

Паперу падпісаў нейкі Ф. Заукель. Побач стаяла дата: «1 октября 1941 г.».

Аб’ява палохала, і прускаўцы стараліся не глядзець у той бок. Грымоты з палёў вайны даходзілі сюды слаба, але страх станавіўся пануючым чалавечым комплексам, і натуральна, што чалавек нейкім чынам імкнуўся яго пераадолець.

На гэты раз наладзілі забаву ў крайняй хаце — у Цімошы Хлябіча, у якога малодшая дачка Параска была ўжо на выданні. Іграў Уладзімер з Бабіч на амерыканскім гармоніку, аздобленым карункамі з каляровага перламутру. За вечар меў паўмяшка жыта ды яшчэ і чарку з закускай. Гукі музыкі чуліся здалёк. Дапамагаючы гармоніку, бадзёра выбіваў бубен. У вокны заглядалі прускаўскія жанчыны, абмяркоўваючы, хто як апрануты і з кім танцуе, спраўна лускалі семкі, выплёўваючы на дол шалупінне.

Сам Цімоша за ўсім назіраў з кухні — курыў і паглядаў праз расчыненыя дзверы. А паглядзець ёсць на што. Хвацка і апантана, нібы нават з нейкім адчаем, скакаў акружэнец Санька. Хлопец паздаравеў, увайшоў у ранейшую сілу. Дапамагаў Лявону малаціць збожжа. Разам веялі і ссыпалі ў мяшкі. Санька браў падпахі мяшок з намалочаным жытам і без намаганняў нёс. На гэты раз танцаваў, як ён сам казаў, «рускага» — гэтак называўся танец, надта папулярны ў Сібіры. Плаўна вадзіў у паветры рукамі, лоўка паварочваўся ўсёй сваёй ладнай постаццю і прытопваў. Час ад часу падымаў калена, пляскаў пад ім далонямі і нешта падпяваў. Пару яму склаў такі ж, як і ён, акружэнец Пятро Мачалаў, які прыйшоў ажно са Свішчова, каб наведаць сябра, перамовіцца словам. Яго танец складаўся з нечаканых і не вельмі прыстойных рухаў. Каб быць заўважаным, трэба ж чымсьці вылучыцца. Нехта казаў, што ён сын

кулака, сасланага на поўнач, у Котлас. Адзін і другі ўжо ўвайшлі ў давер да мясцовага насельніцтва, сябравалі з моладдзю, выбавіліся, словам, са стану прыгнечанасці. З імі быў яшчэ і трэці, таксама акружэнец, — Віцька-масквіч. Жыў ён у Бранавічах — у Габрыля Шчура. Ачухаўшыся, пачалі заглядацца на дзяўчат. Мясцовыя захапляліся іхнім спрытам і майстэрствам. Хлопцы добра спявалі, ведалі шмат анекдотаў, а Віцька ўмеў яшчэ і гаўкаць па-сабачы — не адрозніш.

— Дайце круг! Дайце круг! — гаманілі навокал.

— Цётко Хрысія, святла дабаўце! — папрасіў Болік Латушка.

— Дзе ж я таго святла набяруся, — незадаволена бубніла гаспадыня, — газы няма.

— Хрысан дасць!

— Усім дае! Дае, ды не хапае.

Тут жа знаходзіўся і Косця, адпачываў пасля перажытага, моўчкі бавіў час з моладдзю.

Калі Санька з Пятром стаміліся танцаваць свайго «рускага», музыкант зайграў мясцовую польку. Польку танцавалі ўсе. Віхурацца на дзяўчатах святочныя сукенкі, а ў хлопцаў, што лоўка ўтрымліваюць іх гнуткія постаці, ажно іскрацца вочы.

На забаву з'явіўся Стах — Ляվараў сын. Жыў разам з бацькам і братам Эндрыкам у былым маёнтку паноў Падгурскіх. Лявар — цяперашні ўпраўляючы маёнткам — далёкі родзіч Падгурскіх, да вайны, да верасня 1939 года, ён не раз прыязджаў сюды на паляванне. Па натуры гэта быў надта неўраўнаважаны чалавек. Пра яго казалі, што ён, захапіўшыся матэматыкай, звар'яцеў, лячыўся ў варшаўскай псіхіятрычнай клініцы, але нешта слаба паправіўся. Нешта ненармальнае было і ў сына Стаха — нейкая інфантыльнасць і недаразвітасць. Знешне паказваў на асілка: высокі і моцны, як дуб, і вельмі дужы. Пастушкі, бывала, і на плечы да яго ўзбяруцца, і на галаву, і на шыю пачэпяцца, а дваіх ён яшчэ і пад пахаю трымае — і нічога! Усіх нясе ад двара да вёскі. Бацька і брат Эндрык, калі ўгледзяць, крычаць і адганяюць хамаватых пастушкоў, а дзівак рагоча, яму хоць бы што. Усіх здзіўляла Стахава нейкая паталагічная ленасць. На двор ні днём, ні ноччу ён не выходзіў; калі трэба было аблегчыць мачавы пузыр, для гэтага ў яго была даволі доўгая і шырокая руля, якую ён прасоўваў на вуліцу праз дзірку пад акном і такім чынам спраўляў патрэбу.

На музыкі Стах прыходзіў, але ў танцах удзелу не прымаў і да дзяўчат не заляцаўся. У адрозненне ад прускаўскіх хлапцоў, якія прыкметна гарнуліся да дзяўчат, стараліся абняць, а то і паваліць на падушку. Не дзіва. Многія з іх былі ўжо даспелыя дзецюкі. Гэта і Болік Латушка, і Коля Швед, і Валодзя Хлябіч, і Жэнік Гальяш, і Пахолкаў Жэнік, і яшчэ, і яшчэ. Маладое пакаленне мясцовай «кавалеркі». Пад'ехалі на «роварах» хлопцы з Бучамля, з Пакупчыкаў, — Коля Цыцка з таварышамі. Некаторыя, адчувалася, былі на падпітку ды яшчэ і грудзі аблілі гарэлкай. Няблага апранутыя, на нагах — хромавыя боты з апушчанымі гармонікам халявамі.

Заходзілі на ігрышчы і жанатыя: Сяргей Сталетнік, Мікіта Галёнка, Васіль Платонаў (на гэты раз яго не было — паехаў у пушчу на нарыхтоўку лесу), Ахрэм Чапёрка і іншыя. Польку не прапускалі. Актыўна паводзілі яны сябе і на гэты раз.

— Польку! — гукнуў Чапёрка. — Толькі з бубнам!

Сяргей Сталетнік, на правах старшага, падаваў каманды: «Полька справа!» або «Полька злева!», — у які бок крутнуцца. У вачах мігцелі іскрынкі нахрап-

лівасці, ён надта ціснуўся да партнёршы, забыўшы пра сваю Лізку. Бубен біў з нейкім асаблівым шалам, нібы падбухторваў на нешта недазволенае.

— О, які цваны! — смяялася Сонька Давыдзюкова, з якой ён танцаваў. Дзяўчына танцавала лёгка, нібы лётаючы ў паветры, знізу паддуваў вецер, узнімаючы сукенку вышэй каленяў.

— А што?

— Нахабнік!

— А я бачу, што табе падабаецца…

— Ой!

— Смачная ты, як капуста ў канцы кастрычніка.

Нейкі хлопец з Бучамля спрабаваў пазнаёміцца з партнёршай, якую запрасіў на танец:

— Чыя ты?

— Маміна доня, — гарэзліва адказвала дзяўчына.

Коля Цыцка — стары, яшчэ польскі, як тут казалі, кавалер, інвалід, хадзіў на мыліцах. Правая нага ў яго нашмат карацейшая за левую — не ратаваў нават высокі абцас у чаравіку. Левая нага — нармальная, ёю ён і круціў педаль жаночага ровара з нізкай рамай. Зрэдзь танцаваў, старанна падскокваючы каля партнёршы на адной назе і збольшага на партнёршу і абапіраючыся. Іграў на музыках часам і сам, на гармоніку: полька, вальс, кракавяк, падэспань, — мог выдаць хвацкую прыпеўку. І цяпер, седзячы пры сцяне на лаўцы, час ад часу зухавата падпяваў:

Ой, мілашка мая,
Каб цябе халерыя,
Колькі мыла не купляў,
А ты ўсё карэлая-я!

Запляскала ў далоні Амелія — спадабалася, відаць, дасціпнай здалася прыпеўка. Амелія звычайна не прапускала вясковыя ігрышчы (зрэшты, як і хрысціны, вяселлі і пахаванні) і заўсёды на іх з’яўлялася. Як і ў царкву. Апошнім часам яна стала асабліва набожнай. Жыла ціха, варажыла вяскоўцам на картах, займалася кравецтвам. Да людзей аднак жанчыну цягнула. Яна і цяпер сядзела на лаўцы ля парога ў напятай на плечы і грудзі шэрай коўдры і ў капялюшыку са штучнымі папяровымі кветкамі. На руках былі надзетыя нейкія адмысловыя пальчаткі, бо пальцы пры гэтым заставаліся голымі. Час ад часу яна выкрыквала «Брава!» і какетліва пляскага ў далоні. Аднак, відаць, успомніўшы пра сваю набожнасць, сказала:

— Танцуюць, а таго не ведаюць, што цар Ірад калісьці праз тыя танцы адсек Іаану Хрысціцелю галаву…

Гармонік аж скручваўся ад натугі, саплі мяхі і стагналі басы, а ногі танцораў без стомы шоргалі па падлозе і прытопвалі. Кружачыся, падалы дзявочых спадніц узнімаліся ўверх, паказваючы карункі на кужэльных сарочках і стройныя лыткі прыгажунь. Уладзімер іграў і іграў, здавалася, што канца гэтаму гранню не будзе, але нарэшце музыка скончылася, змоўк гармонік, а пасля двух тактаў аціх і бубен. Разышліся на адпачынак танцоры і танцоркі, стомлена абмахваючыся хусцінкамі. Асядаў пыл, што туманам клубіўся па падлозе. Уладзімер таксама зашпіліў раменьчык на гармоніку, паставіў інструмент на ўслон і выйшаў пакурыць.

Гурт дзяўчат сабраўся ў кутку, яны нешта абмяркоўвалі і смяяліся, ні на кога не звяртаючы ўвагі, быццам апроч іх нікога ў хаце не было. Грамчэй за ўсіх смяялася Шведава Манька.

— Гэта яна хлопца да сябе падзывае, хлопца хоча, — сказаў Пятро Мачалаў, выціраючы ўспацелы лоб. — Ну, не дзеўка, а цукерка.

Санька прамаўчаў, нічога яму не адказаў, ён пазнаёміўся ўжо з Манькай, яна яму падабалася. Ён здалёк заўважаў жарынкі ў яе вачах. Дзяўчына зарумянілася і пачырванела ад шпаркай полькі.

— Поўная і гарачая, як печка, — дадаў Пятро.

Што разгарачаная пасля танца, дык гэта было відаць, але ж не поўная, а хутчэй стройная, зграбная. І — што асабліва падабалася сібіраку — «курносенькая», як ён казаў. Ён любіў курносых. А вочы цёмныя, як чарніцы, дужкі броваў — тонкія, на шчоках ямачкі. Доўгія чорныя вейкі падкрэслівалі белізну твару. На высокіх грудзях ляжала тоўстая дзявочая каса. Усё гэта само па сабе, паасобку, можа і не было такім ужо прынадным і дасканалым, але разам, адно пры адным, глядзелася добра і нават прыгожа. І галоўнае — што «курносенькая».

«Напасць, насланнё нейкае, — думаў Санька, пазіраючы на дзяўчыну, — бываюць жа такія прыгожыя!»

Мачалаў пацягнуў на вуліцу, яны выйшлі на свежае паветра, сталі ля плота, закурылі. Пад нагамі рыпеў снег. Бялелі ў сутонні снежныя сумёты. Падышоў Віцька-масквіч, спыніўся, абапёршыся на плот. Гаркавата запахла дымком самакрутак, ззаду чулася гамана. Яны адышліся ўбок, крыху патапталіся і, не змаўляючыся, павярнуліся туды, дзе знаходзіўся ўсход, дзе была радзіма. Злева, уверсе, вісеў ёмісты коўш Вялікай Мядзведзіцы, а на ўсходзе ззяла далёкае сузор’е Арыёна, і ад яго цадзілася на зямлю, на марозны снег, слабое, амаль нямоглае, серабрыста-блакітнае святло. У тым баку была радзіма, і яна вабіла і цягнула да сябе, не выходзіла з думак. Гэтае сваё сённяшняе становішча і прытулак яны, вядома, лічылі часовымі і востра спадзяваліся на перамены да лепшага, на скарэйшае вяртанне фронту.

— А ў мяне непрыемнасці, — пачаў Пятро, абапёршыся бокам на плот.

— Што такое?

— Хазяіна цэпам агрэў.

— ?

— Малацілі. Прыйшла зіма, панімаеш, пачалі рож малаціць. Хазяін цэп узяў і мне даў. Малоцім. Гадзіну малоцім, другую. Ну, у мяне цэп пачаў зрывацца. Махну, а ён зрываецца і ўверх ляціць. Відаць, прытаміўся я. Махну, а ён — уверх і падае. Хазяін мне выгавар зрабіў: «Што-та ў цябе не надта атрымліваецца», — кажа. Я маўчу. А потым ён сарваўся з палкі і грымнуў хазяіна па галаве.

— Ну, ты даёш!

— А што ж такога?

— Эх, ты! Дык ён прагнаць цябе можа.

— Я ж нечаяна, несумысля! Усякае можа здарыцца! Апроч таго, ён надта прагны, а я ўсё ж такі бясплатны работнік.

Далей Пятро перайшоў на больш сцішаную гаворку.

— Чулі, што гавораць? Кажуць, што і Масква ўзята…

— Прапаганда! — абурыўся Віцька, голас яго ажно закіпеў. — Я не веру, што фашыст Маскву ўзяў. Ды нават калі і так, дык што з таго? Напалеон таксама ўзяў, а што атрымалася? Далі па гарбе! Варону з’еў!

Пятро зноў загаманіў, перайшоўшы амаль на шэпт:

— Слыхалі?

— Што?

— Парцізаны аб’явіліся. У Белавежскай пушчы. Канцадалаў з таварышамі, у лясу сядзяць, а к лету, кажуць, парцізаніць збіраюцца. У гэтых мястах…

— Дык гэта нашы! — устрапянуўся Віцька.

— Да, відаць, нашы, — варухнуў галавой Пятро. — Хто ж яшчэ!

— Акружэнцы!

— Дык, можа, і нам да іх прыстаць?

— Нада падумаць, — падтрымаў Віцька.

Але Санька на гэты конт быў іншай думкі.

— Я, калі і пайду, дык за лінію фронту. А парцізаны — што! Якая з іх у сушнасці можа быць карысць?

— Ну, не скажы! — не згадзіўся Пятро. — У тылу таксама ёсць дзе развярнуцца: дарогі, камунікацыі, базы. Тут дзела можна дзелаць, па дзераўнях такіх, як мы, шмат. Палавіна арміі!

— Не знаю, — адказаў сябар, — невядома, як яно будзе.

— Ты, Растатуеў, слухай мяня. Як старшага па званію. Я ўсё ж такі памкамузвода…

— Памкамузвода без узвода.

— Нічога, усё яшчэ наперадзе.

— Сагласен. Я пажартаваў.

Хоць і маладыя, гарачыя, а змерзлі, пакуль стаялі на марозе ля гэтага абледзянелага плота, і пара было вяртацца ў хату, адкуль праз вокны чулася вясёлая музыка. Пятро ўздыхнуў і сказаў, што пойдзе ўжо дадому, «к хазяіну». Гэта значыць, у Свішчова, кіламетраў восем ісці. Віцька быў такой жа думкі, трэба было ісці.

Да іх падышоў Косця, які ў хаце забаўляўся з моладдзю, нешта хацеў сказаць, але акружэнцам пара было вяртацца дадому, да гаспадароў.

Яны развіталіся. Пятро пайшоў «к хазяіну», да дзядзькі Хведара, у Свішчова, і Віцька-масквіч падаўся ў Бранавічы, таксама «к хазяіну», Санька ж вярнуўся на забаву. Адразу адчуў адсутнасць сяброў, і стала сумна. Ён любіў іх, любіў жарты і быў цярплівы да дробных заўваг і пярэчанняў.

На музыкі з’явіўся, шырока расчыніўшы дзверы, солтыс Хрысан.

— Здарова, кавалерка! — гукнуў з парога.

— Здарова! — пачуліся ў адказ нястройныя галасы.

Пачыналася чарговая полька, ужо круціліся, набіраючы імпэту, першыя пары, і на солтыса ніхто не звярнуў асаблівай увагі. Хрысан сеў побач з Уладзімерам, не зняўшы шапкі. У постаці і паводзінах Хрысана ўжо даўно, з таго часу, як ён стаў солтысам, назіраліся прыкметныя змены: чалавек на вачах станавіўся іншым, не такім, як усе. Калі ішоў па вуліцы, дык быццам плыў у паветры, ледзь кранаючыся ботамі долу. Да гэтага, здавалася, чалавек быў як чалавек: ветлівы, зычлівы, просты. Але, стаўшы начальнікам, змяніўся непазнавальна, над усімі ўзнёсся і чужой думкі для яго не існавала. Размаўляў усё адно як камандаваў.

Калі танец нарэшце скончыўся і ўсталявалася адносная цішыня, солтыс сказаў:

— Гуляйце, хлопцы, а то хутка ў Германію ехаць, там не пагуляеш!

— А чаго я не бачыў у той Германіі? — засмяяўся крыху захмялелы Коля Швед.

— Бачыў ці не бачыў — пра гэта пытацца не будуць. Давядуць план, і паедзеш, як міленькі. Рэйху трэба рабочая сіла. Фабрыкаў там шмат, і баўэрам дапамагчы трэба. Гаспадарка ў баўэра вялікая, як у Пацаў.

Уладзімер адклаў гармонік і разам з усімі засяроджана слухаў, што распавядаў солтыс. А той працягваў:

— Васіль Платонаў у пушчу паехаў на вывазку лесу. Трыццаць кубоў! Гэта не жартачкі, гэта не мала. Не тое, што на пошце паперкі перакладаць, але ў мяне ўсе аднолькавыя, бо я справядлівы. Паедуць і іншыя, па чарзе!

— А што там, пад Масквой? — пасмялеў Сяргей Сталетнік. — Ці ўзялі хаця Маскву?

Гэта было нязручнае для Хрысана пытанне, таму што невядома было, што ж адбываецца там, пад Масквой, і ён адказаў на яго так, як інструктаваў аберперакладчык Мандрашчак:

— Пачакай, возьмуць! Усяму свой час.

— Рускі мароз, відаць, дапякае! — увярнуў рэпліку Санька.

Хрысан пакалупаў пальцам у носе і са злосцю паглядзеў у яго бок.

— А што цяперашнія газеты пішуць? — спытаў нехта з «кавалеркі».

— А я іх не чытаю, а нашто? Я іх на цыгарэты пускаю, тыцюн загортваю. Навіны я і без газет ведаю, — насупіўшыся, адказаў солтыс.

— Усё можа быць, — прамовіў Мілецій, невядома што маючы на ўвазе.

Разыходзіліся толькі недзе апоўначы. Некаторыя з хлопцаў праводзілі дзяўчат. Іскрыўся ў месячным святле снег. Як прывіды, стаялі заінелыя дрэвы. Пасля цёплай хаты адчуваўся холад, цела праймалі дрыжыкі.

— Ноччу будзе мароз! — запэўніў Сяргей Сталетнік, выйшаўшы разам з усімі. На дварэ, ля веснічак, яго сустрэла жонка і павяла дадому.

Санька праводзіў Шведаву Маньку, якая ішла ў дзявочым гурце і каля сваёй хаты прыпынілася.

— Ты тут жывеш? — пачаў ён размову.

— Тут, а дзе ж яшчэ.

— Мяне завуць Санька.

— А мяне — Манька, — у рыфму і крыху гарэзліва адказала дзяўчына і засмяялася.

Яму захацелася абняць яе, гэткую «курносенькую», пацалаваць, удыхнуць пах дзявочага цела, але Манька і не думала спыняцца, адразу пайшла дахаты, не звярнуўшы на яго ўвагі. Пазнаёміліся, маўляў, і гэтага на першы раз хопіць. Ён пачуў, як яна ўзнялася на ганак і, бразнуўшы клямкай, адчыніла, а потым зачыніла за сабой дзверы. Яму таксама нічога іншага не заставалася, як падавацца дадому, на начлег. «Але, — думаў ён па дарозе, — ці маю я права на дзяўчыну? Я ж палонны, акружэнец. Як бы непаўнадзейны. Гэта ж не тое, што да вайны. Тады пра нас, ваенных, песні спявалі…»

***Працяг будзе.***



## Уладзімір МАЗГО

### БЕЛАРУСКІ НАПАЛЕОН

З паўзабытай мінуўшчыны ён
Нам адкрыўся,
як воблік на фрэсцы.
Беларускі Напалеон
Паланіў нашы прагныя сэрцы.

Адрадзіў людзям памятку дзён
Непаўторных,
што гукі ці фарбы.
Беларускі Напалеон
Нам вярнуў старадаўнія скарбы.

Патрыётам радзімы здавён
Пачуваўся і шчодра,
і горда
Беларускі Напалеон
З дзіўным імем
і прозвішчам Орда.

---

***Мазго Уладзімір Мінавіч*** *нарадзіўся 5 сакавіка 1959 года ў гарадскім пасёлку Зэльва Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1985). Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў карэспандэнтам у шматтыражцы «Інтэграл», загадчыкам рэдакцыі ў выдавецтве «Юнацтва», вядучым рэдактарам у «Мастацкай літаратуры», намеснікам галоўнага рэдактара ў часопісе «Вясёлка». Цяпер — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя.*

*Аўтар кніг паэзіі «Пад спеў крыніц» (1982), «Вершаліна» (1987), «Марафон» (1992), «Анёл нябесны» (2007), «Сакавіны» (2012), а таксама кніг для дзяцей «Калі спрачаюцца маланкі» (1989), «Суседзі па сусвеце» (1994), «Смехапад» (1999), «Прыгоды марахода» (2002), «Цуда-вуда» (2008), «Таямнічая планета» (2008), «Лепшыя сябры» (2012) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры (2005), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2008).*

Ён пакінуў свой оперны плён
У Парыжы
і ў пушчах галёкаў.
Беларускі Напалеон
Да палескіх вярнуўся вытокаў.

Захапіў нашы сэрцы ў палон,
Бо прыйшоў,
калі шчыра прызнацца,
Беларускі Напалеон
Не з мячом,
а з высокім мастацтвам.

## ЗГАДКА ПРА ВІЛЬНЮ

Не зачыняйце дзверы шчыльна,
Хай памяць выслізне туды,
Дзе нас чакае горад Вільня —
Узнёслы,
светлы,
залаты...

Навошта выдумкі і гульні —
Падзелы душ,
падзелы рэк, —
Калі гісторыяй агульнай
Мы паяднаныя навек.

Нямала часу праляцела,
Але і сёння нам баліць,
Што ўсе мінулыя падзелы
Хацелі сэрцы падзяліць.

А ў Вільні Колас і Купала
Шукалі еднасці найперш,
Дзе «Наша ніва» акрыляла
І вольны дух,
і мужны верш.

Глядзім у далі часу пільна
І бачым прашчураў сляды,
Дзе нас чакае горад Вільня —
Узнёслы,
светлы,
малады...

## ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА

Ад мора да мора
(Грызі краязнаўства!)
Сягала прастора
Вялікага Княства.

Яднала хаўрусам
І рэкі, і гоні,
Каб жыць беларусам
У цэнтры ягоным.

На грам памыліцца
Не можа здагадка:
Вірыла сталіца
Між сцен Наваградка.

Шукалі спакон мы
Да шчасця маршруты,
Пісалі законы,
Прымалі Статуты,

Давалі у свеце
Бой рознай навале.
Таму нас суседзі
Спрадвек шанавалі.

Успыхне яскрава
У памяці панства
Забытая слава
Вялікага Княства.

## АДНАЎЛЕННЕ

Аднаўляем замкі,
Паясы.
Аднаўляем храмы,
Абразы.

Аднаўляем —
Значыць, адмаўляем
Раўнадушша
Перад родным краем.

Аднаўляем мы
Святыняў многа
І вяртаем людзям
Веру ў Бога.

Можа,
Гэта вечнае з’яўленне —
Аднаўленне —
Свету абнаўленне.

## У ДЗЯРЭЧЫНЕ

*Памяці П. М. Марціноўскага*

Нібыта сад,
Узорнае
Звісае неба зорнае
Лагодным
Летнім вечарам
Над сцішаным
Дзярэчынам.

Пах яблынь
Хмеліць соладка.
А поўня
Ззяе золатам,
Як скарб
Князёў Сапегаў.
І нават
Зорка Вега
Падміргвае па-змоўніцку
Чароўнай суразмоўніцай.

Над садам
Знічка падае,
Маленькая гарэзніца,
І нашы сэрцы
Радуе:
Што загадалі —
Здзейсніцца!..

## СУСТРЭЧА Ў СМОЛЬНІ

Іх звёў лёс агульны,
                    супольны,
Дзе дрэмлюць гаі і бары,
Купала і Колас у Смольні
Сустрэлі зару
              як сябры.

А сведкамі помнай сустрэчы,
Напэўна,
         міжволі былі
І зорны над Нёманам вечар,
І хвалі,
       што ў вечнасць плылі.

Не ведаю толькі,
                 хто першы,
Паклаўшы свой аркуш на стол,
Чытаў палымяныя вершы,
Што свет асвятлялі наўкол.

А час бег імклівы,
няўмольны.
І золак світаў за акном.
Купала і Колас у Смольні
Сусвет расчынілі,
як дом.

## КУТОК ПЕСНЯРА

Аблокі паволі плывуць,
Як хвалі ракі, на Альбуць.

Акінчыцы, Смольня, Ласток —
Ягонай крыніцы выток,

Куток дарагі песняра,
Жыцця залатая пара,

Дзе колас наліты саспеў
І льецца бурштынавы спеў.

## ДНІ

Жыццё чаргуе перамены:
Пахмурны дзень
І дзень праменны,
Спякотны дзень
І дзень вільготны,
Вятрысты дзень
І дзень лагодны...

І дням удзячны
Ты за тое,
Што йдуць
Няспыннай чарадою.

## У НЯБЁСАХ ВЯСНЫ

Нам прырода
Падорыць правы
Дакрануцца
Душой да травы,

Акунуцца
У хвалі лісця,
Захлынуцца
Вiном пачуцця —

Там, дзе радасць
Звiнiць жаўруком,

Там, дзе шчасце
П'яніць раўчуком,

Дзе растануць,
Як воблакі, сны
У бяздонных нябёсах
Вясны.

## ПТУШКА АКАЛЬЦАВАНАЯ

Ах, птушка акальцаваная,
Ты, ветрам зацалаваная,
Спяшаеш дадому з выраю,
Чаруючы песняй шчыраю.

Чакае гняздзечка роднае,
Таму вышыня зваротная
Здаецца табе няспыннаю
Над мілай тваёй краінаю.

Ах, птушка акальцаваная,
Ты, ветрам зацалаваная,
Ідзеш на пасадку з радасцю,
Натхняючы нас упартасцю.

Навокал — усё знаёмае.
Ускрыкнула птушка:
«Дома я !..»
Аж сэрцайка страпянулася,
Як птушка дамоў вярнулася.

## ГЛЫБОЦКІ ВЕРШ

*Алесю Жыгунову*

Паэт, на дзіва дальназоркі,
Нібы зярняты, сее зоркі,

Начныя высі засявае
Па-над сваім Глыбоцкім краем,

Каб ранкам зорныя зярняты
(О гэты радасны занятак! )

Пераўвасобіліся ў вершы,
Якія ён пачуе першы.

Паэт, высокі, яснавокі,
Жыве ў глыбінцы — у Глыбокім

І кут свой любіць нездарма:
Глыбей, чым тут, любві няма.



Мікола ЧАРНЯЎСКІ

# БОСАЯ КАВАЛЕРЫЯ

*Аповесць*

## АД АЎТАРА

*Не ведаю, як каму з людзей майго веку, а мне асабіста не-не дый хочацца задаць самому сабе даволі шчымліва-настальгічнае пытанне: «Калі б вярнуцца я ў маленства мог, што ў росах босымі нагамі адмільгала, за вёскай знічкай жнівеньскай прапала, што я зрабіў бы?..» А задаўшыся пытаннем, задумацца: што адказаць, якім яно ўявіцца, гэта вяртанне?*

*Першую спробу вярнуцца ў маленства я зрабіў не цяпер, калі пераступіў ужо не адзін жыццёвы парог, а даўным-даўно, калі не паспеў яшчэ добра адысціся ад школьнага парога, калі не трэба было асабліва напружваць памяць, каб нешта прыгадаць, падзяліцца пражытым, не такім яшчэ багатым, але такім патаемным, сваім.*

*З'яўленне аповесці «Бегунок пачынае думаць», прызнаюся, стала нечаканым для мяне, як для аўтара. Я не чакаў, што яна гэтак нязмушана-лёгка, на адным дыханні, будзе напісана, хутка ўбачыць свет. Мабыць, сапраўды гэтаму паспрыяла тое, што яшчэ свежымі былі ўспаміны пра школу, пра ўсе перыпетыі, звязаныя з вучобай. А можа, тут не абышлося без натхнення?*

*Як бы там ні было, а гісторыі з жыцця шасцікласніка Міці Бегунка, часам вясёлыя, а часцей — не зусім, нечым кранулі, заінтрыгавалі школьнікаў. Кніжка не затрымлівалася ў бібліятэках, яе крадком чыталі нават на ўроках той жа матэматыкі. «Хлопчык з "камчаткі"», як ахрысцілі*

---

*__Чарняўскі Мікалай Мікалаевіч__ нарадзіўся 16 студзеня 1943 года ў вёсцы Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1966). Працаваў у рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі», на Беларускім радыё, у часопісах «Бярозка» і «Вясёлка».*

*Піша для дзяцей і дарослых. Аўтар зборнікаў лірыкі, сатыры і гумару: «Чалавечнасць» (1971), «Трывога» (1988), «Лёкса ў люксе» (1993), «У трох соснах» (1996), «Сонечны кошык» (2009) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра (1995), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2001), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2010).*

*майго героя ў друку, знайшоў сабе сяброў у многіх кутках Беларусі, з часам перабраўся са старонак кніжкі ў школьныя чытанкі. Мне ж у лістах і пры сустрэчах чытачы задавалі пытанні: што стала з Бегунком, куды яму можна напісаць, ці будзе працяг? Аднак, як бачым, цуду не адбылося: Бегунок назаўсёды застаўся такім, як у аповесці, такім, якім вырашыў я праз цэлага паўстагоддзя прывесці яго на сустрэчу з вамі, сённяшнімі хлопчыкамі і дзяўчаткамі, з чытачамі нашага веку. Прадчуваю, што ён можа здацца вам да смешнага наіўным, як цяпер кажуць, «зацыкленым», нібыта насельнікам нейкай іншай планеты. Такімі ж могуць падацца і астатнія персанажы аповесці — яго сябры, аднакласнікі, школьнікі таго далёкага ад вас часу. Аднак не сумнявайцеся ў адным — у праўдзівасці падзей і тых прыгод, што адбываліся з Бегунком і яго сябрамі, паверце. Калі не яму, выдумшчыку і няўдачніку паняволі, дык мне, яго «хроснаму бацьку».*

*Прыход на працу ў часопіс «Бярозка», рэдакцыйны дэфіцыт на творы працоўна-школьнай тэматыкі, неўзабаве падштурхнулі мяне зноў азірнуцца на сваё не такое ўжо далёкае маленства і ўзяцца за працу над новай аповесцю. Застаючыся ў рэдакцыі, пісаў яе прыхапкамі, з перапынкамі, хоць сюжэт ужо быў, здавалася б, «раскладзены па палічках». Але чым далей паглыбляўся ў напісанае, чым бліжэй бачылася развязка, тым часцей пачало закрадвацца сумненне: ці зацікавіць каго з дзяцей расказаная мною (няхай сабе і прыгодніцка-дэтэктыўная!) гісторыя, ці не «аброс барадою» сюжэт, што лёг у аснову твора? Тады ўжо не было такога, каб абганялі калгасную бульбу на конях. Акучвалі, нават садзілі яе з дапамогай новай тэхнікі, якая прыйшла да вяскоўцаў. І на сенажацях ужо, вуркочучы, гаспадарылі трактаракасілкі і копакідальнікі, пасабляючы калгаснікам убіраць і стагаваць сена, салому. А коні... Коні ледзь не ўсюды пайшлі на звод. Стала болей вольнага часу ў вясковай дзятвы. Гойсай па вуліцы, каб сумна не было, шукай, чым заняцца, калі ёсць ахвота... Паддаўшыся такому настрою, не дужа вясёламу роздуму, я, трохі пашкадаваўшы, паклаў папку з няскончанай аповесцю ў шуфляду, а потым — і далей ад пісьмовага стала. І, як высветлілася, на дзясяткі гадоў...*

*Што ж прымусіла выцягнуць «Босую кавалерыю» на свет, вярнуць яе з «палону забыцця»?*

*Вельмі часта на літаратурных сустрэчах у школах і бібліятэках чытачы цікавяцца: чым захапляўся ў дзяцінстве, як вучыўся, як жылося тады, з кім сябраваў? Расказваю, а сам заўважаю — дзіўна ім: не было ў мяне мабільніка, як у іх цяпер, не бачыў у вочы ні тэлевізара, ні камп'ютара. Такі цуд і прысніцца не мог. Тады нават радыё і электрычнасці ў нашай вёсцы не было: урокі вечарамі рабіў пры падслепаватым святле газоўкі. А кніжкі, здаралася, па два-тры разы перачытваў: беднай была школьная бібліятэка. Як жа тут не здзіўляцца? Суцэльны сум, а не жыццё! Выдумка гэта ўсё, няйначай! Што там чытачы, калі родныя ўнукі паверыць не могуць: «Не выдумляй, дзед, такога не магло быць».*

*Як і ўсе дзеці, мы таксама былі розныя, кожны са сваімі «выбрыкамі»: крыўдзіліся, сварыліся, а нярэдка — біліся, і ў той жа час, як гэта*

*бывае ў дзяцей, хутка забываліся на крыўды, мірыліся, трымаліся разам, сябравалі. Праўда, здараліся гэтыя сутычкі часцей за ўсё з-за коней (каму не хацелася перахапіць і забрытаць болей спраўнага, ходкага!), з-за патронаў, мін ды гранат, штыкоў ды вінтовак, што знаходзілі ў незарослых яшчэ акопах, на ўзлесках і ў балотцах. Знаходкі тайком перахоўвалі адзін ад аднаго, стараліся выгадна абмяняць іх: хто на акраец хлеба, хто на салдацкі рамень з выбітай зоркай на спражцы, хто на ножык-складанчык ці на кішэнны ліхтарык, што былі мараю для нас, падшыванцаў. Такі ў нас быў тады «бізнес». Нярэдка ён заканчваўся слёзна: тая ж салдацкая папруга праходзіла «абкатку» на тваёй жа спіне, бо падобныя тайны і небяспечны «гандаль» не выклікалі пахвалы ў бацькоў...*

*Магчыма, нехта недаўменна пацісне плячыма: «Знайшлі з-за чаго сварыцца, чаму радавацца? Ножык, ліхтарык... Што ў іх асаблівага? Гэта ж не мой круты мабільнік, не мой новенькі ноўтбук!» Што праўда, то праўда. Але ж бывае і ў зайца радасць, а ў нас, пасляваенных, яе, мабыць, не болей было. Ды ўсё ж была, была яна, радасць! І шчасце было, бо шчасце гэта — само дзяцінства. Бо яно бывае толькі раз у жыцці кожнага чалавека, у розныя часіны, нават у галечу, холад і голад, па-свойму вясёлае і непаўторнае. І калі б мне раптам прапанавалі памяняць яго на нечае з вашых, я не згадзіўся б, бо яно — маё, поўнае сваёй рамантыкі і чароўнасці, любасці і захаплення.*

*Паразважаўшы гэтак, у рэшце рэшт набраўся цярплівасці, перагледзеў пажаўцелы ад часу рукапіс, крышку падправіў, дапісаў заключныя раздзелы, і... Што атрымалася — мяркаваць не мне. Адно магу сказаць, падсумоўваючы гэтыя развагі: «Я ўдзячны памяці, што гэта ў ёй збярог, і сэрцу, што ўспаміны саграваіа».*

*Каб ніхто не падумаў, што аповесці «Бегунок пачынае думаць» і «Босая кавалерыя», навеяныя ўспамінамі пра сваё басаногае дзяцінства, поўнасцю аўтабіяграфічныя, спісаныя з самога сябе, скажу адразу: не! Гэтыя творы — пра той час, у які я жыў і вучыўся, пра хлопцаў-равеснікаў майго пакалення і толькі трошкі — пра сябе. Ну не трошкі, а можа, на крышачку болей, бліжэй да палавіны...*

***Пачынаецца там радзіма,***
***Дзе маленства прайшлі гады.***
Эдуард ЗУБРЫЦКІ

## Буланчык, Тэкля і... наравісты Стась

Бралася на золак.

Ад навіслых пасмаў туману слаўся сівы паўзмрок. Пасівелаю здавалася і трава. Буйныя кроплі расы стараліся прыгнуць яе да зямлі, але яна непаслухмяна ўпіралася, выпроствалася нават тады, калі хлопцы наступалі на яе азалела-босымі нагамі, вызваляючы ад цяжкіх кропляў. І толькі цёмна-зялёныя праталінкі слядоў, сагрэтыя ступнямі ног, роўным ланцужком слаліся ўслед за імі.

Звякалі жалезнымі цуглямі аброці. Недзе ў далечыні, напэўна, на раз’ездзе каля Вуглоў ускрыквала і натужна пыхкала «кукушка»: відаць, старэнькі паравоз пасля змушанага прыпынку кратаўся з месца, каб узяць ранейшы разгон.

Летнія туманы не дужа густыя, ды ўсё ж хлопцы не маглі сарыентавацца, ці далёка адышлі ад Падліпак. І калі дыхнула балотнай сырасцю — здагадаліся, што наблізіліся да Выгара. Значыць, вузкакалейка ўжо недалёка. А там — і выган. Коней яны яшчэ не бачылі ў тумане, але па іх фырканні і тупаце спутаных ног адчувалі — блізка. Ужо чуваць было, як гарцалі яны, грукаючы капытамі па збітым пагорку.

— Дакуль яны іх будуць пасвіць тут? — парушыў маўчанне Васіль. — Не выпас, а голы бубен. Ці не ад самай вясны на адным і тым жа месцы марнуюць, перагнаць куды далей не могуць... Няхай трава хоць трохі б адрасла... Потым зноў сюды перагналі б, калі ўжо так упадабалася круціцца бліжэй да балотца і да хаты... Пехам жа не ходзяць, усё роўна з начлегу на конях прыязджаюць...

Яны — гэта калгасныя конюхі Ларывон і Захар. Ларывона яшчэ між сабою дзятва Храпкам звала. Невядома за што, але звала. Можа, учапіліся хлопцы за выслоўе, пачутае аднойчы ад Ларывона, калі ён памагаў ім злавіць наравістую Галачку.

— Не слухаецца — бяры за морду і бі па храпе, — падказаў ён тады хлопцам.

З таго дня гэта мянушка быццам той клешч прыліпла да рухава-няўседлівага Ларывона, прыжылася за ім. Нават той-сёй з дарослых дзядзькоў не баяўся пакарыстацца ёю. Праўда, злосным на коней Ларывон бывае рэдка. Каму-каму, а хлопцам гэта вядома. Паспрабуй праедзь на рабочым кані ў галоп — пачуеш, як пуга свішча каля вушэй, паспытаеш мокрай сырыцы. Калі, дальбожа, зробіш такі грэх, то лепш не паказвайся на выпасе. Перадавай Гнядка ці Сымона таварышу, хай ён спутае, а сам смалі дадому ці чакай сяброў у кусціках каля Выгара.

— Я сёння Буланчыка бяру, — пачаў Стась Свірыдчык. — Ніхто не супроць?..

Васіль ведаў, чаму ўсе хлопцы палююць на Буланчыка. На ім і ў галоп можна прамчацца, ды і баразною лепш за ўсіх коней ходзіць. На ім дагэтуль працаваў Васіль. Сам брыгадзір Хвядос Панасавіч дазволіў. Мусіць, бачыў, як ён ставіўся да коней, не ганяў іх так, як іншыя. Бульбу абганяў спакойна, акуратна, не панукаў, не шлёгаў лейцамі ды пугай залішне. Трэба прызнаць,

што спакой гэты і няспешнасць часта абуралі хлопцаў. Ён ніколі не паспяваў за імі. Калі хлопцы абгоняць пяць-шэсць баразён, то ён — толькі тры-чатыры. Нават Славік злаваў за такую маруднасць ды няўпраўнасць. Бывала, што хлопцы бралі загоны, і кожны абганяў толькі свой, адмераны загон. Апошнім часцей за ўсё ўпраўляўся Васіль. Было неяк сорамна і крыўдна, назіраючы за таварышамі, якія, пакінуўшы ў барознах плужкі-акучнікі, узбівалі пыл ужо недзе каля вёскі, гонячы коней на брыгадны двор, каб здаць збрую ў кладоўку і падзівіць смелай яздой дзяўчынак і бабуль на лавачках каля хат. Цяплей і радасней станавілася тады, калі бачыў, як адставаў ад усіх Славік, прыпыняў Каштана і чакаў яго.

— Эх ты, няўдаліца! — сустракаў ён Васіля. — Корпаешся там, як муха ў смале. Часцей падганяй Буланчыка, не бойся. Ён добра цягне. Яго ж, я чуў, разам з Сымонам з арміі ўзялі. Думаеш, чаму ён добра ў баразне ходзіць, бегае, слухаецца? Прывучаны. У вайскоўцаў парадак свой, дысцыпліна там… Ну, варушы Буланчыка, паехалі. Хлопцы нас пачакаюць ля кладоўкі...

І так бывала часта…

Васіль прывык да Буланчыка, яго толькі і ведаў добра ў калгасным табуне. Наогул, коней ён слаба разбіраў па мянушках, за што і лічыўся няўдаліцаю. І цяпер, калі даведаўся пра намер Стася Свірыдчыка, то не рашуча, але настойліва запратэставаў:

— А чаму ты? Мне ж брыгадзір даручыў яго. Хіба слова Хвядоса Панасавіча табе не ўказ?

— Даручыў, даручыў... — перадражніў Васіля Стась. — Хто ён мне, твой Хвядос Панасавіч? Знайшоў указчыка! Вазьму — і ўсё. А ты на маёй Тэклі папрацуй, пахадзі за плужком...

— Дык яна ж не горай за Буланчыка ў баразне ходзіць, — падтрымаў сябра Славік.

— Няхай сабе ходзіць. Затое на ёй галопам ніколі ў смак не праедзеш.. Толькі трушком. Старая... І холка выпірае стаўбуном... Едзеш, як на граблях...

«Ты думаеш, я не ведаю, чаму табе захацелася заўладаць Буланчыкам? Не дам — і ўсё! — рашуча падумаў Васіль і чамусьці міжволі ўздыхнуў: — Але ж як яму не дасі? Першы схопіць — і свішчы яму ўслед… Што ж рабіць»?

У гэту хвіліну Васілю было шкада рахманага Буланчыка так, як ніколі раней.

— Глядзі, будзеш каяцца, калі ад Ларывона пугі перападзе, — спрабаваў угаманіць задзірыстага прыяцеля Славік. — Толькі ўгледзіць, што праедзеш, як той шыбенік, — сцеражыся!

— Не ўгледзіць. Абы толькі вы самі не плявузгнулі, — самаўпэўнена адказаў Стась. — Што, ён за кожным ходзіць, за кожным сочыць?..

— Ладна, рабі, як хочаш, — згадзіўся нарэшце Славік. — А ты, Вася, — звярнуўся ён пасля да сябра, — вазьмі пакуль што Тэклю. А там будзе відаць... Хіба не бачыш, ён жа наравісты ў нас, як тая Галачка... Ці не так, Стась?

Хлопцы зарагаталі, а Стась з выглядам пакрыўджанага толькі засоп унурана і, бразнуўшы аброццю, рушыў праз увесь табун да Буланчыка.

Адшукаўшы кожны свайго, хлопцы хуценька распуталі коней, уздзелі аброці. Першым справіўся з гэтым Стась. Ён прыкметна павесялелы і задаволены сядзеў на Буланчыку і дробненька паляпваў яго па шорсткай і ўскудлачанай грыве:

— Эх, і пракачу ж я на табе сёння!.. Як Чапаеў у тым кіно!..

Буланчык, відаць, не разумеў ягонай радасці і пяшчоты, бо толькі касавурыўся, стрыг адным вухам і зырыў на босыя ногі свайго седака. Мусіць,

мерыўся цапнуць зубамі. Такая звычка была ў яго. Яздок, пэўна, сам здагадаўся пра гэта і, не чакаючы, пакуль той здзейсніць свой намер, тузануў за павады аброці, цмокнуў губамі, і конь, падпарадкаваўшыся загаду гаспадара, з месца рушыў дробнай рыссю, пачаў аддаляцца.

— Ты куды? — закрычалі хлопцы ўслед Стасю. — Давай коней ад насыпу адгонім, каб які на рэйкі не ўзбіўся, пад паравоз не трапіў. — І, ляскаючы размяклымі ў расе пугамі, пачалі збіраць коней у табун. Павярнуўшы Буланчыка, да іх неахвотна далучыўся і Стась.

Па збрую да кладоўкі Васіль пад’ехаў самы апошні. Хвядос Панасавіч, як ён любіў гаварыць, ужо абслужыў хлопцаў і, трымаючы хамут у руцэ, нецярпліва чакаў астатняга.

— Ты заснуў там ці што? Жывей варушыся! — пачуў Васіль крыху незадаволены прыглушаны бас брыгадзіра і тузануў повад. Кабыла прыбавіла хады. І, прыкмеціўшы ў брыгадзіравых руках хамут, прыпынілася каля яго, як укапаная.

— От разумная жывёліна, — не стрываў, ужо болей лагодна прабурчаў Хвядос. — Знае, што хамут для яе прызначаны, і не баіцца, не ўцякае. Сама галаву падстаўляе — надзявай, калі трэба. Прывыкла ўжо да ўсяго, бедалага.

Ён сам уздзеў на яе шыю хамут, паглядзеў, ці не падціскае дзе, засупоніў. Потым дадаў, звяртаючыся да Васіля:

— Глядзі, не ганяй дужа.

— Хэ, — адгукнуўся насмешліва Стась. — Хоць бы і хацеў падагнаць Тэклю, дык не пабяжыць, не разгоніцца. Ледзьве ногі перастаўляе. Чуваць нават, як косці барабаняць. — І заліўся рогатам: — Га-га-га.

— Ты мне зубы не скаль, як салапяка той, — зазлаваў Хвядос Панасавіч. — Не знаеш нічога, падшыванец гэтакі, а яшчэ...

— А што? — адразу ж перамяніўся Стась.

— Нічога, — буркнуў брыгадзір, рыпнуўшы пратэзам скалечанай нагі, якую ў час блакады пасекла асколкамі варожай міны. — Калі-небудзь раскажу… Яна ж у партызанскай разведцы служыла, людзей з бою выносіла, ад смерці ратавала... А ты — Тэкля, Тэкля... Ёй не ў плуг ды калёсы ўпрагацца, а ў спецыяльнай канюшні свой век дажываць... Нашы коні амаль усе на фронце, як салдаты, пораху панюхалі, ад вайскоўцаў нам дасталіся. Каб не яны, хто б нашу зямельку пасля вайны ўзараў, жытам ды бульбачкай засеяў, памог убраць і на склад ды ў хаты прывезці?.. Не хапае ў нас трактароў і тэхнікі ўсялякай, дык і ім няма калі адпачываць, па лугах-мурагах разгульваць... І вам — таксама. Усенькія канікулы дома не стыкаецеся, работай заняты, працадні зарабляеце. Хочаце знаць, колькі ўжо зарабілі на бульбе? — Ён адвярнуўся, згроб рукою добра-такі зашмальцаваную палявую сумку, дастаў з яе такі ж зношаны сшытак, разгарнуў яго, прабег вачыма, ткнуў пальцам у адну са старонак. — Та-ак... Роўненька па трыццаць працадзён на брата прыходзіцца... Глядзіш, да восені і ўся сотня набярэцца. Добрая помач у хату будзе...

— А што нам дадуць за іх? — неяк скептычна прыжмурыўся Стась. — Можа, грошы?

— Як і ўсім калгаснікам, што-небудзь ды дадуць. Але спачатку трэба ўсё да каліва сабраць, што пасеялі. Восень пакажа, колькі каму збожжа на хлеб адсыпаць. Галоўнае, вы не дарма яго есці будзеце... Правільна я кажу?..

Раз’язджаліся з двара кожны пры сваіх думках. Васіля не пакідала крыўда на Стася. «Упёр у рукі Тэклю, няхай сабе і геройскую кабылу, і яшчэ пасміхаецца, як з дурня. Век бы я табе Буланчыка не аддаў, каб мне таварышам не даводзіўся. Неахвота з-за дробязі задзірацца, у спрэчку лезці», — думаў

Васіль пад мерны хлюпат капытоў па мяккім шэрым пыле вясковай вуліцы.

Над хатамі віліся дымкі. Нібыта пераклікаліся між сабою, гарлапанілі пеўні. І гэта ўсё міжволі супакойвала, адганяла некуды ў далеч нядобрыя думкі, запаўняла яго хлапечую душу невядомай дагэтуль вусцішнасцю і цеплынёй.

## Схватка

Авадні і сляпні не давалі коням спакою. Яны роем кружыліся вакол прытомленых плужкамі і сонцам коней, прыліпалі да іх спацелых бакоў. Было яшчэ далекавата да поўдня, дзесьці каля адзінаццаці гадзін, і таму хлопцы не дужа спяшаліся распрагацца. Заставаўся не такі ўжо вялікі загон бульбы. Нібы змовіўшыся, яны падганялі сябе жаданнем абавязкова сёння скончыць усё, прагнаць апошнюю баразну.

Хлапечая задума і настойлівасць, відаць, не дужа падабаліся жывёлінам. Яны ўсё часцей і часцей тропалі нагамі, са свістам рассякалі паветра змакрэлыя ад поту хвасты. Славік ішоў першым. Ён раз-пораз нокаў на свайго Каштана, ляпаў лейцамі, быццам памагаў яму аваднёў зганяць. Гэтае нясцерпна мляўкае паветра і мройлівую цішыню толькі разразаў пагрозлівы голас разгарачанага Стася.

— Но, воўк цябе рэж! — час ад часу выкрыкваў ён, махаючы над галавой пугай, і прыпалоханы Буланчык ажно выцягваўся ў пастронках, ішоў у баразне подбегам. Калі ж прыставаў трохі — у паветры зноў сыкала пуга, прыстаючы да змакрэлага конскага хрыбетніка, да рэбраў, якія ад натугі выпіралі ўверх, паласацілі бакі.

— Ды годзе табе сцябаць яго! — не вытрымаў нарэшце Славік. — Самога б хоць раз… — Ён не дагаварыў. Скончылася баразна і трэба было заносіць плужок на другую.

— А я ж не цябе сцёбаю! — агрызнуўся Стась. — Ды што вы ўсё з Васілём насядаеце на мяне?! Хіба я вам ката здохлага ў калодзеж укінуў ці што? На тое ён — конь, каб яго пугай падганялі. А сёння тым болей. Управімся з бульбаю, а там... — І ён яшчэ больш энергічна замахаў пугаю над Буланчыкам.

— Ды перастань ты, Стась, дурачыцца, — адгукнуўся ўжо і Федзя Сакольчык, які ішоў перадапошнім. — Ці ж сам не бачыш?.. Ды ты пагляздзі толькі ўслед за сабой.... Не баразна, а крывуліна нейкая. Плужок раз за разам выскоквае... А з бульбяніка што застаецца?..

Аднак Стась і выгляду не падаў, не азірнуўся нават, а яшчэ мацней занокаў, абганяючы на добры дзясятак крокаў Славіка. І раптам Буланчык стаў, як укапаны. Ён цяжка дыхаў і матляў галавой. Бакі яго то высока ўздымаліся, то апускаліся. Стась асатанела тузаў за лейцы, сек яго пугай, але той тупаў на адным месцы, цярпліва падстаўляючы свой зад пад канец пугі.

— Но-о-о! Н-н-н-о-о, падла! — аж вар'яцеў Стась.

І Славік не вытрымаў. Ён вырваў з яго рук пугу, падставіў калена — і толькі пачуўся трэск дубовага пугаўя.

— Вось, трымай... — неяк пагрозліва-ціха вымавіў ён, кінуў пугаўё яму пад ногі і шпарка пашыбаваў да сваёй баразны.

Ад злосці Стась раптам заплакаў, схапіў абломак пугаўя і кінуўся ўслед за ім.

— Славік, глядзі! — крыкнуў наўздагон Федзя, намотваючы лейцы на ручку плужка.

Але Славік, быццам спінаю адчуў пагоню, без гэтага папярэджання ўжо стаяў напагатове са сваёю пугай:

— Толькі паспрабуй!

— А што!.. А што!.. Я табе пакажу!.. Не ты мне рабіў пугаўё... — праз слёзы, як заведзены, упарта цвярдзіў Стась, бегаючы вакол Славіка, які стараўся не падпусціць яго да сябе.

Раззлаваны і зняважаны да самых слёз, Стась нарэшце крута прыпыніўся і шпурнуў у Славіка пугаўё. Той неяк стуліўся, выставіў наперад абедзве рукі, засланяючы твар. А Стась у гэты момант рынуўся на яго.

Удару Славік не пачуў. Ён толькі адчуў, як Стась раз’юшана пачаў тузаць яго за грудзі:

— Я т-табе пакажу! Я т-табе пакажу! — паўтараў ён. — Ніхто цябе не прасіў, не лезь, куды не просяць!..

Васіль у сваім жыцці яшчэ ніколі ні з кім не біўся. Ні на вуліцы, ні ў школе, ні дома. Проста ён не мог уявіць сябе ў такой сітуацыі. «На вайне толькі біцца можна, — неаднойчы думаў ён, сустракаючы Стася ці так каго з хлопцаў з разбітым носам ці абадранай губой. — А так, ні з таго ні з сяго распачынаць бойку — сорамна неяк. І баліць жа, напэўна, моцна».

І цяпер ён стаяў у нерашучасці, назіраючы за валтузнёй Славіка і Стася.

Убачыўшы, як усе астатнія сарваліся са сваіх месцаў, Васіль таксама падбег да разгарачаных сяброў і неяк няўмела пачаў разводзіць іх. Але хлопцы так увайшлі ў азарт, што нават не зважалі на яго дарэмныя намаганні. Нарэшце іх разнялі, як пеўняў.

Стась стаяў чырвоны ад злосці і гарачыні, часта шморгаў носам, выплёўваючы з рота зямлю, якая так непрыкметна набілася туды, патрэсквала на зубах. Тое ж самае рабіў і Славік.

— Думаеш, табе ўсё пройдзе? — гугнявіў Стась, шукаючы вачыма абломкі свайго пугаўя. Васіль заўважыў гэта, першым падняў яго і, размахнуўшыся, шпурнуў далей ад месца сутычкі. Ён думаў, што Стась зноў наважыцца накінуцца з ім на Славіка ці так на каго з хлопцаў.

— І табе таксама перападзе, не думай... — не мог суняцца той. Але цяпер гэта пагроза была выказана ў адрас Васіля.

— Пакуль мне, дык табе хутчэй, — неяк абыякава і цвёрда вымавіў Васіль і пакрочыў да сваёй баразны, дзе нізка апусціўшы галаву, старалася скубнуць хоць шматок зялёнага зелля няспешлівая Тэкля, напэўна, як і ўсе астатнія коні, радуючыся такому неспадзяванаму перадыху.

— От жа дурні! Столькі бульбы вытаўклі, — не ўтрымаўся самы маладзейшы ў іх брыгадзе Толя Шаплыка. — І было б з-за чаго!

Яго рэпліка была сустрэта агульным маўчаннем.

— Прагонім барозны да канца ды будзем распрагацца, — ні то сабе, ні то ўсім сказаў Славік і тузануў Каштана за аброць. Той, нібыта зразумеў яго словы і даволі шпарка падыбаў баразною.

Коней яны папуталі непадалёк адсюль, у алешніку. Там спакайней будзе. Закінуўшы аброці на плечы, хлопцы моўчкі тупалі палявой сцежкаю, што ледзь прыкметна вілася да самае вёскі. Гэтая не такая ўжо доўгая дарога цяпер здавалася ім нейкаю ж занадта доўгаю, калі не бясконцаю. Раней за ажыўленай гаворкай яна міналася вельмі хутка, непрыкметна. А цяпер хлопцы маўчалі. Кожны быў заняты сваімі думкамі. Славік быў сярод іх самы старэйшы, і таму разважаць стараўся ён трохі па-даросламу.

Славік: «Дазнаюцца ў вёсцы, сораму не абярэшся. Скажуць, такі бальшун, а да меншых біцца лезе. Хоць не я палез, а ён. А матка ж яго ўсё перайначыць.

Такая ўжо натура ў яе... Як на ліха, у Стася сіняк пад левым вокам ускочыў, а ў мяне — ніводнай драпінкі... Няўдала выйшла... Няхай бы і ў мяне хоць які гузачок застаўся... Ат, глупства усё гэта! Стась сам век нікому не прызнаецца, а хлопцам скажу, каб маўчалі…»

Васіль: «А бойка, відаць, з-за мяне выйшла. Стась, мусіць, знарок ганяў Буланчыка, гэтым самым хацеў мне дапячы, паказаць, што нікога з нас не баіцца. Але Славік першым не вытрымаў... А я вытрымаў бы, ці не?.. Відаць, не... А можа?..»

Стась: «Не было б іх, пабачыў бы ты, што выйшла б... Думаеш, калі на год старэйшы за мяне, дык ужо і герой... Хоць я і шчуплы на выгляд, але не ўступіў бы табе, камандзір смаркаты!.. А што матцы сказаць, як убачыць, што такі запэцканы ды мурзаты абедаць прыехаў?»

Федзя: «Вось табе і схадзілі ў Лозаўскі лес, паглядзелі месца бою партызан з карнікамі... Цяпер пакуль паміракацца — дык і лета пройдзе… А ў Стася ж компас ёсць, новенькі. Брат з горада прыёз…»

Толя: «Сёння мама ў райцэнтр збіралася ехаць, падручнікі ды сшыткі загадзя закупіць... А можа, якую-небудзь новую кніжку пачытаць прывязе?.. Эх, каб «Ніколі не забудзем» удалося ёй купіць! Хлопцам не даў бы пачытаць, пакуль не памірыліся б!»

Гэтак яны думалі пад бразгат аброцяў, якія пагойдваліся ад хады на спінах, нібы падганялі іх.

## Брыгадны семінар

Як ні стараліся хлопцы, клін, можа, на ўвесь гектар, як прыкінуў Славік, усё ж такі застаўся.

— Плужкі тут пакінем? — павярнуўся да Славіка Васіль.

— Прыйдзецца, мусіць, — пачуў ён у адказ. — Заўтра прыедзем і да абеду разгонім усё.

— Канечне, трэба тут іх пакінуць, — кіўнуў Федзя ў бок плужкоў, рухава змотваючы лейцы. — Заўтра можна будзе і трохі пазней паспаць, не хапацца з усходам сонца.

Усе яны стараліся неяк развеяць тую гнятлівую маўклівасць, што дагэтуль апаноўвала іх. Проста не хацелася ўспамінаць і думаць пра ўсё, што адбылося на гэтым полі паўдня назад. Ды і бойка гэтая не такая, каб магла перашкодзіць іх дружбе. Сябруюць жа яны даўно. З самага пачатку канікул — на бульбе разам увіхаюцца. За месяц у два сляды паспелі абагнаць. Заўтра ўжо і канец рабоце гэтай. Сюды яны вернуцца, можа, толькі ў верасні, калі школьнікаў будуць пасылаць на копку бульбы. Іх кожную восень пасылаюць на падмогу калгаснікам. І бульбу капаць, і лён з каноплямі рваць, і тытунь ссякаць, вазіць на прасушку...

Адзін Стась адмоўчваўся. Не тузаўся, не гарачыўся, як было да абеду. Толькі ваўкавата зіркаў на ўсіх.

Сонца садзілася ўсё ніжэй, і толькі яго малінава-чырвоны шар вісеў над асмужанай сцяною далёкага лесу. Шэравата-барвовыя пасмы лёгкіх аблачын усё шчыльней і шчыльней аплялі гэты пахаладзелы шар, клалі на яго свой адбітак. Сонца ўжо нібы гублялася ў калматых абдымках захмуранага небасхілу, і летні змрок паволі насоўваўся на павільгатнелае наваколле.

Коні ступалі мернаю хадой. Лёгкі халадок кранаў хлопцаў за босыя ногі, і яны іх шчыльна тулілі да цёплых конскіх жыватоў. Ніхто з іх не спяшаўся

на калгасны двор. Проста хацелася адпачыць пасля дзённай спёкі, якая добра-такі ўходала і коней, і іх саміх. Паветра патыхала настоем пылу і палявых траў. Хлопцы ехалі і чулі, як дзесьці касцы мянташылі косы, рыкалі каровы.

— Відаць, заўтра пасля абеду Хвядос Панасавіч загадае на сенакос выбірацца, — распачаў гаворку Толя. — Па-мойму, лепей за гэту няма ніводнай работы на свеце. — І летуценна прымоўк.

— Як для каго, — неяк абыякава буркнуў урэшце Стась. — Табе наогул можна ў хаце сядзець. Маці настаўніцаю, грошы добрыя зарабляе. Я б на тваім месцы — і не падумаў бы. Хіба вам грошай не хапае?

— А ідзі ты... к чорту! — зачырванеўся, быццам ад празмернага загару, заўсёды ўраўнаважаны Толя. — Табе скажы што, дык ты пачынаеш выдумляць усялякае, усіх на свой капыл мерць бярэшся... Мне мама сказала, што працуюць не толькі з-за грошай...

— Не з-за грошай, дык з-за сенакосу, — перабіў яго, яхідна пасміхаючыся, Стась.

— А вось і няпраўда! — узгарэўся, яшчэ больш чырванеючы ад запалу, Толя. — У нас каровы не было і няма. Мы ў цёткі Дар'і малако бяром.

— Дык, відаць, думаеце на зіму купіць. Малака ад чужой кароўкі шмат не наясіся, — не сунімаўся Стась. Ён радаваўся, што хоць на ціхмяным Толіку ўдасца выліць злосць, якая працягвала валодаць ім, не астывала ў грудзях. Але той мігам прыпыніў свайго Каштана, павярнуў яго, адстаў крыху ад Стася і паехаў побач з Васілём, які калываўся на рахманай Тэклі ў самым хвасце іх пыльнай кавалькады.

— Ну што, няўдаліца-філосаф, — павярнуўся да яго Стась, — баішся больш са мной спрачацца?

— А з табой няма чаго гаварыць, — канчаткова супакоіўся Толя. — Пустая трата часу.

— То-та ж…

Хлопцы зарагаталі. І гэтак дружна і гучна, што аж коні пачалі стрыгчы вушамі.

— Маладзец, Стась, сам прызнаўся, — праз смех выціснуў Федзя.

І толькі цяпер Стась зразумеў, што смяюцца з яго… «Цьфу ты! — вылаяўся ў думках ён. — Пляснуў жа такое... І ўсё гэта паганая звычка... Ды нічога, пагдядзім, хто пасмяецца потым...»

Хвядос Панасавіч, напэўна, чакаў іх. Пагаварыўшы яшчэ хвілінку-другую з учотчыкам Мішкам Ванькоўскім, які стаяў пры ім, ускінуўшы на плячо свой нязменны сажань, ён падышоў да кладоўкі, адамкнуў яе, шырэй расчыніў дзверы. Як і заўсёды, брыгадзір прыдзірліва прымаў ад хлопцаў збрую, не забываючы падкалоць любімым жартам:

— Ну як, босая кавалерыя, накруцілі брыкліваму цяляці хвост?

— Што вы, дзядзька Хвядос?! Накруцілі!.. Праўда, не на ўсю сілу... Не паспелі добра ўхапіцца за яго, — жартам на жарт адказаў Славік. — На заўтра пакінулі... той хвост.

— Не крыўдуйце, хлопчыкі, не крыўдуйце. На тое ён і хвост, каб не адразу ў рукі даццa, каб падражніцца трохі... Ды ліха з ім! Хачу хоць як парадаваць вас: заўтра на сенакос!

— Ура! Едзем копы цягаць! — ледзь не ў адзін голас выгукнулі хлопцы. Радаваліся, быццам копы цягаць і стагаваць іх — гуляць у хованкі ў духмяных абдымках разварушанага сена. Ды ўсё ж тая работа, што чакала хлопцаў, захапляла больш. Як-ніяк, а на сенажаці весялей, там цэлы дзень людна, ды і на чмяліныя гнёзды натрапіць выпадае, мёдам паласавацца можна.

Славік пакінуў хлопцаў, падышоў да брыгадзіра.

— А калі? Пасля абеду?

— Чаму ж... З рання... Сена цяпер добра падсохлае, дождж, дзякуй богу, нас бокам абышоў, не падмачыў. Паспелі прасушыць як след, згрэбці скошанае... Так што гадзінак у дзевяць будзьце тут з конямі.

— Дык у нас яшчэ клін ладны застаўся... Не паспелі да вечара абагнаць... Той самы хвост...

— Колькі, прыблізна, будзе?

— Ды, мусіць, гектар з гакам.

— У-у-у, дык нічога! — пагадзіўся са Славікам брыгадзір. — Але нешта прыдумаем... Вось што... Ты, Васіль, і ты, Стась, заўтра пастарайцеся дакончыць той загон, а паслязаўтра — і вы на сенаўборку шухнеце. Згода, хлопчыкі?

Стась адразу ж насупіўся:

— Не пайду на бульбу. Нахадзіўся ўжо за плужком во так! — і ён правёў рабром далоні па сваёй танклявай шыі.

— Што гэта яшчэ за фокусы? — здзіўлена паглядзеў Хвядос Панасавіч. — Заняты чым пільным будзеш, ці проста так, адпачыць хочаш? Калі адпачыць надумаў — калі ласка! Тваё права...

— Ды так, не пайду — і ўсё.

— Добра, не будзем таргавацца... Ты, Федзя, яшчэ дзянёк пабудзеш на бульбе?

— Можна... — хоць не дужа ахвотна, але згадзіўся той. А брыгадзір далей распараджаўся:

— Буланчыка заўтра запражэш ты, Васіль. А то гэты шалапут яго ўсенькага пугаю спісаў. Маліся, каб не ўбачыў Пятровіч — ён табе не адну порцыю бярозавай кашы падкіне. Болей не захочаш. Павер майму слову!

— Калі дагоніць! — весела азваўся Стась.

— Дагоніць, нідзе не дзенешся… І даганяць не будзе — сам да канюшні прыбяжыш, калі конь спатрэбіцца… І запомні, хлопец: ты яшчэ смаркач. Годзе ўжо ідыётам прыкідвацца, дурня корчыць!..

— Ды што вы, дзядзька Хвядос, ён у нас разумнейшым за ўсіх стаў, — не ўтрымаўся, каб не ўпікнуць занослівага прыяцеля Славік. — Нават філасофіі Толю вучыць.

— Хвілосаф... — шматзначна прабурчаў Хвядос Панасавіч. — Прывык рассусольваць ды пярэчыць, хто б што ні сказаў... І ў каго ты ўдаўся такі?..

Ён зачыніў кладоўку, навесіў прывычна замок, падняў галаву, зірнуў на сонца, якое ўжо амаль поўнасцю схавалася за небасхілам, сказаў з ноткамі гарэзлівасці ў голасе:

— Ну, можа, скончым, хлопчыкі мае, наш брыгадны семінар, як лектар з раёна сказаў бы. Ганіце коней на пашу, а то дома і вячэра не дачакаецца, прачахне.

## «Пабудзі мяне заўтра рана»

Назад вярталіся добрымі прыцемкамі. Ад Выгара веяла сырасцю. З крэкатам і свістам праляталі над імі чароды некім устрывожаных на балоце качак. Яны ляцелі, шумна рассякаючы крыламі паветра, і хутка зніклі ў цемрыве.

— У кіно, мусіць, ужо не паспеем, — заўважыў Славік. — Столькі чакалі, пакуль прывязуць, і на табе!

— Дзе там! — падтрымаў яго Толя. — Каб раней з коньмі ўправіліся, тады б, можа, і паспелі. А так...

— Можна яшчэ, — запэўніў іх Федзя, які дагэтуль ішоў моўчкі, нешта насвістваючы. — Хіба не ведаеце? Пішуць на афішы: пачатак у дзесяць гадзін, а пачынаюць паказваць кіно заўсёды, калі ўжо за адзінаццаць. Людзі пакуль прыйдуць з поля, пакуль дома ўправяцца трохі… Каму ж без людзей тое кіно паказваць, малым адным? За іх лічаныя капейкі?..

— Нічога, паспеем, — з расцяжкай, упэўнена азваўся і Стась. — Заўтра можна пазней трохі ўстаць. Сена пакуль прасохне ад расы... — Ён неяк пададавацку ступаў наперадзе ўсіх, нібы падкрэсліваў сваю поўную незалежнасць і непрымірымасць да астатніх. Потым ён пачаў памалу збаўляць ходу, і неўпрыкметкі параўняўся з Васілём. Сказаў ледзь не паўшэптам:

— Чуеш, Вася, давай не будзем дзьмуцца адзін на аднаго... Мір!..

— А што ты мне гэта кажаш? — нібы нічога не разумеючы, здзівіўся Васіль. — Ты павінен мірыцца са Славікам…

— Са Славікам потым, — не адразу знайшоўся Стась. — Мы з табой — сапернікі. Разумееш, сапернікі. Вечна з-за Буланчыка, каб ён выпрастаўся!

— А чаго ты на каня ўсё звальваеш, калі мы самі ў гэтым вінаваты?

— Ды ў яго заўсёды ўсе вінаваты, нават коні, толькі не сам, — зноў умяшаўся ў размову Федзя, які нібыта не прыслухоўваўся да іхняй гаворкі, але, выходзіць, усё дачыста чуў.

— Не пра цябе гавораць, — узмахам рукі супыніў яго Стась. — Ты можаш і памаўчаць. — І ён зноў павярнуўся да Васіля: — Вася, будзь другам, а? Удружы мне заўтра.

— Што, Буланчыка уступіць?

— Во-во!. Які ты здагадлівы, а! — неяк ажыўлена і нахабна выгукнуў Стась. — Згода?!.

Васіль памаўчаў, нібы раздумваў. Яны абодва прыпыніліся.

— Дык што, згодзен?

— Не, — спакойна і разважліва прамовіў Васіль, зірнуўшы «саперніку» проста ў вочы. Потым яшчэ паўтарыў: — Не дам, не ўступлю, і не прасі.

— Чаму?

— Сам ведаеш... Раней гаварыў, што ў баразне як папала ходзіць, а цяпер... Будзеш лётаць на ім у галоп па ўсёй сенажаці, копы разбіваць, каб іх нехта з нас за табою падбіраў, мучыўся. Што стагаўшчыкі скажуць?

— Ну і дурань жа ты, Вася! — не ўтрымаўшыся, зарагатаў Стась. — Што, табе жывёліны шкада? Дык гэты ж твой Буланчык праз год-другі, як і Тэкля, выпруціцца, або на бойню здадуць!

— Хай сабе... А ты яго і за адно лета ўгробіш...

— Дык, значыць, не ўступіш? — зноў рашуча падступіўся Стась.

— Не.

— Ладна, пачакай жа... — пагрозліва адышоўся Стась, злосна бліснуўшы вачыма..

— А што ты мне, цікава, зробіш? Грозен рак, ды ведаеш, дзе вочы? — спакойна адрэзаў Васіль.

— Тады пабачыш, — і ён подбегам кінуўся даганяць хлопцаў.

Васіль у кіно не пайшоў, хоць сабраў на яго поўны рубель: цішком здаў у вясковую краму два яйкі, якія «згубіла» нейкая нясушка ў дзядоўніку за хлеўчуком. Гэткім чынам здабываў грошы на кіно не толькі ён. А дзе было ўзяць іх, калі ў калгасе грошы плацілі гады ў рады, у хаце над кожнай капейкай моляцца? Павячэраўшы, ён адразу ж шуснуў пад саматканую коўдру. З

прыемнасцю адчуў, што матрац набіты свежым сенам. Дурманячы пах сухой асакі напаўняў, здавалася, усю яго істоту. Але спаць чамусьці ніколечкі не хацелася. Ён павярнуўся на правы бок, скурчыўся. Гэтак ён заўсёды хутчэй засынаў. А сон усё не ішоў. Думкі ўпарта гарталі кнігу памяці, зноў чамусьці вярталіся да Стася, спыняліся на ім, выклікалі на роздум: «І чаму ён стаў такім задзірыстым, нават нахабным, злым? Раней жа, помніцца...»

Васіль і Стась сябравалі з першага класа. А пазнаёміліся яшчэ раней. Першае знаёмства іх адбылося на Падліпках, здаецца, у нядзелю. Бо на вуліцы было святочна, хлопцы і дзяўчаты трымаліся купкамі, заліваўся гармонік. Звялі тады хлапчукоў хлопцы-бальшуны. Можа, і не яны нават. Можа, звёў іх вінтовачны патрон, які Васіль знайшоў на шляху, непадалёк ад падбітага артылерыйскага цягача, што, абгарэлы і раскурожаны, застаўся стаяць з пачатку вайны на выездзе з Падліпак. Убачыўшы ў ягоных руках пазелянелы ад часу патрон з куляю, Стась смела падышоў да яго і сказаў не вельмі прыязна:

— Давай сюды!

Васіль агледзеў незнаёмца з ног да галавы. А ён стаяў, падцягнуты такі, танклявы і... натапырана-задзірысты. На яго шчуплых плячах зграбна ляжаў чорны пінжачок, перашыты, відаць, з бацькавага старога службовага кіцеля. А працаваў Стасеў бацька, як Васіль потым даведаўся, на чыгунцы.

Васіль спачатку здзівіўся такому патрабаванню. Ды і было чаму здзівіцца. Ён жа на цэлае паўгалавы быў вышэйшы за гэтага незнаёмца-задзіраку. Хоць іхнія пасёлкі зусім побач знаходзяцца, а Васіль раней чамусьці не сустракаў яго. А Стась трымаў сябе як гаспадар.

— Аддай патрон, чуеш! Ну!

— А ты адкуль такі ўзяўся? — насупіўся Васіль.

— Бач ты, раскудахтаўся! Давай сюды!.. — І ён ухапіўся за яго руку, дзе ў далоні быў заціснуты патрон..

Адчуўшы рашучую нязгоду, Стась спачатку адскочыў, а потым наляцеў на Васіля:

— Уцякай, уцякай тады з нашай вуліцы!

Гэта ўбачылі старэйшыя хлопцы і, каб трохі пацешыцца з малых, пачалі падахвочваць іх, пад'юджваць:

— Што ж ты, Вася, стаіш слімзары распусціўшы? Ён цябе кухталіць, а ты... Дай яму, дай...

Падбухтораныя збоку, яны абодва схапіліся спачатку загрудкі, потым счапіліся, і Васіль, даўшы падножку, паваліў свайго праціўніка проста на пясок. Валтузіліся яны доўга. Васіль усхапіўся першым з дарогі, стаяў апусціўшы рукі ў нерашучасці, нібы раздумваў: а што далей? Мусіць, бойка ўсчалася б зноў, але тут, зірнуўшы на свой запылены і выпацканы касцюмчык, былы праціўнік раптам заплакаў. Потым плач перайшоў у чмыханне і шморганне носам. Выціраючы брудным кулаком вочы, ён, пагрозліва азіраючыся на Васіля, пайшоў дахаты.

Гэта была іх першая сустрэча. Пасля яны пасябравалі, у школе ўжо. І, здавалася, моцна.

«Наогул, ён хлопец добры», — думаў далей Васіль. Леташняй зімою яны зрабілі на замерзлым Выгары калаўрот. Падышла чарга Васілю садзіцца ў санкі. Ён сеў у іх, моцна ўчапіўся рукамі за перадок і крыкнуў:

— Круці!

Хлопцы ямчэй уставілі калы ў спіцы кола, і яно паволі зрушылася, пачало рабіць за кругам круг. Саначкі шпарка засакаталі па лёдзе. Васіль трымаўся моцна, каб не скінула, і толькі выкрыкваў: «Давай, давай!» Праз нейкі момант

ён адчуў, што невядомая сіла сарвала яго з санак, і ён паляцеў некуды ўбок. Потым нешта золкае праняло яго цела. «У пельку трапіў! — тут жа мільганула ў галаве. — Ну і бабы! Уздумалі на балоце бялізну мыць!..»

І сапраўды. Вясковыя кабеты заўсёды мылі на балотцы бялізну. І ў той дзень у адну з палонак, прасечаных імі, якая яшчэ не паспела добра замерзці, уваліўся Васіль. Вада тут была мелкая, і ён борздзенька сам выграбся адтуль. Хлопцы, калі першы спалох прайшоў, ажно заходзіліся ад смеху. А небарака Васіль толькі няўцямна паглядваў на сябе, на сваё адзенне, якое лютаўскі мароз з ног да галавы ўсыпаў брыльянтамі-ільдзінкамі.

— Глядзіце, цар Салтан, няйначай! — праз смех выгукнуў хтосьці.

— Ды годзе вам! — прыкрыкнуў на ўсіх тады Стась, а сам падбег да нерухомага Васіля і пачаў похапкам сцягваць з яго прыхопленую льдзінкамі вопратку. Потым спрытным рухам расшпіліў сваю целагрэйку, накінуў яе Васілю на плечы:

— Зашпільвайся! Давай руку!

Да вёскі было кіламетры пад два. Стась, не даючы Васілю нават перадыхнуць, бег і бег, учэпіста трымаючы яго за руку. Абодва цяжка дыхалі, спатыкаліся аб куп’ё, прысыпанае снегам, якога ў такія хвіліны чамусьці вельмі шмат трапляецца на шляху.

Усё абышлося без прастудных прыгод. Ніхто з іх не захварэў. Нават кашлю не падхапілі.

«А цяпер вось не пазнаць Стася. Нейкі фанабэрысты, яршысты, — зноў прыйшла ў Васілёву галаву гэта неадчэпная думка. — З чаго б гэта? Стараецца ўсюды ўткнуць свой нос, падкалупнуць. З Буланчыкам вось недарэчнасць нейкая які ўжо дзень выходзіць... Можа, трэба было б уступіць яму сёння?.. Але няхай крыўдзіцца, злосць сваю паказвае. Уступі — пачне яшчэ больш фанабэрыцца, нораў свой паказваць. Ён, відаць, ад таго і стаў такім, што яму ўсе заўсёды ўступалі, не хацелі звязвацца з ім…»

— Мама, — павярнуўся ён да маці, якая, не запальваючы лямпы, прысела да стала, каб дачакацца прыходу бацькі з фермы, — пабудзі мяне заўтра рана, гадзін у шэсць.

## Хто перапутваў Буланчыка?

За вузкакалейку, дзе пасвіліся коні, яны прыйшлі ўдвух. Федзя пайшоў шукаць па статку свайго Сымона, а Васіль адразу ж накіраваўся да Буланчыка, які нерухома стаяў каля альховага куста і неяк нязвычна стрыг вушамі. Скура на яго пярэдніх нагах, вышэй пута, час ад часу ўздрыгвала, быццам нешта казытала ці кусала яго. Васіль падступіўся бліжэй, як заўсёды, ласкава правёў далонню па яго халоднай пысе, паляпаў па шыі. Але Буланчык нават не зважаў на яго ласкі.

— Што такое? Я ж, здаецца, учора добра спутаў яго, а цяпер пута ледзь трымаецца на нагах. Хто яго мог перапутаць? Ларывон? Дык той заўсёды наказвае, каб як трэба путалі коней. Калі не падабалася, сам перапутваў іх, каб яны, скінуўшы путы, не забрылі ў шкоду… А то вунь як…

Васіль прысеў, звыклым рухам узяўся за пятлю пута, пацягнуў на сябе і па звычцы скамандаваў:

— Нагу-у-у!

Але Буланчык стаяў, як укапаны. Тады Васіль узяўся за пятлю мацней і, стараючыся вынуць з яе вузел пута, пацягнуў яго з усяе сілы. І раптам пацям-

нела ў вачах, гулкае рэха прашалясцела ў яго вушах. Ён адчуў, што нейкая сіла адкінула яго ўбок, распластала на зямлі. Трохі апамятаўшыся, Васіль хацеў хуценька ўскочыць, падбегчы да Буланчыка, які з путам на адной назе стаяў непадалёк і фыркаў. Ды востры нясцерпны боль працяў усё цела. Ён войкнуў і апусціўся на сыры дол. Толькі цяпер адчуў, што левая нага стала цяжкаю, непаслухмянаю. А калі ён у адчаі паспрабаваў паварушыць ёю — боль як тупым жыгалам працінаў яго наскрозь, засцілаў вочы слязьмі.

— Ты што, гатовы ўжо? А я ніяк свайго Сымона не знайду. Куды ён забрыў,ваўкарэзіна? Можа, хто ўзяў ужо? Убачу ў каго на двары — забяру, — злаваўся Федзя, падыходзячы да таварыша. Раптам ён спыніўся, здзіўлены і спалоханы.

— Што з табою? Жывот прыхапіў?..

— Н-на-га... Нешта з нагою, — не сказаў, а выстагнаў Васіль. — Буланчыка распутваў, а ён, а ён... ударыў...

— Няўжо? — Не верачы ўсяму, што адбылося, Федзя крануўся яго левае нагі. Спачатку мякка, ціха, а потым, нібы забыўшыся, ціскануў мацней.

— Ой! — усклікнуў Васіль і зноў адкінуўся на локці.

Разгублены Федзя, не ведаючы, што рабіць, спачатку разы са два абабег вакол пацярпелага, быццам шукаў якой рады, затым сарваў з пляча аброць, подбегам кінуўся да Буланчыка. Той адразу ж адбегся крокаў на дваццаць, а пасля спыніўся і пачаў паскубваць росную траву. Зняўшы пута, якое вужакай спаўзала з нагі Буланчыка, Федзя ўчапіўся ў грыву, паднапружыўся і ўскочыў на каня, перакінуў пута з левай рукі ў правую і выцяў Буланчыка з двух бакоў. Той адразу ж перайшоў у галоп.

— Я па ма-а-а-ш-шыну! — данеслася да Васіля праз конскі тупат.

Нага пачынала балець усё мацней і мацней. Васіль са стогнам сціскаў зубы, а розныя трывожныя думкі роем кружыліся ў галаве, не давалі спакою. «А што калі пералом? Што тады будзе з нагою?.. А маці? Яна ж цэлымі днямі плакаць будзе... Бацьку лягчэй — ён з раніцы да вечара ў полі за каровамі, не будзе бачыць маіх пакут... А можа, косць раздрабілася на часткі... Тады левую нагу могуць зусім адрэзаць, што я тады рабіць буду?»

І Васіль раптам заплакаў. Заплакаў ад болю, жалю і горычы. Цяпер ён чамусьці ўявіў сябе аднаногім Грышкам, якога бачыў неаднойчы на чыгуначнай станцыі, куды яго пасылалі купіць хлеба ў станцыйным сельмагу. Грышка, старэйшы за Васіля мо на добрых пяць гадоў, здавалася, ужо звыкся з калецкай доляй, вольна шастаў па станцыі, спрытна пераскокваў на мыліцах праз рэйкі, час ад часу суправаджаючы сваё гулянне па пуцях бесклапотна-вясёлай прыпеўкай, радуючыся капейкам ды кавалку булкі ці хлеба, што перападалі яму за яго выканаўчае майстэрства ад праезджага люду.

Харашо таму жывецца,
У каго адна нага:
Многа обуві не трэба
І парцяначка адна!

Што ж да Васіля, то такое «вясёлае» жыццё яго не суцешвала, яму было балюча і горка ад усведамлення, што ён таксама можа апынуцца ў Грышкавым становішчы, і не пераставаў усхліпваць, выціраючы рукавом слёзы, бездапаможна азіраючыся па баках, раз-пораз кратаючы пальцамі адзервянелую нагу. Ён быў адзін у полі, і ад гэтага станавілася яшчэ больш маркотна, несуцешна.

— Ну, а плакаць — зусім нікуды не гадзіцца, — пачуў ён раптам за сваёй спінаю разважна-спакойны голас калгаснага аграннома Мікалая Рыгоравіча.

Васіль нават не прыкмеціў, як пад'ехаў аграномаў «казялок». Услед за ім з машыны высыпалі Федзя, Славік, Толя і Стась. Падбегшы да таварыша, яны недаўменна пераглянуліся між сабою. Стась умомант спалатнеў. Каб не выдаць сваёй трывогі, ён адвярнуўся і пачаў засяроджана прывязваць сырычны шнурок на канец пугі, якую чамусьці не забыў прыхапіць з сабою.

— Хлопцы, памажыце занесці яго ў машыну — папрасіў спакойна аграном. — Толькі асцярожна, глядзіце. А ты, — звярнуўся ён потым лагодна да Васіля, — пацярпі трошку. Я думаю, што пакуль жаніцца — усё загаіцца.

Васіль усміхнуўся ў адказ куточкамі губ, выцер рукавом росныя вочы, прашаптаў ледзь чутна:

— Добра, Мікалай Рыгоравіч, пацярплю.

— Вось і цудоўна!

Паклаўшы яго на задняе сядзенне машыны, аграном абвёў усіх запытальным позіркам:

— А што такое з канём, з Буланчыкам вашым? Ён жа, кажаце, вельмі спакойны. Можа, падстроена тут што-небудзь? Дзе пута?

— Няма, — вінавата прамармытаў Федзя. — Я паганяў Буланчыка путам і на поўным ходу выпусціў яго з рукі. Я нічога не падумаў і проста не даўмеўся вярнуцца, каб падабраць... Дый спяшаўся я. Думаю, чорт з ім, з путам.

— Можа, і так... Не будзем займацца следствам сярод поля, — перапыніў разгубленага Федзю Мікалай Рыгоравіч і ляпнуў дзверцамі. — З часам усё высветліцца, перастане быць тайнай. Сядай, Федзя. Твой конь чакае цябе на сядзібе ў кашары, а вы, хлопцы, бярыце сваіх і даганяйце мяне. — Ён націснуў на газ, павярнуў руль і зялёны «казялок» паволі пасунуўся ў напрамку вёскі, няўклюдна перавальваючыся з боку на бок па купістым полі. Аграном яшчэ раз павярнуўся назад, падміргнуў сцішанаму Васілю:

— Трымайся, казак, — атаманам будзеш!

* * *

Бальніца знаходзілася ў Любічанах. Гэта — кіламетраў за шэсць ад Падліпак. Выруліўшы на прыдатную дарогу, «казялок» пашыбаваў шпарка, імкліва, з ветрыкам. Не паспеў Васіль агледзецца як след, перад вачыма мільганула зялёная агароджа бальнічнага двара, абсаджанага ліпамі і вербамі, кустоўем. Мікалай Рыгоравіч выключыў матор і выглянуў з машыны. Было яшчэ рана, гадзін восем, таму на двары не назіралася прывычнага ажыўлення. Толькі жанчыны ў белых халатах раз-пораз шпарка прабягалі па ім з аднаго корпуса ў другі.

Сказаўшы Васілю, каб не хваляваўся, аграном знік за дзвярыма бліжэйшага будынка, на якім вісела шыльда: «Любічанская сельская бальніца». А неўзабаве на ганак выйшлі два санітары з насілкамі. Яны подбегам рушылі ўслед за Мікалаем Рыгоравічам да машыны. Аграном адчыніў дзверцы шырэй і жартаўліва прамовіў:

— Ну, брат Васіль, вылазь. Цяпер цябе панясуць, як іранскага шаха.

Васіль толькі ўсміхнуўся.

У прыёмным пакоі ён прыўзняўся на лукаткі і, убачыўшы, што аграном збіраецца выходзіць, папрасіў:

— Мікалай Рыгоравіч, вы толькі маме нічога такога страшнага не расказвайце.

— А што расказваць, чым страшыць? — нібы здзівіўся той. — Ты ж яшчэ не ведаеш, якая ў цябе траўма. І дактары яшчэ нічога сказаць не могуць. Вось, можа, паляжыш дні тры-чатыры і жывым-здаровым назад вернешся. Праўда, хлопцы? — звярнуўся ён да санітараў, якія перамаўляліся побач, чакаючы далейшых указанняў, потым рушыў да выхаду: — Ну, да пабачэння!

## Тайна — не тайна?

Калі ўсе разышліся на абед, Славік спутаў Каштана на прыбалочанай нізінцы каля брыгаднага двара, але ісці дахаты не спяшаўся. Здарэнне з Васілём не давала яму спакою, разварушвала розныя думкі. Ён разумеў: усё, што адбылося, не жартачкі, а нешта больш сур'ёзнае. Усе хлопцы ў адзін голас згаджаюцца: без Стасевых рук тут не абышлося. Нездарма цэлага паўдня стараўся не трапляцца ім на вочы. Цягаў копы адасоблена, заўзята.

«Трэба будзе з ім пагаварыць, і сёння ж. Пры ўсіх хлопцах. Калі ён вінаваты, прызнаецца, нідзе не дзенецца», — цвёрда вырашыў Славік. Узышоўшы на вуліцу, дзе жыў Стась, Славік заўважыў, як у двор Свірыдчыкаў убегла цётка Антаніна, Васілёва маці. Ён спачатку прыпыніўся, хацеў вярнуцца, але потым рашуча накіраваўся ўслед за ёй. Аднак у хату не пайшоў. Прытуліўся да старой вішні, што расла ў Свірыдчыкаў ледзь не каля самага ганка, і пачаў чакаць, пакуль Стась сам не выйдзе на двор. Вокны ў хаце былі расчынены насцеж. Славік чуў, як гаспадыня бразгала засланкаю ў печы, мыла даёнку. Чутна было таксама, як усхліпвала цётка Антаніна, а цётка Ганна, Стасева маці, старалася супакоіць яе:

— Ды кінь ты, далібог, Антаніна. Можа, там нічога страшнага і не здарылася.

— Не ведаю, Ганначка, не ведаю, галубка, толкам, што з ім... Зайшла, думаю, Стась твой дома будзе, думаю, раскажа трохі больш пра ўсё. Пэўна ж, разам былі...

— А ён ужо некуда матануў. Прыйшоў з работы, нават есці не ўзяў, нейкі разгублены такі мне здаўся. Думаю, не даспаў. Гэта ж трэба, Антанінка ты мая, падняўся сёння разам са мною — і за коньмі пацёгся. Яшчэ кароў не паспелі выгнаць. Куды ты, кажу, так рана. Спі яшчэ. А ён нешта буркнуў, не разабрала што, і проста цераз гарод на выган падаўся.

Далей ужо Славік не слухаў. Моцна сцяўшы кулакі і сківіцы, ён выйшаў з двара.

— Пачакай жа, Стасічак! Мы з табою сёння пагаворым, — шапталі яго вусны. — Для адводу вачэй у кіно хадзіў, для адводу вачэй самы апошні за коньмі бег. Яшчэ падвезлі дарогаю, гада печанага! — Злосць кіпела ў хлапечых грудзях. Хацелася зараз жа кінуцца, знайсці Стася і з задавальненнем даць добрай лазы, каб не адзін дзень чухаўся. Але чым болей гарэў ён такім жаданнем, тым спакайней і разважлівей працавалі думкі. Тупое жаданне ўступала месца болей пэўнаму і сур'знаму разліку.

Як і думалася, Стась не прызнаваўся. Акружаны сябрамі-таварышамі каля высознага, толькі-толькі завершанага стога, ён упарта агрызаўся, нават сам пераходзіў у атаку.

— Трэба мне ваш Васіль як сабаку пятая лапа! Што я мог зрабіць яму, ну што? Дрот завостраны ў пута ўсадзіць? Дык я ж не злыдзень які!

— А можа, і дрот, — адразу ж падхапіў Федзя. — Ці іголку нават.

— Трэба было пасля пута праверыць, калі так.

— Бач, дурняў знайшоў! — не сунімаўся Федзя. — Трэба было праверыць… Хітранькі. Каб пута не згубілася, то гэтак ты наўрад ці сказаў бы. А цяпер што... Няма ніякіх доказаў, апрача свайго сумлення.

— Што вы ўсё: сумленне, сумленне... А самі якія? Нябось, таксама да Зосіма летась па жытнікі і бэры лазілі!

— Бэры адно, а гэта — зусім другое, — выслухаўшы перапалку, сур’ёзна нахмурыўся Славік. — Ды калі тое было? Летась? А мы гаворым пра сённяшняе здарэнне. Ты павінен разумець усё і не прыкідвацца дурнем. Зразумела?

— Ат, ну вас! — адмахнуўся ўрэшце Стась і скіраваў да коней, якія стаялі воддаль і, здавалася, прыслухоўваліся да гарачай спрэчкі сваіх гаспадароў.

— Няхай ідзе, — затрымаў Славік Толю і Федзю, якія памкнуліся былі заступіць Стасю дарогу. — Калі ён сапраўдны таварыш, калі... — Славік абарваў сваю фразу на паўслове, але ўсе зразумелі, што хацеў ён сказаць.

— Заўтра ў абед падскочым да Васі. Сёння позна ўжо... Паглядзім, што з ім на самай справе.

— Канечне! — пагадзіліся са Славікам хлопцы. Толькі Стась не чуў гэтага.

## На мыліцах — не на кані

Хлопцы накінулі павады на штакеціны агароджы і подбегам памкнуліся да ганка бальніцы. Сустрэўшы санітарку ў гадах, яны спыніліся, выціраючы рукавамі выцвілых сарочак спатнелыя твары.

— Цётачка, вы не скажаце часам, дзе тут можна Васіля Саўчука ўбачыць, у якой палаце ён ляжыць?

— Саўчука? — перапытала санітарка.

— Ага!

— Во, прама па калідоры, у канцы самым. Пятая палата.

Славік, Федзя і Толя рынуліся былі ў канец калідора, але санітарка адразу ж спыніла іх:

— Куды гэта вы разагналіся так? Не дазволена... Трэба халаты ўзяць спачатку. Вось так, — гаварыла яна ласкава, накідваючы ім на плечы белыя, не першай свежасці, халаты.

Васіль прыкметна ўзрадаваўся прыходу сяброў. Ён прыўзняўся на локці і ўсміхнуўся шчасліва.

— Сядайце, хлопцы, вось тут. Бачыце, ложкі пустуюць. Лета… Ніхто хварэць не хоча... Адзін загараю ў палаце.

Яны асцярожна прыселі на ўскрай суседскага ложка. Не ведаючы, з чаго пачынаць гаворку, Славік узяўся аглядаць палату.

— Дык табе добрая палата трапілася, — не ўтрымаўся і Федзя, — ажно два акны. З гэтага і з гэтага боку. Цудоўна!

— Сумнавата, хлопцы, — шчыра прызнаўся Васіль. — Толькі ляжы ды кніжкі чытай. Папрасіў, медсястра прынесла. Тут у іх нейкая бібліятэка ёсць...

— А ты на вуліцу часцей выходзь! — усклікнуў Толя. — Чаго ж там… — Але ўбачыўшы, як пагасла ўсмешка на твары прыяцеля, запытаў сур’ёзна: — А што ў цябе, Вася?

Хлопцы насцярожыліся.

— Чуў, як перамаўляліся дактары... Нібыта закрыты пералом. Калі нагу загіпсавалі, напэўна, так і ёсць. Будуць яшчэ рабіць паўторна здымак.... І не тут, а ў райбальніцы...

— Ну, гад... Я... Я яму сукравіцу спушчу! — скрыгатнуў зубамі Славік. — Вы чуеце, хлопцы?

— Пра каго гэта ты? — не ведаючы сутнасці дружбаковай грозьбы, перапытаў Васіль.

— Хлопцы ведаюць, пра каго размова ідзе. А нашаму Стасіку дарма ўсё не пройдзе!

— А што такое?

— Што, што, нібы не разумееш? — кіпяціўся Славік. — Гэта ж ён табе падстроіў усё. Ён тады Буланчыка перапутваў... Можа, у пута якую стрэмку ўсунуў, каб яна ўкалола Буланчыка. І вось…

— Не можа быць, хлопцы, — уразіўся Васіль. — Ён жа не дурны. Ведае, чым такія жартачкі канчаюцца.

— Дурны не дурны, а заскокі бываюць. Канечне, ён не падумаў, што такое здарыцца можа. Думаў, лёгкім спалохам абыдзецца ўсё, — энергічна разводзіў рукамі Славік, — а тут, бачыш...

Васіль маўчаў. Ён не ведаў, што адказаць сябрам-прыяцелям, якія, мусіць, дарэмна не маглі наракаць на Стася. Яны, па ўсім відаць, ведалі ўжо нешта. Але распытваць іх Васіль не стаў. Думаў, самі пачнуць. Ды чамусьці і хлопцы маўчалі. Напэўна, ім не дужа хацелася ўспамінаць пра гэта, вярэдзіць балючае.

Славік падняўся з месца:

— Ну, хлопцы, пара ўжо. Трэба яшчэ паспець паабедаць... А ты не сумуй... Во, ледзь не забыліся! Трымай вось, — і яны паклалі на тумбачку з дзясятак яблыкаў. Белых, крамяных, злёгку кранутых жаўцізною.

— Што, жытнік паспеў ужо? — здзіўлена запытаў Васіль, замілавана правёўшы далонню па самым вялікім яблыку.

— Не зусім яшчэ. Але яны смачныя, сакавітыя... Укусі, паспрабуй. Ну, мы пайшлі. Днямі заскочым, адведаем. — Апошнія словы данесліся да Васілёвага слыху ўжо з-за дзвярэй.

Праз дзень яны ўжо не засталі Васіля ў бальніцы. Тая ж санітарка цётка Мар’я зноў сустрэла іх на парозе.

— Э-э, дзеткі, няма яго. У Буду, у раённую бальніцу павезлі раніцай. — І, убачыўшы, што хлопцы пачалі разгублена пераглядацца між сабою, супакоіла: — Ды вы не перажывайце, хлопчыкі. Цераз дзень-другі назад прывязуць, а мо нават і сёння. Мне ж не кажуць, чаго і на колькі павезлі. Пасцель не загадана мяняць, значыць, вернецца сюды ваш таварышок. — Яна апусціла руку ў глыбокую адтапыраную кішэню халата, доўга корпалася ў ёй, звякаючы ключамі. — Дзе ж я гэта яе дзела?

Хлопцы не слухалі яе мармытання і сабраліся ўжо ісці, ды цётка Мар’я спыніла:

— Пастойце... Ага, вось яна. Васілёк запіску нейкую прасіў перадаць...

Літары стаялі няроўна. Відаць, Васіль спяшаўся і пісаў яе прыхапкам. «Добры дзень, хлопцы! Хачу папрасіць вас: будзеце купляць сабе кніжкі — купіце і мне. Для 7 класа. Не забылі? Зайдзіце да маёй мамы, яна дасць вам грошы. Сама яна наўрад ці зможа выбрацца ў Буду, а кніжкі за лета могуць разабраць. Прыхапіце і сшыткаў у клетку і ў лінейку, калі будуць. Усё. Мяне вязуць у райбальніцу. Калі вярнуся, не ведаю. Да пабачэння! Васіль».

Яго прывезлі з раённай бальніцы надвячоркам таго ж дня. Галоўны ўрач, уважліва разгледзеўшы рэнтгенаўскія здымкі, што яму прынеслі ў кабінет, запэўніў:

— Нічога страшнага. Закрыты пералом. Добра, што без цяжкіх ускладненняў і хірургічнага ўмяшання. Зноў накладзіце гіпс — і пасцель, спакой. На гэту нагу не наступаць. Зразумеў, герой? Ні ў якім разе! Пакуль доктар дазволу не дасць...

Гэта ўжо тычылася Васіля, хаця ён і сам добра ведаў, што такое пералом. Вунь Мішка Матрунін, сусед іх, цэлую зіму правалэндаўся з нагою, як яе ў гіпс узялі пасля няўдала саскоку з машыны на хаду. Ляжаць... Паспрабаваў бы сам ты ўлежаць, даражэнькі доктар... Цяжка вылежаць і дзень, а тут невядома колькі... Праўда, абяцалі мыліцы даць. Ды што тут мыліцы? Ці ж на іх выпрудзішся па вуліцы надвячоркам, калі яны ўсім гуртам распачыналі гуляць у пікара ці ганялі мяч... І дома цяпер — сенакос. Салтаншчыну, відаць, ужо ўсю выкасілі, стагамі заставілі. Гэтыя сенажатныя паплавы, што слаліся, як акінуць вокам, ад вёскі да ўзбярэжжа ціхаводнай Ліпы, звычайна за нейкіх тыдзень-паўтара выкошвалі. Сёлета ж яшчэ раней пачалі касьбу. Хлопцы там, відаць, ля апошніх стагоў завіхаюцца. А можа, і не. Дадджыла ж трохі. А сырое сена ніхто ў стагі класці не будзе...

Ад гэтых думак на душы рабілася неяк маркотна і няўтульна. Машыну гушкала ў каляінах. Яна то цішэй, то мацней фыркала, паціху адольваючы стужку разбітай яшчэ з вясны дарогі. Калі ж выязджала на раўнейшае — матор пачынаў працаваць больш рытмічна-сцішана, колы круціліся шпарчэй і лягчэй, узбіваючы пасмы сівога пылу, што шлейфам слаўся ўзбоч дарогі.

Прачнуўся Васіль ад галасоў, што, здаецца, нечакана ўварваліся ў яго свядомасць. Людскія галасы чуліся зусім побач, а ён ніяк не мог расплюшчыць вачэй. Усё было, як у сне, хоць Васіль і не адчуваў таго, што спіць. Ён дарэшты ачомаўся ад гэтай дрымотна-прывіднай санлівасці, калі пачуў, што нехта ўзяў яго за руку, нахіліўся над ім. Ён убачыў чалавека ў белым, які яшчэ ў першы дзень накладваў яму шынкі на нагу. Усе яго звалі Сяргеем Аляксандравічам, хоць і выглядаў ён вельмі маладым. Гадоў на дваццаць шэсць. Васіль учуў з гаворкі, што тут, у Любічанах, ён зусім нядаўна працуе, з паўгода. Па тым, як абыходзяцца з ім, зразумеў: маладога доктара паважаюць. Гэтая павага не магла не запасці і ў душу Васіля. Да таго ж і гаварыў чалавек у белым не памужчынску ласкава, шчыра:

— А ты, аказваецца, калдобістай дарогі не баішся. Вунь Лідзія Ягораўна скардзіцца, што проста замучылася, пакуль даехала. І ў кабіне ж ехала.

Лідзія Ягораўна — медсястра. Не па гадах поўная, але надта добрая, прыветлівая. Яна дапамагла Васілю выбрацца з крытага кузава «хуткай дапамогі». Прытрымліваючы яго адною рукой, другою выцягнула ўслед за ім і мыліцы.

— Вось табе палачкі-скакалачкі... Вучыся хадзіць... Ну-ну, не перажывай, не хвалюйся, — адразу ж супакоіла яго, прыкмеціўшы, як Васіль часта пачаў моргаць вейкамі. — У цябе косці маладыя, зажывуць мігам. Пайшлі ў палату. Смялей наступай, не бойся. І памалу, памалу... На мыліцах жа — не на кані...

Ад пачутага Васіль ледзь не аступіўся: нашто яна ўспомніла пра каня?!

## Нявольнікі палаты № 5

Улетку сонца ўстае вельмі рана. Напэўна, яму не спіцца гэтак жа, як і ўсім. Бо хто захоча спаць, калі наўкола робіцца такое, што не да сну. А хто будзіць? Яно ж — сонца. Спачатку гляне ледзь-ледзь, потым выпаўзе, круглае і чырвона-жоўтае, і паплыве, і паплыве ў сіняву, усё вышэй і вышэй.

Узнімаецца яно, а промні шчодрыя, нават ласкавыя, зямлю будзяць. Будзяць па-свойму. Упаў адзін прамень — паблісквае расінка. Упаў другі — пачынае міргаць, упаў трэці — пачынае ззяць трава. Сыпане іх сонца поўнай жменяй — устрапянецца, заспявае сотнямі птушыных галасоў прырода, зазірне чалавеку ў вочы — і ён узрадуецца незвычайна, адчуўшы яго святло і цяпло, жыватворную ласку, у шчырым імкненні дабра пачне свой новы працоўны дзень. Асабліва, калі ён — летні...

Для Васіля летні дзень цяпер палярнай ноччу здаецца. Ды толькі адна розніца. Там, у Запаляр'і — халадэча. Тут жа — спёка. Але ёсць і розніца. У думках. Там, у Запаляр'і, ён, можа б, і не рваўся так адсюль, з палаты: наўкола ж снягі, завеі, мароз траскучы. Дарма што — белая ноч. А тут... Не ўлежаць да пад'ёму, калі трэба расплюшчыць вочы, абвесці палату позіркам, зноў заплюшчыць іх, зноў паглядзець. Учора, як зайшоў у палату, ён убачыў, што ўжо будзе ў ёй не адзін, што займеў сабе напарніка. Дзядок гадоў пад шэсцьдзясят сустрэў яго, як даўняга знаёмца, з непрыхаванай радасцю:

— А галубок ты мой! Няўжо і ў цябе?.. — Прыкмеціўшы, што Васіль шкандыбае на мыліцах, прысеў на ложак. — А я думаў... думаў адзін тут буду... Язва, ліха на яе. З фінскай. Як пайшла, як пайшла... Колькі гадоў ужо жыцця не дае... Трохі забудуся на яе, а яна, жываглотка, знячэўку — хоп ды зноў сюды.

— Ды канчай ты, Пеліпка, ужо, — умяшалася, цётка Мар'я. — Малога толькі палохаеш. Яму яшчэ няма чаго пра хваробы гэтыя дужа думаць. Яго касцяная траўма — гэта ж не твая язва. Ты, стары, сюды дужа не спяшаеш, калі прыпячэ ўжо, тады, а Васілёк яшчэ маладзенькі, можа, гэта ў яго першы і апошні раз такое.

— А што я кажу, — пачаў апраўдвацца дзед Піліп, — няхай пабачыць, які я аптыміст. Во, глядзі, — і ён усхапіўся з ложка, згроб аберуч падушку, прыхінуў да грудзей, заспяваў, прытупваючы ў такт свайму напеву:

Падушачка, падушачка,
Мая пухавая,
Адна ў мамкі дачушачка,
Дзеўка маладая.
У нядзелю на кірмашы
Шоўку прыкупіла,
Падушачку пуховую
Міламу пашыла.

— Ды кінь ужо, кінь, — палагоднела санітарка. — Васілёк, зараз вячэра прыбудзе.

— Нешта не хочацца, — стомлена адказаў Васіль. — Перабуду да раніцы. Калі што — яблык згрызу, з хлебам, ад сняданку застаўся.

— Хочацца не хочацца, а трэба з'есці усё, што дадуць, — не пагадзілася з ім цётка Мар'я. — Можа, толькі яда не такая, як дома. А дома што? Хіба што лепшае матка гатуе?..

Васіль ужо ведаў, чым яго будуць карміць, што прынясуць на вячэру. Грэцкая каша, катлета і чай. Канечне ж, дома такое ён гады ў рады смакаваў. Асабліва — катлеты. Каб зрабіць іх, трэба мяса. А дзе яго набярэшся? Звычайная скварка і тая ў радасць была. Аднак вячэраў ён сёння чамусьці без асаблівай ахвоты.

Пасля вячэры дзед Піліп разгаварыўся.

— Ось, унучак, ляжым мы з табой, бакі муляем. Як дармаеды якія. Нікога сюды не загнаць у такую пару. Прыедуць, розных там пілюль набяруць — і

дамоў. Патрошкі глытаюць, крывяцца, але дома. Сярод людзей сваіх. Няма лепшага лякарства, чым быць сярод сваіх людзей. Ты іх бачыш, яны цябе бачаць — усе спакойныя, усе ведаюць, усім добра.

— Дык вы, дзядзька Піліп, дактарам не верыце? — упершыню перапыніў яго Васіль.

— Чаму ж... — не адразу знайшоўся стары. — Веру. Ого-го! Дактары! Магі! Помніцца, было... Але... як цябе завуць? Праслухаў, міма вушэй праляцела...

— Васіль.

— Але, Васілька, яны лечаць паталагічна, адну хваробу б'юць другой хваробай. А гэта не заўсёды як след выходзіць. Калі ў сябе сам не паверыш — ніякія лекі не памогуць. Расказвалі мне... Ды ты паслухай толькі... Ведаеш, што такое рак? Не ведаеш. Лепей і не ведаць. Лепей ужо язву нажыць, як я...

Дык вось... Захварэў, значыцца, адзін чалавек на гэты самы рак.. А лячыць гэту хваробіну ў нас яшчэ добра не навучыліся. Вучоныя ніяк не дадумаюцца, адкуль бярэцца яна, як адужаць яе, якімі лекамі. Адчуў той чалавек неяк, што яму кепска стала. Пайшоў да дактароў. Тыя абследавалі чынна і зразумелі, у чым бяда. Лячыць было позна ўжо, ды і ніякага сэнсу, надзеі аніякай. На іх думку. Але як пра гэта скажаш хвораму? Скажы, што скора памрэш — дык ён зусім апусціцца, нават заўчасна можа сканаць. І сказалі тады чалавеку: «У вас са здароўем усё добра. Ніякіх прыкмет на цяжкае захворванне. Проста часова немач прычапілася. Пабаліць, ды перастане, пройдзе. Працуйце, часцей займайцеся зарадкай, гартуйцеся. Будзьце аптымістам!»

Паверыў чалавек. Пачаў нармальна працаваць, фізкультурай займацца, кінуў з ядою перабіраць. Пераканаў сябе, што сапраўды здаровы. А дактары ўзялі яго на прыкметку. І як жа былі свяцілы ўсе здзіўлены, калі праз нейкі год правялі зноў абследаванне і не знайшлі ў яго ніякіх прыкмет былой хваробы... Вось што значыць, брат Васілька, паверыць у сябе, у свае сілы. Усё адступіць, —ззяючы ад нейкай душэўнай прыўзнятасці, зрабіў заключэнне дзед Піліп. — А ты дзе гэта лётаў, што ўмудрыўся нагу скалечыць? Мо ў катлаван які зваліўся?

Васіль памкнуўся быў расказаць пра ўсё, што гаварылі яго сябры, выказаць іх здагадку, потым перадумаў і, горка ўсміхнуўшыся, схлусіў нечакана:

— З каня на поўным скаку ўпаў...

— А-а... Можна было і галаву скруціць, — крыху сярдзіта прабурчэў дзед Піліп. — Ездзіце заўсёды на злом галавы. Як шалёныя. Мой унук таксама ляснуўся летась з каня. Праўда, толькі шыю абдзёр на ржэўніку. — Потым палагоднеў: — Нічога, усяляк бывае. Я ў свой час, як з хлопцамі на начлег коней ганяў, таксама любіў быстра праехаць. Помню...

Ды дзед Піліп не дагаварыў. Спачатку зайшла цётка Мар'я, пацікавілася, ці не засталося ў іх посуду пасля вячэры, а праз хвіліну-другую ў дзвярах паказалася медсястра. Акінуўшы позіркам палату, загадала:

— Пара спаць.

— Слухаемся, маладзічка, — жартаўліва адказаў дзед Піліп і неахвотна палез пад коўдру.

У цёмнае акно заглядваў бледны месячык. Яго святло бялява-цьмяна адбівалася на падлозе, на сценах, нават на пакрывалах. Каб не прыпах ёду і акуратная белізна фіранак, здавалася б, што ты ляжыш пад вялізным полагам. А наўкол гаспадарыць ноч. Ціхая, месячная ноч.

Адышоўшы ад дзённай валтузні, Васілю ўжо расхацелася спаць. Дзед Піліп таксама чамусьці варочаўся з боку на бок і сцішана ўздыхаў.

— Дзядзька Піліп, а дзядзька Піліп, вы не спіцё? — не вытрымаў Васіль.

— Ды не. Калі б нарабіўся за дзень, дык заснуў бы, як вокам міргнуць. А так, без работы — і спаць грэшна. Бывала... Якое там бывала!.. Летась яшчэ... Пройдзеш з касой сотак семдзесят — спіш як забіты...

У гэты час Васілю здалося, што з двара нешта прашамацела, драпнула за раму акна. Ён прыўзняў галаву, але нічога не ўбачыў. Фіранка шчыльна засланяла ніжнюю палову акна. Потым здалося, быццам нехта пратупаў на ганку. Ды ці мала хто? У вёсцы ўлетку позна кладуцца спаць. На работу і за дзень управы няма.

— Дзядзька Піліп, — супакоіўшыся, папрасіў Васіль, — раскажыце, калі ласка, што-небудзь.

— А што табе, Васілька, расказаць? Пра вайну хіба?

— Ага! — ажывіўся Васіль. — Раскажыце пра вайну. Вы ж ваявалі?

— Я так і ведаў, — з лагодаю ў голасе і з нейкім патаемным сумам прамовіў дзед Піліп. — Мой унук таксама часта просіць. Часам і горка ўспамінаць, але згаджаешся. Хто не бачыў вайны — таму цікава, а хто пабачыў, паварыўся ў ёй, паражыў шмат — таму не зусім лёгка прыпамінаць старое, ліхалецце тое крывавае... Столькі ран засталося на людскіх сэрцах і душах... І ледзь не кожная з іх — на ўсё жыццё...

Васіль у думках ужо дакараў сябе, што распачаў з дзедам Піліпам такую гаворку, бо разважанням старога, здавалася, не будзе супынку. Дый пачаў сваю споведзь ён неяк здалёк, быццам нехаця. І Васіль хацеў ужо нырнуць з галавой пад коўдру, як дзедаў голас нібы страсянуў нечакана:

— Раскажу пра аднаго хлопца. Юрку... Нашага маладзенькага разведчыка. Яму тады было можа трошачкі болей, чым табе цяпер.

Стаялі мы пад Каменкай...

Васіль слухаў, і яму выразна ўяўлялася гэтая быль, быццам ён сам зблізку назіраў за вылазкамі і ходкамі юнага партызанскага сувязнога і разведчыка, бачыў ягоны воблік, крышку прыжмураныя гарэзлівыя вочы і чупрынку рыжаватых валасоў. Бачыў такім, якім бачыў яго Піліп Сцяпанавіч, былы ўзводны камандзір.

…У вёску Бычкі гітлераўцы ўварваліся апоўдні. Адразу ж пачулася страляніна, віск парсюкоў, кудахтанне ўцалелых нясушак, дзікае лапатанне пеўняў. У паветры запахла смаленым. Разам з дымком у агародах дзе-нідзе віўся пух.

Нешта падобнае тварылася і ў хатах. Як запраўскія рабаўнікі, фашысты варушылі і патрашылі ўсё жывое і нежывое. Праўда, людзей не чапалі. Быў пачатак лета. На градах ярка чырванеў мак, густа зелянела морква, прыемна пахла кропам і каляндраю. Грады толькі ўбіраліся ў сілу.

Цётка Хрысціна (сын яе, Мікола, быў у партызанах, а сама яна выконвала даручэнні сувязных) толькі збіралася вывесці Юрку за парог, як да двара на адкормленых цягавітых ламавіках пад’ехала палявая кухня. Два такія ж адкормленыя немцы ліха сядзелі абапал вялізнага катла, нешта гергеталі і смяяліся.

— Вось нячыстая падагнала, — убачыўшы гасцей-чужынцаў, спахмурнела цётка Хрысціна. — Ды ты, Юра, не бойся. Ты ж — сірата, старац-пахадзяка. Да мяне зайшоў, як і да ўсіх.

— Я не баюся, — запэўніў Юрка і выйшаў з хаты.

Ён бачыў, што немцы з кухняй ад’ехалі трошкі далей, да платоў. А адзін нямчына ўжо спрытна адрываў і трушчыў на калена збуцвелыя ад часу шта-

кеціны. Другі ж скуб вялізную рабую курыцу. Побач валялася яшчэ з паўдзясятка.

«Ух гады! — злосна падумаў Юрка. — Булёну захацелі. Зрабіць бы вам». І дзёрзкая думка імгненна працяла яго. Ён хуценька шмыгнуў назад у хату і яшчэ з парога паўшэптам выдыхнуў:

— Цётка Хрысціна...

— Што, дзіцятка? — напалохалася тая. — Няма як выбрацца?

— Ды не... Дайце тую міну, што я прыносіў.

— Навошта яна? — ужо спакайней спытала жанчына.

— Хачу сюрпрыз немцам зрабіць. Завесці — і ў кацёл. Няхай варыцца разам з курацінай. Да абеду ўпрэе...

Прыхапіўшы міну, Юрка наблізіўся да кухні. Зрабіў выгляд, што хоча прайсці міма.

— Ком гір! — пачуў ён раптам...

Юрка разумеў, што ад яго патрабуюць, і спакойна павярнуўся на вокліч.

— Ком гір! — зноў паўтарыў таўстапузы нямчур з белым каптуром на галаве, падзываючы яго да сябе пальцам.

— Пан, дайце трошкі хлеба... Брот, брот. Сірата я, бяздомны, — жаласліва загаварыў Юрка, працягваючы руку.

— О, найн! — катэгарычна закруціў галавой таўстун. — Арбайтэн надо… — І ён паказаў на грудку прыдушаных курэй.

Юрка ахвотна пачаў скубці іх. Кухар кінуў гэты занятак і, задаволены тым, што знайшоў дармавога памочніка, з ухвалой ляпаў сабе па тлустым азадку. Другі нанасіў ужо з калодзежа вады і распальваў кухню. Узвіўся дымок.

Абодва кухары стаялі збоку і, назіраючы за Юркавым заняткам, нешта гаварылі. Усіх слоў хлапчук не зразумеў, але сэнс некаторых улавіў. «Міттаг» — па-іхняму абед, «цвай ур» — дзве гадзіны. «Значыць, у дзве гадзіны яны збіраюцца карміць сваіх душагубаў,— здагадаўся Юрка. — І яны акуратныя ў гэтым, не любяць спазняцца». Прыглядаючы за немцамі, Юрка з зацятаю ўпартасцю, не адчуваючы здранцвення пальцаў, пачаў скубці фрыцаўскія «трафеі».

Засыпаўшы ў кацёл макароны, адзін кухар Карл, як называў яго напарнік, пайшоў у агарод. Хлопец бачыў, як той асатанела зрываў чырвоныя кветкі маку, нешта бурчаў і падоўгу корпаўся ў маркоўніку. Другі, відаць, вырашыў, што абавязкі яго скончыліся, адышоўся да плота і ніцма распасцёрся на зялёным мурагу, задаволена дрыгаючы нагамі.

Юрка падступіўся бліжэй да кухні, абцёр з пальцаў ліпкі пух, спрытна вышмаргнуў з торбачкі міну і звыклым рухам перавёў гадзіннікавую стрэлку ўзрыўнога механізма роўна на 14.00. Гэтак жа непрыкметна для немцаў і асцярожна, каб лішне не грукнула, ён апусціў свой «гасцінец» у кацёл. Борздзенька адскочыў на ранейшае месца, узяўся даскубаць апошнюю курыцу.

— О, гут, гут! — лагодна паляпаў яго па плячы таўстун, пачаў патрашыць курэй і, памыўшы ў вядры, кідаць у кацёл.

«Не разламвае, зладзюга, — падумаў Юрка. — Відаць, цэленькія пойдуць да афіцэрскага стала. А салдатам толькі навар застанецца».

Ён пастаяў трохі, а потым, як і раней, працягнуў да таўстуна руку і папрасіў жаласліва:

— Пан, брот… Хоць скібачку…

Немец чамусьці падышоў да скрынкі з макаронамі, ададраў ладны ласкут шараватай паперы, вярнуўся назад, нагнуўся, загарнуў у яго курыныя вантробы і працягнуў Юрку:

— Біттэ... Пажальста...

— Данкэ, пан, — ціхенька адказаў Юрка і асцярожна ўзяў пакунак.

Ён доўга чуў за сабою рогат адкормленага рабаўніка. Яго брала агіда, хацелася тут жа кінуць чужацкі «падарунак» у канаву, але ён мужна перасільваў чужы смех, сваю агіду. «Чакайце, парагочаце, парсюкі няшчасныя!» — здавалася, ціха шапталі яго вусны.

Што было далей — ён не бачыў. Расказвала цётка Хрысціна, якая назірала за ўсім праз шчыліну ў хляве. Немцаў сабралася дзясяткі са тры. Яны акуратненька пасталі з кацялкамі ў дзве чаргі. А кухары пачалі ўпраўна завіхацца з чарпакамі. Салдаты весела пераміналіся з нагі на нагу, а тыя, хто атрымаў сваю порцыю — адыходзіліся і садзіліся на траву, ушчамлялі кацялок у каленях і, задаволена цмокаючы, пачыналі хлябтаць духмянае варыва. І раптам над катлом шуганула полымя. Пачуўся дзікі лямант. Калі трохі развеяўся дым (ці пара ад гарачага варыва) цётка Хрысціна ўбачыла некалькі салдат і кухараў, якія нерухома выпруціліся ля пакарабачанай кухні. А з паўдзясятка гітлераўцаў са стогнам качаліся па зямлі. Ад іх таксама ішла пара. Відаць, і ім прыйшоўся не даспадобы булён, прыгатаваны і прыпраўлены Юркам.

Камандзір партызанскага атрада таксама ўлічыў гэтыя здольнасці Юркі і адправіў яго на кухню. За самавольства. Праўда, пабыў ён там нядоўга, дні тры. А потым зноў пайшоў на заданне.

Пра Юркаву аперацыю доўга ўспаміналі ў атрадзе. Было забылі, але гаворка ўсчалася зноў, калі Юрку ўручалі медаль «За адвагу».

— А што пасля сталася з Юркам? — перапытаў, устрапянуўшыся, Васіль. — Ён жывы?

— Пасля, — уздыхнуў дзед Піліп, — пасля здарылася няшчасце. Загінуў мой Юрка. — Стары, відаць, спахапіўся, што выдаў сябе на слове, замоўк, а праз нейкую хвілінку працягваў. — Усё-такі спаймалі яго нелюдзі, спаймалі...

— Як гэта было, як ён даўся ім у рукі? — ужо не мог супакоіцца Васіль. Яму хацелася пачуць працяг мужнай споведзі былога партызана, даведацца пра Юркаў лёс.

— Нашаму атраду была пастаўлена задача — разбіць варожы гарнізон у Кузькавічах. Пачалі з разведкі. Але ніводзін з дарослых разведчыкаў, пасланых на заданне, не змог прабрацца ў вёску, бо навокал яе было чыстае поле. Тады начальнік разведкі прапанаваў камандзіру атрада адправіць у Кузькавічы Юрку: хлопец ён спрытны і кемлівы, справіцца. Каб яму было не так боязна, далі ў напарнікі такога ж рызыкоўнага хлапца Валіка. Наказалі ім, як паводзіць сябе, як трымацца, каб не трапіць у лапы чужынцаў, вывелі з лесу, а самі залеглі, пачалі чакаць іх звароту. Але, на наша няшчасце, не дачакаліся…

Затрымалі хлопцаў не гітлераўцы, а паліцаі. Нехта з іх пазнаў Юрку. Збітага Юрку прывязалі за ногі да фурманкі і наўскач пагналі коней па дарозе. Так здраднікі хацелі даведацца, хто паслаў хлопцаў у Кузькавічы. Убачыўшы такое, партызаны ўсчалі перастрэлку з фашыстамі. Тады паліцаі, зачыніўшы хлапцоў у хляве, кінуліся на падмогу немцам. Разведчыкі, калі ўбачылі, што страха ў хляве пакрыта саломай, вырашылі ўцячы праз яе. Хлопцы прадзерлі яе і выбраліся на волю. У Юркі былі моцна скрываўлены ногі, бегчы яму не хапала сілы, таму хлопцы папаўзлі. Дабраліся да ручая. Валік па бервяне

перабег на другі бок ручая, схаваўся ў кустах, стаў чакаць Юрку. Ды той не паспеў перабрацца праз глыбокі ручай. Зноў пачуліся стрэлы, паліцаі акружылі яго, звязалі. У нямецкім штабе з Юркі здзекаваліся, як толькі маглі, але ён не сказаў чужынцам ні слова, не выдаў партызанскай тайны. Мы хацелі выручыць яго, адбіць у ворага, ды не змаглі. Спазніліся трохі...

Ужо нежывога, змардаванага, скалечанага Юрку знайшлі партызаны недалёка ад Кузькавіч у яме, з якой вяскоўцы бралі гліну. На грудзях была прымацавана запіска: «Я быў партызанам». Загорнутага ў плашч-палатку, якую зняў з сябе камандзір, на сваіх руках нёс я цела Юркі да лесу. Там і пахавалі... Пад маладым дубочкам...

Уздыхнуўшы, дзед Піліп, як падалося Васілю, усхліпнуў. А можа, рыпнула драцяная сетка пад матрацам ложка? Уражаны ад пачутага, ён таксама замаўчаў, нічога не перапытваў, баяўся парушыць цішыню, якая запанавала ў палаце. А срэбна-бледны месячык усё гэтак жа цьмяна ліў святло свайго ліхтара на падлогу, сцены, пакрывалы, на задумлівыя твары двух маўклівых суразмоўцаў — палоннікаў бальнічнай палаты нумар пяць.

## Хто ты, таямнічы госць?

На гэты раз Васіль не чуў, як за дзвярыма бразгала вядром і шоргала швабрай, прыбіраючы ў калідоры, цётка Мар'я, як яна голасна, ужо не баючыся парушыць чыйсьці ранішні сон, перамаўлялася з медсястрой, якая перад здачай начнога дзяжурства рыпала дзвярмі, зазіраючы ў палаты, каб раздаць прапісаныя доктарам лекі і градуснікі — змераць тэмпературу. Цяпер Васіль пачуў яе, калі Лідзія Ягораўна зайшла ў іх палату і з парога бадзёра павіталася:

— Добрай раніцы! Як спалася? Прывыкаеце да нашага распарадку?

— Мне дык не прывыкаць, — сумнавата-жартаўліва азваўся дзед Піліп, — а яму, — кіўнуў галавой у бок Васіля, — мабыць, трэба прывыкаць. Ты ж раней не трапляў у бальніцу, не хварэў? Не? Я ж бачу...

Але ў медсястры, відаць, не было асаблівага хацення выслухоўваць развагі старога, яна спынілася перад Васілём, адкінула крысо коўдры, кранулася пальцамі загіпсаванай нагі:

— Ноччу не вельмі трывожыла? Калі балела, трэба было да мяне звярнуцца. Таблетку абязбольваючую дала б.

— Ды не, дужа не балела, — зірнуў ёй у вочы Васіль. — Звечара ж нейкі ўкол давалі. — Потым нібы паскардзіўся: — Толькі нага трошкі як не свая... Дранцвее ў пальцах...

— Ну гэта пройдзе, — здаецца ажывілася Лідзія Ягораўна. — А ты чаго хацеў? Цярпі, цярпі... Канечне, у такім боціку не пабегаеш, але яшчэ горш бывае. Толькі сам не падай духам асабліва, тады хутчэй на ногі станеш.

Калі медсястра выйшла, дзед Піліп, зірнуўшы ёй услед, роздумна заўважыў:

— Чулыя, я табе скажу, людзі працуюць у нашай бальніцы. Хто-хто, а я ўжо дакладна магу сказаць такое. Ні слова колкага табе, ні злосці той... Як прыходзіць дзень выпісвацца, дык і развітвацца не хочацца. Хаця... — ён на момант запнуўся, потым з нейкім кепліва-ўсмешлівым роздумам прадоўжыў, — лепей сюды не трапляць. Асабліва такім, як ты. Старому яно не так пакутліва, ён за сваё жыццё ўсяго паспеў нагледзецца, да ўсяго паспеў прывыкнуць. Узяць хаця б мяне…

Што ён хацеў сказаць, Васілю выслухаць ужо не давялося. Зноў прачыніліся дзверы палаты і ў іх з вядром у адной руцэ і са швабраю ў другой прасунулася постаць санітаркі цёткі Мар'і.

— Дзень добры, хлопчыкі! Пакуль той сняданак, трошкі патурбую вас, асвяжу ў палаце. Каб вам лягчэй дыхалася. — Яна мелькам акінула палату позіркам, быццам прыглядалася, з якога кутка зручней пачынаць уборку, потым нечакана загаварыла, звяртаючыся ўжо да Васіля: — Ці не да цябе гэта, Васілёк, нейкі хлапец ужо самым вечарам у госці на кані прыязджаў? Пабаялася пусціць яго, каб Сяргей Аляксандравіч мне працяробу не даў, што бальнічны рэжым дазваляю парушаць, дык ён, тоячыся, пад усімі бальнічнымі вокнамі абшастаў, усё выглядваў некага. Ці не цябе часам? Думаў, што я не бачу яго, як ён пад вокнамі поўзае, у іх заглядвае. Але не прагнала. Думаю, ты ж, сакрэтнік такі, не ў самой бальніцы знаходзішся, а з вуліцы. Ды, можа, думаю, пільная патрэба ў цябе з'явілася, калі на ноч гледзячы ў бальніцу прымчаўся. Ты часам не здагадваешся, хто б гэта мог быць?..

Цётка Мар'я яшчэ нешта гаварыла, увішна адсоўваючы тумбачкі і шкрэбаючы мокрай анучай, наматанай на швабру, пад ложкамі, а Васіль тут жа перакінуўся думкамі ў мінулы вечар: значыць, яму не падалося, што нехта ў цемры хадзіў пад акном, і тупат каня таксама яму не падаўся. Але ж хто з хлопцаў прыязджаў у адзіночку? Славік? Федзя? Толік? Дык яны ж наведвалі яго. Можа, Стась? З хлопцамі пасаромеўся, ці, можа, пабаяўся, дык вырашыў такім чынам наведацца, каб хоць як з218гладзіць сваю вінаватасць? А ці вінаваты ён у чым? Хто дакажа яго прычыннасць да нечаканага здарэння? Гэта толькі здагадкі хлопцаў... Канечне, уся праўда выплыве з часам, здагадкі перастануць быць здагадкамі, а як быць са Стасем, як паводзіцца з ім? Дараваць, зрабіць выгляд, што нічога страшнага не адбылося, што яны застануцца сябрамі-таварышамі?..

Ход яго далейшых думак перапыніў той жа бразгат вядра: санітарка наважылася ўжо выйсці, але раптам, быццам схамянуўшыся, апусціла яго на мокрую падлогу, абвяла жывым позіркам насельнікаў палаты:

— Можа, вам расчыніць вокны? Ці самі гэта зробіце? Падлога хутчэй падсохне. А то табе, хлопец, можа, зноў не паздаровіцца, калі, не дай бог, каўзанешся на сваіх хадульках-дзеравяшках.

— Ды мы, цётка Мар'я, самі. Гэта ж няцяжка, — першым памкнуўся да акна, пры якім стаяў яго ложак, Васіль. Ён бачыў, як і дзед Піліп ступіў крок-другі да акна, якое сонечна бліскала шыбамі бліжэй да яго.

Прыхінуўшыся ямчэй да падаконніка, Васіль расхінуў белыя, быццам накрухмаленыя, як і халаты ў бальнічных дактароў, фіранкі, ляснуўшы кручкамі, разнасцежыў створкі акна. Свежае ранішняе паветра, якое не паспела яшчэ прагрэцца промнямі пагодлівага летняга дня, прыемна прабегла па руках, абдало твар, зрабіла лёгкім дыханне. Інстынктыўна, як гэта ён не адзін раз рабіў дома, перагнуўся цераз падаконнік, выглянуў з акна. На гэты раз ад нечаканасці Васіль ажно адхінуўся назад, потым, нібыта пра штосьці ўспомніўшы, зноў высунуўся з акна, застыў на імгненне, не верачы сваім вачам. Тое, што ён убачыў, здзівіла б не толькі яго: на вострым сухім сучку, які быў уваткнуты ў шчыліну рассохлага і патрэсканага ад часу падаконніка, вісела... торбачка. Не хацелася верыць у такі цуд, але тут усё адбывалася, нібыта ў сапраўднай дзіва-казцы, як у тым кіно.

Узрушаны таемным унутраным хваляваннем, падагрэты няўцерпнай цікавасцю, Васіль зняў таямнічую торбачку з сучка, перанёс на тумбачку, спяшаючыся, развязаў і… ледзь не разрагатаўся ад неспадзяванасці ўбачанага: у тор-

бачцы, адліваючы жаўтлява-бялявай спеласцю, ляжала з паўдзясятка яблыкаў, ранніх «жытнікаў». Такіх жа, што ўжо духмянілі сваім водарам яго тумбачку.

Не заглядваючы ў торбачку глыбей, Васіль похапкам выбраў самыя спелыя, як яму падалося, яблыкі і працягнуў іх цётцы Мар'і, якая быццам здагадалася, што адбылося нешта незвычайнае, на нейкі момант затрымалася на парозе палаты, моўчкі назірала за тым, як Васіль распакоўваў таямнічую перадачу.

— Частуйцеся, у мяне яшчэ ёсць.

Падзякаваўшы, санітарка апусціла яблыкі ў глыбокую кішэню свайго цёмна-сіняга халата, яшчэ раз недаўменна зірнула на Васіля і яго загадкавую торбачку, нарэшце выйшла з палаты.

Дзед Піліп, калі Васіль прапанаваў і яму пачаставацца «жытнікамі», рашуча адмовіўся:

— Не, не, Васілька! Я да Спаса ніякай садавіны і на зуб не смакую. І то часцей печаную ўжываю. Гэта вам, дзятве, карціць усялякую яшчэ ад цвету трушчыць, а мне, старому чалавеку, ды яшчэ з такой хваробай, трасца на яе… Як прыпячэ, дык і на неба нехаця папросішся. Так што, дзякую... А ты еш, табе ж мо лішнія вітаміны не пашкодзяць. — Потым, нібы схамянуўся: — А ўсё ж цікава мне ведаць, хто да такога дадумаўся, хто пастараўся? Сакрэтна, і цёмначы. Гм-м...

Выклаўшы яблыкі на тумбачку, Васіль хацеў вывернуць торбачку, каб пераканацца, што яна пустая. Засунуў руку глыбей, страсянуў — і на ложак выпаў блакнот. Не самаробны, сшыты з розных лісткоў, а куплёны, з выціснутай выявай пяра і кнігі на вокладцы. Такія Васіль бачыў у раймагу, калі вясною ездзіў у Буду на агляд мастацкай самадзейнасці, дзе ён з адкакласнікам Шуркам Ванькоўскім паказваў сцэнку паводле апавядання Чэхава «Зламыснік». На школьным конкурсе іх тэатральныя здольнасці ацанілі на ўсю «пяцёрку», а вось на сцэне раённага Дома культуры ранейшага трыумфу не адбылося. Ад хвалявання зусім прыглух голас і ў перапоўненай зале ні журы, ні гледачы, як было выказана пры падвядзенні вынікаў, нічога не маглі разабраць, што ён бубніў перад «суддзёй» Шуркам. Хоць нейкай узнагароды, на якую разлічвалі ў школе, яны не атрымалі. Як потым Васіль сам з сябе пацвельваў, нумар не прайшоў. Чакаючы цягніка, прыгнечаны пачуццём вінаватасці, Васіль зайшоў у раймаг, каб патаптацца каля аддзела, дзе прадаваліся кніжкі, сшыткі, розныя школьныя тавары. Купіць не было за што, а пастаяць, падзівіцца на такое багацце за прылаўкам раймага ніхто не забараняў. Тым больш, што ў яго была мара — сабраць за лета, адпасваючы вяскоўцам радоўкі, трохі грошай і купіць сабе фабрычную сумку, такую, з якімі паказвалі камандзіраў у кіно. Ну, не такую, дык хоць падобную на яе. З палатнянай, што пашыла цётка Ганна яшчэ пазалетась, хадзіць у школу было ўжо крыху ніякавата. Асабліва перад Віцем і Стасем. Першаму «камандзірскую сумку» купіла маці, а другому — брат, які зарабляў грошы, працуючы на чыгунцы. Але пасля гэтага здарэння Васілю, мабыць, давядзецца пачакаць з ажыццяўленнем сваёй мары — пакуль стане на ногі, дык і лета прабяжыць, дзе ўжо заробіш грошай на тых радоўках!..

Тады ж Васілю дужа карцела стаць уладальнікам такога ж блакнота, з выціснутай выявай пяра і кнігі, што, мяркуючы па ўсім, у поўнай меры адпавядала яго прызначэнню — збіраць у адно запаветныя радкі і думкі. Доўга муляўся ён перад прылаўкам, дзе пад тоўстым шклом і недаступна для яго рук ляжала, чакаючы сваіх уладальнікаў, аж некалькі блакнотаў, але купіць не купіў. Пабаяўся, што дома не ўхваляць яго пакупку — ажно паўтара рубля на вецер выкінуў! Амаль цэлую буханку хлеба можна было б купіць за

гэтыя грошы!.. Хоць Мікалашка (так у вёсцы звалі Васілёвага бацьку) з лета ў лета «хадзіў з пугай», пасвіў калгасных кароў, зарабляў па тысячы працадзён за год, але грошы ў хаце мала вяліся. Бо за гэтыя працадні, чамусьці ахрышчаныя «палачкамі», нічога апрача асцюкаватага жыта не давалі. Хто хацеў быць з грашамі, выкручваўся сам. Балазе была свая гаспадарка, вялася нейкая жыўнасць.

Ды ўсё ж Васіль не вытрымаў, раскашэліўся: у станцыйным буфеце прыкупіў меншаму брату Валодзьку гасцінец — даволі вялікую булку, пасыпаную макам. А «камандзірская сумка» і прыдатны блакнот пачакаюць да лепшай пары...

І цяпер гэты блакнот, што кінуўся яму ў вочы ў раймагу, ляжаў у яго на ложку: бяры, радуйся, запісвай усё, што нарыфмавалася ў памяці, пакутна варочаючыся на бальнічным ложку. А запісваць таксама было чым — рука адшукала ў торбачцы аловак. Новенькі, зіхоткі ад чырвонай лакіроўкі, на якім золатам былі адціснуты словы: «Пионер. Ф-ка им. Сакко и Ванцетти». З такімі алоўкамі хадзілі амаль усе школьнікі. Быў ён, праўда, жоўтага колеру, і ў Васіля. Але ж гэты — новенькі, завостраны адмыслова, няйначай тачылкай, якую ён таксама бачыў у раймагу. Таямнічы адведнік быццам здагадаўся, што ў бальніцы такія дробязі вельмі дарэчы: сам Васіль напярэдадні, каб напісаць хлопцам запіску, аловак і паперу прасіў у медсястры.

Дзед Піліп, седзячы на крайку ложка, не падаваў голасу, моўчкі назіраў, як яго сусед па палаце, быццам той фокуснік, вытрасаў з торбачкі неспадзяваныя гасцінцы. Не ўтрымаўся, зноў загаварыў, кіўком галавы паказаўшы на Васілёў скарб:

— Не чакаў? І не здагадваешся, хто б мог удружыць, падкінуў табе, такую, можна сказаць, задачку? Хоць спецыяльнае расследаванне заводзь. Ды, я так думаю, пакуль паляжыш тут, не адну задачку разблытаць зможаш... Сярод сваіх людзей вялікіх таямніц не бывае. Усё з часам на чыстую ваду выплывае, праясняецца. І ў цябе таксама. Я так думаю...

Аднак спадзяванню на доўгае ляжанне ў бальніцы не суджана было спраўдзіцца на другі ўжо дзень. Адразу ж пасля снедання ў палату ў суправаджэнні медсястры Лідзіі Ягораўны зайшоў іх палатны доктар Сяргей Аляксандравіч. Прывітаўшыся, тут жа скіраваў да Васіля, загаварыў жартаўліва:

— Ну як, не сумна табе ў кампаніі Пілiпа Сцяпанавіча?

— Ды не, не сумна, — адказаў Васіль, у думках чакаючы ад доктара чарговага прысуду, потым дадаў, нібы пажаліўся: — Доўга мне яшчэ ляжаць у бальніцы?

— Як табе сказаць? Паляжаць — паляжыш яшчэ. Ды ўжо не ў нас, не ў бальніцы...

— А дзе? — быццам прыпалоханы нечаканай навіной, ледзь не ўскочыў на мыліцах Васіль. Адчуў, як нешта быццам пахаладзела ўсярэдзіне.

— Дома, — паклаў яму руку на плячо доктар, нібы папярэдзіў, каб ён супакоіўся. — Званіў раніцай твой бацька, цікавіўся, як ты тут, ці можна заўтра пад'ехаць да цябе. Я сказаў, каб прыехаў. Не на калгаснай машыне, дык на кані. Заўтра мы выпішам цябе. Будзеш далечвацца дома. Навошта ж табе ў нас ад нудоты залішняй марнець. Прызначым табе лекі патрэбныя, дома будзеш прымаць іх, трымацца рэжыму, як я табе скажу. Вось Лідзія Ягораўна распіша ўсё, як належыць. А недзе праз месяц зноў да нас выберашся. Зробім рэнтгенаўскі здымак, паглядзім, што і як з тваім пераломам. Згодзен?

— Згодзен! — ледзь не выгукнуў ад неспадзяванага ўзрушэння Васіль. — Буду рабіць усё так, як вы скажаце!

— Доктар, што ж вы робіце? — пачуўшы такое, ледзь це ўзмаліўся дзед Піліп. — А як жа я? Што я тут буду рабіць адзін-адзінюткі на ўсю палату? З кім пагавару, з кім летні дзень, такі доўгі, ліха на яго, скаратаю? Я ж не ад гэтай мярзотнай язвы, а ад суму несусветнага скапычуся!..

— Не бядуйце, Піліп Сцяпанавіч, і вам тут нядоўга на нашай дыеце сядзець. Прыступ мы прыглушылі, страўнік, як паказваюць аналізы, больш-менш стабілізаваўся... Днямі прыедзе ўрач з райбальніцы, галоўны спецыяліст па вашай хваробе, пракансультуемся з ім, прызначым лекі і... дадому-дахаты! Думаю, на саланіну асабліва налягаць не станеце, і з касьбой таксама перачакаеце?..

— О-о-о, гэта дзела! — адразу ж перамяніўся настрой дзеда Піліпа. — Дзякуй, доктар, што не дасце мне засохнуць тут на корані ад самоты ды суму. А язву гэтую, язва на яе, я з Аксінняй маёй пастараюся зноў неяк улагодзіць, каб супакоілася, не турбавала лішне... Хоць, я так вам скажу, дагаджаць ёй, немачы паганай, вясковаму чалавеку цяжка, ой цяжка! Гарадскому, можа, лягчэй, умовы не такія, харчаванне, а калгасніку няма як прыслухоўвацца да яе патрэб, да яе выбрыкаў капрызлівых. Дзякуй яшчэ, што яна мяне за вайну не з’ела, дый цяпер сіліцца, а змагчы пакуль не можа. Пакурчуся, паскрыгачу зубамі, падлячуся трохі, дый далей тупачу...

— Тупачыце, тупачыце, але асцерагайцеся часцей, — у тон яму адказаў Сяргей Аляксандравіч і ўслед за медсястрой выйшаў з палаты.

— Бачыш? — неяк па-змоўніцку гарэзна падміргнуў павесялелы дзед Піліп Васілю. — Не ўсё так блага, як здаецца. Заўтра будзеш дома, з хлопцамі пабачышся. А я Аксінню сваю скорай выпіскай абрадую. — І, як тады, у першы дзень іх знаёмства, прытупнуў малайцавата, заспяваў:

Гэй, гэй, таўкачыкі!
Гэй, гэй, дубовыя!
Гэй, гэй, дубовыя,
На работу гатовыя!

Акрылены і ўсхваляваны блізкасцю сустрэчы з домам, Васіль сунуў у адну кішэню халата яблык, а ў другую — блакнот з алоўкам і з нечуванай дагэтуль лёгкасцю паскакаў на мыліцах да дзвярэй палаты, а адтуль, асцярожна спусціўшыся з ганка, у бальнічны двор. Яшчэ з акна ён запрыкмеціў у самым канцы яго, прыхаваную кустамі каліны і жасміну, лаўку, да якой часам выбягалі пасядзець бальнічныя медсёстры ды санітаркі. Супакоены добрай навіной, Васіль сеў на сонечны рог лаўкі, прыставіўшы збоку мыліцы, каб іх можна было лёгка ўхапіць, калі раптам паклічуць у палату, зажмурыў вочы, дастаў з кішэні яблык, смакуючы, адкусіў. Ён еў яблык, які пырскаў кіславатым яшчэ сокам, а з галавы не выходзіла думка, што не пакідала яго з самай раніцы: «Хто б гэта мог быць? Хутчэй за ўсё, мабыць, Стась. Праўду казалі хлопцы: ён вінаваты ў маім няшчасці. І цяпер захацеў хоць неяк прыгладзіць сваю віну, свой учынак».

Разважаючы, ён нечакана злавіў сябе на думцы, што прыбілася да яго ў апошнюю хвіліну: «А, можа, гэта Ваня Кавальчук пастараўся? Прачуў, што я ў бальніцы апынуўся, і знарок паклаў у перадачу блакнот з алоўкам. А чаму і не? Хоць жыве ён на Трудавіку і пасёлак гэты ўваходзіць у калгасе ў 2-ю паляводчую брыгаду, у школе мы некалькі гадоў запар сядзелі за адной партай, і ў бібліятэку, якая знаходзіцца ў іхняй хаце, ідучы са школы, часта заходзім разам. А тут такое… Падумаў, што яго падарунак найбольш узрадуе, найбольш спатрэбіцца. Сам жа піша вершы. Аднаго разу тайком,

каб ніхто ў класе не ведаў, паказваў іх мне, пытаў, ці складна яны напісаны, нават раіўся: «А можна ў газету паслаць? Іх надрукуюць ці разаб'юць?» Але чаму зрабіў усё таемна, цёмначы? Хацеў здзівіць? Не, наўрад… Але ж, хто тады?..»

Апантаны здагадкамі, Васіль адсунуўся далей, у цянёк, бо летняе сонца узняўшыся на самую вышыню, бліжэй да поўдня, асабліва не шкадавала сваёй гарачай ласкі, пачало пячы ў галаву, нібы падганяла хутчэй разгарнуць блакнот, запісаць у яго радкі, што ўжо не адзін дзень круціліся ў галаве, паўтараліся на памяць, каб не згубіцца ў ёй з-за ўсёй гэтай бальнічнай мітуснечы. Новы верш падаўся яму чамусьці лепшым за тыя, што засталіся дома ў яго скрэмзаным агульным сшытку. А можа, ён варты таго, каб ціхенька, тайком ад усіх, нават ад Вані Кавальчука, паслаць яго ў газету? «Вось перапішу, тады пабачу, як ён чытаецца».

Васіль перабраў у памяці некалькі загалоўкаў, якія можна было б даць вершу, але ніводзін не спадабаўся: нейкія звычайныя, простыя, не зусім прыгожыя. «Пазней прыдумаю, а цяпер няхай пабудзе без назвы».

Як прыгожа ўлетку ў полі:
Каласіцца збажына,
Водар траў у наваколлі,
Гоман птушак да цямна.

Сонца ярка ўсмешкі дорыць,
Ветрык — песенькі свае.
Ён гуляе па прасторы,
Ён ад радасці пяе.

Росы з кветак ападаюць,
Чую ў лузе звоны кос.
Васількі мяне вітаюць,
Вочы ў іх — блакіт нябёс.

Прымружыўшы вочы, Васіль па памяці раз за разам перачытваў напісаныя радкі і, здавалася яму, усё далей і далей адыходзіў ад падзей апошняга тыдня, а ўсю яго істоту залівала напоеная водарам поля мляўкая цеплыня, ад якой чамусьці хацелася ўсміхацца, спяваць і плыць, плыць у далечыню, у невядомасць, дзе раніцы купаюцца ў росах, сады залацяцца ад жытнікаў і антонавак, у лузе пасуцца коні, радуюцца волі і сакаўной траве, і ніхто іх не ўпрагае ў плугі, не сцёбае пугай, як робіць гэта Стась, каб сагнаць на конскай спіне раптоўную злосць ці сваю крыўду на некага... Цьфу ты! Насланнё нейкае, ці што? Няўжо няма нічога добрага ўспомніць? Казаў жа дзед Ціліп, што сярод сваіх людзей лягчэй раны загойваюцца, хутчэй усё благое забываецца... А ці так усё кепска ў яго? Заўтра ён зноў будзе дома... А брат Валодзька абрадуецца гасцінцу, які ён яму прыхаваў — абаранку і аладкам-пампушкам. Гэтымі прысмакамі пачаставаў Васіля сусед па палаце дзед Піліп — падзяліўся перадачай, што прынесла ягоная жонка, прыветліва-гаваркая цётка Аксіння. «Еш, Васілька, — не хаваў сваёй лагоды стары, — гэткія гасцінцы табе, дзіцёнку, у большую радасць, чым мне».

— Васіль, ты дзе? — пачуўся раптам голас дзеда Піліпа. — Тут цябе шукаюць!

— Іду, іду, — нібы знячэўку разбуджаны, заспяшаўся Васіль, упраўна падабраўшы мыліцы, порстка ўзняўся з лаўкі, сунуў блакнот з алоўкам у кішэню халата, зрабіў першы крок. «Абход жа ўжо быў... Цікава, каму я там спатрэбіўся?..»

## Рубцы застаюцца

Раніцай Васіль прачнуўся ад гулкага лапатання пеўня, які, узляцеўшы на плот, галасіста вітаў прыход новага дня. Чуваць было, як квохкала панадлівая Чубатка, нагадваючы гаспадыні, каб тая выйшла на ганак і сыпнула жменю-другую прасяных круп яе жоўта-пушыстаму вывадку, што абуджаў падворак мітусліва-гаманкім ціўканнем. Дзесьці за хатаю, праз дарогу ад іх, чуўся рып калодзежнага жураўля, бразгат вёдраў: вяскоўцы бралі ваду. Здалёк, ад самага канца вуліцы, рэхам далятаў адрывіста-размераны стук малатка: нехта кляпаў касу. За сцяною, дзе ў іх стаяла печ, час ад часу грукала вілачнікам ды чапялою маці, з шоргатам ставячы бліжэй да агню чыгуны з варывам, злёгку звякала па прыпечку скаварада.

Пасля бальнічнай цішыні, яе аднастайнага распарадку гэтае шматгалоссе летняй раніцы ўжо здавалася Васілю крышку нязвыклым, нібыта чуў яго ўпершыню. Ложак, на якім звечара маці паслала Васілю, стаяў у сенцах. Яго сюды выстаўлялі з хаты кожнае лета. Не аднаму Васілю падабалася спаць у сенцах, дзе было свяжэй, дзе можна было павесіць полаг, каб, натупаўшыся ў полі ці ў двары, — адпачыць падчас абеду, і ўдзень трапіць у царства ночы. Праўда, апынуўшыся ў ім, нельга было ўбачыць ні зорак, ні месячыка над сабой, але чулася ў ім у такія хвіліны асабліва ўтульна, зацішна і таямніча. А на Тройцу, калі Васіль і Валодзька абтыкалі ўсе куточкі галінкамі маю — ясеня, бярозы і клёну — у сенцах і ў хаце, пакуль не ўсыхаў ён, дурманіў галаву водар ляснога прастору. На гэты раз яму не давялося хадзіць па кустоўі, шукаць таго ясеня. Пастараўся Валодзька. Як паспеў агледзецца Васіль, меншы брат не адну вязанку маю наламаў ды прынёс да двара: у зялёнае голле была прыбрана ўся хата.

Ён ляжаў у паўзмроку сянец, любуючыся струменем святла, што лілося ў акенца каля жорнаў, якія займалі свой пачэсны куток бліжэй да парога. Жорны ў іх адмысловыя, лёгкія для мліва. Мабыць, адны такія на ўвесь пасёлак. Ніводнага дня не гуляюць, завозна, як на сапраўдным млыне. Не той, дык той зварочваюць з торбачкай у двор да Мікалашкаў: грэчкі ці пшанічкі змалоць на блінцы, а часам і жыта на хлеб, аўсу ці ячменю на падмешку парсючкам. Здаралася, у іх было завозна, як на млыне ў Бычках. Зранку да вечара чуўся скрыгат жорнаў, не сціхала людская гамана. На што ўжо спакойны бацька, але і ён не вытрымліваў, пачынаў крывіцца ад такога людаходу, ад віратлівай мітуснечы ў сенцах. Дый самі яны часцяком пякуць хлеб з мукі, змеленай на сваіх жорнах. Вятрак у суседніх Бычках старэнькі, не кожны дзень ветру слухаецца, можа млівам парадаваць, а жорнам ніякага ветру не трэба, толькі рук не шкадуй, круці, увіхайся. Дый везці на млын нейкія там пуд ці два збожжа — не зусім апраўданы клопат. І прыварку ніякага. Толькі выдаткі, і не такія ўжо нязначныя. Як бацька часам казаў, разбяжыцца мука па камянях — толькі прыгаршчы ў мяшок збярэш. А яшчэ трэба думаць, чым лепей заплаціць: ці меркаю той жа самай мукі, ці грашыма. Як гэта ўсё робіцца, Васіль бачыў сам, калі восенню вазіў з бацькам на млын збожжа новага ўраджаю. На ветраку ў той дзень было завозна, і ён усенькую ноч прасядзеў на мяшках ды прасноўдаўся каля падвод, што з'ехаліся на мліва, чакаючы, пакуль падыдзе іх чарга...

Круціць хатнія жорны — і высільна, і... весела, нават радасна. Асабліва, калі маці папросіць змалоць колькі місачак пшаніцы. Учэпішся за млён, круціш жорны, то віхурна, то няспешна, каб мука мякчэйшая, як вальцаваная, гарачым струменьчыкам цыркала ў начовачкі, а ў думках ужо блінамі ці

аладкамі святкуешся. А яны — духмяныя, жаўтлява-сонечныя, скарыначка да бляску здорам ці шкваркаю нацёртая. А калі яшчэ маці міску тварагу, са смятанай ці малаком размяшанага, на стол паставіць — лепшага свята не прыдумаеш, ад стала ніякай вулічнай забаўкай не адвабіш.

— Ты ўжо не спіш?

Васіль ад нечаканасці ажно здрыгануўся. Задумаўшыся, ён не пачуў, як маці рыпнула дзвярмі і пераступіла парожак, што вёў з хаты ў сенцы, з усмешкай пакудлаціла валасы на Валодзькавай галаве, які высунуўся з дзвярэй услед за ёю.

— Я пабягу ўжо на буракі. Пакуль не пячэ дужа, можа, паспею сваю пайку дапалоць. А пасля абеду брыгадзір загадаў на сена ехаць. Зграбаць трэба, пакуль пагода сухая стаіць. — Маці павязала хустку, набрала з вядра ў бутэльку вады, паставіла ў торбачку, звярнулася да Валодзькі: — Есці я згатавала, знойдзеце на стале. Ты толькі не загуляйся, у абед перастрэнь з пашы карову і авечак, каб у шкоду не ўбіліся без прыгляду. Слухайся Васіля, дапамагай яму, калі што трэба будзе. Скажаце бацьку, што карову я сама падаю. Нікога прасіць не трэба. Няхай адпачне ў абед лішнюю часінку. Каровы ж цяпер зыкуюць, набегаецца, пераймаючы іх… Ага, не забудзь, выгнаўшы скаціну на пашу, у Кліны адскочыць. Там яшчэ, па-мойму, не касілі, дык шчаўя на заўтрашні абед нашчыпай. Халаднічок зраблю з яйкам ды смятанай. Толькі маладзейшы рві, не той, што ўжо ў цыбукі пайшоў.

— Добра, — не дужа ахвотна пагадзіўся Валодзька, паціраючы заспаныя вочы кулачком. — Ты толькі падцягні гіру, каб ходзікі не сталі. Я сам баюся, яшчэ паламаю іх... А Вася няхай скажа, калі мне трэба карову з пашы спатыкаць, калі выганяць.

— Скажу, скажу, — супакоіў брата Васіль, асцярожна апускаючы з ложка загіпсаваную нагу. Агледзеўся, здзівіўся: — А куды дзеліся мае мыліцы?

— Тут яны, тут! Ты пачакай! — выгукнуў Валодзька і шмыгнуў у хату. Вынес іх, пачаў апраўдвацца: — Калі ты спаў, я хацеў павучыцца хадзіць на іх. Гэта ж лягчэй, чым на хадулях. А мама адабрала і насварылася. Сказала, што нельга крыўляцца, бо нячысцік можа ўбачыць і пакараць, скалечыць, як і цябе. А ты ж нікога не перадражніваў, цябе ж выпадкова конь стукнуў. Яно ж так было, Вася?

Гэта братава прызнанне, яго шчырасць развесяліла Васіля. Ён нават засмяяўся:

— Мама праўду кажа. Лепш на хадулях шкандыбаць ды падаць, чым на гэтых штуковінах кульгаць. Я сам яшчэ на іх добра хадзіць не навучыўся… Ледзь што — чапляюцца, так і глядзі, каб потырч не паляцець…

З двара праз парог у сенцы кульнуўся сабака. Павільваючы хвастом, наблізіўся да Васіля, сеў перад ім, паслухмяна паклаў галаву на калена.

— Здароў, здароў, Віляй! Даўно не бачыліся? — палашчыў яго Васіль па чорна-зіхатлівым загрыўку. Потым звярнуўся да Валодзькі: — Давай паглядзім, што там мама згатавала, ды паснедаем. Нябось, і яму нешта перападзе. Як ты думаеш, Віляй?

Сабака быццам зразумеў усё і толькі салапнуў языком, аблізнуўся. Не чакаючы запрашэння, праслізнуў з хлопцамі ў хату і, як гэта часта рабіў, лёг у парозе, паклаўшы галаву на выцягнутыя пярэднія лапы, прыціх у чаканні належнай узнагароды за сваю дваровую службу і адданасць.

Калі паснедалі, Валодзька, паманіўшы Віляя за сабою, выбег на вуліцу, а Васіль застаўся ў хаце адзін. Невядомы дагэтуль сум адзіноты раптам авалодаў ім. Нібы ў знямозе, ён апусціўся на ўслон, пасядзеў колькі хвілін,

абводзячы вачыма сцены, з паліцаю ў парозе, з фатаграфіямі ў самаробных рамках, якія віселі леваруч над яго галавой. Нязвыклая цішыня павявала нейкім халадком, быццам на дварэ была не самая сярэдзіна лета, а патрэскваў студзеньскі мароз. На нейкі момант захацелася зноў вярнуцца ў палату, убачыць усмешкі медсясцёр, пачуць шторанішні тупат-грукат прыбіральшчыцы цёткі Мар'і, жартаўліва-разважлівую гаворку дзеда Піліпа, які, праводзячы Васіля да бальнічных варотцаў, нават слязы не стрымаў: «Станеш на ногі, дык у госці да мяне падбягай. Да Зарэчча ж не так далёка. Я цябе не толькі сваімі яблычкамі пачастую, але і мядком свежанькім. Прыеду — падглядаць пчол вазьмуся. Пчолкі ж мае не сядзелі, як я тут, а лёталі ад раннейка да цёмнага, з кветачкаў ліпавых ды палявых мядок збіралі, працавалі, рупіліся, каб зімой самім пракарміцца і гаспадарыка свайго салодкай ласкай пацешыць, лекаў цудадзейных унукам ад прастуды прынесці».

Згадаўшы ўзрушанасць развітання, самому захацелася заплакаць. Нават даўкі камячок міжволі да горла падступіў. Не ад крыўды і расчуленасці, ад суму. Крыўдаваць грэх: учора ж, пасля яго вяртання з бальніцы і хлопцы праведалі. Ужо на самым захадзе сонца проста з поля на конях прыехалі. Абдымаючы, аблапалі ўсяго, ледзь на мыліцах утрымаўся. Толькі Стась чамусьці не злез з каня, прывітаўся, памахаўшы рукою, і ўтаропіўся позіркам у чырвоны дыск сонца, што пачынаў хавацца за стрэхамі хат. Хлопцы смяяліся, жартавалі, а ў яго быў выгляд быццам яго толькі вылавілі з вады, куды ён нечакана боўтнуўся, таму пачуваўся ў гэты момант неяк разгублена і няўтульна. Васіль заўважыў гэта, і калі Стась у чарговы раз адвярнуўся ад іх, прыпаўшы да грывы Буланчыка, пачаў падбіраць павады аброці, хітнуў галавой у яго бок, спытаў паўшэптам у Славіка:

— Што з ім?

— А хто яго ведае, — гэтак жа паўшэптам адказаў Славік. — Нейкім маўчуном зрабіўся, як сам не свой з намі. — І дадаў ужо з усмешкай: — Можа, няма цябе з намі, дык няма з кім з-за каня задзірацца, свае конікі выкідваць? Ты ачуняеш — паглядзім, як яно далей будзе, якім ён зноў стане... Нічога з ім не здарыцца, калі вось такім, у вінаватых паходзіць...

— Ты пра што? — неяк само сабой вырвалася ў Васіля.

— А ўсё пра тое ж, — ужо болей голасна і рашуча адказаў Славік і падаў каманду: — Паехалі, а то збрую не паспеем брыгадзіру здаць. Пад кладоўкай жа не пакінеш нанач. Яшчэ хто гужы на пугу абрэжа. Чаго-чаго, а шкоднікаў у нас хапае, яшчэ не звяліся. — І мелькам зірнуў на Стася. Праўда, ён не заўважыў гэтага, бо першым рушыў ад варотцаў, пакуль хлопцы адвязвалі коней.

— Ты не сумуй, заўтра кніжак табе прывязу, — ужо аддаляючыся ад двара, з вуліцы, абярнуўшыся ў яго бок, крыкнуў Толік. — Мама новых накупляла.

Толік не мог убачыць, як гэта навіна ўзрадавала таварыша. А ў Васіля ажно вочы загарэліся: цяпер яму не так сумна і адзінока будзе з раніцы да вечара перабівацца, чакаць, калі той гіпс здымуць, калі можна будзе хадзіць, як раней. Самому да хаты-чытальні цяпер не датэпаць, а Толік — малайчына, зразумеў, што яму трэба, каб дні весялей беглі. У каго-каго, а ў Толіка на кніжкі голаду не было. Усё ж маці настаўніцай працуе, часцей, чым хто, прыкуплівае іх у раённай кнігарні, каб сын не ў адны гулі кідаўся, а часцей за кніжкамі бавіў час, розуму набіраўся. Толя не быў сквапаю, нават без матчынага дазволу даваў іх чытаць усім, хто ні папрасіў бы. Адно папярэджваў: «Старонкі не заломвай, не замусоль пальцамі». І, мабыць, правільна рабіў. Чысцейшую кніжку заўсёды прыемней у рукі ўзяць, ахвотней такую чытаць.

Васілю таксама хацелася мецъ палічку з кніжкамі, хоць і маленькую ды сваю бібліятэку. Але ж з такімі заробкамі, як у іх сям'і, ці ж накупляешся гэтых кніжак? Не хлеб жа! На падручнікі для яго і для Валодзькі грошы таксяк ды знаходзіліся: без іх як у школу пойдзеш, па чым вучыцца будзеш? А свая бібліятэчка… Гэта ж не «камандзірская сумка» нават. Без яе, калі добра падумаць, можна ўсё ж абысціся…

Каля ганка, куды ён перабраўся з хаты, зноў адкуль ні вазьміся заквохкала Чубатка са сваім пісклявым выводкам. Відаць, падумала, што ім зноў сыпнуць круп ці так якога наедку. Васіль пасміхнуўся ад такой здагадкі, аднак нічога іншага не прыдумаў, толькі ўзмахнуў рукамі:

— А кыш-ш-ш! Пакорпайся з імі ў градах, пашукай чарвячкоў. Я не ведаю, дзе вашы крупы стаяць. Прыйдзе мама — сама вас пакорміць. Ці Валодзькі дачакайцеся, калі ўжо так.

Квактуха спачатку спалохана адскочыла ўбок, а потым пачыкільгала бліжэй да веснічак, што вялі ў агарод. За ёю жоўта-пушыстымі клубочкамі, здаецца, не пабегла, а пакацілася, абганяючы адзін аднаго, яе вясёлая каманда.

У роздуме, пазбаўлены пільнага занятку, Васіль колькі хвілін аглядаў з ганка сад: яблыні, грушу, якая раней, чым астатнія дрэвы ў садзе, пачынала адчуваць хлапечую прыхільнасць і ўвагу да сваёй разгалістай асобы. Грушы на ёйніводнага лета не маглі давісець да той пары, калі па сваёй ахвоце, ужо добра пажаўцелыя, з шакаладна-мядовай начынкай унутры, самі ўпадуць на зямлю, без наскокаў і калатнечы хлопцаў. Праз лета сад радаваў багаццем пладоў, здаралася, што голле не вытрымлівала іх цяжару, ламалася, тады даводзілася загадзя ратаваць яблыні, ставіць падпоры пад галіны, што абвісалі да самай зямлі. Праўда, адно мала радавала хлопцаў: усе яблыні ў садзе былі позніх гатункаў. Таму надта ж смачнымі здаваліся Васілю дый астатнім вясковым хаўруснікам, Цітавы жытнікі. З-за ягонай прыроджанай глухаты яны не маглі абараніцца нават абгародкай з калючага дроту. Сабаку Ціт трымаў, аднак з прывязі яго спускаць баяўся: яшчэ пакусае каго з падшыванцаў, дык яго дзяўчаткам, Людцы і Ларысцы, праходу не дадуць.

Сама бліжэй да ганка стаяла раскідзістая пепінка. Голле на ёй, здавалася, было абсыпана мноствам ружова-зялёных яблычкаў, якія пляцёнкамі звісалі ўніз, быццам нагадвалі, што пара ўжо ставіць падпоры. Сад быў яшчэ малады, дрэвы не паспелі абзавесціся патрэсканай ад старасці карою, таму на пепінцы кідаўся ў вочы каструбаваты рубец-нарост бліжэй ад зямлі. Затрымаўшы позірк на ім, Васіль ажно скалануўся ад нахлынуўшага ўспаміну, лязо сякеры, здалося, зноў бліснула маланкаю перад яго вачыма. За пяць гадоў той выпадак быццам бы забыўся ўжо, сцёрся з памяці, але ён ажываў у ёй кожны раз, калі Васіль браўся пасабляць бацьку ставіць падпоры, ці штовосень зграбаць апалае лісце, абкладваць ім яблыні, прысыпаць зямлёй, каб цяплей чулася зімою, мароз не прысушыў іх карэнне.

Таго дня фінагент, якога ўсе вяскоўцы за вочы чамусьці звалі Піковым, завітаўшы ў іх двор, пачырванелы, як бурак, ад выпітай у некага самагонкі, пырскаў слінай, трасучы перад зніякавелым бацькам нейкімі паперамі, патрабуючы не шукаць дурняў, не прыкідвацца жабраком, а тэрмінова знайсці грошы, каб разлічыцца з дзяржавай, заплаціць падатак. Баючыся трапіць яму на вочы, не вылазячы з сянец, яны з Валодзькам недаўменна пераглядаліся: якой гэта «нядоімкай», «канфіскацыяй імушчаства», «штрафам» раз за разам пагражае бацьку Пікавы?! Калі ён з'ехаў з двара, бацька раптам схапіў сякеру з-пад павеці і кінуўся ў сад. «Ссяку ўвесь! — раз'ятрана крычаў ён, зацкавана

зіркаючы, з чаго б пачаць. — Усё роўна карысці ніякай, ніводнай капейкі не дае ў хату, а падатак за кожнае дрэва дзяруць! Чым плаціць за ўсё?»

«Татачка, не сячы!» — услед за маці кінуліся яны да бацькі, які паспеў ужо размахнуцца і гахнуць разы са два па ствале бліжэйшай да яго пепінкі. Крык дзяцей, іх слёзы і рашучасць жонкі, якая паспела перахапіць чарговы ўзмах сякерай, відаць, на момант астудзілі бацькаву злосць. Ён неяк зняможана апусціў сякеру, вярнуўся да павеці, апусціўся на калоду і... заплакаў.

Надвячоркам, калі ўсе супакоіліся, бацька схадзіў да Паўла Сямёнчыка, які збіраўся перакладаць печ і назапасіў гліны, прынёс ад яго некалькі чырвоных камякоў, размяшаў іх у аблупленай салдацкай касцы, што пасля вайны стала прыдатнай пасудзінай у двары, густа абмазаў сечаную рану яблынькі глінай, а зверху абматаў палатнянай анучынай. Рана загаілася, яблыня не ссохла, толькі рубцы засталіся на ствале. Праўда, чужому воку не дужа заўважныя. За тыя гады, што мінуліся з той пары, сад падрос, пасталеў, пачаў добра радзіць. Асабліва гэта пепінка. Быццам хацела аддзячыць за сваё ўратаванне...

— Што, хрэснік, задумаўся? Глядзіш, калі ўжо можна будзе ў сад злазіць, па яблыньках пашастаць? Ёсць ад чаго задумацца.

Павярнуўшыся на голас, Васіль убачыў свайго хроснага Івана Пятровіча. Ці проста — Пятровіча, як звалі яго ў вёсцы старыя і маладзейшыя. Як яго прозвішча — не кожны мог сказаць: Пятровіч ды Пятровіч.

Ссунуўшы на патыліцу выцвілую ад сонца шапку, з прывычнай прыжмурана-хітраватай усмешкай на твары, ён ішоў да ганка, моцна прыпадаючы на правую нагу. Па тым, як ён, былы партызанскі разведчык і падрыўнік, ускакваў у сядло, ліха мчаўся вуліцаю, раз-пораз прышпорваючы не дужа паслухмянага жарабка, ніхто не мог паверыць, што ў яго няма нагі, што ходзіць ён, як і яго сусед, брыгадзір Хвядос Панасавіч, на рыпучым пратэзе. Васілёў хросны загадваў у калгасе канюшняй. Ён так уцягнуўся ў работу, так прывык да коней, што ў падсобцы пры канюшні калі-нікалі заставаўся начаваць, спаў на мяшках з аўсом. Асабліва напрадвесні, калі ў жаробак пачынала з'яўляцца патомства — кволыя жарабяткі, якім патрабаваўся пільны догляд...

Пятровіч прыставіў да вугла пужку, з якой, мусіць, не расставаўся нават у святы, агледзеўся, куды б прысесці, і прыхінуўся да вушака дзвярэй. Васіль хацеў быў пасунуцца на ганку, ды той махнуў рукою:

— Сядзі, сядзі... Не трывож сваю ляльку, — паказаў на загіпсаваную нагу. — Я ўжо з Панасавічам перакідваўся, ламаў галаву, хто б мог Буланаму так дапячы, каб ён убрыкнуў цябе, па назе ляснуў. А мог жа і забіць, чаго добрага... Кажа, нехта з хлопцаў нібыта пастараўся. А хто? От бы добрай лазы ўламаць яму! Каб дзясятаму заказаў, злыдзень гэтакі! Тады ў гарачцы нікому не цюкнула ў галаву сказаць тваім хлопцам-сябручкам, каб яны ціхай хадой праехалі на пашу ды з пашы, паўглядаліся пад ногі. Думаю, знайшлося б у траве тое пута, што Федзька згубіў. Не можа быць, каб не знайшлося. Там жа трава не такая ўжо сенажатная, а выпасная, утаптаная. Цяпер жа наўрад ці ўдасца ўжо знайсці яго. Ці пастухі знайшлі, ці каровы з коньмі ў зямлю ўмясілі. Знайшлі б — быў бы доказ хоць нейкі, была б разгадка. А так... Ты што сам думаеш?

— Я? Можна думаць усялякае, а як яно было тады — даўмецца не магу. Хлопцы падазраюць... А можа, гэта няпраўда, нагавор нейкі?

— Нагавор не нагавор, але ж дыму без агню не бывае. Ды ліха з ім, з дымам гэтым! Галоўнае, як твой настрой, хрэснічак?

— Добра, што дома, — няпэўна адказаў Васіль. І, памаўчаўшы, дадаў ужо больш аптымістычна. — Во, як у календары, распісаў дні на ўвесь месяц, каб ведаць, калі трэба ехаць у бальніцу здымаць гіпс, на рэнтгене праверыцца.

— Не дужа вясёлы занятак, — спачувальна пагадзіўся Пятровіч, — аднак нічога не папішаш, калі ўжо так выйшла... Ды ты не бядуй, з кім не бывае... У мяне во бачыш... Ды нічога, чэпаю... А калі я на кані, дык паспрабуй мяне дагані! А ў цябе абутак цалейшы будзе, за лета не дужа стопчаш ды падзярэш па яблынях лазячы. — І жартаўліва бліснуў вачыма.

— Дык вы ж на вайне былі, дзядзька Іван, а тут, — нібы апраўдваючыся, выказаўся Васіль, падняўшы вочы на хроснага.

Аднак Пятровіч быццам не пачуў. Зрабіў крок да вугла, прыняў ад яго пужку, кінуў як бы мімаходзь:

— Чуў, што Буланчык, ліха яго матары, як ад рук адбіўся? Ніяк не хоча давацца, каб яго путалі. Самапасам ходзіць. Праўда, Ларывон казаў, у шкоду рэдка забрыдае, бліжэй да табуна трымаецца. То няхай сабе на ўсе чатыры нагі разгульвае... А можа, хрэснічак, ён цябе чакае? Ды не ўбрыкнуць, а хамут з тваіх рук уздзець. — І зноў па-змоўніцку падміргнуў, скінуўшы з ілба ўзмахам рукі аўсяную чупрыну, што выбівалася з-пад шапкі. — Ну то бывай! Прабач, што без гасцінца заявіўся. У краму рэвізія наехала, дык зачынена ўжо трэці дзень. Мусіць, у нядзелю ўжо адчыняць. Мая Анюта чула...

Пятровіч пайшоў. Хата хроснага стаяла па другі бок вуліцы, якраз наўскос праз дарогу, таму Васіль позіркам прасачыў яго хаду да самага двара. Бачыў, як ён адчыніў варотцы ў двор, узышоў на ганак. Правёўшы такім чынам хроснага да самай хаты, Васіль раптам успомніў пра блакнот, што застаўся ў сенцах пад падушкай, хацеў ужо ўстаць з ганка, каб вярнуцца да свайго ложка, але ў апошні момант, чамусьці перадумаў, зноў апусціўся на прыступку ганка. Навіна пра Буланчыка, якую прынёс хросны, авалодала яго думкамі. Ды ўжо не скруха, а нейкая патаемная радасць пракралася ў іх: «Малайчына Буланчык, што пратэстуе, не даецца, каб яго путалі. Хоча адпомсціць за сваю крыўду, паказаць, што ён не вінаваты ў здарэнні. Ці, можа, сапраўды чакае, калі не Стась, а я, Васіль, буду вадзіць і забіраць яго з пашы?.. А колькі яшчэ чакаць таго дня?» — адвёў вочы ад нагі, падняў галаву — і позірк зноў затрымаўся на яблыньцы, на рубцах, што засталіся пасля бацькавай сякеры. У думках Васіль быццам абмацваў іх, шурпатыя, цёплыя ад дабрадзейнага сонца, і святлеў ад неспадзеўнага адкрыцця: яблыньцы было балюча, ды яна выцерпела, выжыла, каб радаваць усіх сваёй красой, шчодрымі дарамі, а ён? У яго ж ніякага рубца, напэўна, не застанецца...

У той момант яму было няўцям, што рубцы застаюцца не толькі на целе, а даўжэй за ўсё — у памяці...

**1968, 2011 гг.**



## Сяргей ДАВІДОВІЧ

### ПРЫТУЛАК
### ДЛЯ ДУШЫ ЖЫВОЙ

Нарэшце — за спіной дарога,
Не чую ні плячэй, ні ног.
Нібы не я — мая знямога
Зрабіла крок цераз парог.

Хінуў я стомленае цела
Бліжэй да грубкі, да агню.
Трывожна шыбіна трымцела,
Палохаючы цішыню.

Даўней мяне сустрэла б маці:
— Сядай, сынок! Паеш, сынок!..
А сёння я адзін у хаце
Ды Маці Боскай абразок.

Надзея не губляе веры,
І я, у кут дапяўшы свой,
Не зачыніў на клямку дзверы, —
Прытулак для душы жывой.

Мо ён камусьці дапаможа
Не ўпасці, сілы аднавіць…
Ноч, безгалоўе, бездарожжа,
Нервова шыбіна трымціць.

---

***Давідовіч Сяргей Фёдаравіч*** *нарадзіўся 20 ліпеня 1942 года ў вёсцы Карпілаўка Лагойскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Вышэйшую школу Міністэрства ўнутраных спраў СССР (1982). Працаваў у сістэме МУС БССР, быў дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XII склікання.*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Спасцігнуў тайну» (1991), «Люстэрка лёсу» (1992), «Нясу свой крыж» (1995), «Горкая кропля» (1997), «Зямлі святая памяць» (2010), «Званы часу» (2011) і інш., кніг прозы «Душы маёй бяссонніца» (1999), «Развод па-славянску» (2005) і інш.*

## НЕАБХОДНАСЦЬ

Выйду ноччу на пагорак,
Бо туман навокал лёг —
На ўсё неба безліч зорак
Парассыпаў сейбіт-Бог.

І ліе срэбна-бялёсы
Месяц сум свой на палі.
Зоркі ў небе — нашы ж лёсы
Мітусяцца на зямлі.

Мы прывязаны навечна
Да Радзімы, да магіл.
І за намі шляхам млечным
Сцелецца дарожны пыл.

Мы напружана вачыма —
У палон зямных дарог.
Не заўсёды ёсць магчымасць
Пазірнуць туды, дзе Бог.

Не заўжды…
Ды ёсць патрэба
Клопаты пазбыць душы,
Стаць вось так, зірнуць на неба
У загадкавай цішы.

## АРГАН СТЫХІЙ

І зноў заплакаў дождж…
Па кім — Бог мой?
Прыкмета ёсць — і ўсё ж
Не веру ёй.

А вецер за акном,
Як плач сірот.
Такое перад сном —
На сэрцы лёд.

То стогне, то гудзе
Арган стыхій,
Не дзецца анідзе —
І сон ніяк не йдзе,
Хоць сам завый.

## ТОЛЬКІ ТУТ

Расхініцеся, далягляды,
Распаляйся, душы агмень,
Хай пашырацца зоркапады,
Хай ва ўсю распраменіцца дзень.

Ветру цесна пад небасхілам,
Думкам вольна вышэй аблок.
І ляціць да мясцінаў мілых
Сэрца, нібы ў агонь матылёк.

Сэрцу дарага, сэрцу блізка
Калыханка былога — здаля.
Вёску родную, быццам калыску,
Закалыхвае маці-зямля.

Думкі, мары, душа — супольна
Бласлаўляюць мой родны кут.
Толькі тут далягдядам вольна,
Слёзы шчырыя — толькі тут.

## БАБІНА ЛЕТА

Прыдумаць лепшае прыродзе ці магчыма?
Увосень лета! Здорава! Удала!
І неба яснымі, блакітнымі вачыма
На лета бабіна ўлюбёна паглядала.

І мроіў лес — не зносіць ён, не скіне
Ніколі залаты убор дзівосны.
Кружылася ў паветры павуцінне,
Імкнулася у сонечныя кросны.

Кароткі дзень ласкава дыхаў, поўніў
Надзеяй далягляды, паднябессе.
І толькі жураўліны плач напомніў,
Што гэта восень — халадоў прадвесце.

## ПАВОДКА

Паводка веснавых пачуццяў
Душу запоўніла маю.
Я да блакіт-нябёс імкнуся,
Вясны празрысты водар п’ю.

Я хмелем веснавой адлігі
Яшчэ душу не наталіў.
А тое, што інтрыгі-крыгі
Вакол — іх паглыне разліў.

Нягледзячы на перашкоды,
Святкуе сонечны прамень.
Імкнуцца веснавыя воды
За марамі, у новы дзень.

Чакаем мы з вясной спаткання
Таму, што кожнаю вясной
Жыццё, душа, вясна, каханне
Зліваюцца ў адно жаданне
І плынню робяцца адной.

## ВЯРТАННЕ З ВЫРАЮ

Вяртанне з выраю —
цяжкі, далёкі шлях,
Чужыя землі пад крылом ляжалі.
І сэрцаў стук,
і крылаў кожны ўзмах
І гнёзды, і Радзіму набліжалі.

Там поўдзень, сонца —
ды нямілы цуд,
Свая зямля найдарагая ў свеце.
Тут дом, пад небам продкаў,
родны кут,
І толькі тут працяг жыцця —
тут дзеці.

Падводжу вынік і гады лічу,
Што так мяне імчаць —
не азірнуцца…
Праз нейкі час я ў вырай адлячу,
О, як бы я хацеў назад вярнуцца.

## НАПЕРАДЗЕ ЛЕЦЕЙКА

Прымае душ глеба,
Клубяцца папары.
Май рэшатам неба
Працэджвае хмары.

Кудлацінка гаю
Забегла на поле,
Паказвае маю
Зялёнае голле.

Кусты ў задуменні
Схілілі галовы.
Ды дожджык вясенні —
Кароткі, часовы.

І вось ужо сонейка
П'юць далягляды.
І вычурна, тоненька
Жаўрук тчэ рулады.

Вясна пастаралася —
Не надзівіцца.
Прырода прыбралася,
Як маладзіца.

Расчысціла рэчанька
Смецця запруды.
Наперадзе лецейка
Й новыя цуды.

## ПРАМЕНЬ ДАЎНІНЫ

Безнадзейна сумуе сцяжынка ў траве,
Ледзьве бачна бяжыць —
то ў нізіну,
то ўгору.
Ёсць яна — і няма,
і жыве, й не жыве —
Разам з ёй тут знікае далёкае ўчора.

А калісьці сцяжына дарогай была,
Хай сабе і не бойкай,
а ўсё-ткі «ў законе».
Тут і песні гучалі,
й гаворка гула,
І гармонік завітваў,
і цокалі коні.

Ці дажджы, ці спякота,
ці снег, ці вясна,
А над ёй не сціхаў
смех і спеў шматгалосы.

З году ў год бездакорна служыла яна,
Безадказна злучала сядзібы і лёсы.

О, чароўнасць дарогі такой — не шаша,
Тут і роздум духоўны,
й зямлі беззаганнасць.
У дарогі такой — наваколля душа
І свая непаўторная утаймаванасць…

Што ж, знікаюць яны,
адышлі у нябыт,
Нашых продкаў дарогі
і годнасць былога.
Мы даўно праматалі на шчырасць ліміт —
Сёння мчыць нас — куды? — безаглядна дарога.

Аўтабаны гудуць —
аж гудзе ў галаве,
І не ўгледзець у вокнах матулі-прыроды…
Толькі недзе сумуе сцяжынка ў траве,
І знікае прамень даўніны —
назаўсёды.

## ПЫТАННЕ — АДКАЗ

Вам пачуць хацелася,
Як жылося нам?
І пілося й елася
З горам напалам.

Бачу — вы цікаўнікі…
У жыцці-віры
Хто былі настаўнікі?
Ў нас — правадыры.

Што? Чым мы займаліся?
Пелі «вечны бой»,
А затым змагаліся
З «ворагам» — з сабой.

А аб чым мы мроілі?
Перажыць бедлам.
Мы — урок засвоілі,
Не спатыкнуцца б вам.

## ДА ПАБАЧЭННЯ!

Прыемнасць… Непрыемнасць —
спалучэнне,
Антаганісты — ўсё ж прымай, трывай.
Хачу заўсёды чуць:
— Да пабачэння!
І не жадаю чуць прысуд:
— Бывай.

Ды чорна-беласць
па жыцці — радамі,
Падзеі перамешваюць «рады».
І ўсё ж «бывай» часцей гучыць з гадамі —
«Бывай» услед камусьці —
назаўжды.

«Жыццё», «каханне» —
словы-аздабленні,
Яны, як крылы з-за падзеяў-плеч…
Я сёння ўсім кажу:
— Да пабачэння!
Да новых светлых святаў!
Да сустрэч!

## У ДОБРЫ ЧАС!

Жывіце, людзі, на зямлі,
На ёй да нас вякі гулі,
Жыццё нярэдка — драма.
Жывіце, людзі, за сябе
Й за тых, хто паў у барацьбе,
Паў і за вас таксама.

Жывіце, людзі, пасля нас
Узнёсла, светла — ў добры час!
Менш вам трагедый-ценяў!
Жывіце, людзі! Ў добры шлях!
Хай кожны крок, як вольны ўзмах,
Нясе вас да здзяйсненняў!

# З КІТАЙСКАЙ ПАЭЗІІ ЭПОХІ СУН (960—1279)

*У сённяшняй падборцы перакладаў Міколы Мятліцкага вы пазнаёміцеся з кітайскай паэзіяй эпохі Сун (960 — 1279). Сунскія вершы шы і цы — самыя распаўсюджаныя жанры ў той час — уяўлялі пачуцці і думкі паэтаў, якія жылі, перш за ўсё, грамадскімі інтарэсамі. Літаратары падкрэслівалі важнасць гуманістычных ідэалаў, галоўнай рысай чалавечай асобы лічылі пачуццё абавязку і справядлівасці.*

*Першым да жанраў шы і цы пачаў звяртацца Оуян Сю (1000—1072). Яго вершы сцвярджалі неабходнасць змен у кіраўніцтве імперыяй, апісвалі цяжкасці сялянскага жыцця. Аптымізм, вера ў чалавека і яго магчымасці — асаблівасці паэзіі Оуян Сю.*

*Паэзія Ван Аньшы (1021 — 1086) раскрывае грамадзянскія і этычныя праблемы. Ван Аньшы, як палітычны дзеяч, спрабуе ажыццявіць рэформы і такім чынам вырашыць вострыя палітычныя і сацыяльныя пытанні той эпохі. Яго творы, асабліва чатырохрадкоўі позніх гадоў, прадыктаваныя захапленнем прыгажосцю прыроды, чаньскім і даоскім душэўным пад'ёмам, дазваляюць невытлумачальным, звышнатуральным чынам спасцігаць глыбінныя змены ў навакольным свеце.*

*Шмат зрабіў для ўзбагачэння сунскай паэзіі новымі тэмамі, незабыўнымі мастацкімі вобразамі Су Шы (1036 — 1101). Канфуцыянскае выхаванне натхніла яго быць актыўным у чыноўніцкай дзейнасці, аднак ён часта цярпеў паражэнне ў палітычнай барацьбе і быў вымушаны служыць далёка ад сталіцы. Сустрэчы з многімі людзьмі, уражанні ад розных раёнаў краіны служылі яму паэтычным матэрыялам. З гадамі яго ўсё больш прыцягвалі чаньскія і даоскія ўяўленні. Пра гэта сведчыць і характар вершаў.*

*Хуан Цінцзянь (1045 — 1105) заклікаў спасцігаць канфуцыянскі канон, каб стаць маральным чалавекам і ўмець адрозніваць дабро і зло. Паводле яго перакананняў асаблівае значэнне для паэтычнай творчасці мае ўменне выкарыстоўваць тэмы і вобразную лексіку папярэднікаў.*

*У падборцы таксама прадстаўлены вершы Лю Юна (980—1053), Чжау Баньяня (1057—1121), Лі Цынчжао (1084—1151), Чэнь Юйі (1090—1138).*

**_Вераніка КАРЛЮКЕВІЧ,_**
**_намеснік дырэктара Рэспубліканскага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ._**

## ЛЮ ЮН

*(980—1053)*

* * *

Згарнуў я ветразь. Човен мой
Лістом, аброненым з куста,
Часова ў Чу займеў прытул,
Прыстаў да берага ракі.
Рог месяца глядзіць здалёк,
І гарадок — як сірата,
Чужы, самотны флейты спеў.
І ўсе навокал — чужакі.

Бяскрайняя рачная шыр.
На водмелі касяк гусей
Рассыпаўся, падняўся ўвыш,
Я чую ў крыку перапуд.
Агус па-над вадой туман,
Чароды дрэў усё шчыльней,
Як быццам шоўкавы экран
Перада мной адкрыўся — цуд!

На даляглядзе пікі гор.
Іх чэрніць далечы палон,
Як быццам тушшу хто нанёс
Разлёты броў — адзін мазок.
Адмовіўся так лёгка я
Ад радасцей мінулых дзён!
І вось чыноўнікам цяпер
Я еду ў гэты гарадок.

Нялёгка як на схіле год
Людзям зрывацца ў дальні шлях!
Другія тут лясы, палі
І вёскі, бачаныя мной.
І глуш такая! Ды стрываць
Мне давядзецца гэты жах,
Навошта тузаць шчэ сябе
Усім, што легла за спіной!

Вы сёння ў далечы якой,
Сталіца і жаданы кут!

Травой дарогі параслі,
Вы толькі зорыце здалёк.
І ад каханай — ні пісьма…
І вось адзін я сёння тут
На захад сонца зноў гляджу,
На вечны цуг сівых аблок.

* * *

З прыходам вясны самоціць
Колераў зыркі букет.
Таму, хто кахае ў расстанні,
Не любы ўвесь белы свет.

Прамень ушчыкнуў вярбіну,
Дзе івалгі ў голлі схоў.
І я ўся ва ўладзе сумненняў,
Самочуся ў ложку зноў.

Румяны за ноч расталі,
Заблытаны пасмы валос.
Маркочуся дзень і не ў сілах
Крануцца грэбенем кос.

Як быць мне?!
І боль, і крыўда:
Пакінуў адну ён мяне,
Паехаў, пісьма не напіша,
Сам недзе ў чужой старане.

Хто ведаў, што гэтак будзе!..
Цяпер шкадаванне прыйшло —
Што ў час той сама не паспела
Схаваць пад замок сядло.

Яго затрымаўшы ў пакоі,
Паперы яму не дала, —
Няхай бы пісаў ён вершы,
Не ўзняўся тады з-за стала.

Жылі б мы цяпер без разлукі,
Не горкла б так скрушна ноч,
Адклаўшы сваё вышыванне,
З яго б не зводзіла воч…

І маладосць дарэмна
Тады б не прайшла наўзбоч!

## ОУЯН СЮ
*(1000—1072)*

* * *

Тое ў годзе мінулым было,
Свята мелася быць ліхтароў.
Быццам кветкі вясны, ў тую ноч
Палымнелі наўкруг ліхтары.
Строі вербаў у поўні святле
Гралі срэбна ў смузе вечароў,
Аб сустрэчы задумалі мы
Пад крылом вечаровай зары.

І цяпер, ноччу свята, наноў,
Як і колісь, мінулай парой,
Той жа месяц — адбітак святла,
Ліхтары — нібы водбліскі зор.
Толькі тая, з кім свята страчаў,
Ў год мінулы пагасла з зарой,
Засціць вочы мне скрухі сляза,
І ў слязах мой вясновы убор.

### СТАМЛЁНЫ, СПЫНЯЮСЯ Ў ЗАЕЗНЫМ ДОМЕ

Адзінокая лодка
Плыве, агібае парогі.

Вось і бераг адкрыўся,
І стужка раўнюткай дарогі.

Лодку я прывязаў
На ўзбярэжжы пустым да ствала.

Над уцёсамі месяц,
Далеч — поўная чаша святла…

Бачу некалькі хацін
І дым над зямлёю халоднай.

Бачу поля палоску
Між раўніны сухой і няўроднай.

Пад барвянаю поўняй
Я вяду дзён шчаслівых падлік.

Прыбярэжныя птушкі
Узляцелі, губляючы крык…

## МЕЛОДЫЯ ЦЫТРЫ Ў ДУХУ ПАЭЗІІ ЦЗЯ ДАО

Не выпала сустрэць
Калішніх нам людзей,
Ды цытра тых часоў
Жыве і ў нашы дні.
Калі яна пяе,
Нібыта салавей,
Даносяцца да нас
Іх словы з цішыні.
Мне зноўку гук чуцён
У звоне дрогкіх струн, —
Ды толькі сэрцам чуць
Усю таемнасць слоў.
Бясконца мройны сон —
З вякоў былых вястун —
Прыходзіць і мяне
Хвалюе зноў і зноў.
…Мне сніцца: слаўны муж
Прыйшоў з былых часоў.
Быў скроены па ім
Ягоны строгі ўбор.
На ложак сеўшы, ён
Зноў цытру ўзяў без слоў,
І загучаў раманс,
Як рэха з дальніх гор.
Акорд, яшчэ акорд —
І дождж, і ветру ўзвыў,
Яшчэ акорд, яшчэ —
Сышлі чароды хмар.
Істоты, птушкі ўсе —
Адзін жывы парыў;
І дрэвы, травы ўсе
Квітнелі ў ззянні чар.
Здалося: я спасціг
Сівую даўніну,
Але знарок мяне
Вярнуў у яву час.
А цытра ўсё гучыць
З пабачанага сну
І сэрцу дорыць шмат
Сваіх былых акрас…
Калі ж уцяміў я,
Што госць мой не са мной,
Самотны з ложа ўстаў
І быў я сам не свой…

## ВАН АНЬШЫ

*(1021—1086)*

### У ЦЗІНЛІНЕ Ў РОЗДУМЕ АБ МІНУЛЫМ

Я узыходжу наверх,
Ўдалеч кідаю пагляд.
На старажытнай зямлі
Восень у позняй красе.
Жоўта зіхціць далягляд,
Дрэвы палаюць усе.

Горныя пікі наўкруг,
Як наканечнікі стрэл,
Цягнецца ў тысячы лі
Шоўкавай стужкай рака.
Ветразь узнёсся тугі,
Човен, як я, састарэў.
Спрытна хапіўшы вясло,
Чуе напругу рука.

Ветрык — пястун-гулёк —
Па-за маёй спіной.
Бачны карчмы сцяжок
Сумна глядзіць ў бок мой.

Лодак сустрэчных барты,
Белых аблок парад.
Млечны прагляну ў Шлях,
Чаплі штурмуюць плёс.
Гэта ўсё апісаць
Я ці змагу? Наўрад!

Я аб мінулых днях
Думаю думу сваю —
Ў роскавіце царствы там,
Ворагаў хіжых зло.
Вежа на знешняй сцяне,
Дзе я, самотны, стаю,
Вечны кругазварот —
Цемрыва і святло!

Тысячагоддзе таму
Хтосьці, узлезшы сюды,

Думаў вось гэтак: «На жаль,
Славе свой кінуць дакор!»
Дзе шэсць дынастый цяпер?
Ці адшукаеш сляды
Сэнсу іх? Толькі трава
Шчэціцца сёння між гор.

Сёння ж, як і калісь,
Можна пачуць не раз
Хор прадажных жанчын,
Што на ўсе галасы
«Песню палаца»
Ў свой час
Гэтак нядбала пяюць.

## СЯЛЯНЕ ХЭБЭЯ

Сяляне Хэбэя,
Сяляне Хэбэя!
Як цяжка вам жыць,
Калі цалкам пагасла надзея!
Тут — свой уладар,
Там — чужы уладар,
А вы — паміж імі,
О добрыя людзі Хэбэя!
…Ў кожным доме падрастаюць дзеці,
Вучацца яны араць і ткаць, —
Трэба князю выплаціць падаткі
І даніну чужакам аддаць.
А цяпер яшчэ адна нягода:
Засуха спустошыла палі,
Скрутны лёс і санцапал штодзённы
Мусяць у Хэянь сялян сагнаць…
Мкне на поўдзень кожны згаладалы,
Ды на літасць скрутны лёс скупы, —
Ураджай на поўдні быў багаты,
Ды ў падатак звезены снапы!
У самоце і зямля, і неба,
Меркне сонца, белы свет не люб.
Змрочны выгляд у людзей галодных,
Іх прытулак — схоў чужой капы…
Ці вядомы ім гады другія,
Скажам, кіравання Чжэнгуан?
Рыс тады быў самым танным харчам
І не бралі ў армію сялян!

## СУ ШЫ

*(1036—1101)*

### З ЛОДКІ ГЛЯДЖУ НА ГОРЫ

Калі з лодкі глядзець,
Горы — стоўпішча конскіх фігур.

Расцягнуўся табун:
Коней сто — сто лятучых хрыбтоў.

Іх наперадзе рад
Зведаў многа залеў і віхур.

Задніх коней рады
Быццам скачуць на травы лугоў.

На сцяжыну зірну,
Што, як нітка, віецца ўгары.

Недзе там чалавек
Ўвыш брыдзе, свой змагаючы страх.

Я рукой памахаў,
Рот адкрыў я, каб з ім гаварыць,

А мой ветразь ляціць,
Як у вырай па восені птах.

### КАРОТКІ ВЕРШ

Як дабраўся да гэтага краю —
Вецер дзьмухнуў і дождж закрапаў.

Адзінокі вандроўнік, знайсці як
Мне прытулак пад ночы крылом?

Мне дастаць бы воблака з неба
І адзець бы яго, як шапку,

Мне б зямлёю сябе ахутаць,
Нібы простым дарожным плашчом.

### ВЯСНОВАЯ НОЧ

Залатых каштуе мноства зліткаў
Толькі міг адзіны ў час начны.

Разважаючы пра мастацкую літаратуру, пра тое, як у час цяжкай хваробы яна, якая «была чымсьці вечным, непарушным, адзіным, што мела сэнс у жыцці, больш таго — яна была вышэй за жыццё», А. Федарэнка адзначае, што яна раптам страціла сваю прывабнасць, «перастала памагаць». А да гэтага (працытуем зноў аўтара) у яго «была вера ў літаратуру як у доктара, веданне, як яна можа лячыць, даючы гэтае чароўнае забыццё — любы выпадак, любую падзею: смерць, нараджэнне, жаніцьбу, развод, радасць, гора, хваробу, старасць, беднасць і занядбанасць, славу і багацце — усё можна раскласці па палічках, растлумачыць, пераплавіць у мастацкія вобразы і супакоіцца». І ў іншым месцы Федарэнка задасць сабе пытанне адносна таго, дзеля чаго ён пісаў: «Дык, можа, прычыны пісання былі зусім не зямныя, не шаблонныя, а — лячэбна-прафілактычныя, так сказаць, — псіхатэрапеўтычныя. Можа, я проста ратаваўся літаратураю?»

Але і чытач у нейкай меры шукае паратунак у літаратуры, калі не лекі, то хоць бы супакаення,  свайго двайніка, які мучыцца такімі ж праблемамі, шукае адказы на хвалюючыя пытанні, з цікавасцю сочыць, што думае пісьменнік на гэты конт. Дарэчы, вуснамі аднаго са сваіх герояў, а менавіта, выгнанага з інстытута «нацыяналіста» Васкевіча, які часова працуе вясковым бібліятэкарам, пісьменнік выказвае тое, што чакае чытач  ад аўтара: «Хочаш, я адкрыю табе карты, што я шукаю ў кожнай кнізе? Сябе шукаю! І таго, што навокал мяне. <…> Дык вось я бяру ў рукі кожную кнігу з надзеяй знайсці ў ёй тое, што мяне цяпер хвалюе».

Аднак класічная мастацкая літаратура не толькі імкнулася «выказаць  праўду пра душу чалавека» (Л. Талстой), але і брала на сябе прапаведніцкую місію. «Не мая справа павучаць пропаведдзю», — даводзіў Гогаль тым, хто абвінавачваў яго ў самадзейных спробах прапаведніцтва ў «Выбраных месцах...» — Мастацтва і без таго ўжо павучанне».

Ці пакінула за сабой выхаваўчую ролю сённяшняя беларуская літаратура? Перагорнем старонкі часопісаў. Спынімся на некаторых творах. Перад намі апавяданне Алесі Кузьміч «Лёшка» (Маладосць, № 11), прысвечанае вельмі балючай сёння тэме так званых нешчаслівых сем'яў. У цэнтры твора — школьнік Лёшка, маці якога п'е, з-за чаго ў доме нярэдка не бывае нават хлеба. Стары зношаны абутак, ад якога вось-вось адарвецца падэшва, вымушае хлапчука прапускаць заняткі ў школе, у хаце бывае холадна. Аднак Лёшка любіць сваю маці і ўсё стараецца нешта добрае зрабіць для яе (дарэчы, падобная сітуацыя апісана ў аповесці Зінаіды Дудзюк «Аднарог» (Маладосць, № 8), хоць у адказ часам чуе грубаватыя матчыны словы. Сацыяльны педагог Вольга Уладзіміраўна хоча хадайнічаць аб уладкаванні хлапчука ў дзіцячы дом, дзе, паводле яе слоў, Лёшку было б лепей. Аднак у справу ўмешваецца мясцовы святар айцец Павел, які адвяргае ідэю адлучэння дзіцяці ад маці. Яму сімпатычны гэты ціхмяны хлапчук, надзелены Богам дарам любові, які заходзіць у царкву і па-дзіцячы шчыра просіць дапамогі. Святар робіць падарункі сям'і, радуючы хлапчука ежаю і новым адзеннем. Заўважым, што айцец Павел у апавяданні выведзены станоўчым персанажам, што ў беларускай літаратуры да гэтага часу досыць рэдкая з'ява. Вельмі яшчэ жывучыя ў народзе штампы пра папа-п'яніцу, папа-блудніка, папа-срэбралюбца, які жыве не нябеснымі клопатамі, а самымі што ні на ёсць зямнымі, прагматычнымі і з'яўляецца ў душы сваёй сапраўдным бязбожнікам (а, між тым, колькасць навамучанікаў савецкага часу гаворыць зусім пра іншае, што пераважная большасць святароў не пабаялася пакут, прыняла смерць за Хрыста, не здрадзіла свайму прызванню).

Айцец Павел выказвае думку, з якой нельга не пагадзіцца, бо яна заснавана на любові:

« — Дарма вы так, айцец Павел, — яна ўсё роўна прап'е гэта. Ды і хлопчыку лепей было б у дзіцячым доме, — дагледжаны, і ў цяпле, — павяла плячамі Вольга Уладзіміраўна.

— Думаеце? А я ўпэўнены, што вы памыляецеся. Нідзе не будзе так добра, як у роднай хаце, і ніхто не зможа замяніць яму матулю. Вы чулі, як ён пра яе гаворыць?

— Не.

— А вы спытайце, заўтра спытайце. Ён бачыць, што яна п'е і паводзіць сябе няправільна, але яна для яго самая лепшая, самая прыгожая, самая добрая. Такія пачуцці трэба захоўваць, а не ўбіваць яму ў галаву, што маці — п'яніца, дрэнная, неахайная.

— Навошта, айцец Павел? Яна ж не зможа выхаваць з яго чалавека.

— Не зможа? Ён ужо чалавек».

Названае апавяданне — маленькая пропаведзь. Ненавязлівая, а сардэчная пропаведзь любові. Павучанне, як трэба адносіцца да бацькоў, якімі б яны ні былі. Як кранальна апісана дзіцячая душа, яе клопаты пра самага роднага чалавека, яе думкі і пачуцці. Хлапчук устае рана, калі маці яшчэ спіць, расчышчае снег, каб ёй было зручна і лёгка выходзіць з хаты. Маленькае апавяданне выклікае шэраг светлых пачуццяў, вучыць дабрыні. І прабуждае надзею, што сагрэтая сынавай любоўю маці абавязкова калі-небудзь задумаецца, зменіцца ў лепшы бок. Бо любоў — самая вялікая сіла, якая толькі і можа змяніць і ўратаваць свет.

Заклікам да выканання чалавекам духоўна-маральнага закона прасякнуты і маладосцеўскія аповесці Валерыя Гапеева «Трафік для паэта» (№ 10) і Алены Брава «Дараванне» (№ 3).

Галоўны герой першага з названых твораў — юнак Віктар — заканчвае дзясяты клас, піша і друкуе вершы, якіх назбіралася ўжо на цэлы зборнік. У рэдакцыях хваляць творы, выдавецтва прапануе выдаць кніжку («забяспечыш тыраж продажам — надрукуем). Але патрэбны грошы — шэсцьсот долараў. У Віктара ўсяго сто. Юнак усур'ёз задумаўся пра тое, што зрабіць, каб рэалізаваць сваю ідэю. Можна прадаць тэлескоп, але зараз яго не купяць, фотаапарат прадаваць шкада. Спыніўся на тым, каб зарабіць праз інтэрнэт, стварыўшы свой сайт. Для гэтага патрэбна арыгінальная ідэя. Паступова яна прыйшла ў галаву: «Ух ты, якая ідэя! Жыццё рэальнае. Цікавыя і прыкольныя відэасюжэты. Жыццё праз замочную шчыліну Ніякай рэжысуры! Жывое кіно».

Першы ролік — школьная сяброўка Віктара Мэры, якая быццам бы распранаецца за акном. Другі — падгледжанае за акном шчасце — двое закаханых на кухні. Трэці — убачаны з вышкі «сюжэт» — п'яны начальнік пасля чаркі лезе да наіўнай дзяўчыны, з якой прыехаў адпачыць і, сустрэўшы супраціўленне, бязжаласна збівае яе. Апошні ролік навёў яго на ганарлівую думку, што такі сайт вельмі патрэбны, што яго кадры могуць стаць той справядлівай сілай, якая будзе помсціць за прычыненае некаму зло. Што ён, Віктар, стане таямнічым абаронцам слабых і пакрыўджаных, накшталт загадкавага Зора. І юнак стаў паляваць за «вострымі» сюжэтамі тыпу дзіцячага сексу ў пясочніцы, здымаць сямейныя сваркі і бойкі ў п'яным ачмурэнні. Абводзячы аб'ектывам тэлескопа вокны далёкіх і блізкіх дамоў, ён ледзь не на кожным кроку натыкаўся на сямейныя скандалы, дзікія сцэны разборак у кухнях і спальнях. І бруд, што здымаў, адчуў ён, стаў атручваць яго душу, пазбаўляць душэўнага спакою. Між тым сайт стаў вядомым у горадзе, пра яго загаварылі, многія пазнавалі ў відэасюжэтах сваіх знаёмых. У інтэрнэце з'явілася абмеркаванне ролікаў, ідэі сайта. Прыйшоў ліст ад прафесара, доктара псіхалагічных навук.

Аўтар аповесці прымусіў чытачоў усур'ёз задумацца над здзейсненым Віктарам учынкам. Водгукі ў інтэрнэце, ліст псіхолага, думкі і меркаванні бацькі і маці, школьных сяброў — усё востра перажывалася юнаком, выклікала сорам, боль. Голас сумлення падказваў яму, што размяшчэнне ў сеціве ролікаў, дзе паказаны бруд, распуста, брыдота людскога жыцця, рэальных людзей, якія жывуць у яго горадзе, падглядванне ў замочную шчыліну — парушэнне норм чалавечай маралі і этыкі. Выпускнік стаў баяцца, што яго вылічаць.

Аўтарытэтнае слова аб сайце гаворыць бацька Віктара, які, відаць, крыху здагадваецца, што гэта можа быць справаю рук яго сына. Аднак ён выказваецца вельмі далікатна, каб і навучыць яго, патлумачыць, што робіць няправільна, але і адначасова, каб не раніць яго сэрца: «— Але ж шлях вось такі — выкрываць,

шукаць, нішчыць — шлях рэвалюцыйны, значыць — з кроўю, дыктатурай, з контррэвалюцыямі. А стварыць белае, цягнуць людзей да свету, а не тыкаць іх у свой жа бруд — шлях эвалюцыйны. Гэта значыць — шлях паступовы і не зваротны. Культура развівалася такім накірункам, культура і мастацтва выводзілі людзей з іх звярынага аблічча».

Калі прыгадаць нацыянальную класіку, дык пра рэвалюцыю і эвалюцыю спрачаліся яшчэ коласаўскія Лабановіч і Турсевіч (трылогія «На ростанях»). Жыццё паказала правільнасць пазіцыі Турсевіча, які стаяў за эвалюцыю. Безумоўна, Віктараў бацька мае рацыю, калі бачыць асноўнае прызначэнне мастацтва не ў простай копіі рэчаіснасці, а ў стварэнні ідэала для пераймання. Бацька тлумачыць амаральнасць сынавага занятку, які выстаўляе на паказ увесь бруд гарадскога жыцця, пазбаўляе чалавека свабоды на таямніцу асабістага жыцця: «— А можа, у такім разе рабіць шкляныя сцены ў дамах? Спецыяльныя бранзалеты з перадатчыкамі на рукі ці шыю кожнаму?»

Святло на маральныя праблемы, узнятыя Валерыем Гапеевым, праліваюць евангельскія ісціны. У фінале герой атрымлівае ўрок маралі. Ён пастаўлены ў становішча тых, каго здымаў. Яго б'юць, хочучы адняць грошы. Незнаёмая цётка заступаецца за хлопца. Аўтар твора прымушае свайго героя прыгадаць біблейскія словы аб тым, што «ва ўсім, як хочаце, каб з вамі абыходзіліся людзі, так абыходзьцеся і вы з імі, бо ў гэтым закон і прарокі»(Мф.: 7: 12). Вось як пра гэта сказана ў аповесці: «Ён раптоўна ўявіў, што на сайце ягоным з'явіўся чарговы ролік — як б'юць ЯГО САМОГА тыя гопнікі, як ЁН курчыцца ў страху, як дрыжачымі рукамі паслужліва працягвае сваім рабаўнікам грошы. Як бы маці глядзела такое "кіно"».

Валерый Гапееў вырашае вельмі актуальную праблему, звязаную з тэхнікай, без якой сёння не абыходзіцца амаль ніводзін чалавек. Разумеючы, якую небяспеку тоіць у сабе інтэрнэт (адзін з яго мінусаў звязаны з ананімнасцю), празаік запрашае выкарыстоўваць яго на добрыя справы. Аднак у рэальным жыцці чалавек-невідзімка, безыменны чалавек, карыстаючыся інтэрнэтам, можа рабіць чорныя справы, быць распаўсюджвальнікам рознага маральнага бруду, зла, разлічваючы на сваю беспакаранасць. Кожны з людзей ведае, якія спакусы хавае ў сабе ананімнасць, калі яе набывае беспрынцыпны, амаральны чалавек.

Галоўны герой В. Гапеева пачаў сваю дзейнасць у інтэрнэце як быццам бы кіруючыся бяскрыўдным жаданнем зарабіць грошы на кніжку, але захапіўшыся ідэяй сайта, падглядваннем за людзьмі праз «замочную шчыліну», перайшоў мяжу чалавечнасці. Канешне, Віктар яшчэ вельмі малады чалавек і добра, што яго папраўляюць больш вопытныя, разумныя людзі, знаходзячы суровыя, але патрэбныя словы, як, напрыклад, прафесар псіхалогіі: «Вы самі сябе загналі за той бок, дзе ніякія нормы не існуюць. Вы апусціліся на самае дно чалавечых здольнасцей падзення. І цяпер кожны, хто не з Вамі — чысцейшы і лепшы за Вас.

Грошы не пахнуць, не смярдзяць, нават калі яны зароблены продажам чалавечага сумлення, нормаў маралі. Але смярдзіць іншае — наша памяць. Нават адзін раз ступіўшы ў яміну з дзярмом, нельга застацца чыстым. І вы ступілі. І памяць Ваша будзе смярдзець. Вы зменіце некалі і месца жыхарства, і сяброў, і каханых. Вы зможаце збегчы адтуль, дзе Вы пачыналі сваё падзенне. Але Вам не збегчы ад сваёй памяці».

Такім чынам, аповесць «Трафік для паэта» нагадвае чытачу вядомую ісціну, што няма нічога лепшага, чым чыстае, незаплямленае сумленне.

Адно з самых вялікіх месцаў у сучаснай беларускай прозе займае тэма кахання. Творы на гэту тэму асабліва яскрава сведчаць пра нядзольнасць людзей ужывацца паміж сабой, пра адсутнасць трывалых, доўгачасовых сувязей. Нават непрацяглае па часе каханне рэдка бывае гарманічным. Паўсюль няверпасць, дашлюбныя і пазашлюбныя сувязі, нядобрыя ўхілы «налева», разводы, з-за якіх асабліва пакутуюць дзеці. У стане ціхага адчаю жывуць многія сучасныя людзі. «Ева, вярні рабро!» — так называецца аповесць Валерыя Ліпневіча

(Маладосць, № 9). Бог стварыў для Адама з яго рабра памочніцу, бо «нядобра чалавеку аднаму». Сённяшні Адам не бачыць у Еве сабе падтрымку, суцяшэнне, яна не прыносіць яму адчування паўнаты жыцця. Ён лічыць, што яна не выконвае сваё прызначэнне, не дапамагае мужчыну, а, наадварот, стварае праблемы, забірае радасць, таму ўжо гатовы крычаць: «Ева, вярні рабро!»

Аповесць В. Ліпневіча — гэта «літаратура пачуццяў». У ёй глыбока даследуецца ўнутраны свет маладых людзей. Кожная асоба ўяўляе тут заблытаны вузел супярэчнасцей. У ёй як бы адсутнічаюць маральныя арыенціры — яна вагаецца, не ведае да чаго схіліцца, як сябе паводзіць. Аўтар свядома падкрэслівае «цякучасць», калейдаскапічную зменлівасць настрою сваіх герояў, як бы адсутнасць асноўнага «сардэчнага» матыву або распад яго на мноства складнікаў.

Галоўны герой — Віктар, філолаг («філолух», як ён сам сябе дурасліва называе) закахаўся ў студэнтку Галіну, у якой хутка размеркаванне. Раней дзяўчына хацела працаваць у раённай газеце, аднак пасля практыкі гэта жаданне ў ёй астыла. Дзяўчына таксама, здаецца, хінецца да юнака. Але нешта стрымлівае іх адносіны. Хутка Віктар бачыць яе з іншым хлопцам, «сексапільным маладым чалавекам», а яшчэ пазней даведваецца ад сяброўкі Галіны, пра «загадку» каханай, што дзяўчына цяжарная. Вось першая рэакцыя ад гэтай навіны: «Ён напружыўся і адчуў, як усё схаладнела. Цяжкі ўдар у спіну і тонкае лязо проста ў сэрца. *Віктар узгадаў акуня. Як той, ужо без лускі і вантроб, усё яшчэ падскокваў на снезе, а камячок яго сэрца астываў на далоні.* Віктар думаў пра ўсё на свеце, а пра самае простае і натуральнае не здагадаўся». Ліпневіч удала выкарыстоўвае прыроду для стварэння вобраза пачуцця, для таго ці іншага стану, у які трапіў герой. У моўнай тканіне аповесці вельмі шмат метафар, разгорнутых параўнанняў, ужытых для паказу псіхалагічных працэсаў, якія адбываюцца ў чалавечай душы. Вось адно са шматлікіх у творы апісанняў настрою і адчуванняў галоўнага героя, каханне якога пасля весткі аб цяжарнасці Галіны ад іншага мужчыны церпіць крах: «Адчужанасць і задуменнасць былі на яе твары, калі яна працягнула яму на развітанне руку, ад дотыку якой і прыйшоў да яго гэты ўсплёск раздражнення. Нават і зараз заставалася ад замаруджанага руху яе цёплай далоні нейкае непрыемнае адчуванне — непрыемнае чыста фізічна.

У гэтым яе дотыку бачылася яму нешта нячыстае — нешта ад пацалунку ў тралейбусе. Віктар быццам спрасаваў і замарозіў тады гэтае нечаканае адчуванне грэблівасці, якое зараз адтала, узмацнілася і ўразіла неадпаведнасцю яго жаданням і словам.

Раздражненне было менавіта ад гэтай неадпаведнасці, ад гэтай супярэчнасці ў самім сабе. Ён раптам адчуў такую стому і абыякавасць, што нават спалохаўся — *быццам іскрысты лёд радасці*, які, нягледзячы ні на што трымаў яго ўсе гэтыя дні — *нечакана трэснуў пад ім, падмыты веснавой ракой*. Гэты пацалунак у тралейбусе, як паваротка дарогі, адкрыў яму, што моста, на існаванне якога ён спадзяваўся, проста няма».

Аўтар любіць падрабязна маляваць знешнасць сваіх герояў, іх адзенне, абутак. Фарбы партрэтаў то лірычна-рамантычныя, то зніжаныя, іранічныя. Усе партрэты пададзены вачыма Віктара. Натуральна, што ў знешнасці свайго саперніка ён падкрэслівае менавіта яго «сексапільнасць». Гледзячы на Галіну і гэтага маладога чалавека, Віктар думае, што «побач з гэтым прыгажуном ёй, напэўна, няёмка хадзіць, — куды б ні ішла, усе думаюць, што ў ложак». Адносіны Галіны з «барадатым» (такое найменне дае свайму саперніку Віктар) падаюцца суха, без лірыкі, адзначаецца нейкая залежнасць дзяўчыны ад яго: «*Барадаты ідзе наперадзе, як буксір*, разразаючы барадой прастору, *а яна за ім, як баржа*, Віктар адчуў нечаканае і імгненнае шкадаванне да яе за гэты пакорлівы, нязвыклы выгляд».

«Малады чалавек з барадой стаіць ля дзвярэй. Чакае. Так чакаюць таксі. *Яго ногі — у чырвоных чаравіках, як гусіныя лапы*. І паставай ён нагадвае гусака».

«У яго нерухомы твар. Ён застыў у адным выразе, быццам не ведаў іншых ці не імкнуўся разнастаіць гэтую нуду, што адбілася на твары.

Барадаты ідзе па дыване лёгка і ціха, як паляўнічы. Штосьці адкрыта мужчынскае, падкрэслена мужчынскае зыходзіць ад яго марнага цела. Дзяўчаты азіраюцца на яго. Тое, што гэта самец, выступае на першы план і засціць усё астатняе — магчымае і сапраўднае. Менавіта ў якасці самца ён і ўспрымаецца як нешта значнае, выбітнае».

Пад каханнем сучасныя пісьменнікі ўсё больш разумеюць фізіялагічную цягу. Іх герояў не прываблiваюць путы Гіменэя, узаконьванне адносін. Знізілася каштоўнасць сям'і, у модзе грамадзянскія шлюбы, за якімі, як правіла, хаваюцца нявер'е ў трываласць пачуццяў, нежаданне ўзаемаадказнасці, боязь за квадратныя метры. Любоўныя партнёры мяняюцца хутка і бяздумна: «Палова свету так жыве: любяць адных, замуж выходзяць за другіх, а спяць з трэцімі» (Полымя, № 2), — гаворыць гераіня аповесці Н. Рыбік «Паміж днём і ноччу» пра такую няпростую сітуацыю ва ўзаемадносінах полаў. Узаемаразбурэнне асоб у сям'і, знікненне кахання, разводы — вось з чым часцей усяго сустракаемся сёння ў свеце і ў мастацкай літаратуры, якая яго адлюстроўвае.

«Самае неспасцігальнае і заблытанае ў жыцці — узаемаадносіны паміж людзьмі. Невытлумачальнае заўсёды ўзнікненне сімпатый, перараджэнне паднебнага кахання ў пякельную нянавісць. Імклівае перацяканне захаплення ў будзённую абыякавасць...» — піша Анатоль Казлоў у аповесці «Абганяючы сны» (Маладосць, № 12). І гэта сапраўды загадка з загадак. Над ёю здаўна б'ецца ў жаданні разгадаць мастацкая літаратура. Класічная мастацкая літаратура паказала драматызм адносін у так званым няроўным шлюбе. Надзея, гераіня аповесці Н. Рыбік, жыве грамадзянскім шлюбам з мужчынам, з якім у яе вялікая розніца ў гадах, і розніца «не на яе карысць». Закаханы Віктар — так завуць мужчыну — пераконвае яе, што яго пачуццё «ўсур'ёз і назаўжды», прапаноўвае ёй пабрацца шлюбам, бо не хоча жыць з ёй, як сужыцель, а хоча мець сапраўдную сям'ю. Маючы адмоўны вопыт (муж пакінуў яе з двума дзецьмі) гераіня з недаверам ставіцца спачатку да яго, але праз некалькі гадоў сумеснага жыцця яна ўсё ж згаджаецца аформіць адносіны, нараджае яму дачушку. Нейкі час яны жывуць яшчэ добра і шчасліва, пакуль Віктар не сустрэў нашмат маладзейшую і прыгажэйшую. Вось тут і наступае холад у адносінах, мана, адчужэнне. І пачынаюцца балючыя разважанні гераіні: «... І куды ўсё падзелася? Калі ўзнікла сцяна паміж імі? І хто яе пабудаваў? Яе ўзрост?.. Так, сапраўды, калі ёй было трыццаць пяць, а яму — дваццаць пяць, розніца не асабліва заўважалася. Калі ёй — сорак, а яму — трыццаць — таксама не надта. А цяпер, калі яе ўзрост набліжаецца да пенсійнага, а ён, як кажуць, мужчына ў самым саку... Як яна ні старалася сачыць за сабой, усё роўна талія пакруглела, паходка пацяжэла, а маршчынкі-здрадніцы гусінымі лапкамі наслядзілі ля вачэй, на руках, шыі... І скура ўжо не тая, і сівыя валасы, як іх ні зафарбоўвай, праглядваюць... Гэта мужчын сівізна ўпрыгожвае, а жанчын... Некалі ён любіў паўтараць, што яе прыгажосць — не талія, не ногі, не валасы, а вочы і душа, а яны не старэюць.  Ды вось, пэўна, пастарэлі...»

Новы прадмет Віктаравага захаплення — іх новая супрацоўніца Аня — жанчына-спакушальніца, прыгожая целам, але з вельмі прымітыўным унутраным светам. Віктара «цягне да яе, як магнітам». І ён згодны быў бы на шчасце з Аняй, але помніць, што ўсё гэта на вельмі кароткі тэрмін, што «Аня ўмела маніпулiравала яго мужчынскім жаданнем. Што ён патрэбен ёй, пакуль мае сілу, работу, пасаду, прыносіць ёй грошы і адорвае дарагімі падарункамі».

Навагодняя ноч для Віктара вырашальная. Аня чакае яго ў рэстаране, а Надзя з дачкою — дома. І Віктар не можа выбраць паміж імі, у выніку чаго праводзіць навагоднюю ноч адзінока на лаўцы ў заснежаным скверы, дзе выпадкова знаёміцца з адзінокай і няшчаснай жанчынай. Валянціна (так завуць яго новую знаёмую) расказвае яму гісторыю здрады, вельмі падобную на яго з Надзяй. Пазнаючы ў мужчыну-здрадніку сябе, герой думае: «Чаму ж мне да глыбіні душы шкада гэтую незнаёмую жанчыну і хочацца дапамагчы ёй хоць нечым, а Надзіны пакуты выклікалі толькі раздражненне? Толькі таму, што ў іх быў вінаваты я, і хацелася

сябе апраўдаць? А гэтаму мужыку, з-за якога Валянціна сустракала Новы год на вуліцы, хочацца набіць морду. Хоць я, па вялікім рахунку, нічым ад яго не адрозніваюся».

Сумленне, ледзьве прачнуўшыся, зноў задрамала ў героі. Ён зноў заглушыў яго. І зноў уступіў у знаёмую ролю — суцяшаць адзінокіх жанчын. У яго галаве прайшоў цэлы рой думак аб тым, як «пашкадаваць» жанчыну. Выгнаць з працы Аню, «класнага спецыяліста» і прапанаваць яе месца Валянціне. А пакуль адвезці яе на кватэру ў цэнтры — карпаратыўную гасцініцу — адпачыць, запэўніўшы, што не будзе ёй перашкаджаць. А далей што? Пісьменніца пакідае сваіх герояў, але намёк досыць выразны. Пачнецца, мусіць, новая банальная любоўная гісторыя з вядомым нешчаслівым канцом. Бо вельмі ж ненадоўга хапае герою душэўнага цяпла, каб сагрэць ім чарговую «ахвяру».

На тэму блуднай страсці напісана шмат твораў. Ніякі іншы грэх не называецца падзеннем, як толькі грэх блуду, што падкрэслівае яго асаблівую злачыннасць супраць маральнасці. Аднак хоць бессаромны погляд на асобу супрацьлеглага полу і атаясамліваецца з пралюбадзействам, аднак пралюбадзейства ў сэрцы і пралюбадзейства на самай справе ўсё ж розныя рэчы, хоць ад першага да апошняга і недалёка, што выдатна паказана ў апавяданні А. Федарэнкі «Лёд» (кніга «Мяжа»). Чалавек, у якім жывы маральны крытэрый, сцвярджае аўтар гэтым творам, можа і павінен адагнаць атрутныя блудныя летуценні, думкі, намеры і такім чынам зберагчыся ад яўнага блуду. Галоўныя героі апавядання — два трыццацігадовыя мужчыны Фелікс і Галубоўскі, падмануўшы жонак, што едуць на рыбалку, на самай справе ехалі здраджваць ім. Для аднаго з іх — Фелікса — здрада была звычайнай справай, для другога — Галубоўскага — упершыню. Першы трымаўся ўпэўнена, другі хаваў свой страх — балталогіяй хацеў перабіць нерваванне». Аднак Галубоўскі, які «яшчэ ні разу не здраджваў жонцы» не толькі нерваваўся, яму было прыкра і сорамна ехаць да нейкіх «прымітыўных дзевак». Натуральны інстынкт цнатлівасці, захавання сябе патрабаваў адумацца, пакуль не позна. І ён справядліва абураўся:

«— ...калі на душы так няўтульна, дык чаго мы едзем? Куды нас нясе нячыстая ды нячысты дух? На ноч гледзячы?»

Свой унутраны пратэст Галубоўскі выказвае Феліксу, прымушаючы яго зразумець усю мярзотнасць іх паводзін: «І ўжо самае агіднае, калі робіцца гэта з прычыны біялагічнай, медыцынскай — ці як сказаць... Калі не дай бог, канечне! — хвароба жонкі, астыванне да яе, механічнае жаданне перамены... Тут ужо ніякага апраўдання! Жывёльнасць, голы юр...»

Таленавіты пісьменнік тонка падмячае, што Галубоўскі і Фелікс — людзі розных характараў і маральнасці, што адценена нават іх імёнамі — Галубоўскі ўсюды называецца толькі па прозвішчы, Фелікс — толькі па імені. Прозвішча першага асацыіруецца з Божай птушкай, імя другога — з імем аднаго з арганізатараў «чырвонага тэрору». Апошняга аўтар надзяляе загадкавай усмешкай, «*якая сведчыць, што чалавек пазнаў цану і сабе і людзям, і гэтаму жыццю, у якім вымушаны існаваць з-за адсутнасці лепшай*». Гэтай цынічнай усмешкай глядзіць ён і на Галубоўскага, ведаючы, што адбываецца цяпер у душы яго таварыша, які яшчэ не запляміў сябе здрадай жонцы. Між тым, Галубоўскі не завярнуў назад, а прыехаў з Феліксам на дамоўленае месца. Жанчыны крыху затрымліваліся, і ў Галубоўскага быў час пазнаёміцца з гаспадыняй прытона, старой зводніцай бабай Ганькай (зноў імя — намёк на заганнасць), якая ладзіць стол, арганізоўвае спальню. Знаёміцца з «гэтай носьбіткай маралі і чысціні духоўнай», з «гэтым увасабленнем народнай мудрасці і прастаты», з «гэтым адвечным літаратурна-мастацкім сімвалам дабра, справядлівасці, цягавітасці і працавітасці», як ён іранічна называе старую. Галубоўскі са здзіўленнем бачыць, што знешне яна тыповая сялянка, «звычайная вясковая бабулька, у пуховай хустцы, вязанай кофце, у пантофлях з кутасамі і ў мужчынскіх шкарпэтках. Рукі ад холаду яна трымала ў рукавах кофты, як у муфце. Твар свяціўся лагоднымі зморшчынкамі, вочы ззялі радасцю, нібы гэта маці сустракала даўно чаканых сыноў».

Кантраст паміж знешнім, бачным воку, і ўнутраным, тым, што складае сутнасць, усё больш уражвае Галубоўскага: «Дом. Звычайная дача... Нічога не паказвала, што гэта загарадны публічны дом, ці дом спатканняў, скажам мякчэй». Яны з Феліксам і баба Ганька за сталом: «Пачалі выпіваць, закусваць, і тут ужо ідылія наступіла поўная: вось прыехалі з горада сыны — памагчы старэнькай матулі, дроў нарэзаць-накалоць, вады нанасіць, хлеўчык паднавіць, і цяпер набіраюцца сілы перад нялёгкай, але важнай, патрэбнай справаю».

Аднак уся гэта брыдота, схаваная ў прыстойнай, бліскучай упакоўцы, паступова паказваецца на паверхні: «Баба Ганя таксама хутка асвойталася, увайшла ў кампанію, пачала памагаць яму [Галубоўскаму] рэплікамі, падсыпаць слоўкі і выразы народныя, сакавітыя (якія ў гэтай сітуацыі гучалі куды пашлей, брыдчэй і пахабней за, у прынцыпе, бяскрыўдна-дзіцячыя непрыстойнасці Галубоўскага)». Герою паступова робіцца зусім прыкра, і ён збягае ад гэтага бруду, ад гэтай бессаромнасці, ад гэтай вульгарнай бабкі, з пошлага прытона. Спачатку намер яго няпэўны: «... пакуль прагуляюся, хоць бы да возера, ці нават да станцыі, і назад... А што? Заадно працверазею». Ён яшчэ вагаецца, гатовы рухацца і ўперад, і назад. Маральныя арыенціры яго не выразныя, як і той месяц, які суправаджае яго апаслівы ход па лёдзе: «Месяц то хаваўся, то выплываў з-за хмарак, нібы прапаноўваў гульню: ці запомніў ты шлях? Але і без месяца арыенціраў хапала».

«Месяц перастаў гуляць у хованкі, выплыў з-за хмараў уввысь, на лёд лягла роўная светлая палоска. Галубоўскі забыў пра асцярожнасць і даволі бадзёра тупаў па гэтай сіняватай падманлівай сцежцы».

Лёд у творы — поўны расстаўленых д'ябальскіх сетак свет, у якія лёгка патрапіць і нялёгка выкараскацца. Галубоўскі праваліўся пад лёд: «Вады было яму па пояс, а здалося — па шыйку».

Гэта правальванне па пояс — сімвалічнае адлюстраванне маральнага «правальвання» героя і нежадання рабіць канчатковы выбар: «Ужо хоць бы куды, хоць наперад — да станцыі, электрычкі, хай мокраму, без рыбы і без сябра, у горад, да жонкі, кухні, канапы, тэлевізара і фікуса ў гаршку, хоць назад — у прытон, да Фелікса і бабы Гані... Усё роўна!»

Няшчасны Галубоўскі пачынае дакараць сябе за ўцёкі: «Вось табе прынцыповасць! Вось яна, плата за маральнасць, — заместа ўзнагароды!» Звернем увагу на тое, як добра засвоены героем закон — аб «маральнасці і ўзнагародзе». Неяк нечакана, без плаўнага пераходу думкі Галубоўскага набываюць іншы накірунак. Ён раптам рашуча павярнуў «управа» (правы — Божы бок, левы — д'ябла), зразумеў, што не застаўся б у прытоне ні ў якім выпадку: «Калі б Фелікс нават каўнер адрываў, утрымліваючы, — уцёк бы. Чаго ўжо тут... *Не кожнаму, дарагі мой, дадзена, не так гэта проста, як у тваіх анекдоціках!..*

*Плакаць хацелася і ад холаду, і ад бяссілля, і ад сораму... А сама больш ад несправядлівасці».*

Маральны выбар Галубоўскі зрабіў — дапамога не замарудзіла. Узнагарода — выбаўленне з бяды — прыйшла. Збавіцель адагрэў, напаіў яго чаем, прапанаваў адвесці на станцыю. І яшчэ раз нагадаў пра тую бездань, у якую мог патрапіць Галубоўскі: «— Яшчэ гарбаткі? Піце на здароўе, пакуль гарачая... Ды і пойдзем патроху. На станцыю... *Бо ў пасёлак, да чужых, толькі сунься — яшчэ ў прытон пападзеш, тут гэтага дабра поўна... Хто наркатой займаецца, хто самагонам, хто блудам...*» Метафарычна-іншасказальны вобраз небяспечнага, нетрывалага лёду як сімвал няпростага, нетрывалага, хісткага становішча чалавека ў гэтым халодным свеце і завяршае апавяданне: «Палкі толькі пабярэм, ды і пойдзем — яно хоць месячна, светла, а паспрабуй прайдзі такім лёдам!..»

У дванаццатым нумары «Маладосці» надрукавана чарговая аповесць Анатоля Казлова «Абганяючы сны». Гэты празаік плённа і натхнёна працуе ў сферы містыкі і фантастыкі, якія дапамагаюць яму глыбей, праўдзівей раскрыць душу сучасніка.

Адметнасць твораў А. Казлова — не толькі ў шырокім выкарыстанні рэлігійна-містычных матываў, але і ў іх філасафічнасці. Героі Казлова Юргон (раман

«Юргон»), Юджын (аповесць «Абганяючы сны») і іншыя апантаны блудом, а нярэдка п’янствам, што часам падкрэслена і іх імёнамі. Юргон — юрлівы гон. Ды і амерыканскае імя Юджын выклікае асацыяцыю са спіртным напіткам, а таксама з вядомым фразеалагізмам «выпусціць джына з бутлі». Галоўны герой аповесці «Абганяючы сны» ўступіў у грамадзянскі шлюб з Русланаю нячыстым, нецнатлівым, але жывучы з ёй, як паведамляе аўтар, «прыціх, пасамавіцеў. Спакоем і ўраўнаважанасцю, задаволенай сытасцю поўніўся яго позірк». Так пражыў ён з жанчынаю чатырнаццаць год, песціўшы, выгадоўваючы ў душы здраду. «Глыбока схаваліся ў вачах неспатолены юр, нерастрачаныя жарсць і сіла. Хаваліся нават ад самога Юджына. Сцялася, назапашвалася, паўнела і чакала зручнага моманту. Чакала, здзіўляючы сваёй вытрымкай ...» — заўважае пісьменнік. І вось, калі Руслана паехала даглядаць хворую сястру, злы джын быў выпушчаны, «вылузнуўся з пацёмкаў душы на свет Божы», і Юджын «цешыўся воляй. Гуляў, як прайдзісвет-рамізнік перад пакараннем». З-за здрады і быў выгнаны Русланай з утульнай, цёплай кватэры і апынуўся на вакзале. Юджын не можа змірыцца з такім сваім становішчам, часта прыязджае на старое месца і глядзіць на вокны, за якімі, як яму цяпер здаецца, ён быў шчаслівы. Ён спадзяецца, што Руслана даруе яму, і яны зноў зажывуць разам. Аднойчы, пазіраючы ў знаёмыя вокны, Юджын становіцца сведкаю яе любоўных гульняў з маладым чалавекам. Абураны здрадаю («З кім я жыў столькі гадоў?!»), ён гатовы кінуцца, каб адпомсціць Руслане, але яго спыняе бабуля, адводзячы бяду. Старая нагадвае яму пра яго здрады сужыцельніцы, прапануе «глыбей, на самае донца глянуць у душу сваю», разабрацца ў сваіх адносінах да Русланы, разабрацца з жаданнямі і памкненнямі. Бачна было, што гэта бабулька ў валёнках з чырвонымі галёшамі незвычайная, што ёй вядома ўсё жыццё Юджына. Яна прымушае героя мужна перагледзець усё сваё жыццё, усвядоміць сваю грахоўнасць і душэўную немач, дзеля чаго падштурхоўвае ўспомніць і некаторыя эпізоды з дзяцінства. «Неабыякавая да цябе бабуля», — так тлумачыць яна свае адносіны да Юджына, такі адказ дае на яго пытанне, хто яна. Старая паступова падводзіць героя да думкі аб тым, што перш за ўсё трэба ўбачыць калоду ў сваім воку, каб ведаць, як дастаць сучэц з вачэй бліжняга, арыентуе на тое, каб «сёе-тое вынішчыць у сабе. Правесці, як кажуць, праполку ў мазгах. Дайсці самому да простых ісцін. Узважыць і ўраўнаважыць свой і чужы боль».

«... разбярыся, спазнай сябе, кім ты быў для Русланы, а яна для цябе?» — вучыць бабуля. — Разбярыся ў гэтым сур’ёзна. Без самашкадавання, прыніжэння яе і ўзвышэння сябе. Прааналізуй, узваж усе «за» і «супраць», а затым ужо зробіш нейкія высновы. Часам прасцей адпусціць чалавека і пачынаць жыць наноў, чым бясконца песціць пустацвеціну надзеі». І Юджын убачыў увесь бруд уласнага сэрца: эгаізм, здрадлівасць, блудлівасць, злосць, нянавісць, заліванне розуму спіртным. Зразумеў, што не кахаў Руслану. Жыў з ёю, бо так было зручна, утульна, «каханне — гэта ўжо дадатак да ўсіх папярэдніх даброт жыцця». І Руслана не кахала яго па-сапраўднаму, не рэгістравала з ім шлюб, баючыся, што паўстане пытанне аб прапісцы, прадчуваючы недаўгавечнасць іх сувязі. І вельмі ж хутка яна знайшла замену былому каханку, завяла раман з другім.

Усвядоміўшы ўласную духоўную мізэрнасць, брыдкасць, Юджын, падбадзёраны бабуляй, гатовы пачаць самавыпраўленне, пачаць весці самавайну. Аднак гэты высокі парыў хутка гасіцца, бо да яго «шкандыбае нейкая вульгарная кабеціна. Размаляваная і на падпітку». Перабудова самога сябе зноў адкладваецца. Ды і наіўна чакаць імгненнага перараджэння героя, вельмі моцна ўкараніліся ў яго сэрца ганебныя звычкі і страсці.

Празаік задумваецца разам са сваімі героямі над асаблівасцямі апакаліптычнага часу, у якім жывём. Адной з характэрных рыс яго з’яўляецца збядненне любові: «і па прычыне беззаконнасці ў многіх астыне любоў» (Мф., 24: 12), — сказана аб ім у Евангеллі. Небывалае ахаладжэнне любові сярод людзей, адсутнасць цнатлівасці (па-руску — целомудрия), г. зн. цэласнасці, паўнаты мудрасці, эгаізм, чэрствасць, нянавісць паміж людзьмі зрабілі недарэчным

аптымізм для таго, хто не верыць у бессмяротнасць чалавечай душы. Бабуля ў чырвоных галёшах адзначае вялікую раскіданасць, несабранасць, адсутнасць цэласнасці ў душы Юджына, заклікае яго сабрацца, злучыцца нарэшце ў адзіны вобраз: «Інакш нязначны подых зменлівасці лёсу — і разнясе цябе, як шалупінне семак, па смярдзючых закутках».

Тэме ўзаемаадносін бацькоў і дзяцей прысвечаны многія творы — апавяданні Таццяны Гарэлікавай, Ніны Рыбік, Міхаіла Нікіціна. Гэта тэма з'яўляецца адной з важнейшых тэм шматтэмных твораў буйнога эпічнага жанру — аповесцях «Дараванне» Алены Бравы, «Трафік для паэта» Валерыя Гапеева, «Исцеление Лилит» Таццяны Няфёдавай, «Предательство» Наталіі Касцючэнкі, раманах «Люди божьи собаки» Уладзіміра Хількевіча, «Валошкі на мяжы» Уладзіміра Гніламёдава і многіх іншых.

У апавяданні Таццяны Гарэлікавай «Увечары» расказваецца трагічная гісторыя гібелі мацеры, віною якой з'яўляецца ні хто іншы, а яе родны сын. Пакінуўшы сваю сям'ю — жонку і дачку, сын вяртаецца да маці. Маці цяжка бачыць сына панурым і абыякавам да ўсяго і яна далікатна заводзіць размову аб неабходнасці захаваць сям'ю, імкнецца разбудзіць у сыне бацькоўскія пачуцці, нагадваючы пра дзіця, якому будзе вельмі цяжка без яго апякунства. Сын жа, у дзяцінстве такі паслухмяны і добры, як здавалася маці, праяўляе нечаканую жорсткасць, без жалю б'е тую, якая яго нарадзіла, папружкай ад штаноў: «А ён сцёбаў і сцёбаў — сцяўшы губы, вырачыўшы вочы, злосны», — сказана ў творы.

У цэнтры апавядання Ніны Рыбік «Вечар перад Ражаством» (Полымя. № 12) — жыццё ў палаце сястрынскага дагляду, як афіцыйна называлі старэчую багадзельню. Апавяданне пачынаецца з дыялогу. Яно і пабудавана на дыялогах, у якіх кожная з бабулек ці «дзяўчатак» (так да іх звяртаюцца сёстры), малодшай з якіх днямі споўнілася семдзесят, расказваюць сваю гісторыю. Увагу бабкі Любы, Міхайлаўны і Сцепаніды якія ўжо тут даўно, прыцягвае «новенькая», бабуля Вера, якую беражліва вядзе за руку дачка, «маладжавая жанчына ў шыкоўным норкавым футры да пят, з прыгожай прычоскай». Сама ж дачка, як даведваюцца бабулькі, стаўшыя сведкамі размоў паміж маці і дачкой, едзе ў адпачынак з палюбоўнікам на Канары.

Пасля ад'езду дачкі бабуля Вера хоча адбіцца ад спачувальных позіркаў і слоў тых, з кім цяпер хочаш не хочаш давядзецца жыць, усяляк апраўдвае дачку: «— А пра Галечку вы не гаварыце так — яна харошая, — працягвала жанчына абараняць сваю крывінку ад нападак. — Толькі лёс у яе нешчаслівы...»

Пісьменніца ўмее будаваць дыялогі, з якіх паўстаюць жывыя людзі, са сваімі характарамі, сваімі гісторыямі, якія прывялі іх сюды. Дыялогі перадаюць і салідарнасць старых у няшчасці, іх жаданне падтрымаць адна адну: «— Не плач, Вера, не адна та такая. Шчаслівыя тут сваю старасць не дажываюць, у кожнага сваё гора... — рыпучым, як у дзеркача, голасам, прарыпела ад вакна Сцепаніда».

Сучасны рускі пісьменнік Васілій Бялоў у сваёй творчасці вельмі вялікую ўвагу ўдзяляе эстэтыцы сям'і. Ён лічыць, што сям'я знікае там, дзе знікае лад у сям'і, цярпімасць, жаль, ласка, дабрыня і любоў паміж яе членамі, дзе знікае сямейная паэзія.

Сучасныя беларускія празаікі з сумам канстатуюць знікненне прыгажосці ў сем'ях. Прыгажосці ва ўзаемаадносінах мужа і жонкі, бацькоў і дзяцей, зяця і цешчы, нявесткі і свякрухі.

У другой частцы рамана Алеся Рыбака «На раздарожжы», якая друкуецца ў адзінаццатым і дванаццатым нумарах «Полымя» (першая частка змяшчалася ў № 6—7, 2010), расказваецца пра каханне і нараджэнне адной маладой сям'і — Вадзіма і Люсі. На пачатку твора мы сустракаемся з Вадзімам — студэнтам-пяцікурснікам беларускага аддзялення ўніверсітэта, які піша і друкуе свае першыя празаічныя творы ў рэспубліканскім друку. Люся толькі што закончыла вячэрнюю школу і прымала рашэнне, як быць далей: паступаць куды або працаваць і дапамагаць маці. Раман А. Рыбака — адзін з тых нямногіх твораў, які малюе моцную,

у нейкай меры нават узорную сям'ю, дзе пануе атмасфера міру, згоды, даверу, узаемнага клопату членаў сям'і аднаго пра аднаго, дзе невялікія непаразуменні знікаюць, дзякуючы мудрасці і цярплівасці абодвух бакоў. Маладыя Вадзім і Люся жывуць па законе любові, успрымаючы сям'ю як адзін з лепшых падарункаў, адну з самых вялікіх каштоўнасцей. Аўтар рамана ведае, што такое святасць сямейных вузаў, разумее, што значыць належаць адзін аднаму душою і целам, не даючы месца рэўнасці і здрадзе. Вельмі прыемна бачыць вялікую ахвярнасць кахання галавы сям'і — Вадзіма, яго клопат пра заможнасць дома, намаганні стварыць цёплае і ўтульнае сямейнае гняздо, дзе ўсе пачуваюць сябе хораша і шчасліва. У гэтай сям'і цяжарнасць і роды — не фобія, як у многіх сем'ях і дашлюбных адносінах, адлюстраваных сучаснай літаратурай, а радасць. Тут эстэтыка ўсё — быт сям'і, лад у ёй, і кажучы словамі В. Бялова, адносіны паміж членамі ўсёй сям'і, нават паміж зяцем і цешчай. Сапраўды, можна па-добраму здзівіцца хараству ўзаемаадносін Вадзіма і Вольгі Іванаўны, маці яго жонкі, якіх не раз'ядноўвае, а аб'ядноўвае любоў да Люсі. Аднак назваць раман «На раздарожжы» сямейным, будзе, вядома ж, недастаткова. Твор праўдзіва малюе цяжкае пасляваеннае жыццё савецкіх людзей, свежа апавядае аб праблемах рэдакцыйнай працы, стварае жывыя партрэты рэдактараў і іншых працаўнікоў газет і часопісаў.

Калі гаварыць пра сямейную этыку, то сярод твораў, якія яе адлюстроўваюць, можна назваць і аповесць Алены Бравы «Дараванне» (Маладосць, № 3). Цудоўны твор на тэму хрысціянскай любові, якога даўно не даводзілася чытаць. Перагортваеш старонку за старонкай і захапляешся цярплівасцю, высакароднасцю душы галоўнай гераіні трыццацітрохгадовай беларускі Ларысы Вашкевіч, якой праз шлюбнае агенцтва падабралі замежнага «заможнага» мужа. З таго часу і жыве яна з Ральфам у чужой ёй Германіі ды яшчэ даглядае свёкра Ганса, які пакутуе на хваробу Альцгеймера, від бяспамяцтва. Вось як сказана пра сутнасць гэтай хваробы ў аповесці: «той, хто пакутуе на хваробу Альцгеймера, імгненна забывае, што было ўчора, затое падзеі, якія адбываліся паўвека таму, паўстаюць перад ім як ніколі ярка <...> У фінале адбываецца распад усіх навыкаў, застаюцца адно прымітыўныя рэфлексы». У творы падрабязна апісваюцца самыя розныя выхадкі і фокусы старога, «былога нямецкага ваяра», «былога акупанта», які бегае ў мілітарысцкай кашулі па доме і крычыць «Auf Wiedersehen… Auf Wiedersehen…». І тым самым адцяняецца няпростае беспрасветнае становішча Ларысы, якая на рэдкасць сумленна і аддана клапоціцца пра хворага, аддае гэтай справе часцінку сваёй душы. Аднак пісьменніца не спрашчае свет пачуццяў сваёй гераіні, адцяняючы толькі лепшыя яе маральныя якасці, але паказвае і нечаканыя эмацыянальныя ўсплёскі, стомленасць, раздражненне, калі ёй хочацца кінуць усё — мужа, свёкра, зняць кватэру, знайсці працу або вярнуцца на радзіму. Часам ёй прыходзіць у галаву, што і мужу яна патрэбна толькі для таго, каб даглядаць бацьку. Таму трэба здаць свёкра ў багадзельню, каб нарэшце пажыць спакайней, упэўніцца ў неабыякавасці мужа.

***Працяг у наступным нумары.***

# ЖЫЦЦЁ ІГНАЦІЯ БЫКОЎСКАГА, ПАРУЧНІКА РАСІЙСКІХ ВОЙСК, ІМ САМІМ АПІСАНАЕ Ў 1806 ГОДЗЕ

***Польскамоўны пісьменнік Беларусі XVIII стагоддзя, паручнік расійскіх войск Ігнацій Быкоўскі (1750—1819), ваенная кар'ера якога звязана з падзеямі руска-турэцкай вайны, паэт, перакладчык, філосаф, мемуарыст, выдатны знаўца сусветнай гісторыі і культуры. Спалучыў у сваёй творчасці тэндэнцыі класіцызму і сентыменталізму, пакінуў разнажанравую багатую літаратурную спадчыну (большасць твораў захоўваецца за межамі Беларусі).***

***Мемуары, прапанаваныя чытачу, умоўна падзяляюцца на дзве часткі: успаміны пра дзяцінства, юнацтва, ваенныя баталіі ў час руска-турэцкай кампаніі і літаратурную частку, дзе аўтар тлумачыць сваю зацікаўленасць літаратурным заняткам, пералічвае ўласныя творы, змяшчае ўрыўкі тэкстаў.***

***Мемуары І. Быкоўскага, напісаныя ў 1806 годзе, упершыню друкуюцца на беларускай мове, што дазволіць шырокаму колу чытачоў пашырыць уласныя веды пра літаратурны працэс на Беларусі другой паловы XVIII стагоддзя.***

Я нарадзіўся ў 1750 годзе ў радавым фальварку Пяцеўшчына[1], што размешчаны ў трох мілях ад Мінска. У трохгадовым узросце страціў бацьку. Мая маці, з роду Свентажэцкіх, маючы шасцёра сыноў і дачок[2], забыўшы пра сваю жаноцкасць, з пастаянствам і цярплівасцю імкнулася даць сваім дзецям прыстойную адукацыю, хоць было гэта пры сціплым маёнтку вялікай цяжкасцю.

Я хадзіў у езуіцкую школу ў Мінску ад Інфімы аж да Рыторыкі (як у той час называлася), ведаў на памяць Алвар (гэта значыць лацінскую граматыку), хаця зусім яе не разумеў. Як цяпер падумаю, то шкада мне і маёй працы, і тых пяці гадоў, якія патраціў без карысці на тую непатрэбную адукацыю.

У 1765 годзе мой старэйшы брат Раман[3] адвёз мяне ў Віцебск і ўладкаваў у канвікт да піяраў. Там на працягу паўтара гадоў атрымаў больш карысці, чым за пяць год у езуітаў у Мінску, нават і французскай мове крыху навучыўся.

У 1766 годзе, кінуўшы навучанне, паехаў з маім братам Раманам на Украіну ў Вінніцкі павет, дзе наша маці выдзеліла брату спадчынны фальварак Зарванец[4]. Адтуль мой брат Раман аддаў мяне ў адвакатуру. З гэтага юрыдычнага рамяства нічога не скарыстаў, бо яго не цярпеў.

У 1770 годзе, кінуўшы адвакатуру, адправіўся я да свайго другога брата Тадэвуша[5] ў Волчын да князя Міхала Чартарыйскага, канцлера Літоўскага, дзеючага камісара[6]. Брат адправіў мяне ў Варшаву, хацеў размясціць пры якім-небудзь двары. Але ж у гэты час была ўсеагульная збянтэжанасць польскага народа з выпадку ўзяцця ў палон у час сойма 1767 года кракаўскага біскупа Солтыка, кіеўскага біскупа Залускага, гетмана Жавускага з сынам[7]; з гэтай прычыны ўладальнікі зменшылі свае двары. Такім чынам, некалькі месяцаў дарэмна прасядзеўшы ў Варшаве і страціўшы запас, які меў, я падаўся да Барскай канфедэрацыі, якая сабралася каля Варшавы, і быў у атрадзе Бахоўскага[8] з думкай, што бяруся за абарону заняпалай радзімы. З гэтым Бахоўскім, ходзячы атрадам па Падляссю, у

Гуслеве[9] ва ўладаннях князя Варанецкага былі мы разагнаныя корпусам Браніцкага, на той момант Кароннага лоўчага[10].

Я, ратуючыся на некалькіх конях, адправіўся ў Радзівілаўскі горад Бялы, што ў некалькіх мілях ад Бярэсця. Там, пабачыўшы ўланаў атрада таго ж Браніцкага, якія ў сутычцы пад Гуслевам забралі майго каня, напаў на іх і арыштаваў. Яны тут жа абяцалі, што будуць служыць пад маім камандаваннем, і атрымалі свабоду.

Калі людзі майго атрада разышліся, адзін з уланаў выцяў мяне ззаду палашом і даў паддых. Пакуль мае людзі прыбеглі, уланы ўцяклі. Тут жа паслалі па майго брата Тадэвуша, які быў за чатыры мілі, у Волчыне. Ён, маючы сяброўства з Браніцкім, выпрасіў у яго мне ахову, каб маскалі мяне не ўзялі. Пасля лячэння, калі пазнаў з вопыту, што ваеннай справе трэба вучыцца, праз таго ж майго брата Тадэвуша набыў я сабе ў караля Станіслава Аўгуста афіцэрскае званне і рэкамендацыю да графа Пятра Румянцава[11], фельдмаршала, камандуючага арміяй у час вайны з туркамі, і размясціўся ў 1772 годзе ў Сеўскім пяхотным палку.

У 1773 годзе мы пайшлі за Дунай і ўзяў нас пад сваё камандаванне Аляксандр Сувораў, на той момант генерал-маёр, пазней фельдмаршал і Італійскі князь[12]. У тым жа годзе, на самую Сёмуху, мелі мы бой з туркамі пад крэпасцю Хірсовай, над самым Дунаем, з таго боку ад Балгарыі, дзе туркі пацярпелі паражэнне[13]. Хутка пасля бітвы[14] Сувораў склаў абавязкі камандуючага, бо не хацеў быць пад вышэйшым камандаваннем. І мой полк з іншымі трапіў пад камандаванне князя Юрыя Далгарукага. Ён узяў горад Керас[15] у чатырох мілях ад Хірсова, потым вялікі горад Базарчук[16], у адной мілі ад Варны Юны-Базар[17] і іншыя гарады, назвы якіх не помню.

Позняй восенню генерал-лейтэнант Унгерн з найлепшым корпусам забітага генерала Вейсмана[18] атакаваў Варну, крэпасць над Чорным морам, адкуль быў адкінуты са стратай тысячы людзей і васьмі гармат[19], там быў паранены ў нагу генерал-маёр Рэйзер. Генерал Унгерн, які быў старшым генералам, даслаў нашаму генералу, князю Далгарукаму, загад, каб той адразу паспяшаў яму на дапамогу пад Варну, паколькі мы стаялі ўсяго за мілю. Але ў расійскіх генералаў было такое самалюбства, што ніхто не хацеў быць пад камандаваннем іншага. І наш камандуючы адказаў, што не пойдзе, бо не мае на гэта выразнага распараджэння ад графа Румянцава.

Калі мы павярнулі ўжо назад (сталася гэта ў снежні) і былі пад Керасам, Румянцаў, разгневаны на абодвух генералаў, загадаў ім вяртацца са сваімі карпусамі пад Варну. Але ж правіянту для войска ўжо не было, пры тым жа коні як пад артылерыяй, так і пад казённымі фурамі ісці не маглі. Па атрыманым аб гэтым рапарце Румянцаў загадаў войску ісці на зімовыя кватэры ў Валахію, дзе мы цярпелі вялікія цяжкасці і беды. А ў снежні пераправіліся цераз Дунай. Генералы за гэта атрымалі вымову, а войска нацярпелася шмат.

Зімой я быў прызначаны ў вайсковую камісію, але захварэў. Далі мне водпуск для адпачынку ў Польшчы.

Яшчэ ў сакавіку 1774 года мы пакінулі зімовыя кватэры і сталі абозам пад горадам Хірсовым за Дунаем. Той жа А. Сувораў, які стаў генерал-лейтэнантам, зноў узяў нас пад сваё камандаванне і меў цэлага корпусу сем тысяч чалавек; а корпус пасля генерала Унгерна, таксама роўны сямі тысячам, узяў пад камандаванне Міхал Камінскі[20], генерал-лейтэнант старэйшы за Суворава. Камінскі стаў са сваім атрадам пад Базарчуком недалёка ад Варны. Стаялі мы на гэтых пазіцыях аж да ліпеня. Раптам генерал Камінскі даслаў нашаму генералу Сувораву дэпешу, каб ён як найхутчэй паспяшаў на дапамогу, бо Рэйс ішоў на Камінскага з дваццацю тысячамі ад Казлуджы[21], а везір[22] ззаду войска ад Шумна[23]. Хоць Сувораў і не хацеў быць пад чыім-небудзь камандаваннем, мусіў аднак падпарадкавацца дэпешы, паколькі Румянцаў строга наказаў, каб малодшы генерал слухаў старэйшага. Тады пайшлі мы ў горы па-над Дунаем, хацелі зачапіць даволі моцную крэпасць Сілістрыю[24], дзе, як спадзяваўся Сувораў, туркі нам перакрыюць дарогу. Калі наблізіліся да Сілістрыі, невялікая дывізія туркаў выйшла супраць нас, але мы загналі яе ў горад, і яна больш не паказвалася.

Мінуўшы Сілістрыю, Сувораў заўважыў, што нашы вазы з правіянтам засталіся ззаду, блізка да Сілістрыі, у трох мілях ад войска, дзе было не больш за трыццаць арнаутаў[25]. Туркі маглі, выбегшы з Сілістрыі, забраць гэты правіянт. Меркавалася каго-небудзь выслаць кур'ерам насустрач абозным з указаннем як мага хутчэй наблізіцца да войска. Ужо быў час пасля адбою, калі мяне змянілі на варце ў лагеры і сказалі ехаць да вазоў з правіянтам, даўшы толькі двух памагатых. Гэта было небяспечнае заданне, бо ноччу з Сілістрыі выязджалі турэцкія конныя атрады. Ніхто з расійскіх афіцэраў не хацеў падвяргаць сябе відавочнай небяспецы, мною, як чужаземцам, рызыкнулі. Я гэта добра разумеў, але трэба было выконваць загад. Ніхто з нас не ведаў дарогі ды і не было яе там, глянуўшы на зоркі, а поўначы выехалі. Шчасце, што без аніводнага здарэння мы трапілі да прызначанага месца. Пабудзіўшы камендаента лагера ў самую поўнач, я аддаў яму распараджэнне і раіў неадкладна кранацца з месца. Сам, змяніўшы коней, вярнуўся яшчэ да світання і перад роспускам адстаяў варту ў лагеры. Толькі тут наш генерал-маёр Озераў і іншыя вышэйшыя афіцэрскія чыны пачалі мяне віншаваць з паспяховым падарожжам, на што яны самі не спадзяваліся. У гэты момант мой брыгадзір князь Мачыбелаў пацалаваў мяне, публічна даючы сведчанне, што ва ўсім я трымаўся належным чынам.

Тады наш корпус накіраваўся на злучэнне з корпусам генерала Камінскага, ад якога ўжо былі недалёка. Толькі прыбылі, як неўзабаве пачалася бойка з туркамі. Сувораў прасіў генерала Камінскага, каб яму аднаму дазволіў біцца з туркамі. Атрымаўшы дазвол, адразу ўдарылі мы па турках і гналі іх перад сабою ў колькасці шасці тысяч цэлую мілю. Калі мы выйшлі з лесу і наблізіліся да іх лагера і да горада Казлуджа, толькі тут уся сіла турэцкая, якой было дваццаць тысяч, выступіла супраць нас і з вялікім націскам рушыла насустрач. Я, камандуючы пры штандарах, шмат людзей страціў, магу прызнацца, што цудам застаўся цэлым. Пасля шасцігадзіннай баталіі туркі ўцяклі, а мы, апрача шасці тысяч палонных, захапілі і турэцкі лагер, і боепрыпасы з гарматамі, і горад Казлуджу[26]. Візір, даведаўшыся пра разгром Рэйса, вярнуўся ў крэпасць Шумна, размешчаную сярод Балканскіх гор[27]. Сувораў пасля бітвы склаў абавязкі камандзіра і з'ехаў. Генерал Камінскі, абвясціўшы камандаванне над двума карпусамі, пайшоў пад Шумна супраць везіравага войска, выбіў яго з пляцу ў чвэрць мілі ад гэтай крэпасці, спаліў дом везіра, які быў паблізу горада, і ўзяў у аблогу крэпасць Шумна.

У час штурма горада я быў пасланы кур'ерам ад генерала Камінскага да фельдмаршала графа Пятра Румянцава, які стаяў пад Сілістрыяй; вёз з сабою турэцкага злоўленага кур'ера, пасланага з Сілістрыі да везіра. Для аховы турка далі мне толькі двух суправаджаючых. Калі пад'ехаў ноччу да Базарчука, уцякаючыя з паста казакі (да якога я набліжаўся) паведамілі мне, што туркі выбілі з Варны балгараў і што частка казакаў схавалася ў лесе (які мне паказалі), і што атрад генерала Рэйзера ў Базарчуку меў намер ісці выгнаць туркаў. Казакі мяне правялі да астатніх, што былі ў лесе. Там, змяніўшы коней, у абход прабіраўся да Базарчука, адтуль мусіў, дзеля бяспекі, праехаць яшчэ дзесяць міль, перш чым прыбыў у Сілістрыю.

Адразу ж па маім вяртанні ад графа Румянцава было падпісана замірэнне з Турцыяй, сталася гэта каля вёскі Кайнарджы ў ліпені 1774 года (не памятаю, якога дня)[28]. Калі ўжо ішлі з генералам Камінскім атакаваць крэпасць Шумна, прыбеглі турэцкі і расійскі кур'еры з данясеннем, што ўстаноўлены мір. На наступны дзень везір прыслаў сваю світу з віншаваннем з нагоды замірэння, і мы адразу пачалі адыходзіць да Дуная. Калі наша войска пераправілася праз Дунай, я прыняў камандаванне над крэпасцю Хірсова, якую мой падпалкоўнік князь Ратаеў вяртаў туркам. Там я захварэў ад дунайскай вады на штодзённую гарачку, і тут мае клопаты і няшчасці пачалі ўсё больш памнажацца. Даведаўся, што двое маіх падданых казакаў са спадчыннага Зарванца памерлі. А смерць майго малодшага брата Станіслава[29], да якога я меў асаблівую прыхільнасць, мала што не звяла мяне ў магілу. Мая гарачка ўзмацнілася настолькі, што я часта біўся ў канвульсіях. Прагнучы ляжаць у адной труне з найкаханейшым братам, я мала дбаў пра лячэнне. Мой брыгадзір, бачачы мяне, высушанага хваробай, адпра-

віў мяне ў Польшчу з выбранымі ў гвардыю жаўнерамі нашага палка. Нечакана атрымаў ліст ад старэйшага брата Тадэвуша, з якога даведаўся, што на Сейме вырашана вайсковае пытанне, і я магу атрымаць вышэйшы ранг[30]. Такім чынам, не знайшоўшы для сябе шчасця ў расійскай службе, атрымаў разлік і паехаў у Варшаву, нягледзячы на тое, што ў 1776 годзе кароль Станіслаў Панятоўскі зрабіў канфедэрацыю супраць нацыі, прывёў Маскву пад Варшаву і прыдуманы аўкцыён вайсковых рангаў праваліўся[31].

З жалем гледзячы на такія інтрыгі, на падзел краю і блізкую пагібель маёй айчыны, я адмовіўся ад ваеннай службы і пачаў жыць спакойна.

Гасціўшы ў Волчыне ў князя Адама Чартарыйскага, уладальніка падольскіх зямель, у 1778 годзе меў я знаёмства і сяброўства з Францішкам Князьніным, які знаходзіўся пры двары князя[32]. Высокая дасціпнасць Князьніна, прывабная далікатнасць і лагодны характар прымусілі мяне шукаць з ім цеснага сяброўства, тым болей, што ён таксама гэтага шукаў. Францішак мне заўсёды чытаў урыўкі сваіх вершаў, якія я з захапленнем слухаў. А я ў адказ іграў яму на тэобры, што ён моцна любіў. Потым пачаў паказваць яму некаторыя ўрыўкі з маіх твораў. Князьнін папраўляў памылкі і пачаў заахвочваць мяне да ўдасканальвання ў паэзіі, паабяцаўшы ў тым мне сваю дапамогу. Тым, што я валодаю некаторай здольнасцю да пісьменніцтва, я абавязаны гэтаму адзінаму майму сябру, які ўказваў мне на памылкі, вучыў прыёмам напісання, паказваў узоры з розных твораў; гэта стала найпершай прычынай для майго моцнага захаплення паэзіяй. Часам Францішак расказваў мне некаторыя выпадкі са свайго жыцця: як, захоплены фальшывымі ідэямі і кіруемы наіўным пачуццём, уступіў у ордэн езуітаў у трынаццаць год, як там дарэмна патраціў на пустыя мары найлепшы перыяд свайго жыцця і страціў зрок, часам пішучы цэлую ноч. Ад'язджаючы з Волчына да Варшавы, Францішак даў мне на памяць аб сяброўстве кніжку ў пераплёце з чыстай паперай, каб я сюды запісваў свае вершы. На пачатку кніжкі напісаў для мяне верш «Ігнацію Быкоўскаму Францішак Князьнін»:

У суме, нудоце, амаль без свабоды,
Правёў саладзейшыя дні маладыя.
Міналі гады, я жыў у маркоце,
Мне радасці сталі чужыя.

Якой невыноснай была мая мука
Ад думкі, што вольны палёт немагчымы,
Маё шкадаванне ўсё больш мацнела,
Залежнасць скавала свабодныя крылы.

Як рвецца шчыгол у лес з нялюбай тэрасы
Альбо як на ўзгорачку кветка ўсыхае,
Пад сонцам гарачым без вільгаці вяне,
Схіляе галоўку і сілы губляе,

Так я ў самы росквіт журбу адчуваю,
Не зведаўшы шчасця, усвядоміць баюся,
Як жыў я на свеце ў гэтым адчаі,
У сумнай, маркотнай скрусе.

Пакуль, мой Ігнацы, я быў падлеткам
І розум меў цёмны ды абмежаваны,
Я быў прастадушным і задаволеным
Нявіннымі тымі забавамі.

Паволі мой розум святлеў, праясняўся,
Ды шкодзіў навуцы мой смутак.
У адзіноце тады я застаўся,
І мне не бывала сумна.

Музы мне сталі добрай апорай,
Густ мой жывілі чароўным нектарам,

Жыццё маё шчодра яны саладзілі,
Дыхаў я толькі тым дарам.

Выхадцам будучы з лона прыроды,
Марамі быў на высокім Парнасе,
Кліо мне паабяцала, што возьме
У племя сваё з цягам часу.

На беразе стрэўшы дачок Мнемезіды,
Дзе Віцьба нясе свае воды ў Дзвіну[33],
Хацеў атрымаць іх хвалу і прызнанне —
Пачаў ім спяваць упершыню.

Забыўшы былое, прыстаў да Парнасу,
Бо верш мой злучыўся з душой,
А Віцебск займеў з таго часу
Паэта ў асобе маёй.

Горыч салодзіце вы мне, парнаскі,
Хутка да вашай гульні далучуся.
Служачы вам, буду жыць з вашай ласкі,
Вас не зракуся.

Калі б не нектар саладзіў мае вершы,
Калі б не вясёлы ваш звон,
Можа б даўно з нуды па-англійску
Кулю пусціў сабе ў лоб.

Прычынай напісання гэтага верша Князьнiным для мяне было тое, што мы не раз узаемна распавядалі адзін аднаму пра выпадкі са свайго жыцця, спыняючыся на нашай адукацыі (на той час), таксама на манеры мыслення нашага стагоддзя, на забабоннасці, фанатызме і г. д., гэта усё перашкаджае пісьменніку мець сапраўднае ўяўленне пра кожную рэч… Напісаў ён таксама некалькі строф пра сваё ўступленне ў ордэн, якія змяшчаю тут:

Фанатызмам рэлігіі ўведзены ў зман,
Прыродзе насуперак путы прымаю.
І гэту памылку (о, дзіва!) сам
Выратавальны абрад прыкрывае.

Дух свой і цела аддаў ў няволю,
Сам на сябе наклаў ланцугі.
Хочаш не хочаш, сумную долю,
Спутаны вязень, цярпі.

Хоць зрокся я сам натуральных пачуццяў,
Сілай жывіўся аднак наймацнейшай,
Што сярод цемры процістаяла
Клятве пустой і слабейшай.

Хто ў такім стане будзе вясёлы?
Дзе думак вага і мае адчуванні?
Не знікне маё супраціўленне
І права свае мець жаданні[34].

Запісы паважанага Выхаваццеля і Сябра захоўваюцца ў мяне найдаражэйшым складам і з'яўляюцца найсаладзейшым напамінам пра яго прыхільнасць. Некалькі гэтых лістоў даслаў я ў Варшаву ў Варшаўскае Таварыства ў 1805 годзе разам са сваімі паперамі, частку захоўваю пры сабе[35]. Калі адправіў свае рукапісы Князьніну да выпраўлення, напісаў яму наступны верш:

Дасылаю табе лісты, каханы Францішак!
Якія сачыняў, седзячы ў зацішку.
Табе адкрываю і сэрца, і думкі,
На твой суд ідзе тое, што пяро маё піша.
Твая паважная прыязнасць і твае светлыя парады
У маіх паэтычных спробах выправілі заганы.
Ты ж мне заўжды раіў, каб жыцця гадзіны
Я прысвячаў услаўленню дочак Мнемазіны.
З той пары салодкім стаў гэты занятак,
Твой прыклад уплываў — расло жаданне працы.
Прымі ж да выпраўлення натхнення вынік,
Выправі, дзе знойдзеш шмат памылак.
Мяне гэта не здзівіць і не раззлуе,
Сяброўства лепшым дарам стане для мяне.
Лепш бесцырымонна ўкажы заганы,
Каб не выдаць у свет верш недасканалы.
Мая прыхільнасць да цябе як і вершатворчасць
Хіба толькі з жыццём маім ураз скончацца[36].

У 1781 годзе я даслаў Францішку на выпраўленне трагедыю пад назвай «Мсціслаў», якая была надрукавана ў 1787 годзе[37]. У Гродне ў тым жа годзе былі надрукаваны ў маім перакладзе дзве аповесці «Какетка, або Здарэнні з Ірысай» і «Эма і Лямозаў»[38]. У тым жа годзе варшаўскі друкар Грёль выдаў вершаваную першую частку «Вясковых вечароў»[39]. У 1788 годзе варшаўскі друкар Дуфур надрукаваў вершам і прозай другую частку «Вясковых вечароў»[40], прысвечаную польскаму каралю Станіславу Аўгусту, якую луцкі біскуп, ксёндз Нарушэвіч, аддаў каралю. Па-другое, таксама надрукаваў вершам «Вясковыя ночы»[41]. Па-трэцяе, паэму «Локан Белінды, захаваны і выкрадзены»[42]. Потым аповесць «Нельсан і Бланфорт»[43], затым аповесць «Сідней і Вольсан»[44], яшчэ аповесць «Дзве султанкі»[45] і трагедыю «Мсціслаў». У 1789 годзе ў Вольнай друкарні ў Варшаве надрукавана трагедыя «Саул»[46].

У тым жа годзе ўзяў я за жонку Антаніну Тарлецкую, ад якой меў сына Януша і дачку Багумілу. Дачку нараклі іменем маёй маці, для напаміну аб лепшых часах. Сыну далі імя майго прадзеда[47], бо ад яго мы вядзём род.

Мая жонка сама карміла абаіх дзяцей, нягледзячы на крык і нараканне суседак, якія мяне называлі тыранам, бо самі не кармілі. І мая жонка, маючы цяпер удзячных дзяцей, не шкадуе патрачаных сіл[48].

Пачаўшы пісаць у маладосці, не пераставаў і пасля. У 1790 годзе аддаў у друк у Мінску: персідскую аповесць «Батмандзі»[49]; «Пытанне, якое падлягае вырашэнню. Чым бывае больш усхвалявана душа, радасцю ці сумам?»[50]. У 1792 годзе ў Варшаве аддаў у друк шведскую аповесць «Густаў Ваза»[51]. У 1799 годзе аддаў пірам да друку ў Вільні паэму «Касцёл славы»[52]; «Сялянскія разважанні»[53], верш да імператара Паўла[54], камедыю «Наніна»[55] і некалькі аповесцей[56]. Фрызель, на той час віленскі губернатар, найбольш мне дапамог з друкам гэтых твораў, яму прысвяціў паэму «Касцёл славы». У 1803 годзе ў Гродне падаў у друк аповесць «Сцежка да шчасця, мала каму вядомая»[57]. Маю яшчэ ў рукапісным варыянце наступныя творы: «Спосаб меркавання пра густ»[58], «Святыня шчасця», «Забавы з самім сабою з дзесяці заўваг вершам»[59], першы том «Французскай рэвалюцыі», выдадзенай Дэзадуарсам[60], і некалькі аповесцей. Перакладзеныя і перароблены драматычныя творы — гэта: камедыя ў пяці актах «Спакуснік», да якой дадаў свае ўстаўкі, «Дэмакрыт, філосаф грэчаскі»[61] вершам, опера вершам «Арміда, або фартэлі кахання», опера вершам «Смерць Дыдоны».

Потым пачаў спрабаваць уласныя сілы ў драматургіі і напісаў: трагедыі «Зараастар», «Прарочыца», «Белізар»[62] (гэту трагедыю перарабіў пасля прачытання Францішкам Карпінскім, маім Сябрам і слаўным Паэтам, якому ўсе свае творы даваў для выпраўлення ў 1806 годзе), «Смерць Гектара», якую прысвяціў найяснейшаму імператару Аляксандру Першаму, «Адэлаіда», «Смерць Ясінскага, або Здабыванне Прагі», «Злачынцы, пакараныя пасля смерці».

З драматычна-камічных твораў напісаў: драмы «Каралева Бона», «Альцыра», «Несправядлівы суддзя», лірычныя драмы «Тры Грацыі», «Палемон», оперу «Венера, народжаная з марской пены»[63].

Таксама напісаў твор пра паляпшэнне сельскай гаспадаркі. Яшчэ напісаў ліст да Варшаўскага Таварыства з дадынымі асобна чатырма заўвагамі па пытанні, ці прынесла карысць рэлігіі рэформа Марціна Лютара[64].

Гэта ўсё ляжыць у рукапісах. Іншыя, драбнейшыя творы не лічу. Мне цяпер 55 год. Калі я і надалей буду мецць магчымасць і нешта важнае здарыцца, неадкладна напішу.

Абдумваючы ход майго жыцця, калі азіраюся назад, бачу звязаны з нараджэннем чалавека шэраг няшчасцяў, выкліканых або нявопытнай маладосцю, або пэўным супадзеннем акалічнасцей, або нястрыманымі пачуццямі; у рэшце рэшт нас паўсюдна суправаджае няшчасце, якое зазналі пры страце нашай радзімы, пра гэта я разважаю ў многіх сваіх творах. Адсюль выразна можна бачыць, што ніводзін чалавек ад найвышэйшага да найніжэйшага справіцца з няшчасцем не можа. Французскі кароль Людовік XVI паў ахвярай сваёй маруднасці і бездапаможнасці, жонку ж яго, Антуанету, інтрыга ў тую ж бездань кінула.

Практыка нам паказвае, што калі вялікі дуб валіцца, то малыя парасткі пад яго разваліінамі трашчаць. Так Францыя мітуснёй, а Польшча сваім заняпадам паглынулі многія нявінныя ахвяры. З гэтай прычыны напісаў вершык, які змясціў у канцы трагедыі «Адэлаіда»:

Цяжкі чалавека стан
Законам замацаван.
Рэдка дзень калі мінаў,
Каб хто ў роспачы не бедаваў…

Разважаючы пра ўласнае жыццё, наступны верш напісаў Тадэвушу Мастоўскаму[65]:

Калі абдумваю сваё жыццё,
Гляджу, як з хуткасцю вады
Сплываў і век мой малады,
І неабдумна скарыстана колькі дзён.

Юнацкі свет мой толькі расквітаў,
Прымусіла жаданне хваляваацца.
Чым толькі мог, свой розум прасвятляў,
Без мэты я за ўсё пачаў хапацца.

Тады задумаўся над сутнасцю сваёй,
Дзівіўся, што мог так глыбока разважаць,
Я радаваўся здольнасці такой,
Як гаварыць, паказваць, маляваць.

Паддаўся голасу чужому я з адчаю,
Які, магу сказаць цяпер адкрыта,
Атрутай стаў для радасцей забытых.
З тых пор я весялосць не адчуваю.

Бацькі ўладай грознай і нядбайнай
Бяруць і прытупляюць у чалавеку
Праявы кемлівасці маладога веку
Ды рэдка вучаць карыстацца працай.

Імгненна тысячы пацех і густаў
Імкліва сэрца ўзбуджаюць,
У асалоду думку акунаюць,
І адкрываецца распуста.

Усё спрыяе памнажэнню асалоды.
Захоплены ў палон тых хваляў бурных,

Узняцца мог бы я без перашкоды,
Ды не баюся я ўласнай згубы.

З тых пор я жыць з карысцю не ўмею.
І думка безнадзейна траціць цвёрдасць,
Я толькі зараз здольны ўсвядоміць,
Што стаў крыху, быць можа, разумнейшым.

На гэта ўсё патраціў дні дарэмна,
Ды потым ўсцешыўся…
І стаў туды спяшацца,
Дзе з асалодай змог бы забаўляцца.

Кахаў чулліва ды і быў каханым,
Убранне меў я па апошняй модзе,
Яно спрыяла зграбнай прыгажосці
І над сапернікам шчаслівай перамозе.

Я тысячу разоў за працу браўся,
Ды, непакорны, меў часцей турботы,
І, дзёрзкі, я на тое спадзяваўся,
Што перамогай аплачу ўсе нягоды.

Схаваўшыся ад сонечных праменняў
І лежачы парой у цені дрэва,
Дзе вецер халадзіў мяне павевам,
Я думаў, што нішто мой лёс не зменіць.

І зараз часам упаўшы ў захапленне,
Здаецца мне, што гэтыя хвіліны
Ка мне вяртаюцца імгненнем мілым,
Я задаволю ў іх сваё тамленне.

Душа мая тых мрояў не пазбегне.
Я адчуваю мілае вяртанне
Вясны мінулых дзён маіх — і пэўна
Хачу заўжды застацца ў такім чаканні.

Каханак у абуджэнні чуе дзівы,
Якія рана так спыніліся на яве,
Яшчэ раз хоча зведаць тое шчасце,
Што меў у сне, каб зноўку быць шчаслівым.

Як толькі ўзнікла да ўцех ахвота,
Я думаў, што зусім не памылюся,
Калі сваё жаданне задаволю,
Хоць будзе мучыць унутрана згрызота.

Хоць час нязначна розум мой змяніў,
Але са мной намер былы застаўся.
Скажона я не мыслю, як раней,
Прайшоў той час, калі я памыляўся.

Пад цьмянай хмарай, у маладым квятненні,
Выразна зразумеў, што мала ведаў,
І што мае патрэбны намаганні,
Каб больш пабачыць пекнага на свеце.

Калі ж сарваў я грубую заслону,
Туманным вока стала ад якой,
То ўбачыў сваіх думак недахопы,
Што вызначаліся нікчэмнай пустатой.

Хацеў я зведаць сувязі прыроды
Пакуль яшчэ жывую думку меў,

Якая звенні здолела б заўважыць,
Ды мала сіл прыклаў — шкадую я цяпер.

І я пазнаў стан цяжкі чалавека,
Што цэлае жыццё блукае,
Часцей ён памылкова разважае,
І шчасце ад яго яшчэ далёка.

Маркоціўся, што час бяжыць не хутка!
Нарэшце, мэты дасягнуў,
Чаго так прагнуў, на жаль,
Мяне чакае момант страшны.

Уцех каварных меў я дастаткова,
Якія час панёс імклівым бегам
Да берагоў, дзе гаспадарыць вечнасць,
Мінулае прыпамінаць заўжды прыемна.

Лічыў сябе адным з найшчаслівейшых!
Калі і ночы, і світання ранкі
Праводзіў у маёй каханкі,
Яе чароўнасць паланіла сэрца.

Мне стала самаўпэўненасць уласціва,
У шчасці меў хвіліны забыцця.
Хацеў валодаць гэтай пекнатою
І верыў ва ўзаемнасць пачуцця.

Усе з ахвотаю выконваў я загады,
Яна была маім адзіным Боствам.
Я шанаваў яе вартасцей мноства
І нават крыўды не здаваліся заганай.

Я спадзяваўся, што стаю ля мэты,
І пасля стольквх хвіляў непрыемных
Буду шчаслівым самым напэўна,
Сэрца аддаўшы ёй недарэмна.

Ды люстра праўды выдала памылку.
У ім я бачу, што ліхім падманам
І хітрасцю трымае мяне ў садзе
Сваім непрадказальная Арміда.

Тут толькі розум мой пачаў святлець.
У сэрца пустаце
Пабачыў я сілкі кахання, у якія
Вар'ятаў шмат прымушана ляцець.

Каханне ўпрыгожвае надзеі,
Паказвае аб'ект здалёк,
У раскошу, уцехі пагружае,
Якія з цягам часу паслабеюць…

Спачатку то было забавай мілай,
Але праз некалькі імгненняў
Каханне тое звычка замяніла,
Патрэбай стаўшы ў канцы пастылай.

Ах, тое, што я тут акрэсліў, усё дарэмна!
Які суровы лёс я зведаў!
Жаль адчуваю я пры ўспамінах злосці,
Што мучыла мяне без межаў.

Сябрамі розныя былі мне людзі,
І жывучы без сварак з імі,

Я не баяўся здрады — верыў
Адплатай іх прыязнасць будзе.

Трымаў адкрытым сэрца і свой дом,
І з дапамогай я да ўсіх спяшаўся,
Каб у смутку суцяшаць, калі патрэбна,
Плячо падставіць ўсім я намагаўся.

Ды быў расчараваны досыць хутка!
О дзіва, я нарэшце зразумеў,
Што справядлівым называў, каго не варта,
Таго, хто подлую натуру меў.

З жалем глядзеў, як праўдзе нявіннай
Спакой не даюць,
Паклёп жа злачынны
З подласцю за чысціню выдаюць.

Прыслухаемся і далей пакрочым.
Хоць хітрасць ганебную
Часта завуць дабрынёй неабходнай,
Абрыдла хлусня мне для многіх прыемная.

Як многа падхалімаў у любым грамадстве,
Сумленнасцю ім ганарыстасць служыць,
Уздых там кожны напаўняе зайздрасць,
Набожнасць зменена на крывадушнасць.

Нікчэмны здраднік і ліслівы сквапнік,
Абодва злодзеі, бясспрэчна,
Адсунуўшы ў бок такіх, хто годны,
Паселі самі на пачэсных месцах.

Бачыў і я аднаго ў апошнім адчаі,
Яму здрадзіў сябар, навёўшы паклёп,
І ў вязніцу кінуў без шкадавання
Таго, хто сяброўства верна бярог.

Хто моцны, заўсёды тыранам становіцца лютым
Нявіннасць не мае падтрымкі цяпер у людзей.
У грамадстве, дзе правіць магутны,
Слабейшы — заўжды яго верны трафей.

О, людзі смяротныя! Няўжо ёсць патрэба,
Перастаўшы кахаць,
Пачаць уздыхаць і стагнаць,
На твор мой слаць скаргі да Неба!

Як толькі Тадэвуша я ўспамінаю,
Тут жа спакой мой вяртаецца,
Смутак тады скарачаецца,
Боль не так моцна душа адчувае.

Пры думках такіх я зусім забываю,
Што здраднікі ёсць і подлыя мсціўцы,
Двудушныя падхалімы, лісліўцы,
На падман іх я скаргі дарма пачынаю.

Я подласць натуры тых не прымаю,
Хто, нават не чуючы шкадавання,
Задумаў мне здрадзіць без хвалявання.
У браце шляхетнасць жа заўважаю.

Без яго ў цёмнай лясной глушы
Я сябе ад людзей бы хаваў.

На пустое імя дабрачыннасці
Скардзіўся б і наракаў.

Сквапнасці стаўшы ахвярай,
Ахоплены моцнай патрэбай,
З Брутуса я паўтараў бы:
«Цнота, ты мара дарэмная![66]»

Маё вялікае жаданне, каб пахавалі мяне там, дзе я нарадзіўся, і дзе продкі мае пачалі жыццё. На магільным камені хацеў бы, каб быў надпіс з Вергілія: «Уславіў загоны, палі, герояў»[67].

---

[1] Так у рукапісе: «Пяцеўшчына». А. Ельскі, («Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краёў», т. VIII, Варшава 1887, с. 41) падае форму «Пяцеўшчына», вёска і маёмасць у Мінскім павеце «некалі ўласнасць Быкоўскіх». Т. Туркоўскі ў біяграфіі І. Быкоўскага («Польскі біяграфічны слоўнік», т. III, Кракаў 1937, с.162) памылкова прачытаў рукапіс «Пянаўшчына». А. Банецкі («Польскі гербоўнік», т. II, Варшава 1900, с. 280) чытае ў дакуменце за 1738 год: «Пацаўшчына».

[2] Сямейныя сувязі І. Быкоўскага ўстанавіла геральдычная заметка: В. Вялондка, «Геральдыка або апісанне родаў» т. V, Варшава 1798, гл. «Быкоўскі гербу Грыф». Гэты запіс змяшчае наступную інфармацыю: «Акрамя згаданай фаміліі гэтага дому належаць да таго ж гербу: Мацей Якса Быкоўскі, народжаны ад Катажыны Жышчэўскай, з Багумілай Свентажэцкай меў шасцёра сыноў: 1. Яна, 2. Рамана, 3. Тадэвуша, 4. Антонія, 5. Ігнація, 6. Станіслава, рана памёршага, і адну дачку Канстанцыю за Шчарбіцкім будучую». Заўвага дае некаторыя даволі павярхоўныя звесткі пра сыноў Мацея і Багумілы Быкоўскіх. Гэтыя раннія генеалагічныя матэрыялы сваім паходжаннем маюць дачыненне да Антонія Быкоўскага, генерал-ад’ютанта ВКЛ і шамбеляна Яго Каралеўскай Міласці, які быў падпісчыкам «Геральдыкі». Такім чынам Антоній Быкоўскі адказаў на заклік аўтара «Геральдыкі», які некалькі разоў звяртаўся «да вартых шляхецкага стану грамадзян Кароны і ВКЛ» з просьбай пра папаўненне матэрыялаў. Запісы з «Геральдыкі» 1798 перадрукаваў К. Нясецкі ў «Польскі гербоўнік», выдадзены Я. Барбовічам, т. II, Ліпск 1839, с. 378.

[3] Раман Быкоўскі, пагранічны суддзя і браслаўскі памежны каморнік 1779, смаленскі вайсковец 1755—1783, пазней вінніцкі харунжы. У 1780 годзе атрымаў землі на правах 50-гадовай арэнды. Жыў яшчэ ў 1801 годзе.

[4] У рукапісе «Зарваніц», пазней «Зарванец». «Геаграфічны слоўнік» (т. XIV, Варшава 1895, с. 427) паведамляе: Зарваніцэ або Зарваніца, вёска ў Вінніцкім павеце «375 дзесяцін зямлі, часткова Быкоўскіх». Сучаснае мястэчка Зарванцы пад Вінніцай.

[5] Тадэвуш Быкоўскі, каралеўскі шамбелян, маёр літоўскіх войск 1786, ажэнены паслядоўна з сёстрамі Альжбетай Клакоцкай і Элеанорай Клакоцкай (іх братам быў Станіслаў Клакоцкі, перакладчык Мармантэля ў 1781 годзе!). Жыў яшчэ ў 1844 годзе.

[6] Волчын — мястэчка і маёмасць у Брэсцкім павеце. Каля 1744 года набыў Волчын ад Ст. Панятоўскага вялікі канцлер ВКЛ Міхал Чартарыйскі. Пасля смерці М Чартарыйскага (13 жніўня 1775 года) Волчын знаходзіўся ў руках Адама Казіміра Чартарыйскага.

[7] Каятан Солтык, кракаўскі біскуп, Ёзаф Залускі, кіеўскі біскуп, Вацлаў Жавускі, польны гетман Каронны, і яго сын, Севярын Жавускі — былі вывезены з Варшавы па распараджэнні Рэпніна ў ноч 13/14. X. 1767.

[8] Ян Бахоўскі, барскі канфедэрат. Здзівіў і ўразіў Варшаву разгромам казацкага атрада ў Кампіноскай пушчы. Менавіта ў той час Быкоўскі мусіў прыстаць да Барскай канфедэрацыі. Пра Бахоўскага гл. артыкул В. Канапчынскага ў «Польскім біяграфічным слоўніку», т. I, Кракаў 1935, с. 201—202.

[9] Так у рукапісе: «у Гуслеве». Паводле запісу Б. Хлябоўскага ў «Геаграфічным слоўніку», т. III, Варшава 1882, с. 229: Гуслеў, Услеў, вёска і фальварак у дзвюх мілях ад Бялай (Бяла-Падляска), «уласнасць Варанецкіх».

[10] Дакладна дату сутычкі пад Гуслевам дазваляюць устанавіць «Успаміны» С. Любамірскага, выдадзеныя У. Канапчынскім, Львоў 1925, с. 103: «пан Бахоўскі 25 [лютага] 1770 года падышоў пад Брэст Літоўскі; супраць яго выйшаў [Ксаверы] Браніцкі, тую дывізію разбіў, 95 захопленых адпусціў, афіцэраў з усім абмундзіраваннем, а пачтавых пешшу…» У. Канапчынскі ў «Барскай канфедэрацыі», т. II, Варшава 1938, с 104 занатоўвае разбіццё Бахоўскага на яго шляху да Літвы, куды спрабавалася перанесці ваенныя дзеі. Заўвага Быкоўскага дадае некалькі дэталей пра вышэйзгаданую сутычку да крыніц Канапчынскага.

[11] Пётр Румянцаў (1725—1796), у час першай турэцкай вайны камандзір другой арміі (1769), пазней камандзір першай арміі (1770), у 1770 годзе заняў Малдавію і Валахію. Быкоўскі прысвяціў яму свой пераклад «Мсціслава» А. Сумарокава (Варшава 1788).

[12] Аляксандр Сувораў, Італійскі князь (1729—1800). Быкоўскі ўспамінае наступныя этапы ваеннай кар'еры Суворава: генерал-маёр (1772), генерал-лейтэнант (1780), фельдмаршал (1794). Мемуарыст памылкова гаворыць пра Суворава як генерал-лейтэнанта ўжо ў 1774 годзе.

[13] Сустрэча «пад крэпасцю Хірсовай» (Хыршова) паводле храналагічнага ўказання Быкоўскага наступіла 30.V.1773.

[14]«Пасля бітвы» належыць разумець, як пасля перамогі Суворава 14. IX. 1773 пад Хірсовай.

[15] …«Керас», хутчэй Карас, дзе генерал-паручнік Унгерн і князь Далгарукі разбілі Дагестанглі-Пашу 28. X. 1773.

[16] Генерал Унгерн і князь Далгарукі разбілі Чаркес-Пашу пад «Базарчуком» (хутчэй Пазарджык) 4. XI. 1773.

[17] «Юны-Базар» пазней Новы-Пазар.

[18] Ота Адольф Вейсман забіты ў пераможнай бітве пад Кучук Кайнарджа 3.VIII.1773.

[19] 11. XI. 1773.

[20] Міхал Каменскі (1738—1809), генерал-лейтэнант, пазней фельдмаршал. У Быкоўскага паланізаваная форма прозвішча «Камінскі».

[21] Турэцкую армію ад Казлоча (Казлуджа) вёў Абдул-Разак, паводле нататкі Быкоўскага «Рэйс», «міністр замежных спраў» Порты.

[22] Мусін-Задэ, вялікі везір.

[23] Шумна пазней Шумла.

[24] Сілістрыя — зямля і крэпасць над Дунаем.

[25] Арнауты былі пераважна наёмным войскам.

[26] Перамога Суворава і Камінскага пад Казлуджам — 20.VI.1774.

[27] Азначэнне Быкоўскага «сярод Балканскіх гор» недакладнае; аўтар, напэўна, забыўся на мясцовую назву.

[28] Замірэнне ў Кучук Кайнарджа 21. VII. 1774 спыніла першую турэцкую вайну.

[29] Станіслаў Быкоўскі, паводле дзённіка, памёр у Хірсова пасля 21. VII. 1774.

[30] Сейм 1775 года прыняў істотнае рашэнне ў справе стану войска Рэчы Паспалітай: «Калі патрэбы РП вымагаюць таго, каб колькасць войска павялічылася да 30000, значыць, з усеагульнай згодай усіх станаў лічба войска становіцца роўнай 30000» (гл. у тэксце «Публічнай Канстытуцыі Варшаўскага Сейма…года 1773 дня 19 красавіка пачатага…у годзе 1775…скончанага, т. 1, Варшава 1775, с. 50: «Колькасць войска Рэчы Паспалітай»). З'яўлялася «абгрунтаванне размеркавання 12 000000 польскіх злотых, прызначаных для гадавой выплаты Кароннаму войску». Быкоўскі нёс службу на Балканах да 1775 года.

[31] Так Быкоўскі ацэньвае падзеі, якія папярэднічалі звычайнаму сейму ў Варшаве пад кіраўніцтвам генеральнай канфедэрацыі (26.VIII.31.X.1776), скліканаму 15.V.1776.

[32] Выпішам гэта сведчанне Быкоўскага для біяграфіі Князьніна: У 1778 годзе Князьнін знаходзіўся пры княскім двары ў Волчыне. Юльян Урсын Нямцэвіч бачыў яго тут ужо восенню 1777 года ў якасці настаўніка польскай літаратуры маладога Адама Чартарыйскага.

[33] У Віцебску, дзе я быў у канвікце піяраў, Князьнін ходзячы ў езуіцкую школу, уступіў у той жа ордэн. (Прыпіска Быкоўскага).

[34] Абодва вершы Князьніна ў рукапісе Быкоўскага знайшоў і надрукаваў В. Баровы ў «Князьнініяне», с. 265—268: «У дзённіку літаратурнага вучня». Пазней В. Баровы паўтарыў оду «Да Ігнацiя Быкоўскага» ў выданні: Ф. Князьнін «Выбраныя вершы», Вроцлаў, 1948, с. 141—143.

[35] У паперах Таварыства Сяброў Навук у Варшаве (сёння ў Галоўным архіве Старадаўніх актаў) няма ніводнага ўпамінання пра лісты Князьніна, якія Быкоўскі адаслаў Таварыству ў 1805 годзе. Захаваныя пратаколы пасяджэнняў Таварыства Сяброў Навук дазваляюць перанесці стасункі Быкоўскага з Таварыствам на ранейшы перыяд: 1803—1804 гг. У пратаколе з пасяджэння 2. I.1804 года знаходзіцца наступны запіс:«Чытана адозва пана Быкоўскага да Таварыства, у якой ён, ухваляючы намеры нашага аб'яднання і заахвочваючы да настойлівасці ў карысных для справы асветы намаганнях, абяцае дасылаць час ад часу Таварыству плады сваёй літаратурнай дзейнасці. Старшыня бярэ на сябе абавязак адпісаць Быкоўскаму іменем Таварыства такім чынам, як належыць пісаць земляку, любаму усім тым, што звязана з распаўсюджваннем навук і святла на айчыннай зямлі». Гэты запіс дазваляе меркаваць, што першы ліст Быкоўскага да Таварыства Сяброў Навук датаваўся снежнем 1803 года. Неўзабаве Быкоўскі адклікнуўся другі раз.

У пратаколе пасяджэння 19.V.1804 г. чытаем: «Старшыня дакладвае Таварыству пра ліст ад паручніка расійскіх войск пана Быкоўскага з прыкладаемай арыгінальнай (!) ім самім напісанай трагедыяй «Белізар» і дзвюма камедыямі, таксама напісанымі вершам. Пан Быкоўскі жадае, каб Таварыства выказала яму сваё меркаванне пра яго драматычную творчасць. Старшыня напіша аўтару ліст, у якім ад імя Таварыства падзякуе за старанасць і паўторыць тое, што ўжо раней да яго пісаў, што Таварыства па слушных прычынах адмаўляецца ад разгляду такога роду спраў».

[36] Што я маю? Са стратай цябе згублены ўспамін (прыпіска Быкоўскага па-французску).

[37] Караль Эстрэйхер (польскі бібліёграф і гісторык літаратуры) не ведаў выдання «Мсціслава» 1787 г. Магчыма, гэта памылка самаго Быкоўскага, які, аднак, пазней натуе выданне «Мсціслава» ў Дуфура 1788 г. Паводле Эстрэйхера: «Мсціслаў. Трагедыя ў пяці актах, напісаная па-расійску Аляксандрам Сумарокавым, перакладзеная на польскую мову Ігнаціем Быкоўскім». Варшава, Пётр Дуфур, 1788».

[38] Эстрэйхер піша «Кабета, або Здарэнні з Ірысай». Маральная аповесць, Гродна. На падставе экзэмпляра са збораў Я. Міхальскага, які сёння змешчаны ў бібліятэцы Інстытута літаратурных даследаванняў (Польшча), паправім назву на «Какетка». Магчыма, абодва творы знаходзіліся пад агульнай вокладкай, як у пазнейшым выданні: Варшава, П. Дуфур, 1788.

[39] «Вясковыя вечары», Варшава, М. Грёль, 1787.

[40] ...«Вясковыя вечары», частка II, Варшава, П. Дуфур, 1788. На пачатку знаходзіцца вершаванае прысвячэнне Станіславу Аўгусту.

[41] «Вясковыя ночы». Паэма, Варшава, П. Дуфур, 1788.

[42] Аляксандр Поп, «Локан Белінды, захаваны і выкрадзены». Паэма, Варшава, П. Дуфур, 1788.

[43] Эстрэйхер не ведаў выдання аповесці «Нельсан і Бланфорт» Дуфурам у 1788 годзе. Адзначае толькі значна пазнейшае: «Нельсан і П. Бланфорт». Англійская аповесць, Вільня, друкарня піяраў, 1799.

[44] Эстрэйхер не знаў выдання аповесці «Сідней і Вольсан» Дуфурам у 1788. Рэгіструе толькі: Францішак Томас Арнауд «Сідней і Вольсан». Англійская аповесць, Варшава 1792 і Вільня, друкарня піяраў, 1799.

[45] «Дзве султанкі».Турэцкая аповесць, Варшава, П. Дуфур, 1788.

[46] Выданне не вядома К. Эстрэйхеру.

[47] Януш Канстанты Быкоўскі, спадчыннік Пяцеўшчыны, 1670, сапраўды быў прадзедам аўтара.

[48] С. Урускі прыпісвае І. Быкоўскаму яшчэ аднаго сына, Валенція: «Мацей, паходзячы ад Яна меў сына Ігнація, афіцэра расійскіх войск, у якога з жонкай Тарлецкай быў сын Валенцій, што пацверджана дакументамі 1839 года». Нягледзячы на адпаведнасць усіх генеалагічных элементаў, трэба прызнаць недакладнасць гербоўніка. У дзённіку дакладна сказана «двое дзяцей», яны названы: «маю сына Януша і дачку Багумілу». Магчыма, Валенцій Быкоўскі нарадзіўся пасля 1806 г.

[49] Фларыян дэ Кларыс, «Батмандзі». Персідская аповесць І. Быкоўскім да друку пададзеная, Мінск, друкарня базыльянаў, 1790.

[50] ...«Пытанне, якое падлягае вырашэнню. Чым бывае больш усхвалявана душа, радасцю ці сумам?», Мінск, друкарня базыльянаў, 1790.

[51] Напэўна, зноў памылка: Аповесць Караліны Ружы Камонт дэ ла Форс была надрукавана пазней. «Густаў Ваза. Шведская аповесць», пераклад І. Быкоўскага, Варшава, М. Грёль, 1797.

[52] «Касцёл славы», паэма, напісаная па-польску вершам І. Быкоўскім. Вільня, друкарня піяраў, 1799. Вершаванае прысвячэнне Яну Фрызелю, літоўскаму губернатару.

[53] ...«Сялянскія разважанні», Вільня, друкарня піяраў, 1799.

[54] Верш да імператара Паўла Пятровіча, Вільня, 1799.

[55] Вальтэр, «Наніна, або Пераможаная прадузятасць». Камедыя ў трох актах складзеная вершам І. Быкоўскім. Вільня, епархіяльная друкарня, 1799.

[56] Эстрэйхер дае наступны пералік твораў Быкоўскага ў 1799 годзе: аповесць «Абукір», савойская аповесць «Фанрос і Адэлаіда» (Вільня, друкарня піяраў, 1799), аповесць «Клаудзіна» (Вільня, 1799), аповесць «Валерыя» (Вільня, 1799).

[57] Друк не вядомы Эстрэйхеру.

[58] Эстрэйхер запісвае як «Надзейны спосаб меркавання пра густ», Вільня, 1799.

[59] Эстрэйхер натуе як «Забавы з самім сабою», Вільня, 1799.

[60] Антуан Фантэн-Дэзадуарс «Філасофская гісторыя французскай рэвалюцыі», Парыж, 1797.

[61] Эстрэйхер фіксуе як «Дэмакрыт, грэчаскі філосаф». Камедыя, Вільня, 1799. Напэўна, гэты самы тэкст аказаўся ў выданні «Дэмакрыт, грэчаскі філосаф, уяўны вар'ят». Камедыя ў трох актах вершам, Вільня, М. Дымінскі, 1808.

[62] Я. Мармантэль, «Белізар», Вільня, 1799.

[63] «Венера, народжаная з марской пены», опера ў двух актах, напісаная па-польску вершам, Вільня, М. Дымінскі, 1808.

[64] Трактатам Быкоўскага, змясціўшым адказ на пытанне, ці прынесла карысць рэлігіі рэформа Марціна Лютара, напэўна, стаў ліст, прыгатаваны на конкурс, абвешчаны Таварыствам Сябраў Навук у Варшаве 3.III.1805 года на тэму: «Які ўплыў мела рэфармацыя Лютара на палітычны стан Польшчы і рух нацыянальнага асветніцтва?» Аднак Быкоўскі перамясціў праблематыку свайго трактата з «палітычнага стану» і «нацыянальнага асветніцтва» на справы рэлігіі. Нягледзячы на розніцу трактоўкі, бачым у лісце Быкоўскага «да варшаўскага Таварыства» конкурсны ліст Таварыству ў 1806 годзе. Адзіным дагэтуль вядомым навуковым рэзультатам конкурсу быў трактат Ігн. Патоцкага «Адказ на запытанне Варшаўскага Таварыства Сябраў Навук», напісаны ў студзені 1806 года. Пратаколы Таварыства Сябраў Навук выразна гавораць пра дзве конкурсныя працы, з якіх першую разглядалі на паседжанні 1.IV.1806 года: «Сакратар, робячы справаздачу пра дзейнасць аддзелаў, паведаміў пра дасланую і ўжо прачытаную на сесіі навуковую працу пад нумарам 1, якая дае адказ на пытанне «Які ўплыў мела рэфармацыя Лютара і г. д.», з надпісам (пустое месца ў пратаколе)». Толькі на наступным пасяджэнні 13.IV. пратакол гаворыць пра ліст № 2, дасланы, як вынікае з кантэксту, з надпісам «У выпадку, калі напісанае не адпавядае праўдзе, яно не будзе агучана» — гэта з нязначным фразеалагічным адрозненнем эпіграф Патоцкага. Такім чынам, першая навуковая праца, пазначаная 1.IV.1806, належыць іншаму аўтару, менавіта Ігнацію Быкоўскаму. Таксама да трактата Быкоўскага адносіцца яшчэ адзін пратакольны запіс ад 4.V.1806: «Сакратар, робячы справаздачу, паведаміў, што III аддзел (літаратуры) займаўся разглядам навуковай працы «Пра ўплыў лютэранскай навукі», калі асобная конкурсная камісія чытала даследаванне Патоцкага. Архіўны пошук папер Таварыства Сябраў навук у Варшаве, якія тлумачаць кантакты Быкоўскага з Таварыствам, з вялікім намаганнем ажыццявіў доктар Ежы Міхальскі. (Е. Міхальскі. Са спраў Таварыства Сябраў Навук, Варшава 1953, с.118—119).

[65] Аўтабіяграфічны верш «Тадэвушу Мастоўскаму», уключаны ў дзённік у 1806 г., узнік значна раней і некалькі разоў з'яўляўся ў друку. У зборніку «Вясковыя вечары», Варшава, 1787, с. 50—59, мае назву «Тадэвушу ад мяне» (несумненна, ад І. Быкоўскага, па вяртанні з балканскай кампаніі) і з'яўляецца першапачатковай стылістычнай рэдакцыяй. Пазней паэма змяніла адрасата. У зборніку «Вясковых разваг», Вільна, 1799, с. 56—66, адрасаваны Андрэю (рэальнай асобе, пра што сведчыць запіс на с. 65). Нарэшце Быкоўскі прысвяціў твор Тадэвушу Мастоўскаму (1766—1842), які мог у той час зацікавіць аўтара, як выдавец Збору твораў польскіх пісьменнікаў.

[66] Вядомы вокліч Брута пасля разгрому пры Філіпінах увёў у польскую паэзію з каментара «Жыццёапісанняў Плутарха» Я. Каханоўскі: «Дробязная дабрадзейнасць! — сказаў павержаны Брут…» (Элегіі, XI). Магчыма, Быкоўскі паўтарае Ф. Карпінскага: «А Брут мне на гэта: «Дробязная дабрадзейнасць і назва яе — пусты гук» (з верша «Брут. Пра несмяротнасць душы». У паэтычным зборы «Забаўкі вершам і прыстойныя прыклады», Львоў, 1780, с. 55). Або магчыма Быкоўскага нехта скіраваў да апісання жыцця Брута ў Плутарха? XVIII ст. узнавіла скептычную маралістыку Брута.

[67] У рукапісе Быкоўскага надпіс Вергілія мае дзіўную графіку: «Cecini! Pascua, Rura, Duces». Гэтыя словы Быкоўскі памятаў здаўна, пра што сведчыць вялікая прыпіска пра Вергілія ў паэме «Касцёл славы», с. 36: «Вергілій памёр у Неапалі, раней званым Парфенопа, пахаваны на высокай гары блізка ад горада, дзе магіла яго ў вялікім шанаванні. Перад смерцю Вергілій напісаў сабе надгробны верш па-лацінску, а іменна:

Мантуя дала жыццё, Калабрыя — смерць,
Пахаваны ў Парфенопе.Васпеў загоны, фермы, герояў».

Тэкст Быкоўскага мае фактычную недакладнасць, перакладчык Быкоўскі не мог патлумачыць памылкова запісанае слова repuere замест арыгінала rapuere і пераклаў на свой густ. Для параўнання прыгадаем пераклад двухрадкоўя Вергілія, зроблены К. Мараўскім («Гісторыя рымскай літаратуры з часоў імператара Аўгуста. Вергілій і Гарацый», Кракаў, 1916, с. 38):

Мантуя дала мне жыццё, Калабрыя адняла,
А зараз трымае Неапаль: Уславіў я нівы, палеткі, герояў.

Быкоўскі паводле поглядаў свайго часу лічыў надгробны надпіс Вергілія арыгінальным вершам апошняга.

***Публікацыя, пераклад, у тым ліку і паэтычных твораў, каментарыі Ганны ГЛАДКОВАЙ.***

Уладзімір БЕРАСНЁЎСКІ

# «НА КРЫЛАХ НЕАБСЯЖНАГА ШЧАСЦЯ...»

**Васіль ЖУШМА. Гарэза.** Мн.: Літаратура і Мастацтва, 2011.

Ёсць выпадкі, калі скончаны твор гадамі, а то і дзесяцігоддзямі па нейкіх прычынах, не залежных ад аўтара, не можа пабачыць свет. І гэта не якая-небудзь «дрындушка», што сёння друкуюцца ў неймаверна вялікай колькасці: выдадзеныя за кошт аўтара, яны імгненна расхвальваюцца на ўсе лады такімі ж, як і яны, рэцэнзентамі, а паўнавартасны мастацкі твор. Але мінаюць гады, павандраваўшы па выдавецтвах, ён урэшце выходзіць. І тады, як кажуць, справядлівасць «восторжествовала»: ціха, без «раскрутак», паступова ён займае сваё месца ў сапраўднай літаратуры.

Адным з такіх твораў, несумненна, і з'яўляецца аповесць журналіста і празаіка Васіля Жушмы «Гарэза». Выдавецкая анатацыя адрасуе яе дзецям сярэдняга школьнага ўзросту. Але ўвогуле «Гарэзу» будуць чытаць усе тыя, хто любіць літаратуру. «...І самыя пажылыя людзі, і самыя юныя. Дзед можа чытаць, цешыцца хараством усходу і захаду сонца, глытком свежага паветра, бруістай крыніцай, сам можа кожны вечар чытаць па невялікім раздзеле аповесць свайму ўнуку, што яшчэ ходзіць у дзіцячы сад, — той таксама адчуе, што да яго далучаецца штосьці нібы казачнае, узбуджальнае, радаснае, а разам з тым і простае, звычайнае, што ёсць, жыве зусім побач, але чаго мы не бачым і не адчуваем...»

Я працытаваў радкі Генрыха Далідовіча з ягонай прадмовы да гэтай аповесці, што ўпершыню пабачыла свет у часопісе «Маладосць» № 5 за 1996 год і якая, як ужо разумее чытач, толькі праз 17 гадоў, дзякуючы намаганням кнігавыдаўцоў РВУ «Літаратура і Мастацтва», выйшла асобнай кнігай.

Кніга (бяру з анатацыі) расказвае «... пра жыццё беларускага лесу, узаемаадносіны звяроў і птушак, пра добрых і спагадлівых людзей». Аднак, заўважыць хтосьці з дасведчаных чытачоў, цяпер пра гэта пішуць шмат. І што тут новага?.. Спісваюць, перайначваюць на свой капыл Прышвіна, Біянкі, іншых рускіх і нашых майстроў...

Гэты ж твор цалкам самастойны. І сапраўды мастацкі. Цытую з аповесці ў пацвярджэнне сказанага: «...з аблокаў пасыпаўся дробны снег. Лес адгукнуўся на яго своеасабліва. Спачатку рэдка і асцярожна пачуліся ціхія, амаль няўлоўныя, шолахі. Здалося, лес ажыў, пачаў асцярожна спрабаваць свае лёгкія: уздых-выдых... Пошум гусцеў. Цяпер шапацела ўсюды: і ў хвоях, і ў кутах, і ў траве. Гучней гаманіла апалае лісце. Падсушанае марозам, яно імгненна адгукалася на кожны дотык лёгкіх сняжынак...»

Або: «...Перад заходам сонца неба станавілася высокім-высокім. Блакіт яго не азмрочвала ніводная хмурынка. Тады яно паступова цямнела, пачыналі запальвацца першыя зоркі. Спачатку адна, вялікая і яркая. Пасля другая, трэцяя... Вечар насоўваўся недзе з усходу. Хутка і рашуча. Мароз абціскаў наваколле так усеўладна і настойліва, што абдымкі яго бязлітасных «рук» здаваліся смяротнымі. Халадэча ўладарыла ўсюды: і пад шатамі лесу, і на вялікай рацэ, нават у **вавёрчыным** (выдзелена мною. — **У. Б.**) дупле. Сценкі яго пакрыліся інеем ад яе дыхання, і сагрэцца па-сапраўднаму ніяк не ўдавалася. Хоць і старалася прызвычаіцца

Гарэза, зытыкала дупло на ноч шматкамі моху, але сцюжа ўпарта прабівалася пад яе цёплы кажушок, не давала спакою».

Вось такою мовай, такімі фарбамі В. Жушма і расказвае пра наш лес, нашу прыроду і яе насельнікаў ды пра адносіны чалавека, найперш дзяцей, і сваё асабістае стаўленне да ўсяго гэтага. Увесь ягоны аповед сфакусіраваны на падзеях двух гадоў жыцця вавёркі, якую ён назваў Гарэзай. Аўтар надзяліў яе, так бы мовіць, «чалавечым» успрыняццем навакольнага свету, душой. (Радасць, страх, боль і… здольнасць суперажываць звяркам, што трапляюць у бяду і нават дапамагаць ім.)

Гэтыя два гады, ад нараджэння, калі для звярка найвышэйшым у свеце з'яўляецца цяпло маці і жыццядайная сувязь з ёю, да таго моманту, калі Гарэза павінна выканаць сваё прызначэнне як неад'емная часцінка прыроды, насычаны шматлікімі незвычайнымі падзеямі і яе жыцця, і жыцця лесу ўвогуле. А жыццё тое суровае: у ім свае законы, і далёка не ўсім, хто з'яўляецца на свет у дупле, гняздзе, логаве, пад кустом, у нары, наканавана выжыць. Пра ўсё гэта пісьменнік апавядае ў невялікіх, арганічна звязаных між сабой, навелах. Кожная з іх абазначае, паказвае, адлюстроўвае, выяўляе, а ўрэшце адкрывае чытачу нейкую адну пэўную старонку жыцця вавёркі, так бы мовіць, шляху яе станаўлення. Навелы так і названы: «Дзень нараджэння», «Дзяцінства», «Урокі жыцця», «Што такое страх?», «Шчаслівыя дні», «Бяздомная», «Расчараванне», «Бяда», «Паратунак», «Жывы куток», «Вольная».

Вядома, каб стварыць такі жывы твор, як яго напісаў В. Жушма, надзяліўшы сваю «гераіню», звычайнага звярка, душою, здольнаю разважаць і нават суперажываць іншым звяркам ды выклікаць на роздум аб лёсе роднай прыроды, аўтару самому трэба шмат ведаць і разумець. І, вядома, каб зрабіць гэта сапраўды па-мастацку, як зрабіў В. Жушма, яшчэ трэба мець і адметны пісьменніцкі талент. А яго не пачэрпнеш з інтэрнэта ці нават з кніг класікаў, якія пісалі пра прыроду, спісваючы ў іх, выдаючы чужое за сваё. Як вядома, талент ёсць або яго няма. А калі ўжо ёсць, дык яго трэба развіваць і… вучыцца. У жыцця і ў тых жа класікаў. А В. Жушма якраз і вучыцца, і ўмее вучыцца.

Як прызнаецца сам пісьменнік, ягоная аповесць «напісана ў выніку амаль дзесяці гадоў вандровак па лясах Беларусі». Гэтыя вандроўкі з фотаапаратам, з якім і праз аб'ектыў якога, як піша далей пісьменнік у сваім слове «Ад аўтара», назіраў за роднай прыродай і праз які бачыў многа цікавага. І далей: «…Шмат розных сустрэч са звярамі, птушкамі, насякомымі назаўсёды засталіся ў памяці, на фотаплёнцы. Мой абвостраны інтарэс выклікаюць **усе без выключэння дзікія істоты** (выдзелена мною. — **У. Б.** ), але з самага дзяцінства з асаблівай сімпатыяй стаўлюся да вавёрак…». І крыху далей: «…Не адзін раз прыходзіла думка напісаць пра вавёрку, расказаць пра яе жыццё, такое няпростае ў свеце дзікай прыроды. **Але нешта ўвесь час стрымлівала** (выдзелена мною. — **У. Б.**), не давала ўзяцца за пяро, пакуль не прыйшла ідэя праз лёс адной вавёрачкі паказаць самыя розныя бакі жыцця беларускага лесу. Каб чытач яе вачыма глянуў на таямніцы прыроды, на ўзаемаадносіны звяроў і птушак у натуральных абставінах».

Што датычыць «натуральных абставін», дык іх для жыцця звяроў становіцца ўсё менш і менш: прычыны вядомыя, у кнізе паказаны. Затое ствараюцца штучныя ўмовы. Часам апраўданыя, калі чалавек павінен дапамагчы выжыць прадстаўнікам фаўны, што трапілі ў бяду. Але ж умовы такія ствараюцца і з іншымі мэтамі, напрыклад, для людской пацехі… Ды і «жывыя куткі»…

Тут, вядома ж, могуць быць спрэчкі. Адны скажуць, маўляў, а дзе юным, як не ў «жывым кутку» ці заапарку, убачыць, які ў нас разнастайны і багаты жывёльны свет. Другія запярэчаць: ідзіце да прыроды, вывучайце… Трэція параяць: чытайце разумныя добрыя кнігі. І гэтую, «Гарэзу» В. Жушмы,

дадам я, звярнуўшы ўвагу на падкрэсленыя цытаты як на акцэнты, на якіх трэба засяродзіцца.

Па-першае: той, хто піша пра прыроду, жыццё яе насельнікаў, павінен вельмі добра ведаць «прадмет». В. Жушма ведае, доўга і настойліва вывучаў. А што «нешта ўвесь час стрымлівала», дык гэта пошук мастака як і праз што расказаць пра тое, што хвалюе.

Сапраўдны пісьменнік (о, як графаманы не любяць гэтае вызначэнне ў адносінах да годных творцаў, а ім жа карысталіся многія класікі, гаворачы пра літаратуру) заўсёды ў любой з'яве жыцця адкрывае нешта сваё. Яму ўсё, пра што піша, дарага. Сапраўдны пісьменнік заўсёды надзвычай адказна ставіцца да сваёй працы. І В. Жушма таму прыклад… Але перш чым ствараць «Гарэзу», ён амаль дзесяць гадоў вывучаў жыццё лесу, яго насельнікаў. І шмат ведаючы пра прыроду, вельмі адказна паставіўся да напісання твора. А калі васямнаццаць гадоў таму прынёс твор у «Маладосць», тады там працавалі выдатныя майстрамі слова (Г. Далідовіч, Я. Сіпакоў, К. Камейша, В. Гардзей і інш.), сціпла папрасіў: «Паглядзіце, калі ласка, можа, падыдзе. Калі не, дык забяру. Паспрабую дапрацаваць. Час ёсць…» Тады яму было крыху за сорак. (Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Халічава Іванаўскага раёна. Скончыў Брэсцкі педінстытут, факультэт фізвыхавання. Жыве ў горадзе Іванава. Працуе ў райгазеце «Чырвоная зорка».)

Тады ягоны твор адразу ўхвалілі тыя, хто сам дасягнуў значных поспехаў у літаратуры. Надрукавалі. І адразу ж у рэдакцыю пасыпаліся самыя цёплыя і шчырыя водгукі ад дзяцей і іх бацькоў, настаўнікаў, літаратараў. Затым — доўгая дарога «Гарэзы» асобнай кнігай да чытача.

За гэты час змяніліся пакаленні чытачоў, якія праз гэтую кнігу маглі б спазнаць шмат чаго з жыцця роднай прыроды, чытачоў, якія многаму б навучыліся ў жыцці, у прыватнасці — спагадзе да ўсяго жывога. А спагада сёння патрэбна шмат каму…

Вось адзін з эпізодаў твора. Пілуюць дрэвы. Злосныя: зіма, холадна, а тут яшчэ падаючы дрэвы чапляюцца голлем адно за другое, нібы людзі рукамі. І лесарубу трэба высільвацца, каб парваць гэту «сувязь» у прыродзе… І вось адно спілаванае дрэва «патрапляе дуплом прама на высокі стары пянёк і пераломваецца. Залатым ручайком паліліся на снег сотні паўнюткіх «вавёрчыных арэхаў».

Усё гэта бачыць Гарэза, гэта яе запасы, і без іх яна загіне. «Гарэза ў адчаі. А людзі падышлі да злому, збіраюць плады, са звонкім стукам рассыпаюць іх па кішэнях, весела гамоняць. Не вытрымала вавёрка такога нахабнага рабавання. Злосна зацакатала, забегала па галінках дуба. Пачулі, глядзяць на яе, рагочуць. Быццам і не ведаюць, не разумеюць, што асуджаюць звярка на голад і пакуты. Адзін спагадлівы аказаўся. Дастаў з кішэні арэхі, паклаў іх на пянёк. Астатнія смяюцца з яго, кпяць…»

Можна падумаць, што В. Жушма процiпастаўляе ўсіх людзей прыродзе, паказваючы іх яе знішчальнікамі. Але гэта не так: згаданая прыкрая сцэна «разбураецца» іншымі, дзе людскія дабро і спагада да «братоў нашых меншых». У прыватнасці, у той, калі людзі, а дакладней, дзве сястрычкі знаходзяць у лесе параненую пугачом вавёрку. І вось ужо і бацька, і маці дома лечаць звярка, і ратуюць яго ўсе разам: урок дабрыні атрымліваюць дзеці ўсёй вёскі… Зрэшты, у кнізе «ўрокаў» такіх шмат, і дакладней было б сказаць, што ўся яна — адзіны цудоўны ўрок, нязмушаны і захапляльны, якіх так не хапае сёння ў жыцці юным, і не толькі ім… Кніга заканчваецца тым, што людзі, выратаваўшы Гарэзу, не аддаюць яе ў заапарк ці «жывы куток», а вяртаюць у прыроду. І робяць гэта ўсвядомлена, хоць расставацца ім з вавёрачкай шкада: прывыклі да яе, ды і прыгожая, забава… Але яны разумеюць, што так трэба, што і звярок — жывое, са сваёй душой, са сваім яе станам.

Вось фрагменты з заключнай навелы «Вольная», якія і перадаюць гэты

стан. «Узбуджала набліжэнне лесу. Аж лапкі затрымцелі ад шчаслівага прадчування. Здаецца, яна ўжо чуе яго гуллівы пошум, пах хвоі і асіны. Нават вочы ўзмакрэлі. Ці то ад халаднаватага яшчэ ветру, ці ад вастрыні пачуццяў». (Дзеці бачаць усё гэта.)

«Бор наплываў паціху і велічна. Раслі на вачах крайнія хвоі. Гарэза не магла адарваць ад іх позірк. Вось ужо бачны асобныя галінкі. А цяпер нават іголкі можна разгледзіць.

Ускрай лесу гаспадар спыніўся.

— Стойце, — загадаў ён вучням. — Тут. Адчыніце клетку.

Затым нахіляецца, дастае вавёрку. Лашчыць яе сваімі вялікімі пальцамі. Змахвае раптам няпрошаную слязінку і з надрывам у голасе шэпча:

— Бывай, вавёрачка… Жыві вольнай… Ды глядзі, не патрапляйся больш у кіпцюры драпежнікаў…»

Чытаючы кнігу, настолькі, як кажуць, зжываешся з яго галоўным персанажам — вавёркай, настолькі пранікаешся яе турботамі і радасцямі, што ўсё выдуманае аўтарам у яе лёсе і ў адносінах з жыхарамі лесу і людзьмі ўспрымаеш як табе вельмі блізкае і дарагое, і нібы сам прымаеш удзел ва ўсіх падзеях. І ты таксама, як і дзяўчынкі, якія, па сутнасці, і выратавалі Гарэзу, не хочаш развітвацца з ёю, разумеючы, што назаўсёды. Думаеш: а як яна будзе жыць там адна, без людзей, без іх клопату, дапамогі? Можа, ёй лепш заставацца тут, са сваімі выратавальнікамі? Ды не…

Гарэза ўрэшце застаецца адна. І вось як яна гэта ўспрымае. «Колькі дзён яна марыла пра гэта. Колькі начэй трызніла родным лесам. А цяпер вось неяк сумна стала. З тугою глядзела яна на спіну чалавека-выратавальніка. А яго постаць станавілася ўсё меншай і меншай, мільганула ў апошні раз між прысад вясковай вуліцы і знікла за домам.

Спачатку Гарэза сядзела бы ў здранцвенні. Затым пабегла, але марудна, вяла. Млявасць расплылася па ўсім яе целе. Ці ад развітання з людзьмі, што так добра адносіліся да яе, лекавалі, кармілі, ці ад свежага ветру і волі.

Пасля ажывілася, цела набрыняла нейкай новай сілай, энергіяй. Захацелася куляцца ў набрынялым вільгаццю снезе, скакаць па галінках дрэў. Воля ахапіла ўсю яе істоту неабсяжнага шчасця…»

Так, неапраўдана доўгім быў шлях часопіснай публікацыі аповесці да кнігі. Мабыць, толькі сам аўтар ведае, якіх душэўных пакут гэтае чаканне яму каштавала!.. Суцеха адна: час паказаў — «Гарэза» не падуладна яму.

Глеб КАРНЕЙЧЫК

# «...УЗРОШЧАНЫ НАД ГАЙНАЙ»

## Вязынка нарадзіла, Лагойшчына выхавала

Ёсць у Купалы верш «Я не сокал...», у якім паэт параўноўвае сябе з верабейкам, жадае гэтак спяваць-чырыкаць, як і гэта маленькая птушка:

Я не сокал зорнавокі,
Не арол адважны,
Што так думна за аблокі
Узносіцца з іх кажны.

Нават я не салавейка,
Што пяе так слаўна,
А я толькі верабейка,
Узрошчаны пад Гайнай.

Рэчка Гайна, як вядома, працякае па адной з самых маляўнічых мясцовасцей нашай Радзімы — Лагойшчыне. Зямля тут вельмі прыгожая — лясістая і ўзгоркавая, месцамі раўнінная, пакрытая сеткамі рачулак. А лес таксама багаты. Елка, сасна, бяроза, граб, асіна, лістоўніца, клён, арабіна — якіх толькі дрэў тут няма?! Растуць яны і густа, утвараючы шаты, праз якія цяжка прайсці, стаяць і паасобку, быццам выбегшы па адным-два з густога зарасніку на ўзлессе.

Янка Купала сапраўды «ўзрошчаны пад Гайнай». Сям'я ягонага бацькі Дамініка Луцэвіча даволі часта пераязджала з месца на месца, арандуючы зямлю. Гэтыя пераезды працягваліся і пасля смерці гаспадара. Тады ўжо рэй вяла ягоная жонка Бянігна Іванаўна, якой, як старэйшы сын, дапамагаў Янка. Таму ў біяграфіі песняра многае і звязана з Лагойшчынай. Прудзішча, Селішча, Косіна, Аўгустова, Гаяны, Мачаны, Бяларучы, Малыя Бясяды, Карпілаўка, Корань, Акопы — гэта ўсё назвы населеных пунктаў або хутароў, дзе Івану Дамінікавічу даводзілася жыць ці бываць, наведваючы тых, з кім сябраваў. У прыватнасці, вядомага беларускага пісьменніка Ядвігіна Ш., удзельніка паўстання 1863 года З. Чаховіча. Так што з поўным правам на тое можна сказаць: Лагойшчына — другая радзіма нашага слыннага песняра. Калі ў Вязынцы ён нарадзіўся, дык тут пачынаў прабаваць свае крылы ў першых жыццёвых палётах, тут упершыню пачынаў задумвацца над бядачым становішчам свайго народа, тут зрабіў крокі па дарозе да ведаў.

Каб прайсціся ўсімі сцежкамі, не адзін дзень спатрэбіцца. І таму, што гэтыя населеныя пункты — і цяперашнія, і былыя — не сказаць, каб поруч знаходзіліся, і таму, што ў кожным захочацца падоўгу затрымацца, далучаючыся да Купалавага свету, імкнучыся душой спасцігнуць тое, што ў свой час яго радавала і хвалявала, што надавала яму моцы ў жыццёвых нягодах і выпрабаваннях.

Аднак сярод мноства, калі можна так сказаць, Купалавых сцяжынак ёсць і такія, што пакінулі ў паэтавай біяграфіі асаблівы след. Ну, як, напрыклад, вось гэтая, пра што Купала згадвае: «Пазней, гадоў 15—16, я скончыў за адну зіму Бяларуцкае народнае вучылішча». Бацька будучага паэта якраз арандаваў хутар Селішча, што знаходзіўся амаль поруч з маёнткам Бясяды. Дагэтуль, яшчэ калі жылі ў Сенніцы, пад Мінскам, Янка адну зіму вучыўся ў народнай школе. Давечаўшыся, што ў Бяларучах ёсць вучылішча, бацькі, параіўшыся, вырашылі накіраваць туды свайго Яську.

Ад Селішча да Бяларуч сем вёрст. Дарога добра запомнілася Янку. Вядома, зімой цяжкавата даводзілася мераць па глыбокім снезе гэтыя вёрсты. Таму і хадзіў рэдка, жыў у інтэрнаце, што быў пры школе. А вось вясной — самае што ні ёсць раздолле. Крочыш знаёмай сцяжынкай — гэтак хораша на сэрцы! У празрыстым як крышталь небе з'явіліся першыя птушкі, якія няхітрымі спевамі абуджаюць наваколле. А лістота дрэў клейкая, пахучая. І паветра чыстае, свежае. Бяжыць Янка, спяшаецца ў школу, але не ўтрымліваецца, дзе-нідзе супыняецца на хвіліну-другую. Там паварушыць леташняе лісце, каб убачыць, як праз яго прабіваецца маладзенькая трава, тут нагнецца, каб сарваць кветку... Так хораша яму і радасна, што хочацца спяваць. А яшчэ недзе ў глыбіні душы, ледзь не ля самага сэрца, нараджаюцца паэтычныя радкі. Ён раней за сабой гэтага не назіраў, а потым неяк нечакана, здзіўлены, адчуў, што сам пачаў складваць вершы...

Сцяжынка неўзабаве вывела да берага рэчкі. Вячай яна называецца. Ціхуткая, няспешна цячэ між пагоркаў Лагойшчыны. Запомніліся гэтыя краявіды Янку на ўсё жыццё. І пазней ужо, калі ён стаў вядомым паэтам, часта прыгадваў гэтыя дарагія сэрцу малюнкі і з'явы. Убачанае ў маленстве, занатаванае ў памяці назаўсёды падказвала яму тэмы многіх твораў.

Давялося некалькі гадоў раней хадзіць гэтымі сцежкамі і мне. Крочыў і захапляўся вабнасцю роднага абшару. І чым бліжэй падыходзіў да Бяларуч, тым часцей памяць нагадвала паэтавы радкі. Магчыма, той ці іншы верш пісаўся і з іншай нагоды, і ўсё ж зместам сваім вельмі напамінае тутэйшыя краявіды. Значыць, памятаў Купала і гэту дарогу ў Бяларучы, і рачулку Вячу, і альхоўнік каля яе берагоў.

Між гор — далінаю — за вёску,
Не аглядаючыся ўзвыш,
Суважна, попрасту, па-свойску
Бяжыш ты, рэчка, і бяжыш.
Падгоніш каменьчык жвіровы,
Травінку водную трасеш,
Чапаеш караньчык альховы,
Па верху кветачку нясеш.

Сваёй стужкай Вяча як бы расхінала дзве гары, што размясціліся за некалькі соцень метраў па яе берагах. З аднаго боку гара з паэтычнай назвай — Салаўіная. Да вяршыні яе і падступіцца было няпроста. Шчодрая прырода так пастаралася, што ўвесь пагорак як бы прашыты кустоўем і дрэвамі. Узбіраючыся на верх, трэба прадзірацца праз лазу, алешнік, чаромху, якая ў пачатку мая ператварае ледзь не ўсю гару ў белы абрус, які адным канцом звісае ля падножжа, а другім імкнецца да аблокаў.

Калі ж зямля прагрэецца так, што і да позняга вечара не зможа аддаць усю сваю цеплыню наваколлю, і лета ўступіць у свае правы, гаспадарамі на гары стануць салаўі. Іх спевы будуць штодня абуджаць наваколле. Услухаешся ў гэты канцэрт, падзівішся майстэрству яго выканаўцаў і пагодзішся — лепшую назву, чым Салаўіная, гары гэтай і не прыдумаеш.

Але не толькі салаўямі, чаромхавымі зараснікамі славілася яна. Можна было гадзінамі стаяць, назіраючы, як, не стамляючыся, бяжыць і бяжыць з гары няўрымслівы ручай. Шліфуе нябачнымі рукамі каменьчыкі, падхоплівае самыя маленькія з іх і разам з лісцем, што апала з кустоў, нясе і нясе, каб сустрэцца з Вячай. Унізе на момант ручай запавольвае бег, каб спакайней падысці да яе, але струмені ўверсе не ведаюць гэтага, па-ранейшаму мчаць хутка, таму ля самай зямлі ўтвараюцца шматкі бялюткай пены. З-за яе і празвалі ручай Белым. Старыя людзі казалі, што раней і паселішча, якое ўзнікла на беразе Вячы, называлася Белым Ручаём, а цягам часу назва гэтая ператварылася ў Бяларучы.

Ля Бяларуч Вяча вузкая. І раней не сказаць каб яна надта набірала тут разгону, цяпер жа яшчэ больш сцішылася. Але вада па-ранейшаму падмывае бераг, спрабуючы пашырыць сабе дарогу.

Другая гара называецца Замкавай. Падняўшыся на яе, можна было ўбачыць сляды колішніх мuроў, валуны, што пакрыліся лішайнікамі. Відаць, іх калісь

усцягнулі сюды, калі будавалі панскі палац. Маюць, мабыць, усе падставы тыя даследчыкі творчасці Купалы, якія мяркуюць, што менавіта Замкавую гару меў паэт на ўвазе, калі ствараў сваю вядомую паэму «Курган»:

На гары на крутой, на абвітай ракой,
Лет назад таму сотня ці болей,
Белы хорам стаяў, недаступнай сцяной
Грозна, думна глядзеў на прыволле.

Засталіся сляды былога замка на гары і пасля вайны, хоць уся вёска, як і многія населеныя пункты Лагойшчыны, была спалена нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Бяларучы адбудаваліся. Дамы былі ўзведзены амаль на тым самым месцы, што стаялі і раней. Ля Замкавай гары, каля Вячы. У канцы ж вёскі пабудавалі школу, якой прысвоілі імя Янкі Купалы. На сцяне прымацавалі мемарыяльную дошку аб тым, што народны пясняр вучыўся ў Бяларучах, калі тут было народнае вучылішча.

## Крыніца пад назвай Акопы

Аднак самая яркая творчая старонка ў біяграфіі Купалы звязана з Акопамі. Да месца такое параўнанне: гэта тая крыніца, якая стала для ягонай творчасці на дзіва жыватворнай і жыццядайнай. На працягу 1911—1926 гадоў, наведваючыся сюды, пясняр адных вершаў напісаў больш за сотню. Але ж у Акопах ён плённа асвойваў і іншыя жанры: пісаў паэмы, драматычныя творы, артыкулы, займаўся перакладам...

Знаходзіліся Акопы каля 30 кіламетраў ад Мінска ў паўночна-ўсходнім накірунку, на поўнач ад гасцінца Мінск — Даўгінава. У народнага песняра нават ёсць верш, які так і называецца «Па Даўгінаўскім гасцінцы», а падзагаловак ягоны — «Мінск — Акопы»:

Бяжыць пад коламі гасцінец,
Бягуць прысадзіны назад.
Вакол бясконца свет-дзядзінец,
Палеткі, вёскі, лес, як сад.

Знаёмы гэты мне шлях родны, —
Даўгінаўскі вядомы шлях!
Які нёс годных і нягодных
На векавых сваіх плячах.

Ад павароткі на вёску Карпілаўка каля двух кіламетраў. Гэты хутар належаў памешчыцы Жалігоўскай, у якой маці песняра пачала арандаваць яго 1909 года. Пасля ж Кастрычніцкай рэвалюцыі Акопы перайшлі ва ўласнасць Бянігны Іванаўны і яе дачок.

Луцэвічы сюды пераехалі восенню. Бралася на першыя замаразкі, паветра было сцюдзёнае. Лістота з дрэў амаль што асыпалася, і яны стаялі голыя ў той маўклівай сцішанасці, што з’яўляецца падчас доўгай і суровай зімы. І ўсё ж і тады нельга было не заўважыць, што прырода не паскупілася на фарбы і адценні, каб па-свойму непаўторна аздобіць гэты куточак. Сярод дубоў, хваін вылучаліся арабіны. Гронкі іх яшчэ не паспелі здзяўбці птушкі, і здалёк гэтыя гаркавыя ягады нагадвалі сабой казачныя суквецці, што звісалі чырвонымі карункамі на галінах дрэў, якія сцішыліся ў прадчуванні халадоў.

Лес то хаваўся ў лагчыне, то ўзбягаў на пагоркі, якія крыху далей ад хутара праразаў глыбокі яр. Здавалася, што некалі на шчацэ зямлі з’явілася вялізная маршчына, якая паступова ператварылася ў незагойную рану. Мясціна гэтая выглядала надта прыгожа і непаўторна. На захад ад Акопаў размяшчаліся лясістыя пагоркі і забалочаныя даліны, а над імі ўзвышалася Лысая гара. Сядзіба стаяла на пагорку. З заходняга боку палеткі ўпіраліся ў лес. На яго сваімі чатырма вокнамі і ганкам глядзела хата. Дубы ахоўвалі палеткі, якія, стоячы непадалёку адзін ад аднаго, нагадвалі сабой тых вартавых, якія, не ведаючы стомы і спачыну, заўсёды знаходзяцца на пастаяннай варце.

На сядзібе было хараша, чыста, утульна, па-сялянску дыхтоўна — так, як і бывае там, дзе адчуваецца рука сапраўднага гаспадара. Безумоўна, у гэтым нельга адмаўляць заслугі колішніх гаспадароў, але і Луцэвічы, абжываючыся тут, таксама дбалі пра тое, каб усё трымаць у парадку. Падворак з усходняга боку пераходзіў у адхон яра, у лагчыне якога працякаў ручай. Ён быў адгароджаны гаццю, што паспрыяла ўтварэнню сажалкі. На беразе яе стаяла лазня, памыўшыся ў якой і папарыўшыся ў асалоду, можна было сядзець тут жа, ля гаці, любуючыся хараством навакольных краявідаў. Над ёю шумеў сваімі галінамі дуб, быццам стараючыся расказаць пра сваю долю, ніца схілялі галовы вербы. Ва ўсю разросся вербалоз, месцамі ператварыўшыся ў непраходны зараснік. А воддаль ад сажалкі, правей ад яе, рос алешнік. Адваёўваючы прастору, ён знайшоў для сябе выйсце, каб абступіць ручай з абодвух бакоў.

Упершыню ў Акопы Купала наведаўся летам 1911 года. Не адзін прыехаў, а са збіральнікам і папулярызатарам беларускага музычнага фальклору, педагогам і выдаўцом Антонам Грыневічам. Гэта Грыневіч заснаваў у Пецярбургу ў 1910 годзе сваё выдавецтва, якое выпускала творы беларускай літаратуры і музыкі. Антон Антонавіч, будучы добра знаёмы з Купалам, начуўся ад яго, што і сёстры Івана Дамінікавіча любяць спяваць, ведаюць такія песні, якіх больш нідзе не пачуць. Таму пры нагодзе і сабраўся з ім у Акопы. Запісвалі песні ад паэтавай сястры Леакадзіі Дамінікаўны. Завіталі і ў суседнюю вёску Жукаўка, дзе таксама пачулі арыгінальныя песні, якія паспяшаліся занатаваць.

Пасля гэтага Купала неаднойчы наведваўся ў Акопы і з Пецярбурга, і з Вільні, і з Мінска. У хаце аблюбаваў сабе кутні пакой, два акны якога выходзілі ў сад. Улетку, ці ўвогуле ў цёплае надвор'е адчыняў іх, і тады пакой напаўняўся пахам кветак, што цвілі пад імі. Асабліва буялі ружы. Ішоў водар таксама ад кустоў язміну, шыпшыны, брызгліны. А далей позірку адкрываліся дубы, ясені, клёны — якіх толькі дрэў не расло тут. Паветра, што заходзіла ў хату, асвяжала, на душы станавілася лёгка, думкі з'яўляліся светлыя, такія, што ўвесь свет здаваўся прыгожым. Часам жа, калі на дварэ было асабліва горача, выходзіў з хаты, спяшаўся да студні з жураўлём — яна стаяла поруч з ёй. Апускаў вядро ў яе і хутка піў такую сцюдзёную ваду, што ажно балюча станавілася зубам. Аднак боль гэта хутка праходзіў, а свежасць ужо разлівалася па ўсім целе.

А яшчэ далей за сядзібай вабіла вока разнаквецце палеткаў. Аднойчы, прагульваючыся за Акопамі, напаткаў дзве таполі, якіх не пашкадаваў час. Засохлі дрэвы, засталіся ад іх толькі старыя, пакручаныя ствалы. Так і нарадзіўся верш «Дзве таполі»:

Там за вёскай, у полі дзве стаялі таполі,
    Як адна, дзве таполі стаялі,
І стагналі ў полі сухавейна таполі,
    Як адна, дзве таполі стагналі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Неба помсту у полі тут пачулі таполі,
    Як адна, дзве таполі пачулі,
І навекі у полі дзве заснулі таполі,
    Як адна дзве таполі заснулі.

У Акопы прыязджаў не толькі дзеля таго, каб што-небудзь напісаць. На ўлонні ж прыроды хараша думалася і пісалася. Але і проста дзеля адпачынку наведваўся сюды. Дарэчы, першыя два ягоныя прыезды ў Акопы даследчыкі Купалавай творчасці называюць канікулярнымі. На той час пясняр вучыўся ў Пецярбургу на вячэрніх агульнаадукацыйных курсах А. Чарняева. Зразумела, што і студэнту хочацца крыху развеяцца. А дзе лепей гэта рабіць, як не там, дзе чакаюць цябе родныя і блізкія табе людзі, дзе на кожным кроку адчуваецца дыханне Радзімы. Гэта аднак не значыць, што не хацелася браць у рукі ручку ці аловак. Наадварот, добра адпачыўшы, і пісалася хараша.

## Песня, што ўзышла сярод кветак

Падчас таго першага прыезду ў яго напісалася каля 50 вершаў. Ды не проста твораў, што папоўнілі ягоныя мастакоўскія набыткі. Сярод іх і ўжо згаданыя «Дзве таполі», таксама шэраг іншых вершаў, якія ў ягонай паэзіі ўспрымаюцца жамчужынамі: «Песня мая», «Гэй, наперад!», «Не праспі», «Каб я князем быў...», «Зоркі», «Над ракою ў спакою» і некаторыя іншыя.

Верш «Песня мая», несумненна, напісаўся пад уплывам прыезду сюды з К. Грыневічам. Яны і дагэтуль, безумоўна, шмат гаварылі пра беларускую народную песню, што з’яўляецца выказнікам лёсу народнага. Не маглі не гаварыць, бо гэта абодвух аднолькава турбавала. Былі ўпэўнены, што будзе жыць народ — працягне жыць і песня. Цяпер жа, узяўшыся запісваць іх, не маглі не прадоўжыць гэтую гаворку. Асабліва ў хвіліны адпачынку. І чым больш разважалі, тым часцей сыходзіліся на тым, што народная песня простая і сціплая. У Купалы нават параўнанне з’явілася. Яна такая, як сам краявід беларускі. Развіваючы гэтую думку, знайшоў і іншае параўнанне. Песня не проста нарадзілася, а ўзнікла на забытым палетку, на якім ужо ўзгадаваўся палын. З’явілася песня не калі-небудзь, а ў вельмі неспрыяльны час — сярод ночы, пасярод зімы.

З гэтай гаворкі ў Купалы неўзабаве і нарадзіўся верш, галоўнай дзейнай асобай якога, нават, без перабольшання, героем і стала сама песня. Ужо не народная, а ягоная, Купалава, песня, якая таксама плоць ад плоці народа. Яна выражае пачуцці і спадзяванні не аднаго лірычнага героя, а ўсіх, хто не растраціў сваёй сувязі з Бацькаўшчынай:

Песня мая не ўзышла сярод кветак,
Кветак цвітучага вечна паўдня...
Поўначы сумнай забыты палетак
Даў ёй жыццё пасярод палыння.

Пушча і ночка яе гадавалі,
Няньчылі казкамі долі нямой;
Дождж і расіца вясною купалі,
Снежныя буры тулілі зімой.

З-за гэтага і блізкая яна, і зразумелая, бо «... не ўспінае атласаў, // Выдумкай хітрай у свет не ляціць, — // Знацца ёй досць з беларускаю красай — // Лесам шумеці, касою званіць». Песня гэтая вольная, як крыніца. Яна прагне прастору. Яна мкне на прастор. Таму ёй чужыя княжацкія палацы, не патрэбны ёй і святліцы. Яе немагчыма падкупіць, як і немагчыма ўкласці ў яе той сэнс, той змест, якога яна не прымае і прыняць не можа. Такая ж песня не толькі ў народа, а і ў самога паэта, у чым ён і прызнаецца:

Песня мая не шукае чырвонцаў —
Будучнасць гэткіх не знойдзе ў ёй плям, —
Жыць хоча толькі ў радзімай старонцы,
Пеці па сэрцу ўсім добрым людзям.

У двух завяршальных радках верша «Песня мая» Купала выказваў тое, што ў яго пастаянна было на душы, да чаго ён імкнуўся, пра што марыў: «Усю Беларусь неабнятну, як мора, // Убачыць у ясным, як сонца, святле».

Таму пясняр паклічна і заклікаў імкнуцца да лепшай долі. Наперад зваў, у светлую будучыню. Таму аднаму са сваіх «акопаўскіх» вершаў і даў адпаведную назву — «Гэй, наперад!»:

Гэй, наперад, покі сэрца
Б’ецца, рвецца на прастор,
Годзе млеці ў паняверцы;
Гэй, да сонца! гэй, да зор!

У шэрагу твораў, напісаных тады, ёсць і такія, якія можна аднесці да лепшых узораў Купалавай любоўнай лірыкі. Адзін з іх — «Над ракою ў спакою». У ім відавочна народна-песенная аснова. Дый па сваім змесце, сэнсавай напоўненасці ён блізкі гэтаму фальклорнаму жанру, законы якога, безумоўна, Купала добра ведаў. У гэтым вершы, як і ў народнай песні, прысутнічаюць элементы-сімвалы.

Маладая дзяўчына ўспрымаецца праз каліну. Цвіценне, красаванне яе ўвасабляюць сабой каханне. Як у народзе кажуць, усяму свой час. Зацвітае, у квецень убіраецца каліна — падрастае дзяўчына. Калі ж прыляцела да каліны зязюля, закахаўся ў дзяўчыну хлопец Януля. Ды «у сяле, дзе хлапчына, // У паход затрубілі». Зноў жа відавочна паралель з фальклорам:

Перастала каліна
У цвяточкі ўбірацца;
Перастала дзяўчына
З ненаглядным страчацца.

Каліна засохла, а дзяўчына скончыла жыццё самагубствам.

Усё, як быццам, вельмі проста. Як на першы погляд, нават звычайна. Толькі такое адчуванне падманлівае. У творы ўсё на дзіва паэтычна, шчыра, настолькі кранальна, што радкі бяруць за жывое. Сказанае паэтам успрымаецца настолькі блізка, што такое адчуванне, быццам прапускаеш праз сябе тое, пра што ён расказвае.

На карысць гэтаму сведчыць тое, што верш «Над ракою ў спакою» чытачы ўспрынялі па сутнасці «сваім». Атрымалася так, як гэта бывае тады, калі нейкі твор становіцца ім асабліва блізкім. Гэты верш стаў народнай песняй. Прытым песняй, народам вельмі любімай. Настолькі любімай, што ў гады Вялікай Айчыннай вайны Купалаў твор набыў іншы змест, новае гучанне. На аснове верша «За ракою ў спакою» нарадзілася «Балада пра партызанку Галіну».

Нямала ўхвальных слоў можна сказаць і пра іншыя вершы, напісаныя Купалам летам 1911 года. Канечне, талент ёсць талент. Ён раскрываецца ў самых розных умовах. Аднак нельга забываць, што лепш пішацца тады, калі прысутнічае адпаведны творчы настрой. Ён жа абавязкова з'яўляецца, калі сама атмасфера спрыяе гэтаму. Такую ж атмасферу пясняр і адчуў па прыездзе ў Акопы. Усё спрыяла яму як паэту. Таму гэтае лета для яго з поўным на тое правам можна назваць лірычным.

Але Купала ў Акопах не толькі пісаў вершы і адпачываў. Ён ахвотна наведваўся ў навакольныя вёскі, сустракаўся з рознымі людзьмі. Гэтыя сустрэчы давалі яму багата ўражанняў, давалі магчымасць лепш спазнаць жыццё простага народа. А яшчэ, як высветлілася, падчас яго другога наведвання гэтага кутка летам 1912 года шукаў сярод мясцовага люду прататыпы для свайго першага драматычнага твора.

## Сярод тых, хто ўвайшоў у творы

Гэтым драматычным творам стала камедыя ў двух актах «Паўлінка». Сам Купала жанр вызначыў як «сцэны са шляхецкага жыцця». Завершана п'еса была 3 чэрвеня 1912 года. Аб гэтым праз два дні Іван Дамінікавіч паведамляў у сваім лісце Браніславу Эпімах-Шыпілу, з якім у яго былі, як вядома, цесныя сувязі. Менавіта Б. Эпімах-Шыпіла спрыяў паступленню яго на агульнаадукацыйныя курсы. Таму і паспяшаўся Купала падзяліцца з Браніславам Ігнатавічам сваёй радасцю: «Напісаў у двух актах камедыю, каторую чытаў пану Лявіцкаму (Ядвігіну Ш. — **Г. К.**), ён казаў, што напісана дарэчы. Камедыя называецца «Паўлінка», напісана прозай, з шляхоцкага жыцця. Калі мне ўдасца перапісаць на машынцы ў колькі экзэмплярах, то дарагому п. прафесару прышлю адзін экзэмпляр для прагляду».

З Акопаў Купала слаў Б. Эпімах-Шыпілу і іншыя лісты, звяртаўся і ў рэдакцыю газеты «Наша ніва» з просьбай прыслаць яму на хутар саму газету, а таксама ягоныя кнігі «Жалейка», «Гусляр», «Адвечная песня». Што да перапіскі з

Б. Эпімах-Шыпілам, то яна цікавая тым, што з гэтых лістоў відаць і пра творчыя планы песняра. Прынамсі, прызнаваўся: «думаю напісаць паэмку «Рагнеда», гістарычную рэч, з жыцця Полацкага княства». Дзяліўся і тым, што «... пробаваў некаторыя песні апісаць на народны сюжэт, але праца гэтакая не з лёгкіх. Думаю апрацаваць некаторыя паданні, калі ўдадуцца, то прышлю Вам».

Аднак пра тое, як стваралася ў Акопах «Паўлінка»… Персанажы гэтай п'есы падгледжаныя Купалам у ваколіцах хутара. Па ўспамінах Купалавай сястры Ганны Дамінікаўны прататыпам Адольфа Быкоўскага стаў ганарысты шляхцюк з фальварка Калдукоўка Павэлак Ваяводскі. Пранціся Пустарэвіча Іван Дамінікавіч угледзеў у Францішку Аблачынскім, які жыў у Харужанцах, куды Купала часта наведваўся. Асабліва любіў ён бываць на мясцовых кірмашах і фэстах, на якіх заўсёды людна, можна напаткаць цікавых людзей. У нейкіх паўтара кіламетрах ад Акопаў, у засценку Рубеж Іван Дамінікавіч пазнаёміўся з сям'ёй Аблачынскіх. Сам гаспадар Гілярый «стаў» Сцяпанам Крыніцкім, а ягоная дачка Ядвіга «ператварылася» ў Паўлінку. Настаўнік Мечыслаў Багдановіч з хутара Верацейкі «падобны» на Якіма Сароку. Ён пасяліўся ў сям'і Аблачынскіх, з'яўляўся дваюрадным братам Ядвігі і быў у яе закаханы. Нават сватаўся да яе, але з гэтага нічога не атрымалася. Дарэчы, у Ядвігу, якая была вельмі прыгожай дзяўчынай і мела цудоўны голас, быў закаханы і Купала.

У Акопах ім напісаны і іншыя драматычныя творы — сцэнічны жарт «Прымакі» і драма «Раскіданае гняздо». Гэта ўжо вынік наведвання хутара ў 1913 годзе — летам і восенню. «Прымакі» былі завершаны 31 ліпеня, а драма «Раскіданае гняздо» — 4 верасня. Па адной з версій на сюжэт яе паўплывалі падзеі, якія мелі месца ў вёсцы Дашкава, што поруч з Вялікімі Бясядамі. Мясцовы пан у адносінах да сялян праяўляў самаўпраўства, не лепшым чынам абыходзіўся і з дзяўчатамі. Для таго, каб надаць твору не толькі вострае сацыяльнае гучанне, а і даць яму выразную палітычную падсветку, дзеянне з XIX стагоддзя перанесена ў 1905 год, пярэдадзень 1-й рускай рэвалюцыі.

1913 годам, Акопамі, пазначаны (праўда, месца напісання самім аўтарам указвалася не заўсёды) і такія Купалавы творы, як вершы «Не шукай...», «Будзь смелым!..», «З вячэрніх дум», «Тутэйшы», «Песняй толькі...» і іншыя. На хутары пісаліся паэмы «Бандароўна», «Магіла льва», «Яна і я», незакончаная паэма «Гарыслава».

Наступны прыезд у Акопы адбыўся ў 1919 годзе. І таксама плённым быў. Колькасна, праўда, не параўнальны з папярэднімі перыядамі. Што ж, раз на раз не выпадае. Але здаралася, калі, жывучы на хутары, за дзень пісаў 200, а то і ўсе 300 радкоў. Працаваў на дзіва плённа, нават апантана, таму ў далейшым нярэдка абыходзіўся без значных правак.

Толькі, безумоўна, справа не ў колькасці, а ў тым, **што** напісалася і **як** напісалася. Дык гэты, чацвёрты акопаўскі перыяд (калі ж мець на ўвазе наведванне Акопаў, то пяты прыезд) таксама на дзіва выніковы, бо нарадзіліся вершы, на якіх таксама ляжыць адбітак Майстра: «Лясное возера», «Над калыскай» («Калыхала маці сына»), «Восень» («Села над пушчаю Восень»), «Ваяк», «Князь», «На смерць Сцяпана Булата», «А зязюлька кукавала...» Гэтым разам быў завершаны і вершаваны пераклад «Слова аб палку Ігаравым».

Жыў у лясной цішыні, адарваны ад тлумных гарадоў жыў. Ды толькі не адарваны ад самога жыцця. Ад таго жыцця, якое віравала, штодня прымушала задумацца над тым, як быць далей, што рабіць. Каб не толькі не згубіцца ў гэтай вірлівасці і бурапеннасці, а і годна адчуваць сябе. Быць з народам. Аднак колькі развялося розных разумнікаў, гатовых вучыць яго. Цяжкія думы. Няпростыя думы. Яны не пакідалі песняра і ў Акопах. Ён быў з ім нават тады, калі стараўся абасобіцца, на некаторы час пра ўсё забыцца. Гэта відаць і па вершы «Лясное возера». Як быццам твор лірычны, без нейкай прэтэнзіі на грамадзянскасць матываў. Ды толькі, калі на душы неспакойна, ад іх нікуды не дзенешся:

Возера! Возера! Йду к табе смутны
Соннаю пушчай, амшалаю сцежкай, —
Жоўтае лісце шасціць пад нагамі,
Шчокі калючка сасновая шчыпле.

Сам з сабой насам пад дубам саджуся, —
Вочы і думкі пабеглі далёка.
Сцішна над возерам, воблачна ў небе...
Недзе запелі узвіжанне гусі.

Цудоўны ўзор пейзажнай лірыкі. У гэтым вершы лірычны герой неадлучны ад прыроды. Ён часцінка яе, а прырода выклікае ў яго роздум, навявае элегічныя пачуцці. Аднак менавіта гэтае «недзе запелі узвіжанне гусі» надае ягонаму роздуму і прасветленасць.

## Тутэйшаства як стан душы

Імкненнем зразумець усю супярэчнасць новага часу напоўнена камедыя Купалы «Тутэйшыя». Таксама ў Акопах пісалася, але ў 1922 годзе, у жніўні месяцы. У гэтага твора, як вядома, вельмі пакручастая гісторыя. Хоць у 1924 годзе п'еса была апублікавана ў «Полымі», а праз два гады набыла сцэнічнае жыццё ў тагачасным Беларускім дзяржаўным тэатры-1 (цяпер Нацыянальны тэатр імя Янкі Купалы), на сцэну яна зноў трапіла толькі ў 1982 годзе, дый то Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра імя В. Дуніна-Марцінкевіча. У сцены ж Купалавага тэатра вярнулася толькі ў 1990-м. Увесь час давала аб сабе знаць абвінавачванне Купалы ў нацыяналізме, што некалі зрабілі сумна вядомы Лукаш Бэндэ і ягоныя паплечнікі.

Дзеянне ў «Тутэйшых» адбываецца ў Мінску з пачатку 1918 года да сярэдзіны 1920-га. Час, які быў блізкі Купалу. І час вельмі складаны для беларускага народа. Акупацыя змянялася акупацыяй. Першыя крокі рабіла беларуская дзяржаўнасць, да актыўнага жыцця далучаліся прадстаўнікі розных сацыяльных слаёў. Было сярод іх нямала выхадцаў з народных нізоў, але сустракаліся і тыя, хто лічыў сябе абдзеленым, развіваў кіпучую грамадскую дзейнасць, зусім далёкую ад нацыянальных інтарэсаў.

Людзі гэтыя, як слушна заўважыў, аналізуючы ў артыкуле «Ля вытокаў савецкай камедыяграфіі» п'есу «Тутэйшыя» Антон Семяновіч («Полымя». 1989, № 8), «былі выкінуты на сметнік гісторыі, але не гублялі надзеі зноў уваскрэснуць і спадзяваліся на хуткую перамену палітычных абставін». У гэтай кагорце і галоўны персанаж твора Мікіта Зносак, само прозвішча якога гаворыць за сябе. Гэтага бедалагу і чалавекам назваць цяжка. Проста нешта жывое, што варушыцца, поўзае, спрабуе да нечага ўзняцца, хоць у чым-небудзь паказаць, наколькі ён стаіць вышэй за іншых. Ды толькі намаганні Мікіты Зносака марныя. Ёсць амбіцыі, але няма належнай амуніцыі. І пры царызме ён чалавекам невялікага дастатку быў, усяго калежскім рэгістратарам губернскай канторы, а гэта, паводле тагачасных табеляў аб рангах, самы нізкі цывільны чын.

Мікіта Зносак гатовы зрабіць усё магчымае і ад яго залежнае, каб зноў вярнуліся старыя парадкі. Яго мары пра асэсарства набываюць хваравіты характар. Ён перакананы, што ўсе беды наваліліся пасля перамогі рэвалюцыі, і па-свойму абараняе царызм. Гэта ярка выражаны сацыяльны тып са здзіўляючай мімікрыяй паводзін. Адарваны ад вёскі, Зносак, па сутнасці, і не прыбіўся да горада. Усё, што ні робіць ён, — барацьба за выжыванне, за кавалак хлеба, хоць за нейкую магчымасць знаходзіцца на плыні жыцця.

Купала дазваляе цалкам раскрыцца гэтаму нацыянальнаму нігілісту, выкрыць сваё сапраўднае нутро. Нават уласнага прозвішча Мікіта саромеецца, хоча, каб называлі яго Нікіцій Зносілов. А колькі фанабэрыстасці, калі спрабуе падкрэсліць сваю выключнасць: «…мы цвёрда стаялі на варце святога расійскага самаўладства і баранілі тутэйшую рускую народнасць ад «інародчаснага засілля». І які самаўпэўнены і разам з тым абмежаваны Мікіта Зносак, адстойваючы сваё права жыць менавіта так, а не інакш: «Не разумею, пры чым тут мой, меджду протчым, светагляд? Можна мець светагляд адзін. Думаць другое, гаварыць трэцяе, а рабіць чацвёртае, як навучае мой прафэсар гэр Спічыні. І я паставіў у аратарскай прафэсіі моцна прытрымліватца гэтай мудрасці».

Сапраўднае нутро Мікіты Зносака найлепш раскрываецца ў час дыялогаў з настаўнікам Янкам Здольнікам, якога ён з пагардай называе не інакш, як «панам дырэктарам беларускай басоты». Прызнаецца, што ад Здольніка «бальшавіцкім духам пахне». Яму ж, Мікіту, маўляў, «ад гэтага паху ў носе круціць».

Зносак адмаўляе ўсё беларускае, пры тым рашуча, самаўпэўнена. Ёсць у яго і такое прызнанне: «... напладзілі сабе людзі языкоў, як тая трусіха трусянят, і мне, меджду протчым, як ідуць немцы — вучыся па-нямецку, як ідуць палякі — вучыся па-польску, а як будуць ісці нейкія іншыя — вучыся па нейкаму па-іншаму... Эх, каб я быў, меджду протчым, царом! Завёў бы я ад Азіі да Аўстраліі, ад Афрыкі да Амэрыкі і ад Смаленску да Берліну адзін непадзельны рускі язык і жыў бы сабе тады прыпяваючы. А то круці галавой, над языкамі, як баран які над студняй».

Тым часам Янка Здольнік задумваецца, якім шляхам ісці беларускаму народу. Роздум Здольніка — гэта ў пэўнай ступені і тагачасны роздум самога Купалы, які, як гэта відаць і з яго вершаў, неадназначна ставіўся да савецкай рэчаіснасці.

Хоць асноўныя падзеі ў п’есе і групуюцца вакол Мікіты Зносака і Янкі Здольніка, у ёй нямала і іншых персанажаў, якія сведчаць аб своеасаблівай расстаноўцы сіл у тагачаснай Беларусі. Купала з’едліва, іранічна, з сарказмам выкрывае не толькі Зносака, але і іншых «тутэйшых», хто даўно парваў са сваім народам.

Такімі з’яўляюцца і два вучоныя — Усходні і Заходні. А хіба не радня ім ідэйны настаўнік Зносака Гэнрых Спічыні?! Павучае Мікіту ды як павучае! Цэлую праграму падае, вучачы свайго падапечнага аратарскаму майстэрству: «Ужо я вам казаў. Што тэорыя аратарскага мастацтва не любіць, каб выкідалася перад аўдыторыяй тое, што ў вас папраўдзе накіпела на вантробе. Можаце думаць усё, што толькі вам падабаецца, але гаварыць абавязаны толькі тое, што іншым падабаецца. Толькі такім чынам вы зробіце сабе на свабоднай аратарскай профэсіі якследную асэсарскую кар’еру».

Прываблівають у п’есе, аднак, не тыя, хто «выйшаў з народа», а прадстаўнікі самога народа. Маці Мікіты Зносака Ганулля; вясковая дзяўчына, каханая Янкі Здольніка, Аленка; яе бацька Гарошка... Аўтар не хавае сваіх адносін да іх. Калі, паказваючы тутэйшых, ён акарыкатурвае і іх аблічча, паводзіны, дык тут, наадварот, выбірае такія выяўленчыя сродкі, якія дазваляюць адчуць народную душу, убачыць сумленнасць, шчырасць тых, хто не саромеецца, што ён беларус.

І Ганулля, і Янка Здольнік, і Аленка, і Гарошка — з рэвалюцыяй. Аднак кожны разумее пераўтваральныя падзеі па-свойму. Ганулля, напрыклад, не ідзе далей звычайнай чалавечнасці, народнага гуманізму, адказваючы сыну: «А калі бальшавік, дык што? Бальшавік таксама чалавек». Іншая справа Янка Здольнік. Ён з інтэлігентаў, якія шукаюць сваё месца ў падзеях, адмаўляючыся ад ранейшага, але нічога не беручы напавер, да ўсяго даходзяць самі.

У «Тутэйшых» голас Купалы — пісьменніка, грамадзяніна, вялікага патрыёта сваёй Бацькаўшчыны — скіраваны супраць «тутэйшаства», супраць той нацыянальнай непрыкаянасці, калі чалавек па сваёй волі выракаецца каранёў. Страшная гэта з’ява — ісці супраць свайго, кроўнага, роднага — на жаль, па сённяшні дзень не знікла. Значыць, гэтая п’еса мае значэнне не толькі, як адна з найбольш яркіх старонак гісторыі беларускай літаратуры. Востра-надзённа гучыць і сама праблематыка твора, а гэта яшчэ адно сведчанне таго, наколькі глыбока, абганяючы саму эпоху, мысліў Купала.

Апошні раз у Акопы Купала наведаўся летам 1926 года. Тады і быў напісаны верш «Па Даўгінаўскім гасцінцы», таксама «За ўсё...», «І прыйдзе...», «Улетку», «У лесе», «Аб дзяўчыне» і іншыя. У вершы «У лесе» задумваўся над пройдзеным шляхам, штосьці падсэнсоўваў, нешта не дагаворваў:

Калі бывае мне маркотна, —
А я маркочуся часцей,
Як гэта думае ахвотна
Мой дабрадзей ці ліхадзей, —

Тады іду я ў лес нядбала.
Каб не мазоліць воч людзям,

На мох валюся дзе папала,
І ўжо я з пушчай сам-насам.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Зязюлька ў тахт «ку-ку» кукуе,
Як ёй хто голас натачыў;
Лічу, ці доўга павякую...
Замоўкла... мала налічыў.

## Шмат чым займаўся

Не толькі творы пісаў у Акопах. Адсюль выбіраўся 28 ліпеня 1912 года на Стаўбцоўшчыну, каб упершыню сустрэцца з Якубам Коласам. З Акопаў 15 жніўня 1913 года паехаў у Радашковічы, каб прысутнічаць на спектаклі «Паўлінка», пастаўленым Першым беларускім таварыствам драмы і камедыі пад кіраўніцтвам Фларыяна Ждановіча. Калі трывожна было на сэрцы, калі Мінск у жніўні 1919 года занялі войскі буржуазнай Польшчы і вымушаны быў ратавацца ад праследаванняў дэфензівы, ён прыехаў у Акопы. Тут яшчэ больш адчуў, што ёсць у кожнага з нас самая дарагая спадчына, пра якую годам раней ён сказаў у сваім адайменным вершы, што яна завецца «С т а р о н к а й Р о д н а ю». Аднак неабходна ашчадна ставіцца і да вусна-паэтычнай творчасці свайго народа, па меры магчымасці запісваць яе. У гэтым Купала таксама паказваў прыклад.

Пачатак ягонаму ўважліваму стаўленню да фальклору, што бытаваў на Лагойшчыне, несумненна быў пакладзены прыездам разам з А. Грыневічам. Потым гэтую работу працягваў з настаўнікам Васілём Рынковічам. Пра гэта прыгадвае ў сваім нарысе «Той курган векавечны» Кастусь Цвірка, спасылаючыся на сястру гэтага настаўніка Анастасію Рынковіч, якая на той час жыла ў Будах. Яна ўспамінала пра «тры сшыткі з фальклорнымі запісамі, якія рабілі Янка Купала і яе брат».

Народныя песні, а таксама паданні, расказы бывалых людзей Іван Дамінікавіч з задавальненнем слухаў, наведваючыся ў карчму, што знаходзілася ў засценку, сама ўжо назва якога сведчыць пра тое, што пасядзеўшы тут сярод простага люду, можна пачуць шмат чаго неверагоднага — Здарэнне. Гэта побач з вёскай Жукаўка. Па-мясцоваму карчма называлася Пустка. І не толькі слухаў, але многае і запісваў.

Ад Жукаўкі недалёка і да Карпілаўкі. Ад Акопаў жа да яе таксама вельмі блізка — усяго нейкіх паўтара кіламетра. У Карпілаўцы ж, канечне, Купала не мог не бываць, бо там жыў Ядвігін Ш. Гэтая вёска стала яму настолькі блізкай, што ведаў усіх яе жыхароў, таму з поўным правам на тое называў яе сваёй. Гэта пра Карпілаўку сказаў у адным са сваіх вершаў: «Хаты тыя, хаты, дзіркі на страсе, з печы дым не ў комін, а пад столь нясе...» У Карпілаўцы ён меў сваіх знаёмцаў і апроч Ядвігіна Ш. Пазней журналіст Алесь Матусевіч запісаў успаміны адной жанчыны — Грыпіны Гаеўскай, якая прыгадвала: «Колькі я яму (Купалу. — **Г. К.**) у полі жніўных песень паспявала. Бывала, сядзе на камень, услухаецца, як мы спяваем. І ўсё нешта з Антонам Лявіцкім (Ядвігіным Ш. — **Г. К.**) гаворыць і запісвае...»

Часта бываў Купала і на хутары Айчызна. Наведваўся ў засценак Ляўшова, гэта непадалёк ад Харужанцаў.

Зборам фальклору займаўся і ў 20-я гады. Захавалася камандзіровачнае пасведчанне ад 17 чэрвеня 1921 года, выдадзенае Народным камісарыятам асветы БССР І. Д. Луцэвічу «ў тым, што ён камандзіруецца на хутар Акопы Радашковіцкай воласці для збірання ў раёне воласцей Радашковіцкай, Гайна-Слабадской і Бяларуцкай Мінскай губ. этнаграфічнага матэрыялу, які тычыцца народнай творчасці, а канкрэтна: запісванне песень, казак і г. д., а таксама адшукванне і набыццё рэдкіх кніг і рукапісаў». Камандзіраваўся ён на Лагойшчыну і 11 ліпеня 1922 года.

Безумоўна, у Івана Дамінікавіча былі і іншыя добраахвотныя памочнікі, якія гэтаксама, як і сам ён разумелі, які неацэнны духоўны скарб усё тое, што звязана з вусна-паэтычнай творчасцю роднага народа. Шкода толькі, што ў свой час ніхто не распытаў старых людзей з навакольных з Акопамі вёсак. Несумненна, яны

маглі б прыгадаць нямала цікавых фактаў. Хутчэй за ўсё сярод іх аказаліся б і тыя, хто з'яўляўся добраахвотным памочнікам народнага песняра ў такой важнай справе, як збіранне і запісванне фальклору.

## У вянок памяці

Ды што казаць пра тое, што магло быць. Трэба гаварыць пра тое, што ёсць. Ёсць жа многія і многія творы, напісаныя Купалам у Акопах. Аднак ёсць і філіял Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, размешчаны блізу вёскі Харужанцы. Рашэнне аб мемарыялізацыі гэтых мясцін было прынята 5 верасня 1989 года. На шчасце, яно не засталося толькі на паперы, а і было ўвасоблена ў жыццё.

На месцы Акопаў пазначаны межы колішняй сядзібы, адноўлены падмуркі. Каля Харужанцаў жа ўзведзены будынак, што нагадвае сабой тыповую беларускую пабудову пачатку XX стагоддзя. У ёй размясціўся музей народнага песняра. Аўтар мастацкай канцэпцыі экспазіцыі мастак Э. Агуновіч і стваральнікі яе мастакі А. Грачоў і У. Пратасеня паклапаціліся, каб кожная з пяці залаў сваім зместам, узаемна дапаўняючы адна адну, дазваляла прасачыць, наколькі плённа жылося і працавалася Купалу ў Акопах. Але не абыдзены ўвагай і іншыя мясціны Лагойшчыны, што прапісаліся ў біяграфіі песняра.

Ён сам нібыта спяшаецца насустрач кожнаму, хто прыехаў сюды, каб прывітаць добрым словам. Адбываецца гэта дзякуючы таму, што А. Заспіцкі і Г. Мурамцаў удала размясцілі на падыходзе да музея скульптуру «Малады Купала». Пясняр на той час, калі наведваўся сюды, сапраўды быў яшчэ ў такім узросце, калі яшчэ жыць ды жыць. Дый, калі разабрацца, то сапраўдныя паэты заўсёды застаюцца маладымі. Нават дасягнуўшы больш чым сталага ўзросту. Яны маладыя дзякуючы сваёй светлай, жыццярадаснай творчасці, сваімі памкненнямі, духам. Запрашае Купала ў музей.

Пасля ж наведвання яго, хочацца лепш пазнаёміцца з наваколлем. Канечне, за гады, што прайшлі пасля таго, як тут хараша пісалася і адпачывалася песняру, усё непазнавальна змянілася. Даўно ўжо няма на зямлі не толькі Акопаў. Змяніліся і пакаленні дрэў. І ўсё ж засталіся сведкі Купалавага жыцця тут. Перш за ўсё сажалка, якая спачатку абмялела, а потым і зусім высахла... Гэта ніцыя вербы, што прывыклі ўглядацца ў яе люстраную роўнядзь, а цяпер у нейкім здзіўленні схілілі свае галіны ледзь не да самага долу... З тых далёкіх часоў ляжыць валун, і па-ранейшаму падпіраюць вяршалінамі неба дубы-волаты. Здаецца, дастаткова крануць струны памяці, як былое ажывае, уладна ўрываецца ў сённяшні дзень, і загучыць тады песня жыцця, мелодыя аб пражытым.

Так і цягне да валуна, на якім Купалу гэтак хараша думалася, а часам і пісалася. На валуне цяпер умацавана мармуровая пліта, на якой выбіты словы з ягонага верша:

Песню стварыці ясну, як неба,
У кожнай з ёй хаце быць мілым гасцём...
Гэтакіх толькі скарбаў мне трэба,
Гэткім я толькі жыву пачуццём.

Учытваешся ў іх, і таксама адчуваеш Купалаву прысутнасць. Хай і не ў кожнай хаце, але ён па-ранейшаму застаецца «мілым гасцём» для кожнага, хто любіць ягоную неўміручую паэзію, усведамляе, як гэта цудоўна, што ў нашай літаратуры былі Янка Купала і Якуб Колас, якія дапамаглі ўсвядоміць нам, што трэба «людзьмі звацца». Інакш у гэтым тлумным і часам надта несправядлівым свеце можна згубіцца, растварыцца сярод іншых народаў. Што гэтага не адбылося — найвялікшая заслуга іх, двух волатаў нацыянальнага духу.

Што гэта і сапраўды, лішні раз упэўніваешся, наведаўшы Лагойшчыну, прыехаўшы ў Акопы. Іх, на жаль, няма, аднак відавочна іхняя прысутнасць у нашай памяці. Ад усведамлення такой прысутнасці становіцца цяплей на душы і лягчэй на сэрцы.